# Змест

## ПАЭЗІЯ



## ПРОЗА

## ПЕРАКЛАДЫ



## КРЫТЫКА ПУБЛІЦЫСТЫКА ЭСЭ

# ВЕРАСЕНЬ ПАЭЗІЯ

дар'я кабакова павел баярка
марыя магдалена палхоўская
багдан агрэст юлія бажок
арцём сітнікаў алеся птушка
дзмітрый лавіцкі юрка буйнюк
ігар кананові ч рыгор сітніца



# Дар'я Кабакова

паэтка. Студэнтка фармацэўтычнага факультэта Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта. Друкавалася ў «Літаратурнай Беларусі». Нарадзілася ў 1993 годзе ў Віцебску. Жыве ў Віцебску.

# Цень ад галінкі...

## Неўміручая

Яны забівалі мову,
З асалодаю, апантана,
Нявечылі кожнае слова,
Каб не загаіліся раны.

Павольна душылі каты
столькі даўгіх гадоў.
На белага снегу вату
Чырвоная капала кроў...

Доўга яе хавалі,
Танчылі вальс на костках,
Цела яе пакрывалі
Пагарды шыпы й пялёсткі.

Неслі труну горда,
Як перамогшы ў вайне,
Крочылі дружна, цвёрда,
Не зважаючы, што ў труне

Ляжала яшчэ жывая,
З неастылым дашчэнту духам,
Ды ўсё адно пахавалі,
Без ценю жалю ці скрухі.

А ранкам наступным доле
Эксгумаваць рашылі,
Ды толькі валошкаў поле
Квітнела замест магілы...

А вечка калі прачынілі,
Пустою была дамавіна...

*17 красавіка 2011*

***

Холадам хмар
дыхае ў твар
шэрае неба
ды не пажар
ды не цяжар
сэрцу не трэба

Хай не ў маім
хай у другім
садзе рабінка
дорыць свой пах
сцеле на дах
цень ад галінкі

Хоць вакол ціш
хоць ты маўчыш
хмурацца хмары
хай не са мной
стануць маной
марныя мары

Хай не са мной
ранняй зімой
слёзы рабіны
лепш шэры дождж
цёмная ноч
чым успаміны

*2010*

## Знаходка

Аднойчы днём лістападаўскім
па шпалах гуляла за горадам.
Паміж шпалаў ляжалі жоўтыя
аркушы з календара
92-га года,
вырваныя ці часам,
ці нечай смелай рукой.

*Аркушы з рэцэптамі,*
*парадамі, вершамі,*
*анекдотамі, казкамі*
*ды проста датамі,*
*з дробнымі рэшткамі*
*кахання першага,*
*пахаванымі думкамі*
*жыцця стракатага...*

Падавалася, нават вецер
сівы не хацеў непакоіць
тыя аскепкі мінулага,
пакінутыя на зямлі,
і дазволіў ляжаць між рэйкамі,
мёртвага твару вейкамі
дзевяць гадоў на чыгунцы,
дзе штодзень мітусіцца жыццё...

*25 снежня 2011*

## Малітва

Памолімся, Божа, Табе
За тых, хто сёння ў няволі,
За тых, хто ў барацьбе
Шукаў нам лепшае долі.

Мы просім, Божа, Цябе
За самых смелых, упартых.
Памолімся ж у журбе
За тых, хто трапіў за краты.

Хай будуць мацней за муры
Іх Вера, Надзея, Цярпенне!
Хай зменіцца свет стары,
Дай, Госпадзе, Дабраславенне!

*24 чэрвеня 2011*



# Павел Баярка

паэт. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць» і «Верасень». У 2011 годзе скончыў факультэт маркетынгу Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Зарыфмую твой голас...

***

Так пахне засмучаны ранак улетку,
Калі нехта ціха
Знікае, пакінуўшы марыянетку,
Шукаючы ліха
Таму, хто трымае за шалік надзейна
Мядовыя пахі,
Хто бавіўся, лашчыўся позіркам ейным,
Няверныя птахі
Шукаюць абразліва вырай нанова,
Яшчэ падаецца,
Апошнія рыфмы, і крыкі, і словы
Ля цёплага сэрца,
Ля светлага сэрца,
Ля ейнага сэрца...

***

Спіралі наверсе схіляюцца ўніз,
Ты верыш, што сонца сыходзіць з палёгкай.
Дзе спелыя казкі, дзе шчыры капрыз,
Што робіць паволі прадбачлівасць крокхай?

Паміж прадчуваннем і тым, што ёсць страх,
Маўчанне ратуе атрутай марознай,
Калі твой сабачка даўно не ў нагах,
Пачуцці знікаюць у шнарах бясслёзна.

***

Мазолістыя ныркі памерам з баксёрскія грушы,
Непрыхавана павесяць дзяўчынам лапшу на вушы,
Колер скуры пясчаны ці залацісты,
Хто тут самы адважны і лоўкі?
Кажу адразу: без падрыхтоўкі
Лепей не піць з мадэрністамі.

***

Хутка замест кавы пачну піць цукору,
Пачну апранаць бейсболку,
Каб схаваць лысіну ці сівізну.
Хлопча, ты забыў, як зіхацяць зоры,
Як хвалі хвалююць на моры,
Калі ў руцэ трымаеш руку
Адну.
Ой, гэты няёмкі дотык
Кажа болей за сто непатрэбных словаў,
Калі абодвум усё зразумела,
Калі абодва ўпотай,
Маўчанне, бадай што, лепшая мова.

***

Мы калісьці ўцячэм,
Схаваемся ў сланечнікавым полі,
А зараз ты выбачай,
Зараз проста пабудзь у снах паболей.
Ведаеш, выхад не заўсёды эпічны,
Балюча глядзець і цяжка прызнацца,
Я нават у раі буду разважаць скептычна,
Шкада, што ужо не сямнаццаць,
Табе, дзякуй Богу, таксама.
Ты, здаецца, сама па сабе някепская,
А мне вось кашулю зранку прасуе мама...
Калі моцна плюшчыць, ты гэты момант лаві,
Пасля сыходу лавін
Цукар ужо не такі салодкі,
Аднадумцы і аднагодкі —
Гэта адразу параза.
Мабыць я прыношу зашмат болю,
Але з табою схаваўся б
У сланечнікавым полі.

***

Зарыфмую цябе, зашыфрую
Голас твой непахісны і звонкі,

З галавою пад коўдру старую,
Каб у снах вінаградныя гронкі
Светлым ранкам не падалі долу
Пад наплывам бяздонных сумневаў.
Раскажы, калі ласка, анёлу,
Што не хопіць ні жалю, ні гневу
Нам для гэтых кароткіх імгненняў,
Заскрыпяць зноў іржавыя дзверы,
На шляху да маіх сутарэнняў.
Прашаптаць ці хаця б на паперы,
Як з'ядаюць да костак піранні,
Што я блазанам болей не буду,
Працягнуць бы цябе да світання —
Зранку можна паверыць у цуды...

***

Паміж непрызначаным і неспатканым
Жартуюць грымотна цукровыя хмары,
Ты вабіш надзеяй, узімку сатканай,
І смела кранаеш засохлыя шнары.

Паміж непрызначанай і неспатканай
Мігценне старонак нагнала аскому,
Калі зацвітуць пад пад'ездам каштаны,
Мы, мабыць, не будзем вяртацца дадому.

***

Ці пад шэрым, ці светла-блакітным,
Ці пад чорным, ці там, дзе ракіты
Захавалі святыя крыніцы багоў;
Пераломлены, ды не забіты,
Бо бурліць неспакойна паэтава кроў.

У надзьмутых запэцканых сценах,
Дзе гадзіннікі крочаць па зменах,
Не пабачыць надзею сяброўскіх вачэй,
Толькі болем і рытмам у венах
Адгукнецца, каб нехта задыхаў лягчэй.

Разуменне яшчэ не вендэта,
Як апошнія гімны не спеты,
Прадчуваем і марым, і ведаем, што
Шматгадовыя кветкі паэта
Зноў узыдуць на гэтым крывавым плато.

***

Кветак свежых не будзе
Для цябе, мой салодкі,
Ты ж ніколі мне не дарыў улюбёных,
Сёння мой маналог надзвычай кароткі,
Дзьмухаўцы хай шэпчуць табе праклёны,
Я сама назбіраю
Развясёлых рамонак,
Прынясу галінку бэзу матулі,
Але з гэтага раю
Мы паасобку.
Мы заснулі,
І ты прачынацца не хочаш.
Ты павер, твае папяровыя кулі
Ўжо даўно
Не працінаюць маё сакавітае цела.
Адпачываеш?
Як пажываеш, яблык мой пераспелы?
Ці бачыш у снах бясконцых
Нарцысы,
Якія сарамліва п'юць сонца.
А можа бачыш мае празрыстыя рысы?
Ну добра, бывай, вось-вось і сыходжу,
Ты бывай, вось-вось ужо крочу...
Табе не стане лягчэй,
Але салёныя кроплі мне засцілаюць вочы...

***

Не глядзі на мяне як прафесар,
Які не ставіць залікі з першага разу,
Як матуля, калі заваліўся дамоў у зюзю,
Складаючы пазлы з чужых паразаў,

Немагчыма пабачыць, хто кахаў, а хто юзаў,
Навобмацак кранаю сваю адзіную музу,
Пячэ быццам кубачак кавы гарачай,
Тваё сонца на гадзіну раней,
Але мы побач, адзін у адным, не іначай,
Дотыкі, подыхі, рухі сляпыя,
Твой ланцужок — мая пяцелька на шыі,
Цягнеш мацней, і толькі болем,
Адгукаецца болем у тваіх руках,
Падалося, што болей,
Але гэта не болей за страх.

***

Барадаты калядоўшчык падорыць
Камусьці абдымкі,
Камусьці адразу бяздонныя вежы,
У чорна-белыя здымкі
Немагчыма абгарнуць успаміны
Назаўжды залежных,
Дарма ты, хлопча, шукаеш
Сярод акіяну
Супрацьлюбоўныя міны,
З самападманам
Лепей за ўсё
Лічыць да світання хвіліны,
Цягнік адыходзіць бясшумна,
Пачакаеш — адпусціць
Далей за ўласнае вусце,
Там паслухай казкі разумныя
Пра недасяжную папараць-кветку,
Пра дужа лячэбныя слёзы,
І вось калядоўшчык падорыць
Хворыя зоры,
Якія не ўлезлі ў шкарпэтку
Ад Дзеда Мароза.



# Марыя Магдалена Палхоўская

паэтка. Студэнтка 5 курса БДПУ імя Максіма Танка. Нарадзілася ў 1989 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Упасці ў неба...

## Анёлкі

Спаткаемся з табою
ўначы
на пульхным узгорку
адной з аблачын.
Збяром у далоні
з усіх далячынь
зорны пыл,
Каб напоўніць ім сны
Закаханых дзяўчын.
Пазбіраем гарачыя зоркі
З нябёсаў,
Каб гарэлі ў траве
Замест ранішніх росаў,
Каб пяклі яны босыя ногі,
Як голкі,
Закаханых,
Што выйшлі на золку
Любавацца бурштынавым раннем.
Мы будзем смяяцца,
Спяваць і куляцца,
Кідаць падарункі,
Святлом аблівацца...
Стварыць на зямлі закаханых суполкі.
Нам можна ўсё,
Мы ж з табою анёлкі!

*10.04.2010*

## Я

Я стомленая, я здзічэлая, я травяная!
Я лётаць бы хацела — не магу.
Мне вецер дорыць абяцаны пацалунак,
І я за ім у нікуды іду.
Я звар'яцела ад бензінавага паху.

Я скамянела ад камення навакол.
Мне слепяць вочы ліхтары на даху.
І разрываюць ланцугі з усіх бакоў.
Мне б пабегчы, закрычаць, крануць паветра,
Заблытацца ў лета валасох!..
А я, стаміўшыся, плятуся непрыкметна,
Сама сябе хаваю у астрог...

*31.05.2011*

## Ты

Твой цень прабег па маіх валасах —
І я адчула яго дотык.
Тваe вусны дакрануліся ціха —
І разрад у 220 вольт працяў маё соннае сэрца.
Ты паглядзеў — і мяне ахапіла сонцам.
Сказаў, што кахаеш —
І ўвесь свет раптам знік.

*22.10.2006*

## Дабраславенне

Давай не прыносіць адно аднаму болю
Салодкім мёдам пральемся ў пясок
Калыша вецер льняныя косы
Бярозка заўчасна пусціла сок
Збярэм да кроплі ў празрысты лісцік
Паднясем да сонца ў раскрытых далонях
Потым упусцім у кветак янтарнае ўлонне
Хай птушкі нап'юцца...
Блакітныя вочы
Сальюцца з небам
Працякуць паміж дрэвамі смелай ракой
Разгубяцца недзе птушыныя крыкі
Валасы пераплятуцца з імглістай травой..
Расчашы іх
Спляці мне косы
Не забудзь пра раку і мёд
Успомні як дыяменты-росы

Мы лавілі з неба ды ў рот
Давай не прыносіць адно адному болю
Закіпае ў сэрцы гарачая кроў
Магутнае неба
З празрыстых аблокаў
Дабраслаўляе нашу любоў

*06.10.2008*

## Вялікая пятніца

Звычайны пятнічны вечар
Мітуслівы народ разрывае тканіну штодзённасці
Пад гукі таннай музыкі
Пад пахі штучнай гарбаты
Не жаданне вырвацца з апантанасці
Прыпыніць крокі з'едлівых думак
Якія адразу забываюцца,
Якія нічога не прыносяць...
Запаўненне аб'ёмістых сумак
Не выконвае сваю функцыю
Не дае належнага задавальнення
Шукаеш падзёртага сэнсу
У адваротным накірунку
Заціхаеш ад непазбежнасці
Замаўкаеш ад непатрэбнасці...
А ў момант тваёй нерухомасці
у Вялікі пятнічны вечар
Бог шукае ў сэрцы тваім прытулку
Ты рыхтуеш збавення Крыж
Падымаецца велічны Бог над зямлёю —
Апускаецца здрады глыж...

*01. 04. 2010*

## Упасці ў неба

Упасці ў неба
Вачыма да дна
Задыхнуцца ад паху
Травянога віна

Запаліць сваім сэрцам
Стамлёныя вочы
Можам проста ляжаць
А можам і крочыць
Перакулены свет
Развітаецца сонцам
Наспех кіне праменне
У вокны кіроўцам
Цёплы ветрык імкліва
Паляціць наўздагонку
Невядомаму заўтра
А дагоніць на золку
Так цягне ўпасці
Ды ў сінь з галавою!!!
Не дае,
Не пускае зямля
Прывязала травою...

*29.05.2011*

## Не схіляйся

Не азірайся,
Калі не хочаш сустрэцца з мінулым.
Не схіляйся,
Калі б варта было б стаміцца.
Не пераставай зіхацець,
Нават калі пылам пакрыўся
Твой увесь небасхіл.
Прымушай сваё сэрца гарэць,
Нават калі ты ледзь жывы .
Не схіляйся,
Бо тады не пабачыш Неба.
Не азірайся назад,
бо толькі наперадзе мэта.
Не стамляйся ісці,
Бо жахліва спазніцца
Туды, дзе цябе чакае
Гаспадар усяго Сусвету

*30. 09. 2010*

## Следам

Я пайду за табой і далей,
Я ў блакіце нябёс патану,
Як адзіны мы лёс напаткалі,
Так і смерць напаткаем адну.

*07.10.2009*



# Багдан Агрэст

паэт. Студэнт 5 курса БДПУ імя Максіма Танка.
Нарадзіўся ў 1989 годзе ў Івацэвічах. Жыве ў Івацэвічах.

# Шолах цішыні

## Змяя

Столькі год паліруеш зямлю,
Ды абцасамі губіш кветкі.
Ты ў руках сваіх душыш змяю,
Свае вочы расплюшчваеш зрэдку.
А ўбачыўшы белы свет,
Ад яго зачыняешся жарсцю.
Паглынаеш счарсцвелы хлеб,
Называючы гэта шчасцем.
Пасыпаючы прахам ложак,
Ты кладзешся ў яго навек.
Як араты, што трызніць збожжам, —
Абязбожаны чалавек...
І адчуўшы цемру ўнутры —
Засынаеш, хоць спаць не хочаш.
А змяі забітай браты
Прыпаўзуць табе ноччу помсціць...

*25.09.2009*

## Хай—Ку

Мы сустрэліся раптам
Я сказаў табе — Хай
Ты прамовіла ціха — Ку

Потым нешта спытала
А я буркнуў — няХай
Ты пакрыўджана кінула — Ку

Я прашу прабачэння
Крычу ўголас — паслуХай
У адказ як звычайна — Ку

Я губляю надзею
Ціха, шэптам — каХай
Ды праз слёзы данеслася — Ку

***

Думкі-мурашы
Шкрабуцца ў галаве,
Заблытаць валасы
Знутры жадаюць мне.

*03.01.2010*

***

Адлегласць вымяраю часам,
Далечыню — позіркам,
Блізкасць — дотыкам.

*27.03.2010*

***

Шукаю гукі ў цішыні,
Але знаходжу толькі шолах
Ад пошукаў.

*27.03.2010*

***

Напятае ветрам паветра,
Прасякнутае стралой
Спявае.

*22.04.2010*

***

Прыходзіць час, калі знікае
Пахавальная хваля
Па затанулым каменьчыку...

*22.04.2010*

***

Ізноў адзін,
Сам насам
З адзінотаю.

*28.04.2010*

***

Закрыйце мне вочы далонню, закрыйце,
Прымусьце мяне не бачыць.
Тлумачце мне фарбы, падзеі — тлумачце,
Я іх зразумею, мабыць.
Пакіньце мне гукі, пахі пакіньце,
Я імі жыць буду далей,
Адчуйце далонню сваёй, адчуйце
Пакуту майго чакання.
Вядзіце мяне ў гэты шлях, вядзіце,
Я буду ісці й пярэчыць,
Прымусьце мяне не глядзець, прымусьце,
І я зразумею вечнае...

*2010*

***

Засынаю.
Не трываю.
Засынаю.
Не ўтрымаю
У сабе
Сваю цішу.
Прачынаюся.
Шукаю
Ліст,
Асадку.
Сны свае
Адсутныя
Запісваю.

*07.08.2010*

***

Пустэча.
Пакой
Непакоіць.

*16.10.2010*

***

Лісце сухое пад нагамі
Песню смерці спявае.
Восень.

*04.10.2010*

***

Яна падышла да вакна,
Подыхам
Напісала слова Любоў
На шкле.

*12.06.2009*

***

Разгубіўся і згубіў,
Словы, думкі і памкненні.
Кім ты ёсць і кім ты быў,
Колер дзе, а дзе адценні.
Дзе ёсць праўда, дзе мана,
З чым змагацца, з чым мірыцца?
Дзе свабода, дзе турма?
На вядомае забыцца...
Недзе ноч змяняе дзень,
Потым сонца зменіць поўню,
Ты згубіў, згубіў сябе,
Усё іншае — ўсё роўна.

*19.03.2011*

***

Кубак кавы хавае цеплыню,
Каб аддаць яе
За
Пацалунак.

*21.03.2011*

***

Можа яна і была калісьці...
Але

Канчаткова згубілася —
Рыфма.

*21.03.2011*

***

Матылёк у тваіх валасах
Пад павевам ветра
Расцвіў.

*24.05.2011*

***

Мост злучае два берагі,
Але не патрэбна ім гэта.
Дзе павінна адбыцца каханне,
Берагі
Злучае вада.

*19.07.2011*

***

Нічога шукаць не трэба,
Усё пад нагамі ляжыць.
Нахіліся!

***

Згубіў сябе.
Знайшоў чужога.
Зрабіў сабой.

***

Хачу ўсе свае думкі
У адзін вялікі тэкст укласці,
А потым спаліць у печы,
Сагрэцца
І думаць —
Вось яно шчасце...

*15.11.2010*



# Юлія Бажок

паэтка, празаік. Скончыла Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт. Друкавалася ў тыднёвіку «Наша слова». Нарадзілася ў 1988 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Паганская замова

## Ты

Ты — мой сад васількoвых ружаў.
Ты — мой край бульбянога хлеба.
Я хачу быць з табою — дужа!
Я з табою хачу дыхаць небам!

Ты — мой рай азярыстых рэчак.
Ты — мой здзек з першамайскіх траўняў.
Тое месца, дзе мой прыпечак.
Тое месца, дзе многа тайнаў...

## Мой дом

Я не ведаю мер!
Я бязмерная
У жаданнях, у сварках, у віне...

Я не ведаю межаў!
Бязмежная
У каханні, у мроях, у сне...

Я не ведаю мовы!
Бязмоўная!
У краіне, дзе моваў аж дзве!

Але ведаю, што я
Бяздомная!
Бо мой дом, там дзе ты. А ты дзе?!

## Поўня

Ты зніч — святло маёй душы.
Ты боль і жах у маім сэрцы.
Ты кропля той жывой вады,
Што п'юць абраныя бяссмерцем.
Ты мой вампір, што любіць кроў.

Мой бог ад поўначы да поўдня.
І размаўляю я без слоў
З табой зямным, а ў небе —
З поўняй!

## Дзіцячы наіў

Пакуль жыву — жыву бясконца!
Люблю Радзіму, неба, сонца.

Няпэўнасць лёту матыля,
Тваё нярэдкае імя.

Люблю вясновасць цеплыні.
Люблю ваду, люблю агні.

Хачу любіць, хачу кахацца,
Хачу бясконца цалавацца!..

## Бывай

Апошні позірк — і бывай!
Даруй, але ж не забывай.
Не забывай і ўсё ж забудзь.
Забудзься на мяне і — будзь!
Пачні ўсё нанава. Давай!..
Даруй, што зноў кажу: «Бывай!»

## Паганская замова

У самотнай і ціхай хаце
Надвячоркам ці апаўдні
Ці пачуеш мой крык дзіцяці:
«Сонцу! Тату, прашу, вярні!»

У агідна пустой кватэры
Сумным ранкам альбо ўначы
Ты пачуеш мой рык здзічэлы:
«Ветру! Бацьку майго вярні!»

У абрыдлым сцюдзёным доме,
У той час, калі згасне агмень,
Прашапчу ў бяссільнай стоме:
«Я люблю яго! Хоць ён і дрэнь!»

## Змова

Замова, прамова, прадмова —
Па-над вамі пануе змова!
Над адмовай і перамовай,
Над дамоўна ўмоўнай мовай!

***

Чорны крук на чырвоным снезе
У душу маю крыкам лезе.
Зноў на сэрцы ўзнікаюць раны:
Край крынічны крывёй пакараны!

***

Уздоўж ды ўпоперак цісне!
Мне цесна, няма адсюль выйсця.
Паскудна. У скуру закуты.
У цела, што так назалела.
Хоць басам крычы, хоць фальцэтам,
У скуру да смерці адзеты.
Мне цела — турма, сутарэнні
Ад самага дня
Нараджэння.



# Арцём Сітнікаў

паэт, музыка. Скончыў прыборабудаўнічы факультэт БНТУ. Нарадзіўся ў 1987 годзе ў Пензенскай вобласці (Расія). Жыве ў Мінску.

# Не магу адвесці вачэй...

## 31 траўня

Дождж суцэльнаю сцяной
Са счэпленых з зямлёй
Прамых, намаляваных у паветры
Почыркам рытмічнасці й сіметрыі,
Непадуладных гумкам і карэктарам,
Спускаецца ўніз,
Ляціць і падае... Грыміць карніз
Шчырым пошчакам бесперастанку,
З раніцы да вечара, з вечара да ранку,
Да світанку,
Бы хтось спявае калыханку
На ноч, на сон...
Ратуе парасон
Ад бязлітасных джалаў,
Джалаў дажджу,
Што джаляць ногі, рукі, галаву,
Джалаў-кінжалаў —
Але замест крывавых плямаў — кропелькі вады,
Бы слёзы ад растання ў роспачы.
Зямля іх паглынае нашча,
А што не вып'е — пакідае побач.
Паветра плача...
Апошні дзень вясны...

*31.05.2006*

## Запалкі

З зямлі знікаюць зоркі
Заміраюць, згараюць, згасаюць
Знайду, запалю запалкі
Запалю замест зорак
Зайду за запалкамі заўтра
Замёрзлы, злосны, зашуганы
Зраблю з запалак замак
Зніч запалю згвалтаваны

Замяняць зоркі запалкамі
Здурнеў зусім, звар'яцеў
Злыдзень! — закрычала зграя
Закіпела запалам злосці
...Загінулі зоркі, запамяталі
Зусім, зрок згубілі
Затое загараюцца запалкі
Зззяюць знікаючым зззяннем.
*2007*

***

Рука кранае вецер —
Вандраванне.
Рука руку кранае —
Прывітанне!

Рука кранае струны —
Гук ірвецца.
Рука кранае вусны —
Сэрца б'ецца.

Вусны кранаюць зоркі —
Песні гучаць штовечар.
Вусны кранаюцца вуснаў —
Любая, да сустрэчы!
*30.11.2010*

***

Паветрам
Дыхаем
Па ветры
Слухаем
Мы верым
Дух маем
Мы вернем
Думаем
Мы вершам
Здужаем

Перш-наперш
Мы жывем

*21.11.2010*

***

Не магу адвесці ад цябе вачэй
З кожным позіркам ты ззяеш ўсё ярчэй

З кожным крокам ты становішся бліжэй
Не магу спыніць я ног сваіх хады

Не магу не зберагчы твае вады
З кожнай кропляй хай насыцяцца сады

З кожным дотыкам ты спальваеш мяне
Не магу прайсці жывым праз твой агмень

Не магу цябе пакінуць, быццам цень
З кожным сонцам падымаюся вышэй

З кожным гукам размаўляю я цішэй
Не магу адвесці ад цябе вачэй...

*08.09.2011*

## Элегія

Восеньскае лісце шапоча,
Закалыхвае сваім шолахам...
Ты сніш ласкавае цёплае лета
З аксамітнымі вечарамі
І празрыста-чырвоным небам...

Напэўна, нейкая мая часцінка хоча
Лёгкім восеньскім воблакам
Разам з жоўтым лісцем узняцца ў паветра,
Праляцець над ранішнімі туманамі
Дажджом праліцца на глебу...

*26.09.2011*



# Алеся Птушка

паэтка. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Нарадзілася ў 1990 годзе ў горадзе Маладзечна. Жыве ў Мінску.

# Дык дзе ж тая воля?..

## Крылы

А мы сёння бачылі неба,
І ўсё было так, як трэба:
Нам сонца свяціла ў вочы,
Анёл па аблоках крочыў.
Бы кропкі, луналі птушкі
Ды самалётныя стужкі
Пакой парушалі нябёсаў.
Шляхі чалавечых лёсаў
Спляталіся ў небе высока,
Хаваючыся ў аблоках.
Але было цяжкім паветра,
Не чулі мы вольнага ветру.
Узляцець не хапала сілы:
Жыццё нам абрэзала крылы...

***

Гадзіннік адрэзаў
Яшчэ тры хвілінкі...
На думках-пратэзах
Дрэйфуюць ільдзінкі...
Ды іх не шкада —
То жыцця карагоды.
Здаецца, бяда.
Дык з якой жа нагоды?
Не будзе ратунку,
І не спадзявайся.
Вось боль-пачастунак.
Ну як, спадабаўся?
Няма белай столі,
Нам — зорныя шалі.
Дык дзе ж тая воля,
Якую чакалі?..

## Лёд

Гэты лёд не чакае мяне,
Не чакаў і чакаць не будзе.
Мае мары ўраз ён праглыне
І фантазіі жар астудзіць.

Гэты лёд — ён не мой ужо болей,
Як бы я па начах не сніла.
Пераблыталіся другарадныя ролі,
І свой выхад «на біс» я згубіла.

Гэты лёд стаў урэшце сабой,
Стаў сапраўдным, халодным, калючым.
Вось чаму на душы неспакой,
Вось чаму так нясцерпна балюча.

***

Душа ў камені
Бы ў старым кіно.
І сонца праменняў
Няма тут даўно.
Няма і трывогі,
Тут толькі спакой.
Шукаць дапамогі?
Навошта? Не твой
І не мой небасхіл
Хаваецца ў хмарах.
Няма ўжо сіл
Губляцца ў абшарах.
Бо мы тут не тыя,
І доля не наша.
Пакуль што жывыя.
Што заўтра адкажаш?
Жыццё нечакана
Змяняе кірунак,
Ад рана да рана,
Нібы пачастунак,
Шукае паветра.

Для зменаў, вядома.
Хоць на міліметр,
Хоць ва ўласным доме.
Але што за дзіва?
Навокал спакой.
Навокал маўкліва,
Бы зімняй парой.
А мы ўсё чакаем,
Што будзе цікава.
Нічога не маем.
Звычайная справа...

***

У такім вялікім горадзе
Няма ніводнай думкі
Ужо звініць паветра
Ад пустаты сваёй

Магчыма, нешта зменіцца
Калі толькі сам на сам
З вялікім зорным небам
Жыццё пакіне нас

На хвілю горад знікне
І быццам на далоні
Мільёны мар і думак
Бы птушкі наляцяць

Ды будуць вольна лётаць
У агромністым сусвеце
І будзе нам здавацца
Што гэта назаўжды

А потым... горад вернецца
Спужае нашы думкі
І зазвініць паветра
Ад пустаты сваёй...



# Дзмітрый Лавіцкі

паэт. Скончыў філфак БДПУ імя Максіма Танка.
Нарадзіўся ў 1988 годзе ў Гомелі.
Жыве ў Старых Дарогах.

# Карабельныя песні

## Туман

Цяпер я тут, дзе вымакае лес,
тут ёсць туман і на сцяжынах хвоя.
Усё прыглушана, усё прыбрана спрэс
імжой і лесапаласою.
Тут трэба слухаць галасы звяроў
і нахіляць ва ўсіх напрамках голаў.
Я ўчора чуў размову ваяроў,
пра тое, што салдат — жывёла,
што ён звыкаецца з халодным лежаком
і пакланяецца адбою і абеду.
Тут за чыгуначным іржавым палатном
пачатак цемры і канец сусвету.
Тут ёсць туман і дробныя штуршкі
паветра ў вокны і паветра ў сцены.
Паветра рве са скроняў валаскі
і пакідае ранкам на пасцелі.
Калі наважыцца і разгарнуць блакнот,
то дрэвы пішуцца, як серыя партрэтаў.
Калі пайсці — туман напоўніць рот.
І не рассеецца —
на тое ўсе прыкметы...

## Заходні вакзал

Ён назіраў за хадой аблокаў,
насаком варушыў камяні,
даставаў кісліцы з-пад вока
падцягваў вышэй штаны
і скрыгатаў ад злосці зубамі,
і ўсміхаўся без перабору
усім, хто праходзіў міма.
Знайшоўшы локцю апору,
ён казаў, што людзі астылі,
што пасланы нам лістапад,
але пра яго забылі,

забылі пра лістапад.
Я не слухаў, як ён пытаў:
«Што схавана пад капюшонам?»,
гэта быў заходні вакзал,
я набываў талоны,
і мой шлях пралягаў далей...

Ён абернецца галкай-птушкай,
стане ў лужыну, стане вадой.

***

Світанак гэты, што цябе абудзіць,
яшчэ змяшаны напалову з ноччу,
свой твар пакінь сутонню і прастудзе,
калі світанак — значыць трэба крочыць.

Глядзі спакойна: спераду твой шлях,
і кожны след накрые завіруха,
ад ног не адганяй сабак,
ані святога, ані злога духу.

Адно сачы, каб лёдам не схапіла
калодзеж, і як выцягнеш вядро —
з вады не даставай падгнілых
ні летніх траў, ні мёртвых камароў —
хай застанецца ўсё, як і было.

## На смерць белага сабакі

І эльфы плакалі над гэтаю магілай,
і кроплі скочваліся па крыжы,
дзяўчына ў белым мне віна наліла
і мовіла, што ўсе мы на мяжы...
Мы не жывем, а толькі назіраем,
гуляем на дарозе ў гарадкі,
і сёння я па новай адмаўляю
сябе, цябе і гэтыя радкі.
Наш крок здрабнеў, і ці не значыць гэта,
што мы на запаволенай зямлі?
Ці варта зычыць ўратавання свету?..

## Карабельная песня

Шклянка вады, талерка,
на стульцы ляжыць адзенне,
святло не гарыць, люстэрка
ловіць адно адценні.

Я думаю пра паветра —
не мора, але ўзбярэжжа,
апушчанае павека —
мая залатая вежа.

Калі ідзеш да памоста,
то ведаеш: хутка залева,
я стомлены так, што проста
не помню працягу спева.

Я бачу цябе скрозь слёзы,
ніхто іх не выцірае...

## Зялёны палын, чорны палын

Вось гэта плынь,
нашыя словы
роўня біблейскім фразам,
зялёны палын, чорны палын —
гэта і ёсць параза.
Бяжыце хутчэй:
статак баіцца
свайго чорнага брата,
чорных плячэй яго і вачэй...
Паветра гэтага сын,
ты дапаўняеш статак.
Зялёны палын, чорны палын —
гэта і ёсць параза...
Як і магчымасць уцёкаў,
страх твой адвечны,
ён быў адразу
дарункам з цёмнага боку.



# Юрка Буйнюк

паэт. Аўтар паэтычных кніг: «Субота ў Малінніках» (2005) і «Самота дажджу» (2009). Друкаваўся ў газеце «Ніва», часопісах: «Тэрмапілы», «Калоссе», «Дзеяслоў», «Angora». Лаўрэат агульнапольскага конкурсу беларускай паэзіі ды прозы. Нарадзіўся ў 1981 годзе ў вёсцы Маліннікі на Беласточчыне ў Польшчы. Жыве ў Беластоку.

# На аблоках сноў

***

Паміж молатам і кавадлам
Я не жалеза, а камень.
За кожным ударам молата несправядлівасці
Адбіваюся іскрамі беларускіх вершаў,
Што выклікаюць пажар праўды,
Які запальвае агонь у сэрцы аднадумцаў.
Я не руда жалеза.
Не здамся ў няволю
Формы ворагаў маіх поглядаў.
Хутчэй разаб'юся камнем
На мільёны слоў,
Запісаных кірылічнай крыніцай праўды,
Плывучай з вытоку
Майго маладога сэрца.

*19.05.2010*

***

Я шукаў цябе
У загонах радкоў агародаў санетаў
П'яна закаханых наіўных паэтаў

Я шукаў цябе
У мелодыях салодкіх песень
Адзінокіх кропляў вераснёвых дажджоў-бардаў

Я шукаў цябе
У натоўпе шумных мурашнікаў вуліц
Гораду наканаванага лёсу

А ты мяне знайшла
На скрыжаванні промняў ззяння
Учарашняга травеньскага сонца

## Песня

Толькі Вам
Насцеж адкрываю
Браму шчырасці свайго сэрца
Хай звонка гучыць вяселле
Спантаннасць рытму ветру
Мелодыі шчасця натхнення
Тужлівай гітары маёй душы
Запісваю ў кнізе сваёй памяці
Хвіліну ўзлёту Ікаравых крылаў
Частуе нас фея восень
Словамі музыкі ветру
Вечныя сны маладосці
Ажываюць у восеньскім садзе
Маёй вечна маладой свабоды

*5.12.2011*

## Будзь

Будзь
Маёй ранішняй кавай
Што з аблокаў сноў маладосці
Вяртае мяне на зямлю
Рэчаіснасці сённяшняга дня

Будзь
Толькі для мяне
Спакуслівай вядзьмаркай
Што толькі мяне частуе
Таемнай вячэрай граху

Будзь
Верай у каханне
Цвёрдай як бесклапотны сон
Змучанага вандроўніка
Па доўгім падарожжы адзіноты

*30.09.2011*

***

Люблю
як да люстра майго пачуцця
усміхаешся каралямі вуснаў
даспелай чырвонай каліны
на радасным снезе тваіх зубоў

Цешыць мяне
Кветка твайго шчаслівага кахання
Расцвітаючай чарэшні сэрца
Вечнай маладосці

*18.12.2011*

## Галубы

Добрыя Божыя дзеці галубы
Спадарожнікі міру сусвету
Пасланцы паміж людзьмі і Богам
На крылах Хрыстовай веры
Нясуць нашыя лісты-малітвы
Просячы Усявышняга ласкі

Божыя дзеці галубы
Шчыруюць на грэшнай зямлі
Будуюць пад небам гнёзды
Манастыры душы
Каб нам было бліжэй да Бога

*2011*



# Ігар Канановіч

паэт. Вершы друкаваліся ў часопісах «Дзеяслоў» і «Верасень». Працуе настаўнікам рускай мовы і літаратуры ў Карацкай СШ Клецкага раёна. Нарадзіўся ў 1983 годзе ў Клецку. Жыве ў Клецку.

# Песня калючай пожні

## Залатая даліна

Залатая трава... Любы кут! Залатая даліна.
Я прайшоў Чорны лес, але трэба вярнуцца назад.
Б'юць Анёлаў — братоў. Снежнакрылыя гінуць бязвінна.
Паварочваю крокі — ёсць праца Магістру Ляза.

Залатая даліна. Згадаю не раз перад бітвай.
У абрыдлівых нетрах, за крок ад сасмяглай гайні,
На Праклятай сцяжыне, ганебнай крывёю палітай,
Буду цёплую казку, мячом замахнуўшыся, сніць.

Залатая даліна. Тут вырасце Горад Вясёлкі.
Але трэба вярнуцца — не ўсе яшчэ выйсце знайшлі.
Паглыбляюся ў лес. Б'юць наводмаш па твары іголкі.
Б'юць Анёлаў — братоў, грамадзян Залатое зямлі...

## Мір, падобны на рай...

*(маналог адстаўнога капітана падлодкі)*

Мір, падобны на рай, — ілюзорны, кароткі, наіўны.
Як звычайна, вайна недзе побач — жадаеш ці не.
І ў парыве сляпым рызыкуеш нарвацца на міны.
Ды няшчаснай падлодкай дайсці на бязлітасным дне.

Мір, падобны на рай, мае вельмі няпэўныя межы.
І за імі — засады на спешчаных лёсам людзей.
Так, мацёрыя д'ябны нядоўга чакаюць без ежы:
З глыбіні перыскопнай ты, сціснуўшы зубы, глядзеў...

Мір, падобны на рай, забываецца хутка на беды —
Там іх проста няма; там для змучаных нерваў — курорт.
Але я адпачыў, а цяпер загружаю тарпеды.
Выйду з вечара ў рэйд, па-англійску пакінуўшы порт...

## Апошняя просьба

*Б.К.*

Адступаю — у самотнае Ніколі...
Пад настольнай лямпай згортваю паход.
Ты была крыніцай радаснага болю,
Рызыкоўнай мэтай шэрагу прыгод.

З кім жа справу меў? Ты ведзьма або фея?
Мабыць, іншы нехта высветліць — няхай...
Горкі досвед — найгалоўнейшы з трафеяў.
Страціў веру і надзею. Адкахаў?

Ноч абмыла скразняком маё натхненне,
Рэха бездані налегла на душу.
З кім ты, любачка, сярод пяшчотных ценяў?
Дай патухнуць, знікні з памяці — прашу!

## Старасць

Я помню яшчэ
паўнацэнныя
залатыя ўсмешкі,
якімі беларускія сёлы
віталі чарговую ноч...

Сёння ж
чорны, бязглузды зуб
выстылай хаты
суседнічае ў цемры
з выпаўшым у нябыт
жытлом —
згладжаным да зямлі
селішчам,

адкуль
дзікі да вусцішы,
хмельны водар
зборышча траў

наплывае
з пасвяжэлым паветрам...

Схамянуўшыся,
рушу далей —
да хатаў,
якія пакуль што
здольна і дзёрзка
жуюць свой прыземлены лёс...

## Дзве кулі

*(вольная ода)*

Дзве кулі
прабілі сэрца
і незваротна
заселі там.

Не шукаю
хірургаў.
Мне... зручна
быць
смяротна параненым.

Каця і Ніка!
Вы —
мая абарона
ад сусветнага
эканамічнага крызісу
і глабальнага пацяплення.
Варта
хоць адной з вас
паварушыцца
ўнутры,
як накоціць прыліў
цяжкай, але
прыемнай пакуты —
і астатняе стане пабочным...

## Фотарэчы

### Грэшнік

Перад іконай
агеньчык лампады
дрыжыць,
спазнаўшы мой грэх.

### Бліскучы пыл

Бліскучы пыл
асядае на пальцы.
Рассыпаўся
схоплены
промень зоркі.

### Патрыёт

Туман
паўстаў над вадой —
бароніць
ад ночы
сваю радзіму.

### Смяюцца дзеці

Весела смяюцца
дзеці,
і зямля
перапоўнена небам...

### Нулявы акорд

У жалобным
строі чорнага
футарала...
Аб кім смуткуеце,
пані Гітара?

## Халодны вецер

Душа стамілася чакаць — дабра і зла.
І зыркім вогнішчам у цемры дагарае.
На эшафоце беларускага сяла
Кат Безнадзей спрактыкавана размяшчае

Сваё начынне: алкаголь, бяздумны шлюб...
Узважыў з любасцю сякеру адзіноты...
Чакае кошык галавы. На свежы труп
Мясцовы князь прыставіць новую з ахвотай...

Былую выкінуць — бо думала зашмат
І, горш за тое, распаўсюджвала крамолу
Паганым ротам, правакуючы разлад.
І недалёкі, жорсткі князь стаяў, як голы...

Душа стамілася, ды ўсё яшчэ гучу.
Чаму — не ведаю. Відаць, наканавана...
А жыць з тыповай галавою не хачу.
Халодны вецер. Шыю хутаю старанна...

## Песня калючай пожні

Не закіпае ў сэрцы новая любоў.
Сышла былая, як з палёў сышло калоссе.
Няма нянавісці. І стыне, стыне кроў!
А сэрца пожняй непатрэбнай засталося...

Калючай пожняй. Басанож не перайсці.
І хоць удзень пануе верасень лагодны,
Халодны пыл змяіцца ўночы па жыцці,
І стогне лета, выцякаючы з прыроды...

Маё параненае лета! Пачакай!
Бо я ж напоўніцу табой і не сагрэты...
Радкоў разорамі накрэсліць новы май
Маю спрадвечную, маю святую мэту?



# Рыгор Сітніца

мастак, паэт, публіцыст. Першы намеснік старшыні Беларускага саюза мастакоў. Вершы друкаваліся ў часопісах «Полымя», «Дзеяслоў», «Верасень» і іншых выданнях. Лаўрэат Літаратурных прэмій часопісаў «Полымя» і «Дзеяслоў». Карціны знаходзяцца ў музеях Беларусі, Польшчы, Грэцыі, у прыватных зборах шматлікіх краін свету. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Курыцічы на Петрыкаўшчыне. Жыве ў Мінску.

# Знаёмы дождж

## Брэйгель

*Рыгору Барадуліну*

Басуе басэтля, раве акарына,
Шалее дуда, пераймаючы дых... —
Балюе вясельная ў вёсцы сябрына,
І, свой са сваімі, там я сярод іх.
Між леташнім ліхам і новай бядою
Нам вусны цалуе віно маладое;
Гуляе басота, пяе, карагодзіць,
І дол пад « Лявоніхай» ходырам ходзіць.

Было так адвеку, амаль ад Адама,
У Крэве, Вушачах, ці ля Амстэрдама:
Святкуе душа, разгаўляецца плоць,
І я ў той сябрыне, і з намі Гасподзь.
Я Брэйгель. Я грэшны.
Даруй мне, мой Божа,
Што ўцехамі плоці правіны я множу.
Ды гэта мне Ты і жыццё, і зямлю
Найлепшую самую даў у пазыку,
І слодыч віна, і вядзьмарства музыкаў,
І песняў бяседных вакхічныя зыкі...
А ўсё, што Ты даў мне, я тое й люблю.
Мне любы спакусныя вусны дзяўчат,
Крамяныя сцёгны, паспелыя цыцкі...
Я Брэйгель Старэйшы,
Я Брэйгель Мужыцкі,
Я роўняю гэтай зямлі акурат.
Ды святаў Гасподзь дазваляе няшмат,
І кожны разумнік — урэшце вар'ят,
І долю сляпца напаткае ідушчы,
І нас, нібы семачкі, Час пералушчыць.

Аслеплае людства, ты крочыш куды?
Няўжо твая мэта — паспець на клады?
Няўжо мы такія — па вобліку Творцы?

Ды ведаю, — іншыя маем шляхі,
Туды, дзе Гасподзь нам адпусціць грахі,
Дзе зноўку душа прыпадобніцца зорцы,
Дзе ўсім усяго будзе ўдосталь... Туды,
Аслеплым усім пакажу я брады,
Я Брэйгель Відушчы,
Я Брэйгель Празорца.
Мне вышняя ў вочы глядзіць далячынь.
Калі я па снезе вяду паляўнічых, —
Я Брэйгель Астральны,
Я Брэйгель Касмічны,
І гэта мой вырак, і доля, і чын.

І хай не звівалі мне з лаўра вянкі,
І не засцілалі кілімам дарогу,
Здабыткам няхай мне журба і знямога,
Ды ведаю званне сваё на вякі:
Я Брэйгель —
Чаляднік у Госпада Бога.

*2010*

***

Пазнаю гэты дождж,
гэты змоклы да ніткі перон;
Гэта я там адзін,
у вагонным вакне — гэта ты;
І ніякай палёгкі,
што гэта адно толькі сон,
Бо цягнік адыходзіць,
і дождж не патушыць масты
За апошнім вагонам;
і позна гукаць наўздагон.
І кудысьці самнамбулай —
у пустату з пустаты —
Мне ісці бездарожна
па самай глыбокай журбе;
Бо ўжо лепей журба,
калі побач са мною не ты,

Бо навошта дарога,
калі не вядзе да цябе.
Бо куды і навошта —
у ноч, у мярэжу, у дым?
«Гэта сон» — я прачнуся,
сябе суцяшаючы тым.
«Гэта сон — адкажу я
журбе, адзіноце, дажджу, —
Але дайце, яшчэ раз
яго да канца дагляджу.
Дайце зноў мне пабачыць,
як гінем па ўласнай віне:
Я — на змоклым пероне,
і ты — у вагонным вакне;
Як цягнік адыходзіць...
І — Божа мой, Божа мой, Бож...
І кудысьці самнамбулай
зноў павядзе мяне дождж,
Каб я ўрэшце спасціг,
зваяваўшы свае ветракі,
Што каханню пад сілу
з нябыту вяртаць цягнікі».
*2007*

## Мяса і скрыпка

*Л. Дранько-Майсюку*

Пануры студзеньскі ранак,
мінус 17 па Цэльсію;
Двор гастранома, як шанец
з'яднаць футурызм і сіцэсію;
Пагрозна цямнее фура
сваёй цыклапічнай масай:
Грузчыкі ў кодаб жалезны
згружаюць змерзлае мяса.

А ў доме тым самым
лірычны жыве паэт;
А ў грукаце змерзлых тушаў

няпроста знайсці алегорыю;
І муза паэтава з ранку
сябе пачувае хвораю,
І дужа будзённы выходзіць
у беднае музы сюжэт.

І ёй падаецца,
што ўжо анічога нельга змяніць,
Ні раскатурхаўшы думкі,
ні памяць ціха пакратаўшы,
Ні слых падмануўшы звонам
з рэінкарнаванай ратушы,
Прытворна сабе зманіць.

Ды, дзякаваць Богу,
сюжэтныя іншыя ёсць хады:
Ёсць дом насупраць
з дзівоснай назваю «кансерваторыя»,
Там голас скрыпкі з вакна
пашырае сваю тэрыторыю
І верыць, што назаўжды.

І, згодна са скрыпкай,
у тысячны раз паверыць паэт,
Што люд, прапахлы
порахам, дымам, крывёю, воцатам
Усё ж у нейкай ступені
ёсць Бахам, Шапэнам. Моцартам;
І ў тым паратунак,
хоць рэдка пра гэта згадвае свет.

Ды хай сабе будзе тое,
чаму і належыць быць:
Хай нехта кіруе фурай,
а хтосьці згружае мяса;
Хай скрыпка паэта вядзе
да Акропаля і Манпарнаса;
Хай кожны здабудзе тое,
чаго ён варты здабыць.

Ды ўсё ж, патанаючы звыкла
ва ўтульным будзённым лайне,
Альбо на сябе прымяраючы
блазнавы бліск эпалетавы,
Хай будзе хоць зрэдку
імі пачутае слова паэтава
І голас скрыпкі ў акне.

*2006*

## Самотны

Гэты дом чужы,
чужая вуліца;
І мяце, і час безнадзейна позні.
Толькі ноч плячом
да пляча прытуліцца,
Толькі сцюжы рука
пад руку возьме.

І куды мне — шлях?
І які мне — чын?
І ці мае Бог
чым дапамагчы?

*1999*

## Віно дажджоў. 26.11.2005

Як назваць гэты час,
што не восень ужо, ды яшчэ не зіма,
Калі, сэнсу не маючы,
шэрым па шэраму крэсляць дажджы;
Калі, як ні шукай гэты сэнс,
а яго безнадзейна няма,
Ну хіба што надзея мадзее —
да першага снегу дажыць.

Ды з нуды мне падкажа брады
каляндарных падзей мітусня,
І сяброў галасы
тэлефонная флейта пакліча на збор:

А давайма спаткаемся разам усе
дваццаць шостага дня
Лістапада. Алё,
Леанід, Уладзімер і дзядзька Рыгор.

А давайма вясёлага самага
шчодра накупім віна;
Хай турботаў лухта адпачне
ад заўсёдных крутых віражоў.
Захмялелай сябрынаю
будзем сядзець, гаманіць давідна,
Безназоўнаму часу надаўшы найменне «Віно дажджоў».

І на дзіва змястоўнаю
зробіцца раптам імжа за вакном.
Дык давайма вясёлыя чаркі
падымем найперш за таго,
Хто юдоль несалодкую выпіў,
як чарку з найлепшым віном,
І жыццё пражываў як Дняпро,
што выводзіць сябе з берагоў;

Хто сябе раздаваў нібы хлеб,
без разлікаў на прывідны рай,
І любові сваёй не разменьваў
развагамі: быць, ці не быць?
Дык давайма другую падымем
за гэты разгублены Край,
Што такіх нараджае Паэтаў,
хоць іх і не ўмее любіць.

Але можа — дай, Божа, — калісь...
А пакуль, Уладзімер, вазьмі
І па трэцяй налі,
каб паводле другой не ўтапіцца ў журбе:
За каханых жанчынаў,
што нас дабрачынна зрабілі людзьмі,
І за тых, што кахаць не хацелі,
чым горай зрабілі сабе.

А таму, — за Каханне!
Бо кім — не дай, Бог, — без яго б мы былі?
Дык давай, Леанід,
вінаграднай гарынню парадуй крышталь:
І за тое, што Бог
пасяліў нас на гэтым кавалку Зямлі,
Каб на музыку словаў тутэйшых
паклалі і смутак, і радасць, і жаль...

Каб тутэйшымі словамі чулі,
як падае кропля з вясла,
Каб ад Крэўскай сцяны
адбівалася рэха з Вушацкіх азёр,..
Каб на мове сваёй
мы маглі каго-трэба далёка паслаць,
Каб пілося нам соладка зноў,
непітушчы наш Дзядзька Рыгор.

Дык за нашае ўсё,
без чаго ў гэтым свеце мы проста нулі.
Хай давеку жыве,
каб не стаў безназоўным ні Край наш, ні свет;
Аж пакуль не патухне святло
на прытомленай гэтай Зямлі,
Аж пакуль не пакіне яе
беларускі апошні паэт.

*2005*

## Балада

... І калі не было ўжо ні слёз, ні малітваў, ні слоў, —
Ён паволі падняўся і некуды ціха пайшоў.
А яна прамаўчала і выгляду не падала,
Толькі дзіўным паглядам яго да дзвярэй правяла.
І праз лёс бездарожны, нібыта праз лес напрасткі, —
З ім самота ля левай, — туга каля правай рукі.
Ну а болей нікога, апроч гэтай дзіўнай радні,
Толькі Божае Вока глядзела на іх з вышыні.

Ён ішоў і не ведаў, бо нават не думаў, — куды;
І пасля не згадае, як выйшаў да нейкай вады.

Толькі штосьці няпэўнае ў гэтай мясціне было:
І вада — не вада, а, нібыта, бурнатнае шкло,
Ды ўчарнелае лісце — далёкага лета прывід,
Аніяк не расквечвала вусцішны той краявід.
На памежжы юдолі, на ўскраіне лёсу свайго
Ён глядзеў на ваду, і глядзела вада на яго.
А з вачэй нерухомых цякла, як густая смала,
Несуцешная роспач, што ўчора каханнем была.
Ды ніякага болей ратунку той боль не шукаў, —
Ён каханне былое з сябе, нібы яд выціскаў;
І харал нетутэйшы звінеў у аглохлых вушах;
І з каханнем па кроплі з яго выцякала душа...
І зрабілася лёгка: ні болю, ні крыўдаў, ні слёз...
Толькі Божае Вока за ім назірала з нябёс.

А пасля ён вярнуўся, — ніякі, звычайны такі;
З ім — ніхто каля левай, нішто — каля правай рукі.
Ды паціху зажыў, як і тысячы іншых жывуць,
Як і ўсе, патануў у будзённых турбот каламуць;
Аніколі не слухаў, што кажуць аб ім землякі,
І не чуў, як скуголяць ягонай душы скразнякі.
Ды не мог зразумець, хоць па тым і не дужа тужыў,
Што сябрам і радні ён зрабіўся нібыта чужы.
Але хутка прывык і не надта дзівіўся з таго,
Што чамусьці знаёмыя не пазнавалі яго.
А яны ўсё гадаюць, хто жартам, а хто і ўсур'ёз, —
Ці напраўду ён згінуў, ці можа папраўдзе ўваскрос?

І Ўсёбачнае Вока на іх пазірае з нябёс.

*1997*

***

І нібыта апошняе выйсце
Я знайду і прызнаюся ў тым,
Што таемна падслухваў калісьці,
Ды яшчэ й пераказваў усім,
Як дажджу спавядалася лісце
Перад тым, як пайсці назусім.

*1998*

## Памяці Яўгена Куліка

Ні журбы, ні часу, ні прасторы.
Апрыёры — вечнасць і бязмежжа.
Прывыкай рукою кратаць зоры,
А тым болей сам да іх належаць.

Прывыкай. Астральная сябрына
Прыняла, прывеціла, прызнала:
За руку вітаецца Скарына,
На плячо кладзе руку Купала...

Там табе Эдэмскія прысады
У заўсёднай квецені вясновай;
Там Гасподзь з табой без перакладу
Размаўляе беларускай мовай.

Патухае прыжыццёвы вопыт:
Ні хвароб, ні злыбяды, ні кпінаў.
Толькі ўсё ж не пакідае клопат
Пра зямлю, што на Зямлі пакінуў.

І з вышынь, як і належыць зорцы,
За жывых у радасці, ці скрусе,
Аглядаеш пільна, як дазорца,
Кулікова Поле Беларусі.

*2004*

***

Ало... Добры вечар...
Даруйце, — ды зноў гэта я...
Ало... Пачакайце, —
Дазвольце хоць некалькі слоў,
Ну, дзякуй...
Ды так сабе, звыкла —
работа, сям'я...
Усё, як у іншых, нібыта нармальна.
Ало...
Ды не, вам здалося, —
я сёння цвярозы зусім.

Навошта званю? —
я і сам уяўляю наўрад,
Ды, часам, здараецца —
як ты сабе ні хлусі, —
Душу не падманіш,
хоць тое было б акурат.
Ды часам здараецца —
Восень, і вечар, і шум
Дажджу і лістоты,
і ў вокнах чужое святло;
І кроплі, здаецца,
цярушацца проста ў душу,
І жоўтай мяцеліцай
сцежкі мае замяло.
І, сам па сабе, набярэцца —
навошта, куды? —
Той колішні нумар —
у мрою, у згадку, у сон...
Ды не, я не хворы.
Усё ў мяне, як і заўжды,
А голас дрыжыць,
дык, напэўна, такі тэлефон.
Напэўна, такая на свеце пара,
і, напэўна, такі
Узрост, і няпэўнае штосьці
шукае, — не знойдзе душа...
Так хочацца дрэву
апалых лістоў пазбіраць медзякі,
Так даўняе шчасце
шукае на сметніку, пэўна, клашар.
Так летнюю зліву шчаслівую
згадвае восеньскі дождж,
І золата ёлкі каляднае
мроіцца кожнай сасне...
Што? Кажаце — у вашым жыцці
не бывае такога? Ну што ж,
Напэўна я нумар паблытаў...
Даруйце, спадарыня, мне.

*2005*

***

А пасля, як хаўруснік таемнай бяды,
Выйдзе дворнік змятаць непатрэбную восень.
І як смутнае колішніх дзён адгалоссе
Шамацецьме лістота... І нашы сляды,
Нібы смецце, той дворнік змяце і падпаліць.
І на тым лістападаўскім горкім агні
Ператворацца ў дым нашы лепшыя дні
І ў нябыт адлятуць... А самотная памяць,
Як сабака пакінуты, будзе блукаць
І скуголіць у ноч, і кагосці шукаць...

*1998*

***

І на цёмнай стаўшы мяжы,
Сам сабе адкажы:

Як ты жыў, палоннік аблуд?
Хто ты ёсць, ці ведаеш сам?
Чым мяркуеш застацца тут?
Чым апраўдвацца будзеш там?

На мяжы святла і пакут
Перагледзь свае дні, гады:
Што на памяць пакінеш тут?
Што на згадку возьмеш туды?

Перагледзь назбіраны скарб
Па капейчыне, па грашу,
Перад смутнай дарогай каб
Як да свята прыбраць душу.

Каб нязведаную далячынь
Ёй не засціў ні тлум, ні хлуд...
Каб валізы не валакчы
Па дарозе на Страшны Суд.

*2011*



# Кацярына Глухоўская

празаік, паэтка. Навучэнка 11 класа Ліцэя БДУ. Друкавалася ў «Дзеяслове» і «Верасні». Нарадзілася ў 1995 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Страха ад страхаў

Вуліца, дзеці, «квач». Бесклапотная, віскатая і крыкатая гульня. А як даганяюць цябе і ўжо цягнецца рука даганятага, захінаешся так: «Я ў доміку!» — і спакойны: ніхто не кране.

***

Маруся жыве не адна, Маруся жыве не на водшыбе. Яна не герой працы і нават не гераіня, не партызаніць, не змагаецца з калектывізацыяй, за сялян не выступае, за паноў таксама, не закохвалася ні разу, не вучыла дзяцей, не сядзела ў астрозе, не гандлявала ў горадзе, не займалася творчасцю ў апале. Марусі чатыры гады і яна наогул не ведае, што такое стэрэатыпны герой беларускай прозы. Для Марусі ўсё вельмі проста.

Вось хата, на ёй страха, пад страхой жыве мама і мноства дзяцей. Хата называецца «дом». Шчэ хата мае тату: ён у ёй не жыве, але там заўсёды вісіць партрэт, зроблены маці па фатаздымку.

У Марусі сям'я — тры сястры, чатыры браты, маці і партрэт. Так і жывуць.

***

Пад страхой дома Марусі селяцца птушкі. Розныя: шпакі, вераб'і, ластаўкі. А яшчэ там, у зацемках, маці падвешвае боб і фасоль з калгаснага поля, зёлкі сабраныя.

Дзеці любяць лазіць туды, «на гару» — зрэшты, як і паўсюль яны любяць лазіць. Асабліва ж Маруська драбнюткая.

Скрозь рассохлыя дошкі прабіваецца сонейка, на гарышчы ўтульна, прыціхлыя вераб'і то піскнуць, то зварухнуцца, то шаснуць крыламі. А дзеці гутараць, мараць, смяюцца. Засынаюць ад смеха і голада.

***

Сніцца Марусі тата. Бацька, якога ніколі не бачыла. Кожны раз сніцца, што ён ратуе яе ад вады: то ў рацэ перад ёю будуе мост, рыхтык пад ногі падсоўвае кладку, а то ў разводдзе на голай спіне пераносіць на іншы бераг.

Маруся верыць у сны. І прачынаецца ў сполаху, да мамы бяжыць, бо страшна бачыць нябожчыка. І лезці на гарышча цяпер адна Маруська баіцца: раптам там тата сядзіць?

***

Ледзь прачнутыя, усё такія ж галодныя, ідуць збіраць перамёрзлую бульбу — маці добра гатуе з яе праснакі. Ведае, што, з чым і да чаго.

Раптам Маруська згадвае, што на гарышчы пакінула сваю хустачку, шэрую ў васількі. Нервуецца, пачынае тузаць братоў, каб збегалі.

— Потым возмеш! — акрыквае сястра, як старэйшая. — Нікуды яна не дзенецца. Паабедаем — забяром, — кажа ўжо мякчэй. Мар'я нібы супакойваецца, ды пазірае адно ўстрывожана і да бульбы ёй справы няма.

***

Па абедзе, паеўшы, як птушка — а колькі ёй, дробнай, трэба? — ды з сабой прыхапіўшы паўпрасначка, ірвецца сама пад страху. І боязна, а трэба і — што ўжо там! — цікава. А ці праўда стаіўся хто ў ценю?

Парыпваюць пад ступнямі дошкі, шасціць пясок, шамаціць трошкі сена — рукі дрыжаць, ногі ўжо падгінаюцца, але вось бачыць, як пад пяшчотнымі промнямі грэецца знаёмая хустачка — і непакой пакідае. Ну і прыйшоў бы тата. Ну і сядзеў бы тут! Яна б яго прасначком пачаставала...

***

Так Маруська амаль не баіцца больш прывідаў. Але навакол яшчэ шмат страшных рэчаў, і зданяў, і з'яў. І першы з іх — даўгашыі суседскі гусак, што з'яўляецца на падворку ўладны, непераможны, нібы мае права валадарыць.

Гусака Маруська баіцца дужа, таму заўсёды кліча братоў на дапамогу. Але калі Шурык яе моцны і пераканаўча з ворагам размаўляе, то кволага Віцьку самога яшчэ трэба ратаваць.

***

Калі ідзе цёплы дождж, поле за падворкам нібы раскрываецца. І тады дзеці выбягаюць басанож і скачуць па мяккай траве. З-пад пятак у іх разлятаюцца пырскі, запрэжаныя конікамі, нібы коньмі.

Маруська таксама скача і танчыць, і смяецца, задраўшы галаву. І здаецца, што ў кожнай кропельцы гэтак жа рагоча і скача маленькае дзяўчанятка, кроплевая мятлушка. Чаму б і не?

***

Як Маруська моліцца Богу — размова асобная. Ні свае, ні чужыя гэтага не бачаць, ды і «Ойча наш» яна на памяць пакуль не ведае. Але спытайцеся ў Яго самога, і даведаецеся, што лепш за Маруську Богу ніхто не моліцца!

***

Неўзабаве прыходзіць час, калі Маруська сама ўжо можа выйсці з трысціначкай супраць гусака. Але тут апынаецца, што і гэты магутны вораг не

самы страшны з усіх. Сустрэўшы ваўка ля ўзлеска ці вужа ў лузе, Маруська адзінае што хаваецца на гарышчы і, супакойваючыся, слухае ластаўчына цёхканне ды папіскванне, частыя, перасыпчатыя, як крупы, прымаўкі вераб'ёў. Камеча худзенькімі ручкамі пасмы саломы... Усе гэтыя моманты спавіваюцца сонцам, як ніткамі, між якіх танчыць лёгкі пылок. І Марусі думаецца тады, што гэты чароўны пыл нездарма залаты, не толькі ад сонца, і што не птушкі ўжо селяцца тут, а сапраўдныя феі, мятлушкі, нават анёлы. І што хутка-хутка яна навучыцца разумець іх і гутарыць з імі, як мама, калі тая сушыць тут свае зёлкі.

А залаты пылок асядае на рукі ды вусны. Ціха спяваюць анёлы.

***

Рыпяць пад нагамі прыступкі, караскаецца па іх ужо не дзяўчынка з тоненькімі ручкамі ды маленькімі жахамі, а каржакаватая, замазоленая бабуля — бабуля Мар'я. Ужо даўно няма ў яе нікога з той сям'і — ні братоў, ні сясцёр, ні мамы. І нават партрэт дзесь згубіўся. Але іншае ёсць ды іншыя...

Трэці раз вось за тры апошніх гады ўваскрашае бабуля мужа, цалуючы яго, нібы ў казцы, калі спыняецца хворае, прапаленае сэрца. Безліч разоў ратуе яна кожнага са сваіх дзяцей ды ўнукаў, сніць у прарочых снах. І не можа сысці, бо куды ж яны без яе рук, вуснаў, сноў?..

Застаецца ж і нешта нязменнае. Маруся ці Мар'я — адно баіцца ўсё змей, ваўкоў ды глыбокай вады. І гэтак жа спыняецца на гарышчы і ўслухваецца ў ветлівы гоман з ёй. Пасля кладзецца на сена, раскідаючы рукі з вялізнымі, спрацаванымі ў чырвань ды бель далонямі. Ціха смяецца ў адказ:

— Дзякуй, дзякуй! — а на скрукаваныя пальцы ды вусны кладзецца залаты, залацісты пылок.

Лепш за ўсіх Богу моліцца бабуля Мар'я, вышэй за ўсіх забіраецца — на падстрэшша, да самага неба, дзе страхаў няма.

***

Спіць у куточку, з кнігай у руках, бабчына ўнучаня. Такое ж малое, стомленае, змоленае скокамі ды смяшкамі...

***

Страха чубатая і дамашняя дужа: саламяныя пасмы вытыркваюцца з-над хаты — і смешна стаяць, паглядаючы на яе. Таму лезеш, па дошках караскаешся наверх. Страха не страшная — усміхаецца сціпла шчарбатым сонцам. А пад ёй, як і раней, жывуць вераб'і, ластаўкі ды дзіцячыя сны.



# Таццяна Дземідовіч

празаік, журналіст. Друкавалася ў часопісах «Першацвет», «Заходняя Дзвіна», «Маладосць», «Верасень», «Гаспадыня», «Вожык»; альманахах «Свая Стыхія», «Гоман», «Остров Андерс» (Галандыя), «Жырандоля», рэспубліканскіх і гарадскіх газетах, беларускіх, украінскіх і рускіх выданнях для дзяцей. Нарадзілася ў 1979 годзе ў Брэсце. Жыве ў Брэсце.

# На ўскраіне Сусвету...

## 1

— Ты ведаеш, мы жывем на ўскрайку сусвету! — аднойчы здзівіла мяне Юлька. — Хочаш, збегаем туды, ну, пакуль мамы не бачаць?

Юлька — ніжэй за мяне на галаву, але шустрая. Яна была падобна на маю любімую ляльку — поўненькая, непаслухмяныя каштанавыя валасы бязладна ўюцца, і вочы ў Юлькі былі маленькія, хітрыя, хуткія. Праўда, калі яна, бывала, задумаецца, марыць пачне, у яе зусім іншыя вочы былі — выразныя, колеру саспелай вішні. І гэтаму непадробна чыстаму, гарэзліваму бляску немагчыма было не верыць. У такія хвіліны я заўсёды ведала, што буду з ёй разам.

Узяўшыся за рукі, мы панесліся да аднаго з разбураных будынкаў крэпасці.

— Вось бачыш, калючы дрот? Туды далей нельга — адразу токам заб'е, — папярэдзіла мяне Юлька. — Там мяжа.

Я прыпынілася, выцягнула шыю. Але Юлька адразу мяне тузанула за рукаў:

— Пабеглі, бачыш, там вышка памежная? Зараз нас як засякуць!

Вядома, яшчэ да Юлькінага адкрыцця, я чула ад бацькоў, што мы жывем на мяжы, ды й шпацыравала па гэтай дарозе з імі не адзін раз. Тым больш, што агарод маёй бабулі знаходзіўся недалёк ад калючага дроту. Толькі памежнікаў на вышцы я ніколі чамусьці не бачыла ...

— Ты сур'ёзна? У дроце ёсць ток? — на бягу спалохана пыталася я.

— Ёсць ... І сабакі ў памежнікаў вельмі злыя — намёртва хапаюць! — працягвала палохаць мяне Юлька.

— А што там, за гэтым дротам? Ну, хто там жыве?

— Ворагі, — адказала Юлька.

— Ворагі? — перапытала я.

— Ну, так ... Такія жудасныя істоты, падобныя на зубатых кракадзілаў ...

— А як яны жывуць? — ледзь паспяваючы за Юлькой, цікавілася я. — У іх там такіх агародаў, як у маёй бабулі, няма?

— У іх усё па-іншаму — іншыя жывёлы, расліны, нават паветра іншае, — патлумачыла мне Юлька.

— А чым там пахне?

— Цяжка сказаць .. . Напэўна, рэчамі дарагімі ...

І я адразу зразумела Юльку, успамінаючы пах знойдзенага фанціка ад жуйкі «Дональд».

— Вось, мы і прыйшлі! — спыніўшыся ля разбуранага старога будынка, сказала Юлька. — За гэтай сцяной шырокая балконная пляцоўка, з якой бачны «ненашанскі» бераг. Калі мы туды пройдзем, то зможам шмат цікавага ўбачыць.

Схапіўшыся за вільготную і халодную чырвоную цэглу, што выступала наперад, я акуратна зазірнула за сцяну і хутка саскочыла. Рукі і сукенка адразу сталі рудымі ад цаглянай крошкі.

— Нічога сабе! — узрадавалася я, — такі раскошны тайнічок-балкон ... А так здалёку і не падумаеш, што там нешта ёсць ...

— Ну, што? Пойдзем, паглядзім на замежныя берагі? — прашаптала Юлька. — Ты не бойся! Я першая пайду! Тут тры крокі ўсяго ...

І Юлька стала караскацца па невялікім выступе стромай сцяны. Я паўзла за ёй — моцна хапалася за крохкую цэглу даўняй пабудовы. Ад напружання здавалася, што сэрца стала цяжкім і стукае балюча, і не ў грудзях, а паміж тонкай сукенкай і спатнелым целам ... Праз некалькі хвілін мы стаялі на паўразбураным балкончыку і глядзелі ўніз, на імклівасць каламутнай рэчкі ... Там, на дне, у глыбіні гэтай жудасці, быццам бы драмала старая ведзьма, а яе белыя доўгія пеністыя валасы перапляталіся, чапляліся за старыя паваленыя дрэвы і знікалі ў вірах. І толькі прывіды-цені з паваленымі гнілымі галінкамі несліся некуды ўдалячынь, па хуткай карычневай дарожцы ...

— Баюся! — закрычала я, — ніколі не бачыла такой раззлаванай рэчкі!

— А што ты думала? У гэтых месцах нават наша павольная рачулка становіцца суровай! Яна ж тут пакідае родныя месцы ... А там быць добранькім нельга ...

Я згодна заківала галавой. І тут Юлька як закрычыць:

— Кладзіся!

Мы прыгнуліся.

— Уцякаць трэба! Бачыш на чужым беразе чалавек у форме.

— Але мы ж нічога яшчэ толкам не ўбачылі!..

— Потым прыйдзем і надглядзімся. Папаўзлі назад!..

— Папаўзлі, — прашаптала я і прыціснулася ўсім целам да вострай ледзяной цагліны.

## 2

Мая мама любіла паўтараць, што я кулёма! І тое праўда: дваццаць гадоў дзеўцы — ні працы нармальнай, ні хлопца ... Ва ўніверсітэт — і то з другога разу паступіла ...

— Юлька, ну чаму ў цябе ў жыцці ўсё па-наліўному ідзе, а ў мяне суцэльная няўдача? — аднойчы не вытрымала я.

— Наташка, ты проста гультайка! — ні з таго ні з сяго гыркнула Юлька. — Сядзіш, чакаеш чагосьці! А я, між іншым, за вучобу сама плачу і машыну хутка буду купляць, а потым мы з Лешыкам кватэру будаваць плануем. А хочаш, разам у Польшчу матанем?

Я закруцілася на крэсле.

— Не дрэйфь! — пляснула мяне па плячах Юлька. У панядзелак, у чатыры раніцы сустракаемся ў мяне.

— Ты зусім здурнела? — раніцай абуралася я, калі ўбачыла сябе ў люстэрку. — Прыдумала — маскіроўка! А цяжка, яааааак!

За некалькі хвілін я пераўтварылася ў грузную стомленую цётку гадоў сарака. Літровыя бутэлькі з алкаголем цягнулі ўніз, а ад цыгарэтна-ўпаковачнай перабінтоўкі не было чым дыхаць. Бабулін плашч, дзядулевы важкія валёнкі і тугая хустка на галаве хавалі пад сабой маю маладосць і прыгажосць.

— Значыць, так ... Мытню пройдзем і адразу пераапранемся! Не ный ... Усё, бегам на вакзал! ... А то спознімся! Сёння змена Лешыка, так што з мытняй праблем не будзе ...

Юлька, як заўсёды, разбіла мае сумневы сваёй абыякавасцю ... І калі ў цягніку мяне, мокрую ад сораму, збянтэжанасці і задушлівасці, усё ж адпусціў падазрона-пагардлівы погляд польскага мытніка, я перш за ўсё паспрабавала адкрыць фортачку.

— Ды не рві ты ручку! Зараз распранемся, тады надыхаешся! Некалькі хвілін засталося.

Я паслухмяна кіўнула і сцягнула з галавы хустку:

— Гэта вар'яцтва ...

Пераапраналіся мы з Юлькой на вакзале ў прыбіральні.

— Ну, што? — зашпіліўшы апошнюю кнопачку на міні-спадніцы, радасна сказала яна. — Цяпер мы прыгажуні хоць куды. Да кліентаў са спатнелымі мордамі лепш не сунуцца, тым больш і па крамах пагуляць было б цікава, праўда, Наташка? Таму хапай сумкі і — наперад! У нас на ўсё пра ўсё дзве гадзіны!

Пакінуўшы перон, я адразу бухнула цяжкія сумкі на зямлю і выцягнула рукі:

— Добра як!!!

— Наташка, як табе першы раз за мяжой? Выдатна?! Іншае паветра тут, а? Свабодай пахне! Вось бы, Наташка, нам з табой паехаць ды й паехаць ... Да самага Парыжу, або не ... далей ... да Партугаліі! І з усяго размаху там ды ў акіян — боўць!!!

— Ой, як хочацца ... — летуценна праспявала я.

— Добра, не расслабляцца! Ідзі за мной, нічога не пытай. Калі скажу чакай — стой, маўчы і чакай.

Так мы і праматаліся. Юлька усё кудысьці ляціць, потым кідае мяне з клункамі, падсаджваецца да некага ў машыну, потым незадаволена пляскае дзвярыма, кідае незадаволенае «давідзэння» і далей бяжыць.

— Вось гады! — у рэшце рэшт, выялася яна. — На цягнік ужо хутка трэба бегчы, а тавар па нармальнай цане не збагрылі ... Прыйдзецца ехаць да Бялай Падляскі, там больш грошай заробім.

— А на чым мы паедзем, на аўтобусе? — пацікавілася я.

— Ага, на тралейбусе! .. — адсекла Юлька. — Спадарожку прыйдзецца лавіць і вернемся дадому толькі да вечара.

— Не хачу я так, — заныла я. — Дадому ўжо хачу! Надакучыла!

— Мабыць і так... на першы раз з цябе, Наташка, і гэтага хопіць! — злітавалася нада мной Юлька. — Давай тут пазбавімся ад твайго тавару, я цябе пасаджу на цягнік, а сама далей ірвану ...

— Ні за што! — спалохалася я. — Давай разам вернемся...

Але Юлька была няўмольнай.

Я так і не ўзгадаю яе апошніх слоў ... Яна насілася ад машыны да машыны, як згаладалая спрытнюга-кошка — хуткая, чэпкая, адважная. А я баластам сядзела на нашых рэчах. Потым я таксама слепа і аморфна з натоўпам улілася ў гарлавіну душнага вагона і нават не паспела зірнуць, як яна апошні раз сыходзіць ...

... Юлька не прыехала ні заўтра, ні паслязаўтра, ні праз тыдзень! Яе змучанае цела знайшлі ў адным з лясных масіваў толькі ў першыя дні вясны. Побач стаялі некранутымі яе рэчы ...

Я цяпер без страху заскокваю на наш балкончык-тайнічок! Ён здаецца мне рудым малюсенькім астраўком у закінутым свеце дзіцячых патухлых жаданняў. Вось і на параненых часам цаглінах хтосьці напісаў, накшталт «Тут быў Вася» ... І мне таксама хочацца напісаць, што тут была Юля і пусціць у памяць аб ёй па вадзе папяровы караблік! Толькі шкада, ён нікуды не даплыве, бо патоне ў вірах... Старая ведзьма з заблытанымі белымі валасамі хіба дазволіць беламу, лёгкаму папяроваму матыльку выбрацца з сваіх уладанняў?! Ды і плыць-та няма куды, калі знаходзішся на ўскраіне ... на ўскраіне свайго маленькага Сусвету!



# Мікола Касцюкевіч

паэт, празаік. Аўтар кніг паэзіі: «Вяртанне», «Настальгія», «Германія». Нарадзіўся ў 1967 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Геній — Божы хам?..

***

Калі разважыць, дык усякі крытычны або скептычны камень, шпурнуты ў больш-менш заўважную асобу, кідаецца ці з добра прыхаванай зайздрасцю, ці з адчуваннем собскае непаўнавартасці. Ведама, такое яшчэ робіць сябра, каб засцерагчы ад мажлівых заганаў і абмылаў (а чым мэтлівейшы чалавек, тым болей хібаў). Але на тое ён і сябра, каб шчыраваць — хай жорстка, хай бязлітасна, абы не прылюдна. Як лекар. Інакш і гэта — той самы камень.

***

Самае небяспечнае — адкрытае стаўленне да ўсіх рэчаў. Яно вымагае найбольшых маральных высілкаў і найрызыкоўнейшае для стабільнасці.

***

Зразумела, што збавенне не ў самых абрадах, а ў Божай ласцы, якую можна атрымаць праз вернасць выканання. Іначай што?.. Адкрыеш рот, і ежа — скок сама?..

***

Мазахізм — гэта шуканне фізічнага болю, каб ухіліцца ад каяння і ад болю маральнага.

***

Толькі ўлада над сабой дае ўладу над іншымі. Абсалютная — абсалютную. Пахвалёны Езус Хрыстус на векі вечныя! Амін!

***

Таямніца жыцця, само жыццё ў яго метафізічнай існасці такое палахліва-велічнае, невымернае, што перад гэтай мёртвай невыказнасцю застаецца знерухомець, знямець у ніцым захапленні і... жыць. Проста жыць. І гэтае жыццё, калі яно сэнсоўнае, цэльнае ў сваёй немудрагелістай, наіўнай прастаце ды наблізанасці да глыбіннай існасці быцця, пачынае вібраваць і поўніцца з сярэдзіны, знутры сябе самога. І яно ж, гэтае самае жыццё, становіцца нудотным, яго энергія ператвараецца ў банальны сум, калі толькі выцякае не ад сябе самога, а з намагання «зрабіць што-колечы». «Пацешыцца» і «задаволіць», структураваць свой вонкавы час — тэатры, раўты і г. д. Імкнуцца, мітусіцца, бегчы — усё далей і далей. Ад сябе. З ранку прымач на мазгі — і панеслася...

***

Геніяльнае ў сваёй напоўненасці, змястоўнасці, павінна быць максімальна простым звонку, з формы. Складана (і прыгожа) — пра звычайнае, проста (і зноў прыгожа) — пра складанае.

***

Бо ўсе праявы існага маюць падвойную прыроду (плюс-мінус, дабро-зло і г. д.), дык перш чым завалодаць добрым бокам, трэба мець сілы вытрываць альбо знейтралізаваць дрэнны бок — вынесці столькі славы, колькі й забыцця; столькі грошай, колькі й нястачы і г. д.

«Звязаць горшы аспект сілы, перш чым заняць лепшы...»

***

Злучэнне (замірэнне) супраціўнасцяў мажлівае ці праз поўнае спыненне (смерць), ці праз выхад на больш высокі ровень (хуткасці), калі патэнцыйныя супары зліваюцца ў адно відомае цэлае, а пры максімальнай хуткасці (адыход у Боскае) наагул выпадаюць з поля зроку будзённай (абывацельскай) увагі.

Калі не паскараць, не падтрымоўваць — маятнік стухае.

***

Панятак Бог тоесны з паняткам любасці. «Бог — гэта любасць.» Словы! А ўжо любасць гэтак проста падмяніць... Чым захочаш! Скажам, добрым стаўленнем...

Таму й апрабоўваецца твая шчырасць праз таго, хто стварыў, даў жыццё, ад каго залежыць кон і да т. п.

Дык баяцца можна толькі Бога, а не проста сваёй грэшнасці, правіны. Бо любасць, якой бы незаконнай яна ні падавалася, сама ў сабе не можа быць віной.

Патугі на бездакорнасць — парушэнне першай запаведзі.

***

Закон аддавання (укладання сілы), бадай што ўніверсальны, дзеіць паўсюль і ўва ўсім: чым больш аддаў, тым больш вяртаецца. Таму пісанне як выкладванне і прыносіць асалоду. А бывае — самааддача выраджаецца ў эстрадны вампірызм.

І тут найважней сапраўдны матыў, намер (праверка на педыкулёз) — а дзеля чаго ты стараешся? Гэта і ёсць «я здолеў усяго дасягнуць, бо навучыўся ад усяго адмаўляцца...»

***

— Але ж гэтага не можа быць...

— Ты проста не ўяўляеш, што можа. Калі не разумееш (няздольны нават уявіць), дык і не дазваляеш такога. А калі не дазваляеш, дык, адпаведна, і «быць не можа».

«Можа» — калі дасягаеш верай, а калі дасягаеш разуменнем — гэта ўжо пагадненне.

***

Цікавае прымеркаванне: Белая жанчына і Чорная.

І там, і тут лёгка абмыліцца, дзе вонкавая адданасць і дзе сапраўднае, глыбіннае разуменне (гатовасць пайсці да канца, адчуванне маштабаў, амаль недасяжнае мэты)?

Адна не ведае, ці давярацца вонкавай форме, другая гатовая ўзняцца (ці апусціцца?) аж да вонкавай формы. Але і там, і тут няма самога каханага. Калі маеш намер любіць — трэба любіць больш за сябе, тады можна быць побач: не абмяжоўваючы мужчыну, ісці праз мужчыну да Бога. А тут — кожная любіць мужчыну для сябе, а не як прыступку на дарозе да Бога...

Таму, каб не мудраваць, застаецца толькі арыентавацца, як у цемры: «маё» — «не маё».

***

Да пэўнай мяжы твае сябры альбо тыя, «з кім ты зараз» — паказнікі твайго роўню, пасля — сапраўднасці і вартасці. Скажам, ці бывае табе няёмка за іх альбо таму, што ты з імі... Але гэта толькі да пэўнай мяжы, за якой ужо нішто вонкавае не можа ўплываць на тваю вартасць.

***

Не маё, і зноў не маё... А ўсё мая слабасць, мяккацеласць і лянота... Нават зараз лянуюся пісаць. Ці ўсё ж гэта асаблівасць для эфектыўнага ўсведамлення?.. Сіла ў слабасці...

***

«Жыццё-ланцуг, а дробязі ў ім звёны...»

«Не буду я паіць цябе кавай...»

Выходзіць, зрабіць што-колечы: даць выпіць кавы ці выпіць разам за мой або за твой кошт — гэта «паіць». Я, значыць, таксама «паю». А каб адштурхоўвала на роўні правінцыйных фармулёвачак накшталт: «у каго выцыганіў...», не трэ было б і гарэлачкаю ратавацца.

***

Без канфлікту няма развіцця. Найвялікшы — тонкі — канфлікт — небыццё самога канфлікту.

***

Калі бяруць шлюб, зважаючы толькі на цела — яўна бяруць ката ў мяху, а калі — зважаючы на душу, дык і цела возьме сваё.

***

Тым, каму «мала» дадзена, каб дасягнуць поспехаў, трэба быць вельмі, «па-бізнэсоўску», ашчаднымі ды абачлівымі.

***

Думаецца, Савецкі Саюз, у чыстаце сваёй ідэі быў цікавы як найбольш выразная, ідэалёва задуманая адна з рэалізаваных утопіяў «у свеце гэтым».

***

1. ...а сустракацца нам не варта, бо табе «патрэбна» жыццё, а мне яно «не патрэбна». У жыцці мяне цікавіць толькі тое, што апраўдвае яго перад нежыццём. Дакладней, перад Тым, хто даў мне яго, нават не пытаючыся, хачу я — не хачу... Але калі Ён — гэта і я...

2. Адзінае, чаго я па-сапраўднаму з табой баяўся б — не паспець, калі табе спатрэбіцца мая дапамога... але ж усё ў Божых руках...

***

Пэўна што, па-чалавечаму гэта несумленна — саромецца свае непрыгожае спадарожніцы, але ж якраз чалавечае для мяне й нецікава. Прынамсі, што да сябе самога.

...Ці чалавек павінен быць такім дарагім, што напляваць на ўсё.

***

Простая адэкватнасць абставінам у гармоніі гэтага свету, думаецца, — ужо ўгоднасць Богу.

***

Без выпіўкі не абысціся, калі жанчына няшчырая, а мужчына слабы і залежны.

***

Тады былі «няўдалыя вынікі ўдалага спарынгу», затое цяпер, балазе, — «удалыя вынікі няўдалага бою».

***

Сапраўдны творчы полавы ўздым, Кундаліні — даецца Звыш, і поступ наперад (аб'явенне) дасягаецца праз усё большы давер (веру) і адмаўленне ад свайго «Я».

Свабода волі — у абразанні жарсцяў.

***

Надпрыродныя схільнасці абуджаюцца напярэдадні ініцыяцыі тады, калі Звыш даецца гатоўнасць да пасвячэння.

Гатоўнасць да ініцыяцыі — гэта следаванне Божай задуме пра сябе.

І чым бліжэй ты да мэты, тым большая спакуса спыніцца на земным. У выглядзе нейкага «супер»: жанчыны, твора, вялікага кахання...

Але даецца любасць як рухавік прагрэсу, і тады ініцыяцыя адбываецца неўпрыкмет.

Таму важна не проста наша ўстрыманне ад спакусаў, а ўсвядомленае прымерkаванне каштоўнасцяў, веданне, ад чаго і дзеля чаго адмаўляешся, навошта ахвяруеш...

***

Метафізіка. Мы, беларусы, ужо досыць былі і рахманымі, і памяркоўнымі, і нават «здраднікамі». А ВКЛ — сама Беларушчына — без юрысдыкцыі. Цяперашняя юрыдычная Беларусь (як часавая спадкаемца ВКЛ) — без існаснасці Беларушчыны. Дык і выходзіла ўвесь час адно без другога, а цэласна паўнавартай Беларушчыны — і вонкава, і духоўна, — яшчэ і не было, метафізічныя канцы з канцамі не зводзіліся.

ВКЛ — не зусім хрысціянская дзяржава, і цяперашняя РБ таксама не цалкам хрысціянская.

***

Цябе ламалі па-вялікаму, а нас ламаюць па-сапраўднаму.

***

Яна была жанчына. Ад Бога яна заўжды была другой, пасля мужчыны. Дасканалы экзэмпляр — пасля першага «бліна сабаку», палепшаны ў сваіх мажлівасцях. Але ж быць другой — тое самае, што і без... бо праз... Заўсёды, спрадвеку і цяпер — была. І мусіла яшчэ крыху пабыць. Але без Бога. Таму яна і была жанчынаю. Сапраўднай, адзінотнай. Была, як толькі можна быць без Бога.

Ну, а мужчына што? Куды далей ад Бога за сябе самога бегчы? Хіба што толькі да яе — да адзінотнае жанчыны.

Яна — прырода, свет. Яна глыбінна адчувае, чаму адна.

А ён? Паміж Жанчынаю і Богам...

***

Калі тое, што «падабаецца», хочаш прымерkаваць да «сапраўднасці» — уяві адрасатам... Бога, і тады многае стане на свае месцы. Так можна і магіі музыкі, гэтаму «найвыкшталцонейшаму юру душы...», даць рады. Тады і з рокам, і з іншай «нечыстатой» шмат што праясняецца — як можна слухаць і ў адзін час маліцца. Пад рок ці тую ж песню бардаў? Бо няма, як ведама, страшней ілжы за найпадобнейшую да праўды...

***

Мужчыны сэксу баяцца. Таму абагаўляюць жанчыну, заваёўваюць. А для жанчыны блізкасць больш сакральная, але й прасцейшая. Таму яны асобу цэняць, а не сэкс. Але за добры сэкс даруюць, што хочаш.

***

Найвышэйшы сэнс светабудовы — не нашая, не нашага кволага чалавечага розуму, прэрэгатыва. А нам застаецца толькі ўсведамленне сябе і заўсёдны ўласны выбар, пазіцыяванне сябе — у тым ліку і ў светабудове...

***

Калі нешта былое з нас, з нашага жыцця адышло і ўжо «не тузае», трэба адмаўляцца, не трымаць. Раз усё ў універсуме адзіна цэльнае і ўсё аднолькава існуе-трывае адначасна, паўсюль і заўсёды — дык і страху «згубленасці» не павінна быць. А жаданне «ўтрымаць» бліжнага ў страху гэтай «згубленасці» — толькі ад эгаізму, ад няверы ў Бога Створцу нашага...

(Дарэчы, ці не ідэальная фармулёўка: эгаіст — гэта чалавек, які пра сябе думае больш, чым пра мяне...)

***

З грунту, у глабальных лёсавых маштабах усё выракуецца звыш, а не намогамі асобных індывідуумаў — ці гэта кон асобнага чалавека, ці часопіса, ці цэлага гаспадарства. Людзі ўсяго толькі праходзяць рэгулярную праверку «на педыкулёз» і, у залежнасці ад сукупнасці слушных этычных напрацовак ці — адпаведна — парушэнняў, атрымваюць, «за што барoліся»...

***

Тое, дзеля чаго спыніўся — знікла. Спыніўся, засяроджаны на зніклым — убачыў аналаг сябе, якім мог бы стаць, фіксуючы сябе на знікомым.

Захацеў тут і зараз жа спыніцца і сканцэнтраваць увагу на вечным — з'явілася машына міліцыі...

***

Карыфей з трывогай і спадзяваннем чакае таго, хто мог бы перасягнуць яго на ягонай жа, карыфеевай, дзялянцы, і калі спадзяванні спраўджваюцца, ён з радасцю дапамагае (зазвычай толькі на пачатку) ды пачціва схіляе галаў; альбо ж... пагардліва адварочваецца, шкадуючы страчанага часу і намогаў (кінуў перлы...). Усё залежыць ад ягонага маштабу чалавекалюбства ці ад ягонай жа адказнасці перад Богам. Ён кіруецца, хай і нясведама, адказнасцю перад сабой, а значыць — і перад Богам праз сябе...

***

Калі пры «крызісе» ў адпачаткавых экстравертаў выточная «Цы» перамыкае праграму гадоў на адваротную, трансфармуючы іх у інтравертаў,

дык у інтравертаў — усё наадварот. Адсюль — замкнёныя ціхоні, што «выбухваюць» пасля сарака, і актывістыя, што паспяхова знікаюць у тыя самыя гады.

***

...адчуваю, што, быўшы некалі злым (д'яблам?), паступова, з нутра, трансфармуюся (дай, Божа, на гэта сілаў...) у нейкую адваротнасць, у свайго антыпода...

***

...судакрануцца, Божай ласкай, да сфераў, з якіх, відаць, і выцякае магчымасць ці не ўсякае творчасці...

***

У гісторыі заўсёды ёсць недасканаласць, інакш «гістарычнае» не памірала б, не станавілася мінулым.

***

Сучасныя музычныя рытмы (бліжэй да канца свету?) у сваёй дысгармоніі такія недарэчныя, што падобныя да бяздумнага ляпання рукой у часе малітвы.

***

Адштурхоўвае, калі малпа прыкрываецца паэтам. Але ўсё наадварот, калі паэт прыкрываецца малпай. Тут магія культурызму палягае ў тым, што жывёльная, малпаватая магутнасць, абкультураная чалавекам, робіцца адной з праяў духу. Адсюль і розніца з г. зв. нармальным спортам, дзе маюць значанне прыродныя задаткі (выточная «малпавасць»). Застаецца толькі сваю творчасць і культуру (ці першае праз другое) перад Богам узгадніць з уласным «я» — узгадніць, дарэчы, у фізічнай матэрыі, у гэтым жыцці...

***

Быць літаратарам-выгнанцам, па-за літаратурным працэсам, быць самахоць — гэта, пры абсалютнай шчырасці — адмова ад самападману, гэта апасродкаванае падпарадкаванне волі Звыш. А значыць, усё ідзе як мае быць, наша звычайнае чалавечае шкадаванне, што «жыццё мінае» — элементарны страх вышыні, які, пры здаровай псіхіцы, патрэбны — для ўзросту ўгору і нават... для асалоды.

***

Калі ёсць любасць, тады можна і не піць. Ды лепш піць і сканаць з любасцю, захаванай-такі, уратаванай у душы, чым жыць цвярозым, без любасці, з дарэшты сапсаванай душою...

У межах нормы — г. зн. пад Богам — можна нават «багабораваць» — даруй нам грэшным...

І мо дзеля найвышэйшай любасці — трэ адмовіцца ад просьбаў да Яго і толькі чыніць на Імя Ягонае.

Мае малітвы — мой эгаізм. Наколькі думаю, наколькі помню пра сябе (прынамсі, у малітве — гэта ж я малюся!!!) натолькі я «лядачы інструмант», нядбайны слуга. Перакладанне адказнасці, боязь за сябе (самога сябе?) — самападман, уяўная вера, уяўная любасць да Бога...

***

Не трэба рабіць выгляду, што любіш свет, трэба проста любіць яго. Інакш — гэта самападман. Скурны інтэрас. Альбо... вучнёўскі перыяд, простая шчырасць... І тады ўжо — не самападман.

***

Неістотна, ці бамжы на сметніку выходзяць на дуэль, ці спартоўцы на рынгу счапіліся ў двубоі. Бойка ёсць бойка. Гэтаксама неістотна, ці ты падслухоўваеш «по делу», ці з пустой цікавосці — ты проста падслухоўваеш.

***

Сапраўды геніяльнае акторства заўсёды надужыццё, гульня на даверы. За кошт найвышэйшага...

***

Геній — Божы хам?

***

Вершам асобных аўтараў, пры ўсёй іх інтэлектуальна-тэхнічнай дасканаласці, не стае звычайнай эратычнай напругі. Яны калі не фрыгідныя, дык проста «слабапатэнцыйныя». Гэткае «нармальнае» полавае жыццё «дабратлівага» жанатага чалавека.

У гэтым плане культурная і жыццёвая эрудыцыя якога літаратурнага пашляка — падкрэслена, наскрозь эратычная. Зрэшты, бывае, што і там — усяго толькі звычайны «голы сэкс», шматлікія «перапіхі», якім ніколі не ўзняцца да шчырага, праўдзівага «лахтум-цахтум»...

***

Інвалід, як і асілак — абодва моцныя, бо маюць мужнасць (з розных бакоў), каб жыць: з нястачай сілы і з лішкам сілы, з пераадоленнем і з самастрыманнем, з непаўнавартасцю і з майстэрствам. А паміж — банальны «нармалізм»...

***

...гэта не значыць, што ў любасці павінны быць звады, але любасць — павінна быць нават у звадах...

***

Пашыраная звычка: мадэляваць прастору на сябе, а сябе змяшчаць акурат у цэнтр.

***

Нават калі няма таго, у што я веру, на што арыентуюся і чым жыву, яно мусіць быць, інакш — жыццё не мае сэнсу. Але яно, жыццё, такое цудоўнае і дасканала-мудра арганізаванае, што проста не можа заставацца без сэнсу, а значыць — я проста не ведаю, не дадзена мне пазнаць таго сэнсу. І раз так, то я буду сам, сваёй верай ствараць той сэнс. А ўжо як гэты мой сэнс супадзе з сапраўдным — залежыць ад Створцы...

***

Меркавацца, гутарыць — як здымаць стружку ў сталярцы: ашчадна, з любасцю пазбывацца лішняга, непатрэбнага...

***

Памкненне да цела — цудоўна, прыгожа, але часцей — разова, інакш можа быць атручанне. Арыентацыя на нутраны духовы свет дае амаль што неабмыльнае пападанне ў цэль і ў плане фізічным. І калі хочаш проста пакахацца з якой прыгожаю жанчынай — успомні пра няўхільнасць насычэння: «...а некага ад яе вонкавасці ўжо верне...». Раз падобныя развагі не палохаюць — наперад. Бог літасцівы, і чалавек вольны ў выбары. Прынамсі, заўсёды можна разысціся. І ніколі не позна павесіцца...

***

Тыя, што хочуць жыць без нашых клопатаў, пасылаюць нас. Што ж... Так у іх з'яўляецца хоць нейкая ілюзія свабоды... (Вось афарызм падобны да Бярдзяева: раней не дазваляўся, а пасля ўмомант састарэў).

***

Анатоль Сыс — спроба максімальнага жыццёвага набліжэння сапраўднага да роўню Беларускасці.



# Анатоль Бароўскі

празаік, паэт, публіцыст, мастак. Аўтар кніг: «Каліна пад акном», «Надзейная змена», « Мікалай Пушкар» і інш. Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Крушнікі на Мазыршчыне. Жыве ў Гомелі.

# Начное падарожжа

Занядужаў Мікітка, захварэў. Мо і не захварэў, але і бадзёрым сябе не адчуваў.

Маці паклікала доктара, і Айбаліт, гледзячы на яго праніклівым позіркам, прамовіў:

— Няхай хлопчык дома пабудзе, у школу яму нельга ісці.

Мікітка вучыцца ў трэцім класе, добра вучыцца, любіць маляваць, вершыкі на памяць расказваць.

Сумна яму аднаму дома. Вось каб у яго быў брацік ці сястрычка, то тады яму было б з кім словам перакінуцца, а так... Колькі разоў гаварыў тату і матулі, каб купілі яму брацíка, дык яны кожны раз знаходзілі прычыну, каб не задаволіць яго просьбу: «Вось назбіраем грошай, тады і будзе у цябе і брацік, і сястрычка...»

А колькі ж тады трэба грошай ім, каб хапіла? Вунь адну машыну купілі, другую, катэдж пабудавалі, — дык хіба б не хапіла тых грошай на брацíка?

Не разумеў іх сын, ніяк не разумеў...

У той вечар да яго прыйшла матуля, прачытала казку пра начныя зоркі, пра месячык, пацалавала ў лоб, сказала «дабранач» — і пакінула яго аднаго.

А яму спаць не хацелася — спаў днём. У акно зазірнула цікаўная поўня, падалося хлопчыку, што месячык заўсміхаўся яму, міргануў нават правым вокам.

Мікітка устаў з ложка, падышоў да падваконніка, сеў на табурэтку і, падпершы падбароддзе рукамі, пачаў неадрыўна глядзець на жоўты сланечнік месячыка. Потым вочы пачалі міжволі прымружвацца, па целе разлілося млявае цяпло, загайдалася наваколле...

— Бачу, сумна табе, Мікітка, — прамовіў месячык, ужо спусціўшыся з неба. Сеў на падваконнік побач з Мікіткам.

— Сумна. Аднаму сумна.

— Разумею цябе. І я адзін, як ты. Сонца не бачу, яно з другога боку зямнога шара. Адно што зоркі гуляюць са мной у хованкі, а так больш ніякай забавы няма.

— І табе, бачу, сумна?

— Ды не заўсёды, Мікітка! Такое рэдка бывае. А я ўбачыў, што ты адзін сядзіш, дык рашыў цябе трошкі павесяліць.

— Павесяліць? А як?

— Як? — перапытаў Месячык. — А давай з табой пагуляем па начным Гомелі, га? Я кожную ноч па вуліцы гуляю...

— Мяне маці не пусціць, — уздыхнуў хлапчук. — А раптам яна зойдзе ў мой пакой, а мяне няма? Яна ж хвалявацца будзе...

— Твае тата і маці моцна спяць. А мы доўга і не будзем гуляць, з гадзінку, не болей.

Мікітка і не заўважыў, як яны апынуліся на Ірынінскай вуліцы. На лаўцы сядзела незнаёмая жанчына і нешта вязала спіцамі.

— Хто гэта? — паўшэптам спытаў хлопчык у Месячыка, які крочыў побач, трымаючы яго за руку.

— Князёўна Ірына Паскевіч, — гэтак жа ціха адказаў субяседнік. — А другое жыццё ёй даў наш гомельскі скульптар Зміцер Папоў.

Падышлі бліжэй.

— Вітаем вас, шаноўная спадарыня! — павітаўся Месячык, схіліўшыся ў паклоне. — Мы вось з Мікітам гуляем, да вас прыйшлі ў госці. І вас запрашаем пагуляць па горадзе. Вы не супраць?

Ірына, паклаўшы клубок з ніткамі на лаўку, няспешна ўстала.

— А куды мы пойдзем? — пацікавілася князёўна.

— У бок вашага слыннага парка, які так любяць гараджане. Добрую вы памяць пакінулі пасля сябе...

Насупраць рыбнай крамы, адклаўшы ўбок венік на доўгай палцы, чапурылася перад люстэркам дворнічыха Гамяліна. Узірнецца, кудзеркі паправіць, колькі разоў махне венікам, зноў у люстэрка ўглядаецца, — француха, няйначай.

— Вітаем цябе, Гамялінка! — прывіталася князёўна Ірына. — Добра ты падмятаеш вуліцы і двары нашага горада, малайчына! Чысценька ўсюды.

— А як жа пані-спадарыня! — усміхаецца дворнічыха. — Да раніцы мне трэба паспець прывесці ўсё ў парадак, каб людзі, ідучы на працу, убачылі чыстыя і падмеценыя вуліцы...

— Пайшлі з намі — трошкі прагуляемся? — прапанавала Ірына. — Адпачні.

— А як жа мая праца? — здзівілася Гамяліна. — Я ж як на ваенным пасту тут знаходжуся. Прагул запішуць...

— Не хвалюйся, родненькая, начныя гадзіны вельмі ж доўгія, ніхто і не заўважыць тваёй адлучкі...

Мікітка здзіўлены, нічога не разумее. Днём хадзіў па вуліцы, дык бачыў толькі скульптуры, вырабленыя таленавітым мастаком, але яны не рухаліся. Дык, значыць, яны ажываюць ноччу і жывуць сваім жыццём? Цікава... Во як добра, што Месячык паклікаў яго ў такое цікавае падарожжа. Сябрам у класе расказаць — не паверыць...

Каля тэатра завіталі да Кірылы Тураўскага — Залатавуста зямлі Палясуцкай, нізка пакланіліся патрыярху, папрасілі дазволу звярнуцца да яго.

— Вазьміце і мяне ў вашу вандроўку! — апярэдзіў іх святы Кірыла, ведаючы, з чым яны звернуцца да яго. — Мне тут добра стаяць — непадалёку сабор святых Пятра і Паўла, мяне радуе мелодыя званоў, рады, што шмат людзей прыходзяць памаліцца ў храм...

Князёўна Ірына наклала на сябе крыж, схілілася ў паклоне:

— Ведаем, што мацнее наша радзіма малітвамі вашымі і святой патронкі і асветніцы Беларусі найпадобнейшай Еўфрасінні-Прадславы, князёўны Полацкай, ігуменні манастыра святога Спаса. Уратуй, Госпадзе!

Пахадзілі па парку, пастаялі на ўзвышку. На вежу нават узабраліся, агледзелі наваколле — далёкія высотныя дамы, тэлевежу, якая свяцілася, як навагодняя елка. Зверху горад прыгожы, асветлены агнямі, яны, як светлячкі ў лесе, пераміргваліся зялёнымі і чырвонымі агеньчыкамі...

— А хто гэта ўнізе, на беразе Сажа? — спытаў Кірыла Тураўскі. — З майго месца мне яго не відаць.

— То, святы айцец Кірыла, першы пасяленец гомельскі, — прамовіла Гамяліна, — давайце спусцімся да яго!

Першы Пасяленец гроб і гроб вяслом, не звяртаючы на гасцей увагі. Шэрыя хвалі біліся аб борт яго чоўна, шэрая рысь глядзела наперад, быццам лоцман паказвала дарогу. Яны былі, здаецца, не ў гэтым часе, яны былі ці то ў далёкім будучым, ці ў сівым мінулым...

— Стаміўся я, Рысь, — уздыхнуў Пасяленец і сеў на карму, — што ў нас наперадзе?

— Госці да нас ідуць, мой гаспадар!

— Госці? Гасцям мы заўсёды рады. Запрашай іх да нас! Хай сядаюць у човен, я іх пакатаю па Сажы...

— Дзякуй за запрашэнне, Пасяленец! — прамовіў Кірыла Тураўскі. — Хай табе заўсёды памагае Бог у тваім падарожжы!

— І вам усім доўгіх год жыцця! Рассаджвайцеся зручней, будзьце, як дома. Завуць мяне Гомій. Гэта ад майго імя будзе названа паселішча, якое тут пазней узнікне. А прыплыў я па Сажы з далёкіх краёў. Мне тут дужа спадабалася, і я рашыў тут кінуць якар.

Мікіта хацеў пагладзіць рысь, але не рашыўся. Тады звер сам падышоў да хлопчыка і пачаў лашчыцца. І тады ўжо ён дакрануўся да цёплай поўсці, і здзівіўся, які даверлівы і пяшчотны звер гэтая рысь.

Час праляцеў хутка. Гомій гнаў і гнаў лодку наперад, з Сажа паплылі па вадзе Дняпра, і як толькі паказаўся старажытны Кіеў, ён развярнуў лодку і пагнаў яе зноў назад... Але назад плылі як быццам пад зямлёй.

— Не хвалюйцеся, — растлумачыў тут жа кармчы, — цяпер мы плывем па Нірэі, старажытнай рацэ, а яна працякае пад зямлёй... Тут шмат крыніц, якія сілкуюць гэтую раку...

І нечакана апынуліся зноў на беразе Сажа, у тым жа месцы, адкуль і адправіліся ў бок старажытнага Кіева. Гомій, пакінуўшы ў лодцы вясло, далучыўся да іх кампаніі, і ўсе разам прадоўжылі начное падарожжа. Рысь нячутна крочыла паперадзе падарожнікаў, з цікавасцю разглядаючы навакolle.

А потым усе разам накіраваліся да цырку. Пабачыўшы іх яшчэ здалёк, забрахаў цюцька. Па прыступках туд-сюд хадзіў чалавек у капелюшы з кароценькімі брылямі, абапіраўся на кавеньку, углядаўся пад ногі, пра нешта думаючы.

— Дык гэта ж клоун! — адразу пазнаў яго Мікітка. — Я фатаграфаваўся нядаўна з ім, калі прыходзіў з татам у цырк.

— Правільна, Мікіта, гэта слынны Аловак, расейскі Карандаш. Ён смяшыў разам са сваім цюцькам мільёны людзей.

— Дзялуля Аловак, вам наша начное вітанне! — падышоў да яго Мікіта. — Пра што вы так задумаліся, што на нас не звяртаеце ўвагі?

— Як не звяртаю? А мой цюцька хіба вас не заўважыў? А я абдумваю новы нумар праграмы, якая адбудзецца пад Новы год у гэтым цырку. Запрашаю вас усіх, шаноўныя, на Навагодні баль.

— Ён будзе ноччу?

— Так. Як скончыцца вячэрняе прадстаўленне, як пагаснуць агні рампы, мы будзем радаваць начных гледачоў сваім мастацтвам.

— Абавязкова прыйдзем!

— Можна і мне з вамі пагуляць па горадзе? — раптам спытаўся ў іх клоўн. — І мой Гаў-Гаў хоча прагуляцца...

— Можна! Можна! — узрадаваўся месячык. — Нам весялей будзе!

І вясёлая кампанія рушыла далей. Паперадзе бег Гаў-Гаў — то рухаўся на задніх нагах, то на пярэдніх, куляўся, а то падскокваў нібы мячык.

Не заўважылі, як прыйшлі на чыгуначны вакзал. А там процьма народу — хто прыязджае, а хто ад'язджае. Добра, што іх ніхто не бачыў, а мо і бачылі, ды ў гэтай мітусні і спешцы не было людзям калі зірнуць на незвычайных падарожнікаў.

Адзін толькі пасажыр звярнуў на іх увагу: ён сядзеў на лаўцы побач з вялізным чамаданам. Ён іх адразу ўбачыў, ветла заўсміхаўся, прывітаўся нават першы, ускліснуў:

— От добра, што вы прыйшлі праведаць мяне, а то сяджу сіднем тут, і ніхто не загаворыць са мной. Днём, праўда, падсаджваюцца да мяне дзеці, фатаграфуюцца, нешта мне гавораць. Але я іх не чую...

— А чаго ты тут сіднем сядзіш — спазніўся на цягнік?

— І так, і не так... Калі я прыходжу перад поўначчу — і на табло свеціцца 23.59, — то яшчэ рана сядаць у вагон, а калі свеціцца 00.01, то позна —

спазняюся... Не паспяваю дабегчы да свайго вагона. Вось так і жыву — то рана ўставаць, то спазняюся. І ўжо каторы год вось і сяджу тут, на вакзале, хаця білет у кішэні... І чамадан мне зрабіў скульптар, што і не падняць.

— А куды ты едзеш, шаноўны? Дарэчы, а як цябе завуць?

— Еду — сам не ведаю куды. А завуць як? Сорамна, але я не ведаю свайго імя. Мяне скульптар зрабіў, а імя забыўся даць.

— Мы будзем цябе зваць... Вечпас — вечны пасажыр, добра?

— Добра, Мікіта, добра, — абрадваўся пасажыр свайму новаму імені, — вельмі падыходзіць мне імя.

— Пайшлі з намі гуляць, Вечпас? — прапанаваў Мікіта. — Бачыш, колькі нас, і нам весела. Ты ж Гомеля нашага не бачыў.

— Дык як яго ўбачыш, калі я тут днюю і начую... А чамадан мой куды?

— Няхай застаецца твой чамадан, — параіла Ірына, — яго ніхто не падыме... А што ў ім, дарэчы?

— Ды рукапісы гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Станаўленне дзяржавы... І тут знаходзіцца Біблія Тураўскага Княства, якое перапісваў ваш спадарожнік — Кірыла. Я іх ніколі не чытаў, адамкнуць чамадан не ўмею. Скульптар нейкі замок адмысловы вырабіў — ніводзін ключ не падыходзіць.

Мікіта прамовіў:

— Калі я буду вучыцца ў старэйшых класах, і буду вывучаць гісторыю, то абавязкова прыду і памагу адамкнуць чамадан. І разам прачытаем унікальныя старонкі.

— Буду чакаць, Мікіта!

— Куды пойдзем далей? — папытаўся Месячык у вандроўнікаў.

— Я ведаю, куды, — першым адгукнуўся Вечпас. — Пайшлі да маіх сяброў — маладзёнаў. Яны ніяк не могуць ажаніцца. Калі ноччу прыходзяць да дзвярэй ЗАГСа, то яны зачыненыя. Вось тады яны і прыходзяць да мяне ў госці, скардзяцца, што не могуць пабрацца шлюбам. А днём стаяць на варце кахання і не могуць зварухнуцца...

— А як іх завуць? — пацікавіўся Мікітка.

— Я іх назваў Каханы і Каханая.

А яны ўжо чакалі, калі падыйдуць да іх начныя госці, стаялі, ветла ўсміхаліся. Яна трымала свайго абранага пад руку, ружу ў руках трымала. Перад тым, як прадоўжыць далей начны шпацыр, святы Кірыла дабраславіў іх, наклаў на іх крыж, — павянчаў іх.

І ўсе шчыра віншавалі іх з такой падзеяй. ..

... Падарожнікі ўзялі ў сваю кампанію Гулівера, помнік якому паставілі на ўскрайку горада, Багдана Хмяльніцкага, нават Аляксандра Пушкіна, які тут

жа напісаў паэму пра Гомель і пра закаханых, Паскевіча, — хацелі сабраць усіх-усіх, каго скульптары-дойліды стварылі ў бронзе, ды...

Ды нечакана на вежы Палаца Паскевічаў ударылі званы гадзінніка, напомніўшы сваім меладычным пералівам пра час.

— Ой! — хапілася за шчокі Гамеліна. — Я ж сваю працу не да канца зрабіла! Пара нам разыходзіцца.

— Пара! — згадзілася князёўна Ірына. — Добрай раніцы ўсім!..

— Пара! Пара ўставаць, Мікітка! Добрай раніцы!

Нічога не разумее хлопчык, уцяміць не можа, чаму схілілася над ім матуля. А куды ж падзеліся яго начныя сябры?

— Мама, а куды князёўна Ірына падзелася? — з крыўдай у голасе спытаў у маці.

— Якая князёўна? Мо прыснілася яна табе?

— Ды не, мы ўсю ноч з ёю гулялі па горадзе.

Маці ўсміхаецца, радуецца, што сыну сняцца добрыя сны, значыць, адступіла ад яго хвароба, папраўляецца.

— Дагледзіш сёння свае сны, а цяпер пара ўставаць. Сёння табе ў школу — хіба забыўся?

— Ды не, помню! — радасна ўсклікнуў Мікітка і борздзенька падняўся з ложка.

Калі ж маці праводзіла сына ў школу, а ішлі яны паўз скульптуру князёўны Ірыны Паскевіч — па вуліцы Ірынінскай, — папрасіў маці:

— Ты пачакай, я на хвілінку...

Ён падбег да скульптуры, уклаў у руку складзены ўчацвёра аркушык паперы, нешта прашаптаў. Потым падышоў да маці, азірнуўся — танклявая грацыёзная дзяўчына імкнулася зрабіць крок з прыступак, але чамусьці вагалася... Яна, здаецца, усміхалася, нешта спрабавала сказаць, гледзячы ў бок начнога спадарожніка.

— Што за паперку ты ёй аднёс?

— То мой сакрэт, мамачка.

А ноччу князёўна Ірына прачытала пасланне. Яно было кароткім, у некалькі слоў: «Дзякую, князёўна Ірына, за начное падарожжа! Да сустрэчы!..»

... Шмат чаго цікавага здараецца, калі Гомель ахутвае ноч...



# Віктар Казько

празаік, публіцыст, кінасцэнарыст. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі (1982 г.). Аўтар кніг прозы: «Добры дзень і бывай», «Суд у Слабадзе», «Высакосны год», «Цвіце на Палессі груша», «Выратуй і памілуй нас, чорны бусел», «Неруш» і інш. Нарадзіўся ў 1940 годзе ў Калінкавічах на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

# Як Моцю сурочылі

Моця ў вёсцы чалавек вядомы. У каго б ні спыталі, кожны пакажа, дзе ён жыве, яго хату. Канцавая. З гэтым Моця нязгодны. Каму канцавая, а каму і першая. З якога боку падыходзіць і глядзець. Першая, першая яго хата, бо ў ёй ён жыве. Хата што трэба. Дубовая студня з галянастым жураўлём і, праўда, тоўстым азадкам, каб лягчэй было даставаць ваду, затое якая доўгая шыя. Усё па розуму.

Ад студні ўсё і пачынаецца. Сцежачка да ганку хаты. Сама хата. І пайшло, паехала: сцёбка, паграбок, хлеў і хлеўчукі. У якіх усё таксама, што мае быць у селішчы: мяўкае, гаўкае, курняўкае, рохкае, кукарэкае, цвіце і буяе. Сапраўдны гаспадар Моця.

Хаця ўвогуле чалавек ён гарадскі. Але як усякі гараджанін — улюбёны ў вёску. Адно толькі засмучае. Аказваецца, каб жыць у вёсцы, трэба рупіцца, гнуцца, гібець, рачкаваць. Рабіць трэба. Увесь час і не разгінаючыся. Нейкая няправільная выпала Моцю вёска. Не, ён зусім не гультай, не абібок, не зломак і не пустадомак. І рукі ў яго растуць, адкуль трэба. Але гэта зусім не сведчыць, што яны толькі для работы прыдадзены яму, як і кожнаму чалавеку.

Усе людзі, у тым ліку і ён, нешта робяць і павінны рабіць, толькі ж не так, не з ранку да вечара. Узяць да прыкладу той жа горад, яго бацькоў. Маці штодзень ходзіць на работу. Але што там рабіць. Калі збіраюцца ўсе, ставяць чайнік, заварваюць і п'юць каву, да абеду і ў абед — гарбату. Увечары нічога не п'юць, але збіраюцца і бягуць па магазінах. Бацька, здаецца, больш робіць у курылцы: перакуры, перакуры, перакуры.

Вось так жыць можна, калі ёсць кава і гарбата і навучыўся курыць. А тут як пражыць. Не паспеў Моця прыехаць у вёску да бабы, як тая знайшла яму работу: прарэдзіць граду морквы. Моця прарэдзіў. Баба зірнула і сказала:

— Ну вось, трэці ўжо раз нанава трэба будзе сеяць моркву. Пасля маці, пасля сына і не дай Бог, каб ёю заняўся і бацька.

Пытанне з працаўладкаваннем Моці ў вёсцы ці то было адкладзена, ці то адпала само сабой, чаму Моця па першым часе быў і рады. Не, пацiху выпраўлялася, выпраўлялася вёска. Дарослыя адчапіліся ад яго, і ў Моці адразу ж знайшлася процьма сваёй работы, не прадыхнуць. Не хапала нават дня і на тое, каб з канца ў канец прайсці адну адзіную вясковую вуліцу. Сыпкая была дарога. Вясковы пясок, прысак, так цёпла і ласкава абдымаў ногі, што ён у першы ж дзень згубіў сандалеты, забыў, дзе пакінуў іх паляжаць пад плотам. Мо яны і сёння недзе там ляжаць да будучага яго лета ў

вёсцы, не спрахнуць. Бо ў вёсцы, на думку Моці, заўсёды адно толькі лета. А што больш яшчэ дзіўна, у вёсцы ніколі не бывае благога надвор'я.

Дажджы, канечне, ідуць, але часцей так званыя цыганскія. Шчаслівыя людзі цыганы. І маланка, і гром, і цёплы рэдкі дождж. Па баках трохі хмарна ў небе, а ў сярэдзіне — сонейка. Такое радаснае, чыстае і пры гальштуку, здаецца, — белым воблакам падвязанае. І нехта праставалосы тупаціць вакол яго і рагоча. І вуліца ў склянь бяззуба, безгалова — праставалоса і басанож шалее ад шчасця, п'яна хістаецца ад рогату.

Шапкі недзе забытыя пад плотам. Толькі больш дбайныя схавалі іх за пазуху. Без шапак валасы лепей і гусцей растуць. Таму, пэўна, так мала па вёсках лысых. А ў горадзе спрэс і запар ад галавы сапрэлыя людзі. Басанож — таксама таму што здаравей. Ад зямлі здаравей. Гэта як дрэўцу, дзічку перасаджанаму з лесу і прышчэпленаму, ды яшчэ і вадою нябёс палітаму.

Адно толькі Моцю не зразумела: чаму, калі басанож здаравей, зямля надае моцы, штовечар трэбы мыць ногі, а часам, што ўжо зусім недарэчна, нават парыць. З гэтым трэба разабрацца. І моўчкі, бо пратэсты не дапамагаюць. У вёсцы наогул амаль ўсё трэба рабіць ціха, моўчкі, бо ў яе надта харошы слых. І вока вострае, але бывае і нехарошае. Пачуюць, убачаць — адны паспачуваюць, а другія яшчэ што-небудзь прыробяць, каб горш было, сурочаць. І таму вёска не стогне і не крычыць напаказ, не трывае крыку. А ў Моці ёсць, ёсць такая звычка, як бабуля кажа, гарадская хвароба, на якую вёска не хварэе. Яна, увогуле сказаць, не хварэе. Ніхто з яго сябрукоў не хварэе, ніхто з дарослых не хварэе. І ён, Моця, колькі ўжо тут, а ўсё не хварэе. Хаця быў ужо час, ды няма калі.

Але Моця чуе, чуе сваю гарадскую хваробу і перасцерагаецца выкрыць яе. І пакуль абыходзіцца, бо заняты. Вось і сёння паўдня быў заняты і стаў чэмпіёнам. Таму кожын у вёсцы ведае яго. Моця першы, пераможца ў гонцы на свіннях. Праўда, перамога дасталася Моцю насуперак яго волі. Свіння, як толькі Моцю ўсадзілі на яе, пайшла наўскач. Панесла, што звар'яцелая.

Заслуга ж Моці, што ён утрымаўся на ёй, хаця гэта было й нялёгка. Калі каму даводзілася ездзіць на ашалелым бегемоце, той ведае, што гэта такое. Моцю не даводзілася, але ён цяпер таксама ведае. Надта шырокая была спіна ў свінні. Моця не здолеў абхапіць яе нагамі. А вушы былі так далёка, хоць свае локці кусай, не ўкусіць, як і не дацягнуцца да віслых, засляпіўшых вочы свінні вушэй. Саслепу яна і прамінула загадзя пазначаны на поплаве фініш. З віскатам, амаль сабачым, далёка пакінуўшы ўсіх удзельнікаў спаборніцтва, прайшла фініш і скіравалася да гушчару каля разбуранай хаты, да крапівы, што расла там. Укінулася ў крапіву, зашчамілася і скінула Моцю. Што ў вулей з пчоламі з разгону ўкінула.

— Мы так не дамаўляліся, мы так не дамаўляліся, — заенчыў Моця. І адчуў, што гарадская хвароба даганяе яго і ў вёсцы. Хацеў аддацца ёй. Але ж яму перашкодзілі:

— Чэмпіён, чэмпіён, — загарлапанілі сябрукі.

Калі цябе так услаўляюць, зразумела, нягожа было распускацца і даваць волю сваёй хваробе. Яго б проста не зразумелі. Да ўсяго, нечаму ўсё ж яго вёска навучыла. Моця падумаў і сцяміў, што падаць тут і ніц, і плазам вельмі і вельмі небяспечна, што ў лоб, тое і па лобе — з усіх бакоў адна і тая ж крапіва. Качацца і лямантаваць у ёй, нават хоць трошкі варушыцца — сабе горш. І Моця ўтаймаваў сваю гарадскую хваробу. Мужнасць надала яму гонару. Ён выпаўз з крапівы, падняўся і моўчкі, крыху толькі прыгорбіўся, панёс сваю славу.

Больш за ўсё на тую хвіліну цела і душа яго праглі адзіноты і прахалоды. Але як толькі ён намерыўся бегчы да ракі, на вуліцы паказалася бабуля. Ён хацеў абмінуць яе, але бабуля ўтрымала яго. Схапіла за руку і сказала:

— Як жа добра, унучак, што я цябе сустрэла. Дапаможаш мне крапівы свінням нарваць.

Моця нема маўчаў. Бабуля прыняла яго маўчанне за згоду, пацягнула за сабой. І што дзіўна — Моця не супраціўляўся. Сілы хапала толькі на тое, каб перастаўляць ногі.

— Нешта здарылася, унучак, ці не захварэў?

— Захварэў, захварэў, — набыў мову Моця. — А чым мы тую крапіву будзем рваць?

— А рукамі, Моця, рукамі.

Моця збіўся з нагі і з жахам паглядзеў на бабулю.

— Голымі рукамі?

— Голымі, Моцечка, усё жыццё голымі.

І бабуля выпрастала і паказала яму свае рукі. Нічога больш жахлівага і непагляднага ў сваім жыцці Моця не бачыў. Былі яны на дзіва маленькія, ссохлыя, са скурчанымі чорнымі пальцамі. «Гэта яны ад крапівы такія», — яшчэ падумаў Моця і пакаціўся ў цёплы і ласкавы прысак вясковай вуліцы, пачаў калаціцца патыліцай, курчыць і дрыгаць нагамі і крычаць, што было голасу:

— Не хочу, не хочу, не хочу!

Гарадская хвароба ўсё ж дагнала. Ці не абуджаная ёю, ці не на той яго крык, на вуліцу з бліжэйшай хаты выйшла старая. Такая старая і блізкая тварам да зямлі, што, пэўна, каб не ўпасці ў тую зямлю ўжо ўсім сваім тагасветным целам, адзаду на плячах яе была падвешана чырвоная цагліна. Старая кіўнулася ўперад-назад, разам з ёю кіўнулася і цагліна.

— Не хочу, не хочу, не хочу! — працягваў блажыць Моця.

— А во вазьму зараз дубчык, і дубчыкам, дубчыкам па срацы, па срацы, — ціхенька мовіла старая. Але Моца пачуў, добра пачуў, таму што быў ужо амаль вясковым хлопчыкам, меў адметны слых і вострае вока. І ён у сваёй падучцы яшчэ і прыслухоўваўся і пільна сачыў вокам, як старыя будуць паводзіць сябе. Тое, што паабяцала бабуля з чырвонай цаглінай за плячыма, узрушыла і да жуды напалохала яго. Як бы зямля пад ім, што цягнула да сябе старую, пачала гаварыць замест яе — так мулка яму зрабілася, няўтульна ў каляіне. І яго гарадскую хваробу як ветрам, што нечакана залунаў над ім, здзьмула. Моца моўчкі і вельмі порсценька падхапіўся і пабег, пабег, сам не ведаючы, куды. А наперадзе Моці вецер, здаецца, нёс, зносіў у нябыт яго хваробу. І куды знёс, таксама невядома. Толькі з таго дня Моца перастаў хварэць на яе.

— Прырабілі, — сказала бабуля. — Сурочылі ўнука. Вёскі без дзіва не бывае.

# Моца — сейбіт шчасця

Моца — ўзорна-паказальны хлопчык. Акуратны, ласкавы, шчодры, не сквапны. Трэба, з кім хочаш, не пашкадуе, падзеліцца нават шакаладнай цукеркай. Калі яна ў яго, зразумела, не апошняя: добры то ён добры, але ж не дурны. І ці не са скуры лужыцца, каб кожнаму хоць чым-небудзь дагадзіць, каб яго прыкмецілі і адзначылі. Бо ён днямі напралёт незаўважны і адзінокі.

Хварэе часта. Таму вось такая бяда-нуда. Сум і адзінота. А чалавек жа павінен жыць на відавоку і голасна, гучна. Усе ж хворыя людзі, асабліва дзеці, пакутнікі. Пазамыканыя, пазашчэпленыя, усімі пакінутыя сядзяць сярод белага дня, што совы ў дуплах, і гаруюць. А што апроч гэтага рабіць. Варон лічыць, за мухамі ганяцца. Было, было. Моца праз гэта ўжо прайшоў. Мух у кватэры, як той павук, звёў усіх да адзінай. З воронамі больш складана. Няма іх тут, у моцевым двары. Хаця перш пракінуліся. Пакралі і паелі ў прыблудных катоў усю ежу, што выносілі да пад'езду жыхары. Але і воронам не ўсё масленіца. Каты згуртаваліся і паперлі варон. Мала іх было. Дом новы, зусім нядаўна пабудаваны і заселены. Дрэвы яшчэ не выраслі, ніцыя і квёлыя, няздольны ўтрымліваць варон. А яны па зямлі, па асфальце не надта ходкія. І без іх хапае каму па навабуду хадзіць. Адна-другая варона, і то, пэўна, здуру заблукае і пакажыцца. Што яе лічыць.

Праўда, ёсць яшчэ галкі. Траву па свежаўскапаных каля пад'ездаў клумбах пасеялі. Шчодра кінулі насенне. Вось галкі тыя клумбы і прарэ-

джваюць, дзяўбуць нядбайна рассыпанае семя. Добрую справу робяць. Мо таму яны і любыя Моцю. Працавітыя і прыстойныя птушкі, не ў прыклад галубам.

Галубоў жа тут, на свежым месцы, да чортавай матары. Моця іх не трывае. Нешта голас у іх не той. Сакочуць унутры сябе: гулі-гулі-гулі. А якія тут у Моці гулі. Да таго ж усе галубы вымагальнікі і нахабнікі. Усё пад ногі сабе і з-пад ног у сябе. Лянуюцца ўзляцець і сесці на дрэва. Грэбуюць дрэвам, небам, вышынёй. Цiснуцца да балконаў, падаконнікаў, вокнаў. І добра б яшчэ, пасядзелі і далей паляцелі. А то гадзяць, гадзяць, гадзяць. І пры гэтым просяць, просяць нечага, кленчаць, канькаюць, жабракі, жабракі па паходжанні і нараджэнні. Людзей з іх не будзе.

Зусім іншая справа галкі. Галкі гонар маюць. Вёрткія, зграбненькія. У шэра падвязаных на шыі, пад падбароддзе фарсістых хусцінках, як гальштуках, накшталт манішак. І нізавошта, як і чым ні спакушай, не наблізяцца і не сядуць на падаконнік альбо балкон. Асобы. І здольны паставіцца як асобы, скоса і не без дакору, а то і пагарды зірнуць на таго, хто ім надта ўжо дакучае, грэбліва ўзняцца і моўчкі адляцець убок.

Галкі — нешта сярэдняе паміж варонамі і галубамі. Падобныя, але і тых, і другіх цураюцца. Адкуль Моця ўсё гэта ведае? Вы таксама б ведалі, уведалі, калі б з малых гадоў, у сярэдзіне лета трапілі за краты, пасадзілі пад замок, зрабілі з вас арыштанта. Чатыры белыя сцяны нават без шпалер, такая ж бездакорна белая столь, коўзкая голая і падлога, на якой усе крошкі адразу і яшчэ здалёку відны. І адзінае акно, праз якое бачны вельмі абмежаваны свет. І гэта абмежаванасць свету, жыццёвай прасторы прымушаюць Моцю ўвесь час не толькі глядзець і бачыць, але і думаць. Дадумваць тое, чаго ён прымусова пазбаўлены.

Узорна-паказальны хлопчык. Акуратны, ласкавы, шчодры. І вельмі, вельмі самотны.

Галава пухне, набракае сама сабой смуткам, думкамі. Не, дарэмна гавораць, індык думаў, думаў, дый здох. А певень яшчэ горш — у суп трапіў. Таксама, пэўна, хваравітыя былі і іх не выпускалі на вуліцу. Пеўня замыкалі на седале аднаго ў куратніку. Індыка...Куды дзявалі індыка, дзе і як жывуць яны, вось гэтага Моця не ведаў. Але якая розніца, калі ён усё роўна думкамі, мноствам іх аднachасова пашкодзіў сабе галаву, здох. І Моці шкада пеўня, шкада індыка. Індыка больш, бо певень усё ж недарэмна сканаў — у суп трапіў. А што зрабілі з індыком...

Але больш Моцю шкада сябе. Пра яго пакуты, як і пра лёс таго індыка, ніхто не ведае, не здагадваецца і не спачувае яму. А жыць незаўважна немагчыма. Кожную хвіліну на яго жыцці павінна быць хоць чыё-небудзь вока, падахвочванне да жыцця.

На Моцевы вочы просіцца і набягае сляза. Ён рады, удзячны і ёй — усё ж не адзін. Нехта ці нешта варушыцца ў ім. І яму самому хочацца быць вартым гэтай яго ўласнай слязе. Хочацца дагадзіць самому сябе, таму, хто плача ў ім. А заадно ўжо і іншым. Усяму свету, у першую чаргу, канешне, бацькам, каб тыя, калі прыйдуць з працы, адзначылі і пахвалілі яго.

Толькі Моця не вельмі цяміць, як дамагчыся іх ласкі, задобрыць свае бясконцыя хваробы і прастуды, каб яны адкараскаліся яго, адышлі назаўжды. Каб з імі адбылося нарэшце тое ж, што і з індыком. І Моця думае, думае, хаця часам ужо і перасцерагаецца думаць. Таму што і сапраўды, халера ведае, да чаго могуць давесці чалавека яго думкі, жаданні. Даводзілі ўжо. І не аднойчы даводзілі.

Адным часам, не такім ужо і далёкім, нязбытым яшчэ, Моця вырашыў паводзіць сябе сапраўды ўзорна-паказальна, што ў свой бок любіў чуць, а папраўдзе — трываць не мог. Бо гэта было трохі маной, прыневоленнем, дарослымі хітрыкамі, якія ўдавана натхнялі яго сядзець ціха, хадзіць асцярожна, дамагацца свайго, жаданага, не зацята. Моця не пярэчыў гульням дарослых: хочацца вам — хай так і будзе. Але ў той жа час не пайшоў і насуперак сабе. Таму самаму розуму, без якога ў яго ўзросце не пражыць — кемлівасці.

А тут раптам шыльцам ці іголкай яго ў адно месцейка ўкалолі. Дзень прасядзеў у хаце ўзорна-паказальна, пахадзіў па адной масніцы. Другі пагаспадарыў ціха, за сабой усё да прыходу бацькоў прыбраў, аж самому брыдка. А на трэці ў ім нарадзіўся бунт і ўзніклі жаданні. Не, нічога небяспечнага, не свавольства і шкоды. Наадварот, пажадалася спраўдзіць надзеі бацькоў, добрай справы. Увогуле трэба адзначыць, жаданне дабрыні, дабра ўсім і кожнаму ў Моці было няспынным. З ім ён, падобна, і прыйшоў, з'явіўся на гэты свет. Толькі расплюшчыў вочы, упершыню ўсвядоміў сябе, заплакаў, адразу і заўсміхаўся. Захліснула прага неабдымнай цеплыні і замілавання, адчуў: тут радыя яго слязам і смеху. Свет быў добрым, а ён быў іх адбіткам, адбіткам свету і цеплыні, іх праменем і ценем.

І яны прасіліся на волю — даравапае толькі святасці і светлыні дзяцінства: адорваць свет дабрынёй, як сейбіт адорвае зямлю зернем. Бо ў падсвядомасці ўжо нараджалася прадчуванне імгненнасці гэтага светлага дару. І таму трэба спяшацца адорваць слёзны, пакутны і жорсткі наперадзе свет, задобрыць яго кінутай адзаду саломкай.

Таму так і праг Моця спрыяць усяму свету, з якім ён быў у непарыўнай повязі, хаця той і вельмі абмежаваны, пакойчык, у якім яго замкнулі бацькі, тыя ж бацькі, што былі цяпер на рабоце, куточак з Моцевымі гульнямі і адзіная дзірка ў забаронены яму з-за хваробы свет — акно. А на ім вазоны з кветкамі. Для здзяйснення добрых спраў прасторы, канешне, малавата.

Толькі Моця быў вынаходлівы. Вазоны з кветкамі на акне прыналежалі маці. Але тая часта скардзілася: чаму гэта ўсё яна ды яна павінна іх даглядаць. Рукі не адсохлі б і ў бацькі, калі б той хоць раз у жыцці паліў кветкі. Моця вырашыў, што і ў яго рукі не адсохнуць, а добрая справа залічыцца. І не адна ж — і кветкам паспрыяе, і маці палёгка, і бацьку дакор.

І Моця парупіўся. Не проста паліў кветкі, а ў запас, ад шчырага сэрца, так, што ў тых кветак з роту, носу, вушэй і з усіх астатніх дзірак на вакно і падлогу паплыло. Адзін дык і не вытрываў паводкі. Упаў з гаршком на падлогу, саслізнуў. Але гаршок не, не разбіўся, толькі зямля высыпалася, выпала разам з вазонам. Нядобра, але ж паправіма. Моця сабраў зямлю ў гаршок і зноў пасадзіў кветку. Сеў, як новенькі, лепш, чым было, бо напоены ж. Стомлены, мокры сам не меней за вазоны Моця сеў на канапу ў чаканні бацькоў, а найперш, зразумела, маці. Яе здзіўлення, радасці і ўхвалы.

Было ўсё, а найбольш ухвалы. Добра, што Моця ўжо можа перамяшчацца сваім ходам і вучоны ўжо. Загадзя ведае, калі і куды бегчы, дзе хавацца. І спрытны, умее ўхіляцца ад мокрыхануч, рушнікоў і матчыных ласкавых рук. А яшчэ ў дасканаласці авалодаў здольнасцю не слухаць і не чуць, калі яго голасна і шчыра хваляць: бацькава парода, абое рабое, хоць кол ім на галаве чашы.

З тае пары Моця занатурыўся і незалюбіў вазоны з матчынымі хатнімі кветкамі. Павыдзіраў бы, часу хапала, але перасцярагаўся. І яны, падобна, таксама перасцярагаліся яго. Варта было Моцю наблізіцца да іх, як пачынаўся такі гвалт, прынамсі ўзаемны — Моці і кветак. Нешта ён разварушыў у іх і ў сабе нешта абудзіў. А неабходнасць мірнага яго суіснавання з кветкамі была вялікая. Акно край неабходна было Моцю, акно, занятае вазонамі. Бо Моця прыдумаў сабе новую справу— займальную, добрую і вельмі любую, што прыхарошвала яго адзіноту і не давала больш нудзіцца.

Бацькі за дзверы, а ён да вакна. Ссоўваў вазоны, станавіўся на падаконнік, адчыняў фрамугу, амаль у яго рост, і кідаў на двор цукеркі. Дзятва, равеснікі моцевы, толькі здаровыя, хлопчыкі і дзяўчынкі больш узрослыя, зляталіся, нібы канаплянікі на свежае іржышча. Корпаліся па рэдкіх кустах бэзу, ніцай яшчэ каліны, пад'ездавай клумбе і дзяўблі, таўклі ўсё жывое, выпорвалі тое, што падала долу з Моцевай ласкі. Зявілі чырвоныя роцікі, ускідвалі ўгару банцікі і матроскія бесказыркі: маўляў, давай яшчэ.

І Моця не сквапіўся, хаця часам і сціскалася сэрца: пра сябе ж таксама трэба падумаць. А яны, як тыя галубы: колькі не давай — усё мала. Знікае, што ў прорву. І Моця іншым разам вымушаны быў пераводзіць дваровую дзятву за ўвагу да сябе з аплаты натурай на грашовую. Нагаворваць лішняга не варта, капейчына была тут таксама ў пашане, але ўсё ж меншай,

чым жывыя цукеркі. Як і павінна быць, большым попытам карысталіся буйныя купюры. Драбязу ж, па ўсім, успрымалі як фанцікі ад тых жа цукерак. І яны завісалі на голлі дрэў, нібыта сцягі і сцяжкі нейкай неіснуючай дзівакаватай дзяржавы. Неяк Моця сцікаваў, крыху пазней, калі ён высмяг з цукеркамі і грашыма, і дзятва разышлася па кватэрах, гэтыя дзівосныя фанцікі пачалі збіраць, здымаць з кустоў бабулі, што звыкла да гэтага днявалі на лавах каля пад'ездаў.

Але бабулям Моця засаромеўся паказацца. Чамусьці яму стала прыкра. Нібыта яго выкрылі, заспелі сярод вялікай шкоды. Хаця імгненне таму ён, стоячы на падаконніку, распяты, расцягнуты асалодай замілавання самім сабой і такім жа замілаваннем адораных ім унізе, лунаў, лётаў, быў на сёмым небе ад шчасця. І як заўсёды шчасце яго было кароткім, бо амаль ніколі не атрымлівалася задаволіць усіх, не хапала ці то цукерак, ці то грошай.

А дзеці ўнізе пад вакном былі ўсё ж няўдзячныя. То ці не маліліся на яго, пляскалі ў далоні і пасылалі паветраныя пацалункі. А калі цукеркі і грошы заканчваліся, ён заставаўся сам-насам са сваёй хваробай і адзінотай, замкнёнасцю на ключ сярод чатырох бялюткіх, як у бальнічнай палаце, сцен уласнай цямніцы.

І Моця ведаў, што тыя, унізе, больш не любяць яго, бо ў іх яго цукеркі і грошы, а ў яго пустыя кішэні і пустая цукерніца. І вось-вось адыдуць дзеці, з'явяцца бабулі. І яму прыйдзецца хавацца. І ці не гэта веданне пасунула Моцю да пагібельнага сыходу яго дабрадзейства. Хаця нельга забывацца і на характар, пароду. Усё, чым ні займаўся Моця, ён рабіў грунтоўна, удумліва, высалапіўшы язык і пацеючы кончыкам носа. Так было і цяпер.

Кончык носа ў Моці спацеў. Моця ведаў, як яму, абяздоленаму, хварэць у пашане і ўвазе да сябе. Трэба даць тым дваровым канаплянікам і галубам столькі ўсяго, цукерак, грошай, каб у іх, як у кветак, пуза расперазалася. І тады іх прыхільнасць да яго, любоў, а разам з ёй і слава, забяспечаны.

Ад велічы сваёй задумы Моця спацеў не толькі кончыкам носа, але і штонікамі, нібыта ўсё ўжо здзейснілася. Трэба адзначыць, што такое надаралася з ім часцяком, калі галава была занятая нечым лёсавызначальным. Так што зараз ён меў усе падставы пацець усім целам.

Тры дні запар Моця маліўся на сваю хваробу, каб яна не здрадзіла і не пакінула яго. Цішком толькі вытыркаў нос з-за вазонаў і наглядаў, што робіцца на двары. Яго чакалі, і Моця рыхтаваўся. Запасіў цукеркі, скрадваў у бацькоў грошы. І на чацвёрты дзень палічыў: досыць. Для ўсеагульнага ўхвалення і прызнання дваром павінна хапіць.

Моця порсценька і лёгка ўскараскаўся на падаконнік, адчыніў фрамугу і пад радасныя воклічы, а зрэдку і апладысменты, пачаў дзею. У разгар яе,

калі ён ужо быў, безумоўна, самы, самы, яго і заспелі бацькі. Надта ж захапіўся ён, надта ж узнёсся. Вельмі ж цікава было валадарыць тымі, хто пад ім, унізе, бачыць, як яны мітусяцца, а часам і б'юцца паміж сабой за якоганебудзь «Мишку на севере». А ён з вышыні пятага паверху, забыўшыся на ўсе свае хваробы, адзіноту і замкнутасць у чатырох сценах, адчуваў сваю невычэрпнасць, шчодрасць і вялікую да іх пяшчоту. Хаця трохі і пагардлівую: во я, хоць і пад замком, невылазны, але нештачкі ў мяне ўсё ж ёсць. Маецца нештачкі здольнае прымусіць вас знізу ўверх глядзець на мяне, любіць мяне.

Гэта перапоўненасць сабой і згубіла яго. Перахліснула праз край, як тыя ж вазоны з кветкамі, нешта не вытрымала ў сярэдзіне яго, аглушальна лопнула, перарвалася. Ён страціў пільнасць, згубіў абачлівасць, што заўсёды спадарожнічалі яму. Абачлівасць звера, той жа коткі, якая перад тым, як каўтнуць малако, у сподачку, кранае яго лапай і толькі потым пачынае спажываць. Моця апёкся, соладка захлынуўся падманам сваёй моцы і шчасця. Але ж гэта было потым.

А ў той шчаслівы і няшчасны дзень у Моці скончыліся цукеркі. Заставаліся, праўда, яшчэ шакаладкі. Але ж надта вялікія і з каньяком. Пра тое, што яны з каньяком, Моця чуў ад бацькі. Сам ён у каньяках не цяміў. А бацька яшчэ казаў, што ад шаколаду з каньяком можна забалдзець. З балдой ці балдзеннем у Моці таксама былі складанасці. Толькі зноў жа бацька ўводзіў яму ў вушы: малаток, малаток — хутка балдой будзеш. І балда Моцю здалася нечым накшталт вялікага малатка. Блазнаватым, як у казцы пра папа і яго работніка балду — гэта ўжо ад маці, яе чытанак яму.

І калі прызнавацца, быць да канца шчырым, то ў той дзень Моця якраз крыху і забалдзеў. Не ўстрымаўся, дасціпнасць спакусіла. Вырашыў на сабе праверыць, ці сапраўды ад смакаты шакаладу з каньяком балдзеюць. Паспытаў і не сказаць, каб адчуў: забалдзеў ці не. Толькі трохі паболеў, толькі жвавасці надалося і рашучасці. Вырашыў пазней яшчэ раз вярнуцца і канчаткова ўжо дасведчыцца. Таму і ашчадзіў шакалад з каньяком, прыбярог для сябе.. А вуліцы пакінуць і падкінуць голыя грошы.

Толькі ж і грошы, загадзя назапашаныя ім, і тыя, што былі на відавоку, хутка скончыліся. Але ж Моця ў свой час сцікаваў і ведаў, дзе знаходзіцца бацькава нычка, хоць і не рукасты быў, а вочы меў добрыя і нюх меў. Хітрая была бацькава хованка. У кніжках. У ніколі і нікім не чытаным «Капітале» Карла Маркса. Маці і не набліжалася да яе. Моця таксама абыходзіў бокам. Вельмі ж тоўстая і без малюнкаў, ды яшчэ ў чорнай, як скураной, вокладцы. Таму Моця і цураўся яе, нават пабойваўся. А тут выцягнуў з кніжнага асяродку. Асцярожна, як баючыся запэцкацца, за два бакі вокладкі дагары нагамі, узяў у рукі, расшчаперыў і патрос. Капітал пасыпаўся сам.

Сарамлівымі, а мо і бессаромнымі стотысячнымі ружовымі паперкамі. Моця дакладна іх вартасць, зразумела, не ўяўляў, але адчуваў: багата. Душа яго скаланулася і ўсхліпнула: ці не занадта для вулічнай драбязы. Прадчуванне грахоўнасці таго, што зараз мае адбыцца было яго і не яго. Але яно было, спакушальнае і трапятка салодкае, хаця і пужлівае. Тыя, унізе, былі нявартыя такіх грошай. Толькі Моцю было ўжо не спыніць: налятайце, злыдні, пакуль я добры і мне не шкада. Надта ж спапяляльным было жаданне прасачыць імгненне, як такія вялікія грошы будуць падаць з неба. Ці таксама, як і дробныя, ці больш удумліва і значна, груваcтка.

І Моця дзеля вывучэння гэтага пачаў бы кідацца стотысячнымі ружовымі паперкамі. Але тут «Капітал», які ён усё яшчэ трымаў дагары нагамі ў руках, засмеціў падлогу больш звыклымі яго воку каляровымі матылькамі — па дзесяць, дваццаць тысяч. Моця сабраў іх у жменю і з палёгкай падзёрся на падаконнік, хаця па шчырасці і іх было шкада. Але на тую хвіліну Моця і сам быў напагатоў — рукі на росхліст, сэрца наперад сябе, лётам, ластаўкай пад ногі тым, хто праг яго спапяляльнай ахвярнасці.

І ў святым запале гэтай трапяткой самаахвярнасці Моця і не пачуў, як заскрыгатаў у замку ключ, адчыніліся і бразнулі дзверы. Бацькі на парозе. А Моця на падаконніку рыхтуецца шпурнуць у зяпу фрамугі першую стотысячарублёўку, вельмі вялікі рубель, больш за дзясятку, і сам паляцець за ім, фрамуга дазваляе. Вельмі вялікі рубель, бо іншых у яго ўжо няма. Бацькі з цёмнага праёма дзвярэй толькі кінулі вока на падлогу, па якой бессаромна разбегліся ружовыя стотысячныя паперкі, сына, застыглага на сонечным п'едэстале аконнага праёма з заціснутымі ў руце грашыма, самі застылі помнікамі на парозе. У пакоі доўга панавала цішыня, сярод якой Моця ўсё ж пусціў у свет стотысячарублёвую паперку. Не мог не пусціць. Ён і сам быў гатовы паляцець следам за ёй. Не паспеў. Перашкодзіў голас маці, расшкамутаў цішыню, пранік да Моці і запаволіў усе яго рухі. Мо і сам час запаволіў. Спыніў час.

Маці бежкі кінулася да Моці:

— А што ж ета, сынку, ты...Пяты ж паверх... — Намерылася ўзяць яго на рукі і зняць з падаконніка. Але Моця праявіў самастойнасць:

— Я сам, я сам...

І сапраўды сам споўз долу, на падлогу. Зірнуў на бацьку, што цісну́ў да сэрца апусцелы «Капітал», а вачыма, па ўсім, невідушча і няцямна бег па раскіданых па падлозе рэштках яго былой нычкі.

— Караед, спінагрыз, хічнік, — выбухнуў бацька, і гэта былі яшчэ ласкавыя словы, што пачуў на тую хвіліну ад яго Моця. Але апошняе чамусьці яго больш за ўсё іншае абразіла і кранула. Так, караед, спінагрыз. Толькі ж не хічнік. Моцю замкнула на гэтым несправядлівым хічніку. Ён нават за-

быў, што даўно ўжо валодае сваімі нагамі. Папоўз па падлозе, як некалі поўзаў на самым пачатку свядомасці. І як на самым пачатку той жа, няцямнай яшчэ свядомасці, напрудзіў у штонікі. І на падлогу добрую лужыну ўтварыў.

— Яшчэ і сцыкун да ўсяго. Сцыкун! — Паставіў кропку з клічнікам бацька.

Пасля гэтай абразлівай кропкі Моця крута развярнуўся да ўтворанай ім жа лужыны. Падняў з падлогі стотысячарублёўку, абмакнуў яе ў цёплае азярцо свайго сораму і, каб не было сумневу, абмакнуў і пальцы. Лізнуў свае мокрыя пальцы, грошы, узняў галаву, прымружыў адно вока, а другое ці не выкаціў на лоб і рашуча, таксама з клічнікам, мовіў:

— Вадзя! Вадзя!

Маці хіснулася ўсім целам у адзін-другі бок і, пэўна, каб устояць на нагах, падперла сябе, свае бакі рукамі. Але не ўтрымалася, як не пакацілася ад рогату:

— Сапраўды вадзя... Жыў, здароў, астатняе — вадзя... А ты, капіталіст дзёўбаны, — гэта ўжо бацьку, — злыгаўся з Карлам Марлам. Чорта больш утоіш ад мяне капейчыну. Бо ў нашай сям'і галоўны Карл Маркс — гэта я.

Апошнія словы маці мовіла з такім націскам і напалам, што Моця адчуў — пранесла. Хаця прачуханцы, і не аднаму яму, наперадзе. Так у маці заўсёды, калі гаворыць проста і выразна, калі яна такая ўсмешлівая — нехта абавязкова будзе плакаць. Што маці, не марудзячы, і цяпер ужо ласкава — у яго, у дачыненні Моці — і пацвердзіла:

— А ты кемлівы, кемлівы. Я яго нычку, яго капітал усё жыццё шукала. А ты ж адразу, адразу. Малайчына, малайчына. Таксама капіталістам, калі паразумнееш, вырасцеш...

А бацьку паказала кулак.

Моця ж зразумеў: яму амністыя. Дарэмна толькі поўзаў, рабіў лужыну, мачыў і абсмоктваў два пальцы.



# Антонія Поццы
# ( Antonia Pozzi )

нарадзілася 13 лютага 1912 года ў Мілане ў заможнай кансерватыўнай сям'і. Вершы Антонія пісала з дзяцінства. Падчас вучобы ў класічным ліцэі імя Мандзоні яна закахалася ў выкладчыка старажытных моваў Антоніё Марыя Чэрві, старэйшага за яе на васямнаццаць год. Дзякуючы намаганням бацькі, які быў катэгарычна супраць, Чэрві перавялі ў Рым, а дзяўчына перажыла глыбокую дэпрэсію. Пасля вучылася на філалагічным факультэце Міланскага дзяржаўнага ўніверсітэта (1930-1935). Пад кіраўніцтвам выкладчыка эстэтыкі філосафа Антоніё Банфі абараніла дыпломную працу па творчасці Флабэра. Аддавала перавагу паэзіі Рыльке і французскіх аўтараў. Ва ўніверсітэце пасябравала з паэтам Віторыё Серэні, даследчыцай італьянскай філалогіі Марыяй Корці і іншымі маладымі інтэлектуаламі. Антонія любіла падарожнічаць па Еўропе, часцей за ўсё на ровары, захаплялася фатаграфіяй, чытала на лаціне і грэцкай, валодала ангельскай, французскай, нямецкай мовамі. Перажыла некалькі любоўных расчараванняў.
3 снежня 1938 года скончыла жыццё самагубствам, атруціўшыся барбітуратамі. Сям'я схавала «скандальны» факт самазабойства, і афіцыйна прычынай смерці назвалі запаленне лёгкіх.

Першая кніга вершаў Антоніі Поццы «Словы» выйшла пасля яе смерці ў 1939 годзе. На думку крытыка Тыцыяно Салары, «... усе вершы кнігі, не зважаючы на падзел і датаванне.., складаюць адну суцэльную паэму. Лірычная сіла гэтай паэмы ўражвае кожны раз, як з'ява, што з аднаго боку адлюстроўвае свой час (перыяд трывогі і філасофскага экзістэнцыялізму паміж дзвюма сусветнымі войнамі), а з другога, адсылае да нечага больш істотнага — пытання, звернутага ў самае сэрца быцця». У апошні час з'явіліся некалькі біяграфій Антоніі Поццы, быў выдадзены збор яе твораў, у які ўвайшлі дзённікі і лісты, а ў 2009 годзе рэжысёрам Марыяй Спада быў зняты дакументальны фільм «Ахоўвай мяне, паэзія».

# Пакуль ты спіш...

## Голас жанчыны

Я нарадзілася жонкай табе, салдат.
Ведаю, што маршы і войны
нас раздзеляць на доўгі час.

Сагнутая над агменем, ламаю рукі,
над тваім ложкам я паслала сцяг,
але калі думаю, што ты — пад адкрытым небам,
дождж ідзе над восеньскім целам маім,
як над зрубленым лесам.

Калі паблісквае вераснёўскае неба
і здаецца гіганцкаю зброяй над гарамі,
чырвоны шалфей прарастае ў сэрцы маім:
ты мяне клічаш,
мной карыстаешся
даверліва, нібы рэчамі,
як вадою, што льеш на рукі,
або воўнай, якой саграваеш грудзі.

Я — бедная агароджа твайго саду,
што нямая цвіце
пад караванамі зорак-цыганак.

*18 верасня 1937 г.*

## Жыццё

На парозе восені
у немым заходзе
сонца

спасцігаеш плынь часу
і сваю таемную
скаронасць

так з галіны на галіну
лёгка
падаюць птушкі,
чые крылы не трымаюць больш.

*18 жніўня 1935 г.*

## Лістапад

А пасля — калі здарыцца, што я сыду —
застанецца нешта
маё
ў маім свеце —
застанецца крохкі след цішыні
сярод галасоў —
слабое дыханне белага
у сэрцы блакітным...

І адным лістападаўскім вечарам
кволая дзяўчынка
на рагу якой-небудзь вуліцы
будзе прадаваць хрызантэмы,
і будуць зоркі
ледзяныя, зялёныя, дальнія...
Нехта заплача
хто ведае дзе, хто ведае дзе...
Нехта будзе шукаць для мяне
хрызантэмы
па свеце,
калі здарыцца, што незваротна
я павінна буду пайсці.

*29 кастрычніка 1930 г.*

## Новы твар

Тое, што некалі ў мяне
быў вясновы смех —
пэўна;
і ты не толькі бачыў яго, ён адбіваўся
ў тваёй радасці:

я таксама, хоць і не бачыла, адчувала
той смех
цёплым святлом
на твары.

Пасля была ноч,
я засталася на вуліцы
ў завірусе:
святло майго смеху
памерла.

Згаслай лампадай
я апрытомнела на світанку.
дзівілася рэчам,
спасцігаючы
сярод іх
мой схаладнелы твар.

Мне захацелі падараваць
новы твар.

Нібыта ў царкве перад іконай,
што змяніла выяву,
ніводная старая не хоча больш
укленчваць і маліцца,
бо не знаходзіць
любых абрысаў Мадонны,
а гэтая здаецца ёй
амаль што страчанай
жанчынай —

так цяпер і маё сэрца
перад маёй незнаёмай
маскай.

*20 жніўня 1933 г.*

## Лёс

Ліхтары і прытулкі
на раздарожжах
забралі паплечнікаў.

Табе застаецца
бледная дарога ўначы,
якую паказвае вецер,
тваёй смазе —
імклівая вада крыніцаў,
стомленай душы —
трава на палетках, што ўзнаўляецца
у прасторы сну.

У яго магутным агні
кожная людская істота
свайму адзінаму жыццю аддаецца.

Але на тваёй
павольнай хадзе ракі, што не мае вусця,
цяпер трымціць срэбнае святло
бясконцых жыццяў
вольных зорак.
І калі ніякія дзверы
не адчыняюцца ад тваіх намаганняў,
калі вяртаецца
табе на кожным кроку цяжар твайго твару,
калі належыць табе,
гэтая, мацнейшая за боль,
радасць самой ісці далей
у празрыстай пустыні тваіх гор,

тады прызнаеш,
што ты паэт.

*13 лютага 1935 г.*

## Малітва да паэзіі

О, як ты абцяжарваеш
душу мне, паэзія:
ведаеш, калі я знікну ці згублюся,
ты адмовіш сабе ў існаванні
і змоўкнеш.

Паэзія, прызнаюся табе,
ты — мой глыбінны голас:
ты гэта ведаеш,
ты ведаеш, што я здрадзіла,
я хадзіла па залатым лузе,
які быў маім сэрцам,
патаптала траву,
зруйнавала зямлю,
паэзія, тую зямлю,
дзе ты мне дала
свой самы пяшчотны спеў,
дзе ранкам у першы раз
я ўбачыла палёт жаўрука ў вышыні
і душой захацела ўзняцца.
Паэзія, паэзія, заставайся
маім глыбінным папрокам,
о, памажы мне знайсці
мой пакінуты верхні горад.
Паэзія, дары сябе толькі таму,
хто расчуленымі вачыма
шукае сваю душу,
о, зрабі мяне вартай цябе
і ахоўвай мяне, паэзія.

*23 жніўня 1934 г.*

## Час

**1**

Пакуль ты спіш
над гарой мінаюць
сезоны.

Снег на вышынях
растае і дае жыццё
ветру:
за домам прамаўляе луг,
святло
п'е сляды дажджу на сцяжынках.

Пакуль ты спіш
мінаюць сонечныя гады
між вяршынямі лістоўніц
і аблокамі.

**2**

Я магу збіраць канваліі,
пакуль ты спіш,
бо ведаю, дзе яны растуць.
І мой сапраўдны дом
далёка са сваімі дзвярыма
і камянямі.
Я болей не знаходжу яго.
Ды хай сабе блукае
вечна
па лясах —
пакуль ты спіш,
і няспынна растуць
канваліі.

*28 мая 1935 г.*

## Упэўненасць

Ты — трава і зямля, пачуццё,
калі ступаеш босымі нагамі
па ўзаранаму полю.
Для цябе завязала чырвоны фартух
і цяпер нахіляюся да гэтай маўклівай,
схаванай ва ўлонні гор, крыніцы:
ведаю, што раптоўна
— поўдзень нахлыне крыкамі
сваіх берасцянак —
узнікне твой твар
у ясным люстэрку побач з маім.

*9 студзеня 1938 г.*

***Пераклад з італьянскай мовы Аксаны Данільчык***



# Аксана Шалак

паэтка. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Дзікая птушка», «Віно немагчымага», «Пры святле снягоў» і інш. Нарадзілася ў 1966 годзе ў сяле Алэніўцы на Віннічыне. Жыве ў Кіеве.

# Малітва за сад

## Надзея ўваскрэсла

Той сувой з саламандравых нітак
Не баіцца агню і попелу...
Ты вярнуўся, вандроўны злітак,
Хто чакаў цябе Пенелопаю?

Хто агмень разбудзіў і слых,
Над сталом нахіліўся з любошчамі?
А прыйшоў з-за аблокаў пустых,
З кім ты стаў прад святымі мошчамі?

І тады запытаў, чаму
Ад яе не сыходзіць здравіца.
Адгукнулася цемра яму,
І пабачыў, як цемра плавіцца.

***

І ўсё маўчыш...
Напятае маўчанне!
І як яно гучыць на цэлы свет.
У ім і час не мае завяшчання,
бо звяў той час, як на стале букет.
Няма ў цябе і слоў.
Зара, што маеш,
Падхоплівае дзень і ноч, і сны.
А ты маўчыш, нібыта лёс чытаеш —
букварык непрабачанай віны.
О, як маўчыш!
Уедлівая ціша!
Паркан сцяны — а так стаіць зацята!
Варушыш словы — ды пустая ніша.
Агучыш, што між струнамі нацята?

***

А потым і ўздыхаць забудзем,
Відзежа ўснежанай начы
Пранікне нам глыбока ў грудзі.
Мы, просьбіты, на бляск свячы
Уздымімся кудысьці ў неба
На шлях дзіцячых «Ойча наш...»
Прасіць, наш Бог, мы будзем хлеба,
Каб толькі Ты, любові страж,
Даў не адразу.
Раскінеш перад намі рызы ў стэпе,
Каб анямелымі вачыма
Убачыць нам: празрысты шлях
Раскрыленыя коні студзяць.
А там, дзе ўснежаны атлас,
У смутку вершнікі — не суддзі —
Шлях продкаў згортваюць з-пад нас.

***

І ты заплакаў:
Адрокся тройчы.
А певень крыкам
Прызнаў бяду.
Ты стаў бы камень
Сталёвай ночы,
Сляза — жарынкай
У бараду.
Ідзеш да Бога
На апазнанне,
А шлях твой — бездань
марской вады,
Дзе з кожнай хвалі
Гучыць пытанне:
— Папраўдзе
веры
слугуеш
ты?

***

А тут мы п'ем нектар дажджоў асенніх,
Старым тэрасам аддаем свой здзіў
Начных размоў... І жабянятак цені,
Павук, які дзень з ночкаю спавіў, —
Нам радыя. І яблык гожы
Маладзіком выглядвае з травы...
Мы маладыя. Тое, што не зможам,
Уздымем над каронай галавы.

## Малітва за сад

Заплюшчыш вочы — і гаіць,
Трывожна крыламі лапоча.
Няхай ён ціха адляціць,
Няхай пладамі ззяе, Ойча!

Няхай яго празрысты сон
Ніхто не давядзе да слёзаў —
Трымае яблык дзіцянё,
Трымае свет душа нябёсаў...

## Творца

Уваскрашае ён кветку з попелу,
Час прыпыняе ў абжытасці сноў,
У лабірынтах задумаў ад сполаху
Губіць прыжухлай рэальнасці схоў.

І на сцяжынках з хімернаю зарасцю
Ловіць павабна дзівоты двара.
Мерзне намова яго. А зайздрасцю
Стыць ёй у кніжніцах, поўных дабра?

***

Брама ў нябыт — наросхрыст.
Варты не чуцен тупат.
Сціхлі абшару кросны,
Вуліц замоўклі дуплы.
Праз цішу, снягі і вечнасць,
Голасам, нібы джалам,
Рэжа хтосьць простані вечка...
Лезе з шапочым шалам...
І з даўніны, з адчаю,
З песні, што ўжо не спудзіць, —
Крыкам змарнелай чайкі
Цемень смяляку будзіць.

***

У вершніка скралі шлях,
Конь і той у нудзе.
Госпадзе, хто адняў
Вочы ў гэтых людзей?
Божа, скуль насланнё
З мутным дажджом наўскос?
У вершніка скралі шлях —
Конь яго ў неба ўрос.
А у краіне сноў —
Зніклі вада й агмень.
Вершнік ляціць, а кроў,
Нібы ад крылаў цень.
З міфаў якіх узнік
Гэты бясстрашны вой.
Рэхам між хмараў крык:
Госпадзе, я з Табой!

***

Ты грэеш галінкі ў звяснелым садку,
І завязь у дыме мароз не кране.
Я з саду не выбегу й на павадку,
Бо тысяча вёсен — і саду , і мне.

Мы знойдзем у садзе сваім угамон,
Прыцішыцца слёзаў і словаў узвіў,
Бо гэта ж мяне ты схаваў у бутон,
Тады, калі сад на марозе зацвіў.

***Пераклаў з украінскай мовы Сяргей Панізнік***

# ВЕРАСЕНЬ

# КРЫТЫКА

# ПУБЛІЦЫСТЫКА

# ЭСЭ

ірына хадарэнка юнэля сальнікава
ася паплаўская леанід дранько-майсюк
васіль зуёнак віктар раманцоў
марына яўсейчык ала петрушкевіч
арсень ліс ларыса раманава
таццяна мацюхіна анатоль трафімчык
альдона мартыненка вітаўт мартыненка



# Ірына Хадарэнка

паэтка, празаік, навукоўца. Кандыдат культуралогіі, стыпендыятка праграмы Міністэрства культуры і нацыянальнай спадчыны Польшчы «Gaude Polonia» (2010), выпускніца Усходне-Еўрапейскай школы палітычных даследаванняў пры Радзе Еўропы (2010). Аўтар зборнікаў паэзіі і прозы «Лабірынты душы», «Чорная ружа», «Танцы на шкле», дзвюх манаграфій і шматлікіх навуковых артыкулаў. Нарадзілася ў Мінску ў 1976 годзе. Жыве ў Мінску.

# Ізноў пра хобітаў — міфічных і непатрыятычных...

У суседняй Польшчы прамінулі гады Шапэна і Мілаша. У роднай Беларусі адпаведна — гады якасці і прадпрымальнасці. Суаднесці Шапэна з якасцю, а Мілаша з прадпрымальнасцю — такі аксюмаран не прысніўся б нават Бунюэлю. Але з улікам таго, што трэндавыя герменеўтычныя падыходы трактуюць культуру, як своеасаблівы тэкст, як пляцоўку для адвольных інтэрпрэтацый, усё падаецца магчымым. Напрыклад, конь і трапяткая лань, запрэжаныя ў адзін вазок. І калі насамрэч не было ні каня, ані лані, усё роўна знойдзецца вынаходніцкі розум, што будзе сцвярджаць адваротнае, седзячы ў дапатопным вазку, які чамусьці не едзе. Дык чаму б і мне ў такім разе мімаходзь не паэтызаваць хобітаў?..

У Польшчы досыць шмат людзей недалюблівае Чэслава Мілаша. Маўляў, хоць ён і лаўрэат Нобелеўскай прэміі, але ж зневажаў палякаў, параўноўваючы іх са свіннямі. Дык як жа гэта можна трываць? І разам з тым у краіне вельмі шануюць паэта: ягоныя вершы ведаюць на памяць малыя дзеці, ягоныя творы паспяхова выкарыстоўваюць нават зоркі эстрады для стварэння песень, ягоную кватэру ахвотна наведваюць экскурсанты. Крытычны позірк і выяўленне хібаў у ментальнасці палякаў не перашкодзіў яму стаць легендай польскай літаратуры.

Беларусы — гэта нешта іншае. Беларусы зносяць, калі іх нацыю аплёўваюць з высокіх трыбун палітыкі і высмейваюць у памфлетах расійскія блогеры, калі пісьменнікаў цкуюць у СМІ, нібыта якіх злачынцаў. Аднак у адказ на алегарычнае параўнанне з казачнымі хобітамі ўздымаецца цэлая хваля народнага абурэння. Айя-ёечкі! Нас зняважылі! Назвалі хобітамі з еўрапейскай глушы! І пачынаецца марнатраўная палеміка, хто, чаго і навошта. З гэткім бы імпэтам ды на Плошчу. Дык не, тут мы стрыманыя — ці ж мала што, а за краты нікому не хочацца.

Падобная рэакцыя, дарэчы, вельмі тыповая для тубыльцаў. Бо мудры, разважлівы чалавек, бясспрэчна, здолеў бы пабачыць у гэтым метафару і зрабіць пэўныя высновы замест таго, каб палыхаць праведным гневам і маланкава кідацца аспрэчваць відавочнае. Амаль, як у афіцыйнай прапагандзе, згодна з якой мы ўсё болей і болей квітнеем, а нагодаў для гонару ў нас больш, чым дастаткова.

А калі прыгледзецца, дык чаго мы ў глабальным сэнсе дамагліся за апошнія два дзесяцігоддзі? Фенаменальных перамог на дзіцячым «Еўрабачанні»? Высокіх дасягненняў у хакеі (неяк нават шведаў перамаглі)? Гэта, відаць, павінна было бясспрэчна падвысіць наш імідж на сусветнай

арэне. Але як падвысіць тое, чаго фактычна няма? Сізіфава праца. Да таго ж пачаліся высокія развагі пра брэнд Беларусі і тое, як яго раскручваць. Чорны квадрат Малевіча — вось наш брэнд у цяперашнюю эпоху. Квадрат той, канешне, не суцэльна чорны, там часткова трапляюцца і праявы іншых колераў, аднак жа...

На што, у сваю чаргу, спадзяваліся аматары палітычных прыгод і ўладальнікі вялікіх амбіцый, дэманструючы грамадскасці загадзя безнадзейныя праекты па вывядзенні рэспублікі са стану калапсу?Аб чым думалі многія прадстаўнікі творчай інтэлігенцыі, што забарыкадаваліся ў шэрагу гнілых лакальных тусовак і павывешвалі вонкі шыльды: «хто не з нашай пясочніцы, тыя сюды не лезьце»?

Даруйце, але скажу больш жорстка: як народ мы проста праспалі гэтыя дваццаць гадоў задэклараванай незалежнасці. Нашы афіцыйныя і неафіцыйныя эліты аказаліся не ў стане самастойна выпрацаваць яскравую, эфектыўную і добра зразумелую для большасці (на якую так ці іначай прыходзіццца азірацца) стратэгію *нацыянальнага*, а не проста дзяржаўнага развіцця, якая б пасавала да дзейснай сітуацыі (няўцямна-абстрактныя версіі «свайго курсу», «спецыфічнай мадэлі», «шматвектарнасці» ды «трэцяга шляху» ў разлік не прымаюцца). Больш за тое — яны аказаліся няздольныя элементарна весці дыялог і мацаваць еднасць і згоду ўнутры народа, чаго нам заўсёды бракавала. Калі мы нават і «ляцім да зор», як сцвярджаў наш нацыянальны геній, дык відавочна не разам, а паасобку.

Папялушка-Беларусь застыла ў чаканні прынца. Нас заклініла на вызначэнні нацыянальнай ідэі, але гэтая папараць-кветка так і не расцвіла на поўную моц. Мы аказаліся непадрыхтаванымі да таго, каб дзейнічаць незалежна і несці адказнасць за свае ўчынкі, а не абвінавачваць па-ранейшаму ў сваіх бедах увесь навакольны свет. Як слушна пытаўся ў Ланцэлота Дракон з п'есы Яўгена Шварца: «Ты хочаш даць людзям свабоду? А навошта яна ім? Што яны будуць з ёй рабіць?». Свабода — гэта вельмі сур'ёзны іспыт, годна вытрываць які пад сілу не кожнаму.

Мне даводзілася жыць і працаваць у розных краінах свету. Не проста наведваць іх у якасці ўдзельніцы культурных мерапрыемстваў альбо турысткі, што, безумоўна, таксама здараецца, а менавіта жыць. Не тыдзень і не месяц. Працяглы час быў праведзены ў Нарвегіі, Германіі, Польшчы. Выснова ў стасунку для беларускай культуры была зроблена несуцяшальная. Тое, што пра нас мала хто ведае ў свеце, даўно не дзівіць. Дзіва, што сярод тых, хто ведае, найбольш тыповая рэакцыя ў дачыненні да нас, гэта ...спачуванне. Нас шкадуюць, нам хочуць дапамагчы вылезці з той жалоснай пячоры, у якую мы самі сябе загналі, папулярызуючы канцэпт «апошняй дыктатуры Еўропы». Менавіта таму на Захадзе запатрабаваны

дзеячы кшталту Марыны Напрушкінай з яе коміксамі пра вусатага ўладара і палітызаваны Свабодны тэатр з Мінска — гэта якраз той фармат, у якім мы самаакрэсліліся, прэзентуючы «актуальнае беларускае мастацтва». Адзінае выключэнне, бадай, могуць скласці артысты, якія працуюць у галіне класічнага мастацтва (балет, сімфанічная музыка і т.п.) ды фальклору. Але дэманстрацыя творчасці тых артыстаў, што раз-пораз трапляюць за мяжу з уласнымі праектамі, часцей за ўсё прадстае як спарадычны ўсплеск у сусветным моры невядомасці Беларусі. Між іншым, шкада, што чагосьці адметна беларускага ў дзейнасці сучасных творцаў нярэдка нельга разгледзець нават пад велізарнай лупай, а фармальны стасунак да краіны на ўзбоччы Еўропы (у ментальным, а не геаграфічным сэнсе) ўзбуджае інтарэс кшталту цікавасці да выставы экзатычных раслін. Беларусаў досыць часта не ўспрымаюць як роўных, а глядзяць на нас, як на дзіцёнка, які толькі навучыўся тупаць. І хто ў тым вінны? Недасведчаныя ды абмежаваныя жыхары Заходняй Еўропы? Не — нашая ўсюдыісная местачковасць. Напрыклад, у Кракаве, дзе пражывае каля чатырох сотняў беларусаў, разнастайныя імпрэзы ў межах Тыдняў беларускай культуры наведвае толькі тузін. А дзе астатнія? Схаваліся ў бульбу ад саміх сябе?

Апроч таго, мне часам бывае сорамна і за сваю краіну, і за сваіх суайчыннікаў. За тое, як мы выглядаем у вачах жыхароў замежжа. Гэтае таўро гаротнікаў, якіх прыгнятае таталітарная ўлада і хоча канчаткова зжэрці постімперская Расія, па вялікім рахунку, ужо ўсім абрыдла да чорцікаў. Але яно прыносіць свой плён. Еўрапейскія структуры працягваюць выдаткоўваць гранты на «змаганне» і падтрымку нацыянальнай культуры. Еўрапейцы, ад якіх мы на побытавым узроўні ментальна адасабляемся, распавядаючы пра свае «паездкі ў Еўропу», фактычна сілкуюць падмурак нашага існавання. А для большасці беларускіх грамадзян, якія замест таго, каб клапаціцца аб будучыні сваёй нацыі, штодзённа закасцянела ўтаропваюцца ў тэлевізар альбо інтэрнэт і дбаюць пераважна аб тым, як «пракарміць сям'ю», гэтыя сілкаванні і намаганні, па сутнасці, «да лямпачкі». І гэта цалкам адпавядае тэорыі цыклічнага развіцця, згодна з якой эвалюцыя кожнай нацыі праходзіць праз пэўныя этапы. Нацыі, як і дрэвы, як і гарады, — могуць з'яўляцца, развівацца, чэзнуць, адраджацца альбо паміраць. Пра гэта шмат пісалі Шпэнглер, Тойнбі, Сарокін, Кандрацьеў, Гумілёў і (увага!) вядомы хіба толькі ў вузкіх колах даследчыкаў беларускі філосаф Мікалай Крукоўскі.

Заўсёды важна ўсведамляць, на якім адрэзку гэтага цыклу знаходзіцца нацыя. Хаця б для таго, каб папярэдзіць ейную пагібель. І калі мы будзем па-ранейшаму заплюшчваць вочы ў чаканні міласці звыш ды адварочвацца ад глабальных праблем, спадзяючыся, што нехта іх вырашыць за нас ці

ўсё неяк само сабой утрасецца, гэта толькі паскорыць набліжэнне да бездані, з якой можна і не выкараскацца. Да таго ж, каб крытычна паглядзець на ўласныя недахопы, у дадатак патрэбная смеласць, якой не стае. Лепей у каторы раз сесці на цвік і ператрываць. Гіпотэзы адносна нашага нацыянальнага мазахізму і самаедства, сапраўды, маюць пад сабой грунт, аднак, трэба глядзець на рэчы больш шырока. Падабаецца нам тое альбо не, але існуюць аб'ектыўныя законы быцця і цывілізацыйнага развіцця, якім трэба падпарадкоўвацца.

Як рэагуе чалавек, якому паведамілі пра наяўнасць у яго смяротнай хваробы? Перш-наперш ён адмаўляецца верыць дыягназу. Спадзяецца, што гэта памылка, што тут нешта наблытана. Спрабуе пераключыцца на іншыя рэчы. Ліхаманкава мітусіцца ў пошуках выратавання. Так атэісты становяцца вернікамі, а ліхадзеі раптоўна трапляюць на шлях да духоўнасці. А што выбіраюць мае сучаснікі ў такой сітуацыі? Схавацца пад парасон рамантычнага позірку на наваколле, закрыцца ва ўтульных супольнасцяхкапсулах і моўчкі сядзець, як грыбы-порхаўкі, чакаючы моцнага «пендаля» ад кагосьці звонку, бо: 1) усё роўна ж нічога не зменіш; 2) мы людзі маленькія, ад нас нічога не залежыць; 3) Захад (альбо Расія) нам дапаможа; 4) а што мы з гэтага будзем мець? 4) не так ужо ўсё і блага і г.д.

Гэты, як фігуральна акрэсліваў яго У. Караткевіч, «паршывы беларускі рамантызм», вельмі замінае нам зараз. Мы настолькі захапіліся ілюзорным святлом патэтычнай узнёсласці Беларушчыны, што спрабуем ператвараць яе ў *шоу*, мы ў такой ступені звыкліся з паглынаннем архаічна-пафасных «ружовых сопляў», якія найчасцей прадукуюцца ў рэакцыйным беларускамоўным асяроддзі, што губляем здольнасць цвяроза ацэньваць рэчаіснасць. Якая насамрэч вельмі далёкая ад таго, каб адчуваць «галавакружлянне ад поспехаў».

А яшчэ мы надта любім паўсюдна ўзгадваць сваю славутую талерантнасць, якой насамрэч не валодаем. Так, у нас не было трагедый кшталту спалення палякамі яўрэяў у вёсцы Ядвабна альбо ўзаемных крывавых распраў паміж украінцамі і палякамі на Валыні, не здараліся брутальныя канфлікты на рэлігійнай глебе. Але разам з гэтым мы забываем (а дакладней — замоўчваем) пра тое, што ў гады Другой сусветнай вайны нярэдкімі былі выпадкі, калі двое родных братоў змагаліся за розныя ідэі — адзін быў партызанам, другі — паліцаем, а ўвечары збіраліся за адным сталом (аналагічныя сітуацыі здараліся таксама падчас вайны з Напалеонам і шмат дзе яшчэ). Замоўчваем, што падчас мітынгаў пратэсту разам з тымі, хто ішоў адстойваць незалежнасць краіны, было нямала «свядомых» зусім іншага разліву — тых, хто свядома хацеў атрымаць па галаве дубінкай, каб пасля засесці на стыпендыі за мяжой і «адкасіць» ад арміі. Не надаем

увагі таму, што ў апазіцыйным «трэцім сектары» побач з тымі, хто шчыра спадзяваўся разварушыць нашую сонную балоцвіну было шмат і такіх асоб, якія адкрытым тэкстам прамаўлялі: «мяне хвалюе толькі тое, як на гэтых выбарах падзарабіць грошай». Лічым звыклай справай бясконцыя сваркі і падзел «скуры незабітага мядзведзя» ўнутры творчых аб'яднанняў... Галоўнае, мы выжылі, захаваліся фізічна, а тое, што людзі становяцца больш падобнымі да гародніны, дык нічога: вайны ж няма — вось ужо і шчасце, вось і танцы на нашай палянцы.

На апошнім З'ездзе Саюза беларускіх пісьменнікаў была агучана катастрафічная статыстыка: 70 % жыхароў краіны не ў стане назваць аніводнага прозвішча беларускіх пісьменнікаў; згадаць Купалу і Коласа аказалася пад сілу менш за 3 % у дачыненні да кожнага! Некаторыя сябры Саюза, натуральна, пачалі абурацца: у іхняй, замацаванай у пазаўчарашнім дні, свядомасці беларуская літаратура па-ранейшаму падаецца аўтарытэтным і ўплывовым культурным феноменам. Спадарства, здыміце, калі ласка, ружовыя акуляры. Хопіць ужо трызніць, як у зачараваным сне. Беларуская літаратура сёння — гэта абагульнены сігнал SOS, які адны маргіналы рэтранслююць для другіх маргіналаў. І не варта глядзець на гэтую дэфініцыю праз прызму суцэльнага негатыву. Маргінальнасць перш за ўсё азначае прамежкавы стан пераходу, пространь «паміж», абшар перманентнага вагання. І пераважна толькі ад нас залежыць, у які бок хістанууца далей.

Хоць, шчыра кажучы, я з вялікім непакоем думаю пра той жахлівы, але непазбежны момант (лепш бы ён не здараўся ніколі!), калі ўжо не будзе магчымасці зазірнуць у сумленныя вочы ды паціснуць руку нашым выдатным класікам-сучаснікам — Гілевічу, Барадуліну, Бураўкіну, Вярцінскаму, Дайнеку, Дранько-Майсюку, Законнікаву, Разанаву і іншым. Святое месца, як вядома, пустым не бывае, таму страшна ўявіць, кім яно ў благім выпадку можа з цягам часу запоўніцца. Прыляціць крыклівая зграя пістончыкаў, прыплыве шэраг іншых «аматараў непрыгожага пісьменства», што не маюць ані густу, ані такту, не кажучы ўжо пра талент, якому, згодна з прымаўкай, трэба дапамагаць, бо бездары праб'юцца самі. І мы будзем працягваць лагодна і паблажліва (ці — больш мадэрнова — *талерантна*) пазіраць на гэты парад недарэчнасці, які ў якасці ахоўнага амулета выкарыстоўвае транспарант з надпісам «сучасная беларуская літаратура»? Будзем гэтак жа ўпарта сцвярджаць, што наша культура цудоўна развіваецца, а мы ўсе з сябе такія «белыя і пушыстыя»? Дык чым мы ў такім разе лепшыя за шэраг вытворцаў макулатуры з чаргінцоўскага саюза, аб'яднаных па прынцыпу «хоць жаб, хоць кракадзіл, галоўнае, каб быў»? («Жаб і кракадзіл», вядома, фігуравалі ў славутым выказванні адносна сферы бізнэсу, але і літаратура таксама пачынае станавіцца вельмі сумніўным бізнэсам, калі

агульная справа яе развіцця пачынае апускацца на ўзровень прасоўвання дробных прыватна-ўласніцкіх інтарэсаў).

Я не бяруся сцвярджаць, што ў недалёкім часе літаратурнае поле будзе суздром засеена адным толькі графаманствам і кар'ерызмам. Альтэрнатыва існуе заўсёды. Аднак гэтая альтэрнатыва далёка не заўсёды заўважная і запатрабаваная. Як і мова, хаўтуры якой мы сёння спраўляем.

Чаму высокашаноўны амбасадар Швецыі Стэфан Эрыксан можа самастойна вывучыць беларускую мову і дасканала размаўляць на ёй, падаючы бліскучы ўзор усім нам, а звычайны этнічны беларус — не? Пытанне не ў тым, што беларус не здольны гэтага зрабіць, а ў тым, што ён *не хоча*. Не патрэбна, не цікава, няма неабходнасці. Вось калі б з гэтага мець нейкую карысць, тады б можа і паварушыўся... І нельга ўсе камені кідаць у бок дзяржаўнай палітыкі. Мы самі сваім раўнадушшам выпусцілі джына татальнай русіфікацыі з бутэлькі. А цяпер паспрабуйце загнаць яго ўнутр, калі ён нават некаторых майстроў мастацтваў пераканаў у сваёй непераможнасці!

Што ж датычыць хобітаў, дык дадзенае азначэнне трэба разглядаць не толькі як метафару, але яшчэ і як камплімент! Бо ўсё часцей у айчыннай культурнай прасторы гэтых сціплых працаўнікоў творчай нівы пачынаюць са скрыгатаннем зубоў выцясняць гобліны і тролі. Вось сярод іх і назіраецца трэшавасць, перамяшаная з псеўдагламурным нігілізмам. А хобіты, між іншым, хоць на першы позірк і непрыкметныя, але ж здолелі пахіснуць магутнасць улады злодзея Саўрона. Дарэчы, не ўсе ведаюць, што Саўрон — гэта ...адна з мянушак Пуціна. Так што нават тут чытачы, схільныя да занадта вольных трактовак тэкстаў, змогуць знайсці нагоду для геапалітычнага скандалу. Асабліва з улікам таго, што працэс паглынання незалежнай Беларусі суседкай з Усходу адбываецца няўхільна і — што найбольш крыўдна — без усялякіх магічных пасаў, а хутчэй дзякуючы агульнай млявасці і абыякавасці большасці насельніцтва, а таксама з нагоды маўчання нашай інтэлігенцыі, шматлікія прадстаўнікі якой любяць мусоліць адвечны тэзіс аб тым, што творца павінен быць па-за палітыкай. Прыходзіцца ў такім выпадку засведчыць, што нават казачныя хобіты былі больш пасіянарнымі. У нашых жа цяперашніх рэаліях разлічваць на хэпі-энд альбо ганарыцца надзвычайнымі культурнымі дасягненнямі можа ці толькі вельмі наіўны патрыёт, ці проста недасведчаны чалавек. Атрымліваецца, як у парадаксальнай песні пра чароўную маркізу, дзе «ўсё добра, вось толькі маленькія дробязі — кабыла здохла, гаспадар застрэліўся ды маёнтак згарэў».

Вяртаючыся да тэорыі цыклаў, відавочна, што ў бліжэйшыя гады культура Беларусі будзе працягваць спаўзаць па крывой сінусоідзе яшчэ блі-

жэй да долу. Ляцець са свістам на дно і ўсміхацца пры гэтым немагчыма. А суцяшацца можна хіба толькі тым, што мы пакуль не дасягнулі фіналу, хоць ілбы ўжо паразбівалі. Адзінае, што ў дадзеным выпадку дае нейкую надзею на лепшае — упэўненасць у тым, што кожны цыкл мае сваё завяршэнне. Іншымі словамі, заняпад не можа быць вечным. Пасля яго — альбо пачынаецца ўздым, альбо ... нічога больш не пачынаецца. Бо наступае канец пэўнай сацыякультурнай фармацыі, месца якой з цягам часу зоймуць іншыя. І тут ужо не да метафар! Гэта шматразова адбывалася ў сусветнай гісторыі. Але гісторыю, у тым ліку і свайго народа, мы ведаем даволі блага. Таму, відаць, і лічым за вялікае дасягненне ўціскание яе ў пяціхвілінны забаўляльны мульцік, таму і да канца не ўсведамляем існуючай небяспекі. Мы ж, беларусы, мірныя людзі. Схільнасць да экспансіі (у тым ліку і культурнай) нам не ўласцівая. І як вынік: будзем патроху рыхтавацца да чарговай акупацыі і асіміляцыі, «служыць і жабраваць», як фабулярнае сямейства Зяблікаў, працягваць традыцыйна енчыць аб нападках знешніх і ўнутраных ворагаў на «сакральную карову» Беларушчыны, паралельна назапашваючы тое-сёе ў сваіх творчых кладоўках. На ўсялякі выпадак. Каб было. Бо раптам здарыцца цуд, і мы ўсё ж такі дачакаемся таго міфічнага «залацістага, яснага дня», аб якім столькі марылі...



# Юнэля Сальнікава

крытык. Кандыдат філалагічных навук (2004). Магістар філасофіі (2009). За шэраг публікацыяў была ўзнагароджаная II прэміяй СБП у галіне літаратуразнаўства сярод маладых літаратараў (1999). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Гомелі. Жыве ў Гомелі.

# Анатоль Вярцінскі — вачыма трэцяга тысячагоддзя

Ці можа беларуская літаратура быць сучаснай? Сучаснай настолькі, каб, да прыкладу, творы са школьных падручнікаў былі цікавым чытвом для кібер пакалення? Наколькі маральныя сентэнцыі, дэклараваныя пісьменніцкай генерацыяй 1960-70-х, могуць быць актуальнымі для выхаванцаў онлайн гульняў і віртульных каштоўнасцяў?

Анталагічны (даруйце за пафас) роздум апаноўваў мяне, калі я перачытвала творы Анатоля Вярцінскага, нашага знанага паэта, якому напрыканцы 2011 года споўнілася 80 год. Вярцінскі — хрэстаматыйны ў простым сэнсе: паводле ягоных твораў уяўленне пра сучасную беларускую літаратуру складаецца з сярэдняй школы і ў даволі традыцыйным рэчышчы. Маральныя-этычныя сентэнцыі, патрыятычныя заклікі, вобразы вёскі, вайны, маці — знаёмыя імператывы айчыннага прыгожага пісьменства.

Вярцінскі — паслядоўны ў сваёй творча-грамадзянскай пазіцыі, гэтаксама як у бачанні ролі літаратуры. Пачынаючы з сярэдзіны мінулага стагоддзя і да сёння, паэт настойліва прапагандуе агульначалавечыя каштоўнасці як падставовыя для «правільнага» існавання. Ён не праблематызуе самі паняткі — «справядлівасць», «любоў», «маральнасць», для яго яны прыродныя, адвечныя, дадзеныя. Для паэта свет адназначны і зразумелы: ёсць дабро і зло, чорнае і белае. Без накручанай метафарызацыі і паліткарэктнасці творца дае гатовыя рэцэпты для «смачнага і здаровага» жыцця. Больш за тое, ён не прымае, калі іншыя спрабуюць хаваць свае думкі і жаданні за штучнымі перашкодамі: *Навошта столькі ім* [людзям] *туману // — Туману фальшу і падману?*

Вітаміны «М», «Д» і «Л» — адпаведна «маральнасць», «духоўнасць» і «любоў» — гэта праграмнае прызначэнне літаратуры, ін'екцыі (калі ісці за мовай Вярцінскага), якія літаратура мусіць прышчэпліваць свайму чытачу. Такі падыход пісьменнік акрэсліваў у сярэдзіне 1970-х гадоў, калі разважаў пра ролю літаратуры ў эпоху навукова-тэхнічнага прагрэсу. У трэцім тысячагоддзі навука і тэхналогіі крочылі непараўнальна далей, яны ўсё больш і больш запаўняюць сабой жыццёвую прастору чалавека, прэтэндуючы ў тым ліку на ягонае духоўнае жыццё. Ці не скончыўся тэрмін даўніны вітаміна «М»? Ці насамрэч такія пігулкі могуць падтрымаць жыццёвы тонус сучасных беларусаў?

З аднаго боку, непрыхаваная публіцыстычнасць заклікаў паэта падаецца наіўна-безабароннай. З цяжкасцю ўяўляю маладога чалавека, які перапошчвае ў фэйсбуку, скажам, такія радкі Вярцінскага:

*Любоў і лад узвышаюць,*
*вядуць за далягляд.*
*Варожасць і злосць прыніжаюць,*
*адкідваюць назад...* (1975)

І справа тут не ў папулярнасці ці непапулярнасці беларускага паэтычнага слова — у сацыяльных медыя дастаткова шмат паэтаў паспяхова прасоўваюць сваю творчасць. Ключавым тут уяўляецца момант атрактыўнасці, прыцягальнасці зместу. Паэтычная думка Вярцінскага зразумелая, празрыстая і ... традыцыйная. Яна не мае эфекту навізны — ні па кантэнту, ні па фармату, не прымушае сучаснага беларуса запыніць свой позірк сярод тэрабайтаў іншай інфармацыі і пераканацца ў простасці адвечных ісцін. Нарматыўны далягляд паэта насамрэч не задае новых каардынатаў, а паўтарае зноў і зноў вядомыя з дзяцінства маральна-этычныя выказванні бацькоў і настаўнікаў.

Праўда, для чытачоў з развітым спекулятыўным мысленнем і абцяжараных адукацыяй, датычна вышэй узгаданых радкоў могуць паўстаць пытанні як сама мала ў двух напрамках: што разумець, да прыкладу, пад словамі «любоў» і «варожасць», і чаму названыя словы, згодна кантэксту (і адпаведна аўтару), з'яўляюцца антаганістамі. Адказы з усяго мноства варыянтаў — у залежнасці ад адукацыі, жыццёвага досведу, сацыяльнага статусу чытача — могуць палягаць у працяглым семантычным кантынууме. Выключна з эўрыстычнай мэтай рызыкну прапанаваць пару опцый.

Калі разглядаць «любоў» і «варожасць» праз псіхааналітычную оптыку, то ў пэўным кантэксце яны становяцца праявамі аднаго феномену (лібіда) і адпаведна могуць прыніжаць і ўзвышаць адначасова (хаця, канешне, дзеясловы тут таксама патрабуюць асобнага тлумачэння). Для пакалення сацыяльных сетак «любоў» азначае like («падабаецца») — чым больш лайкаў, тым большы рэйтынг у онлайн-допіса. Варожасць жа інтэрпрэтуецца як «тролінг», выклікае не лайкі, а шквал непрыемных каментароў, хаця колькасць апошніх зноў такі павышае рэйтынг, а не «адкідвае назад».

Хутчэй за ўсё, сам аўтар разлічваў на больш традыцыйны падыход у тлумачэнні сваіх радкоў, у стылі паноўнай у другой палове мінулага стагоддзя школы сацрэалізму. У такім выпадку крытык павінен казаць пра высокі маральны-этычны ідэал творцы, устойлівыя жыццёвыя прынцыпы і нястомнасць у прапагандзе станоўчага вобраза сучасніка, які робіць свядомы выбар у барацьбе паміж добрым і лепшым.

Застаючыся ў рэчышчы мастацкага-ідэйнага аналізу, варта прызнаць, што творчая і асабістая паслядоўнасць выклікае павагу, прыхільнасць і нават зайздрасць. Вярцінскага немагчыма ўпікнуць у браку прынцыповасці і вернасці сваім устаноўкам. Цягам усяго творчага жыцця ён не стамляецца паўтараць розным пакаленням сваіх чытачоў адну і тую ж думку. Для параўнання:

*Я сцярплю усе яе [прыроды] няміласці,*
*і капрызы, і сюрпрызы ўсе.*
*Толькі аднаго —*
*несправядлівасці*
*чалавечы дух мой не знясе* (1965)
і

*«...сфармуляваць у дачыненні да ўсіх нас крэда: «Жыць па Законе!» А гэта, я думаю, амаль тое самае, што жыць па справядлівасці, жыць па праўдзе, жыць па сумленні»* (1995).

Паміж вершаванымі і публіцыстычнымі радкамі — адлегласць у трыццаць год, але само пасланне застаецца нязменным: існуюць пэўныя агульныя маральныя законы, без выканання якіх чалавек не можа называць сябе чалавекам. І хоць з часоў Арыстоцеля сутнасць і мэты маралі і маральнасці зведалі розную інтэрпрэтацыю, беларускі творца не паглыбляецца ў тлумачэнне свайго светапогляду — для яго больш важным з'яўляецца актуалізаваць духоўны складнік існавання, які ўсё больш выціскаецца з сучаснага жыцця, заклапочанага прагматыкай і індустрыяй забавак .

У прынцыпе паэтава стратэгія ўкладаецца ў тое, што цяпер называецца мэсіджам і ягоным прасоўваннем. Простыя, адназначныя паняцці і пажаданыя спосабы паводзінаў настойліва транслююцца мэтавай аўдыторыі з тым, каб яна іх успрыняла і пачала выкарыстоўваць у штодзённым жыцці. Насамрэч, каб дагрукацца да чалавека, неабходна паўтараць адно і тое ж планамерна і настойліва (узгадайма хаця б прыёмы рэкламістаў).

Ёсць прыклад, калі Вярцінскі свядома дублюе адно і тое ж пасланне ў межах аднаго верша. Гэты свой твор паэт называе «Параўнанні» (1997), хаця дакладней яго было б назваць «Паўтарэнні», бо чатыры разы (!) з розных пунктаў гледжання даносіцца адна і тая ж выснова. Праілюструю, як магчыма ненавязліва, але настойліва трансляваць мэсідж у вершаванай прасторы (*прыходзяць на падмогу параўнанні//* і *высвятляюць маёй тэмы грані*), радкамі з названага твора.

Хаатычны рух людзей на чыгуначным вакзале нагадвае творцу сённяшніх беларусаў на новым гістарычным раздарожжы — *вось так мітусліва снуем,// кідаемся ў розныя бакі, //бяжым кожны на свой цягнік...// Замест таго, каб збірацца разам.* У гадзіннікавай майстэрні з разладжанымі механізмамі ён прыходзіць да высновы: *Мы — народ без спраўнага// адзінага для ўсіх гадзінніка.* Цыганская сварка ў двары зноў такі бачыцца паэту як сучасная Беларусь з ейнай «вайной усіх супраць усіх». І нарэшце, трызненне пра спуджаны натоўп, «овчы пэнд», які мітусіцца і кідаецца ў розныя бакі, узмацняе роздум паэта пра надзённы момант у лёсе беларускай нацыі на шляху яе найноўшага станаўлення.

Чаго імкнецца дасягнуць творца сваім рэфрэнам? Абудзіць народ? Заклікаць да яднання ды стваральнай дзейнасці? Гэта далёка не рытарычныя пытанні, і паэт сам дае на іх адназначны адказ: актыўнасць і дзеянне з'яўляюцца неабходнымі складнікамі сучаснага жыцця. Вершы Вярцінскага — гэта не чыстыя развагі і роздум, паводле зместу яны надзвычай дынамічныя за кошт насычанасцю лексемамі, якія абазначаюць рухі, працэсы, справы, учынкі.

*Хай там узлёт ці падзенне,*
*удача ці няўдача, —*
*толькі ні дня без падзеі,*
*без радасці і плачу.*
*Толькі ні дня без падзеі!* (1968)

Паэт не ўдакладняе, што канкрэтна павінен рабіць чалавек. Складаецца ўражанне, што творца настолькі давярае свайму чытачу ў ягонай «правільнай» арыентацыі, што сваёй мэтай бачыць толькі матываваць на актыўнасць.

Падобна на тое, што і скіраванасць, і начынне вершаў Вярцінскага — гэта імкненне дасягнуць перфарматыўнасці. У тэорыі маўленчых актаў гэты тэрмін тычыцца выказванняў, якія выступаюць не толькі ў якасці апісання некаторых дзеянняў, але і самі з'яўляюцца дзеяннямі. Зрэшты, насычаная грамадска-палітычная біяграфія Вярцінскага з'яўляецца лепшым доказам дзейснасці ягонай творчасці. Але ж клопат паэта — перадусім пра свайго чытача і жаданне дабіцца ад яго актыўных рухаў у накірунку маральнага і нацыянальнага сталення.

Дэклараванне выразнай грамадзянскай пазіцыі — захаванне беларускай мовы і нацыі — гэта яшчэ адна максіма творцы. Патрыятычны складнік творчасці Вярцінскага выражаецца зноў такі даволі традыцыйна — праз вобразы вёскі і маці, але спосаб іх апісання адметны. Паэт унікае падрабязнасцяў і дэталізацыі знаёмых для многіх беларусаў вобразаў «малой радзімы», якія тым не менш паўстаюць з надзвычайнай сілай. Гэта дасягаецца за кошт пранізлівай інтымнасці і асабістай адкрытасці творцы.

У шэрагу вершаў ён выяўляе свае перажыванні ў звязку з зыходам маці, якая малюецца не проста як абстрагаваны вобраз, а як вельмі канкрэтны чалавек, які адыгрываў вызначальную ролю ў жыцці паэта.

*Вось твой лясок.*
*Вось твой пясок.*
*Вось твае сосны.*
*Твая яма.*
*Пачуць бы яшчэ раз:*
*«Сынок».*

*Паклікаць бы яшчэ раз:*
*«Мама»* (1966)

Ціхая эмацыйная надрыўнасць кранае, тым больш, што прыходзіць разуменне, што разам з маці паэт страціў і частку радзімы — таго духоўнага космасу, які фармуе сутнасць і прызначэнне чалавека.

У творцы выразна адсочваецца ягонае ўспрыняцце радзімы — гэта людзі, і не проста ананімны народ, а ў першую чаргу найбольш духоўна чулыя ягоныя прадстаўнікі — беларускія пісьменнікі. Вярцінскі з такой надзвычайнай цеплынёй піша вершы і крытычныя нататкі пра сваіх калег, што гэта бачыцца не проста данінай павагі, а святарным стаўленнем да персаніфікаваных сталпоў нацыі.

Купала, Колас, Цётка, Пімен Панчанка, Алесь Адамовіч, Янка Брыль, Васіль Быкаў, Еўдакія Лось, Ніна Мацяш... паўстаюць са старонак Вярцінскага — пафас запазычаны ў самаго паэта — абгрунтаваннем і прычынай захавання беларускай нацыі. Творца ўзводзіць майстроў айчыннага слова ў сонм святых, пры чым без перабольшвання, доказам чаму з'яўляецца верш «Здарэнне ў судны дзень, або Ніл Гілевіч як аргумент» (2007).

Згодна сюжэта твора, Хрыстос даруе беларускаму народу цяжкі грэх — занядбанне роднай мовы, паколькі сярод іх знайшоўся Ніл Гілевіч, які

*...мову родную прыняў з маленства*
*як запаветны скарб, як Божы дар,*
*хто потым на шляху жыццёвым*
*быў верны ёй і вусна, і пісьмова,*
*быў верны ёй і ў радасці, і ў горы...*

Цяпер становіцца зразумелым, чаму пісьменнік столькі болю і ўвагі надае апісанню сваіх перажыванняў з нагоды зыходу творцаў, бо разам з гэтым ён страчвае ўвасабленне сваіх ідэалаў і становіцца самотным у выкананні сваёй місіі данясення да чалавека гуманістычных ідэалаў.

Як бачым, вершы Анатоля Вярцінскага вытрымліваюць сучасныя оптыкі прачытання, хаця і з некаторым скажэннем першапачаткова ўкладзенага зместу. Мне падаецца больш істотным тое, што беларуская літаратура — пры ўсёй ейнай нібыта зразумеласці і прачытанасці — мае агромністы, недаследаваны патэнцыял: гэта не проста архіў духоўных скарбаў, але і дзейсны сродак уплыву на сучасніка. Цяпер, як і раней, надзённай задачай застаецца ўсталяванне трывалага камунікацыйнага канала паміж пісьменніцкай супольнасцю і ейнымі чытачамі.



# Ася Паплаўская

журналіст, крытык. Друкавалася ў часопісах «Дзеяслоў», «Верасень», тыднёвіку «ЛіМ», газеце «Літаратурная Беларусь» і іншых выданнях. Нарадзілася ў 1988 годзе ў Таржку (Расія). Жыве ў Мінску.

# Сучасная літаратурная крытыка: суб'ектыўна-віртуальны мікс

**Сёння беларуская літаратурная крытыка перажывае ярка выражаныя змены, што тычацца і зместу, і формы крытычных тэкстаў. Гэта можна патлумачыць зменай месца і ролі крытыкі ў сучасным літаратурным працэсе.**

**Калі раней літкрытыка мела на мэце прааналізаваць твор, даць ацэнку творчай дзейнасці пісьменніка, паказаць аўтару як вартасці, так і хібы твораў, то цяпер крытыкі хутчэй рэкламісты і папулярызатары, чым аналітыкі. Сучасны крытык, больш-менш запатрабаваны чытацкай аўдыторыяй (калі ў цяперашніх варунках беларускай літаратурнай сітуацыі наагул карэктна весці гаворку пра запатрабаванасць), — гэта публіцыст, які ўмее дасціпна, востра і жыва напісаць пра з'явы літаратурнага і калялітаратурнага жыцця.**

**Літаратурна-мастацкая крытыка паступова адыходзіць ад неабходнасці глыбокага аналізу мастацкіх твораў (што, безумоўна, звязана з агульнакультурнай сітуацыяй у краіне) да больш простых формаў асэнсавання рэчаіснасці. У беларускім друку назіраецца развіццё перспектыўнай сёння літаратурнай журналістыкі ды сыход крытыкаў у інтэрнэт.**

## Суб'ектыўнасць — сястра асобаснасці...

Аналізуючы стан сучаснай літаратурнай крытыкі, нельга не заўважыць наяўнасць у ёй суб'ектыўнага фактару, які апошнім часам нярэдка становіцца асновай тэксту. Злоўжыванне ацэнкамі і аргументамі, што грунтуюцца на асабістым стаўленні крытыка да твора ці да яго аўтара (што адбываецца часцей), набліжае крытычныя тэксты да навязвання асабістых поглядаў крытыка чытачам.

З'яўленне і далейшае развіццё суб'ектыўнага фактару абумоўлена так званай «персаніфікацыяй» (аўтарызацыяй) дзейнасці журналіста наогул і крытыка, у прыватнасці. Да аўтарызаванай крытыкі звяртаюцца як маладыя, так і сталыя літаратары. Маладыя — каб найбольш ярка заявіць пра сябе, сталыя — каб падзяліцца досведам пражытых гадоў.

Суб'ектыўнага фактару ў крытыцы, вядома, не пазбегнуць, але ўсё ж варта трымацца аб'ектыўнасці. Аналізуючы персаніфікацыю крытычных тэкстаў як шляху да суб'ектывізацыі літаратурнай крытыкі, я абрала тэксты актуальнага літаратурнага крытыка Леаніда Галубовіча.

Леанід Галубовіч — асоба супярэчлівая і прыцягальная. Ён піша, арыентуючыся як на людзей сталага веку, так і на моладзь. Ён умее пісаць востра, асобасна і найчасцей палемічна. Не дзіва, што менавіта яго тэксты становяцца прычынай з'яўлення на старонках літаратурна-мастацкіх выданняў шэрагу артыкулаў-адказаў.

Прааналізаваўшы матэрыялы яго аўтарскай рубрыкі «ЛеГалІЗАЦЫЯ» ў газеце «Літаратура і мастацтва», нельга не заўважыць яўны ўхіл Л. Галубовіча ў бок выразнай ацэначнасці. Стылёвыя асаблівасці разглядаемай кнігі  часта нават не ўзгадваюцца аўтарам, не тое што аналізуюцца. Калі і заходзіць размова пра стыль пісьменніка, то нярэдка ў ацэнцы прысутнічае слова «можа»: «*А. Пісьмянкоў, можа, залішне халаднаваты і дакладны (цвярозы) у змесце...*» («ЛіМ», 19 снежня 2003 г.). Часам сустракаемся і са словам «падаецца»: «*Мне падаецца, што ў пераважнай большасці творчасць сучаснай літаратурнай моладзі не мае пад сабой устойлівага класічнага фундамента*» («ЛіМ», 27 лютага 2004 г.).

Часам сваёй прасталінейнасцю Л. Галубовіч прымушае шчыра парадавацца ўменню не баяцца быць выкрытым у радыкальным суб'ектывізме, часта некампетэнтнасці. У матэрыяле пра кнігу праблемных артыкулаў, літаратурных партрэтаў, эсэ, успамінаў Дзмітрыя Бугаёва «Служэнне Беларусі» («ЛіМ», 9 студзеня 2004 г.) ёсць такі сказ: «*Нават не магу вам патлумачыць, чаму пачаў з гэтай фразы*». І далей: «*Мабыць, дарэшты стаміла і сама літаратурная праца і бесперапыннае асэнсаванне самой літаратуры. Тут і нервовыя перакосы, і інэрцыя мыслення і стылю...*» Крытык нібыта робіць ласку пісьменнікам, а разам з тым і чытачам, і нават не хавае гэтага. «*Што ж, чытач, пагартай кніжку і ты. Магчыма, там-сям зловіш мяне на несправядлівасці ў маіх ацэнках, зрабіўшы скідку аўтару на яго маладосць і малавопытнасць*» («ЛіМ», 9 студзеня 2004 г.); «*...я ўсведамляю і нават уяўна прадбачу рэакцыю паэта на гэты мой чыста суб'ектыўны тэкст...*» («ЛіМ», 12 сакавіка 2004 г.).

9 студзеня 2004 г. чытаем у арыткуле Л. Галубовіча: «*Не буду хлусіць, што кожную рэпрэзентаваную тут кніжку чытаю цалкам, — гэта фізічна немагчыма, але ж і не стаўлю канчатковых і неабвержаных крытычных пячатак, а толькі выказваю сваё суб'ектыўнае стаўленне да пэўнай кніжкі і яе аўтара, якое выяўляецца як сярэдне-арыфметычнае з розных складнікаў: выбарачна прачытанай часткі кніжкі, асабістага ведання аўтара, яго ранейшай творчасці і яго месца ў сучасным літпрацэсе...*

*Я не вешаю пісьменнікам бірак і не рассаджваю іх па вызначаных мною (ці некім іншым) месцах на літаратурным А«ЛіМ»пе, а проста спрабую пазнаёміць чытача з канкрэтным літаратарам і яго кніжкай. А яшчэ я хачу прывучыць беларускага чытача (і аўтара) да крытычнага мыслення і светаўспрымання...*»

Значыць, кнігі, што аналізуюцца, часта не прачытаныя цалкам. А часам складваецца ўражанне, што не прачытаныя зусім. Аўтарская рубрыка Галубовіча выходзіла кожны тыдзень (рэдка, праз адзін; яшчэ радзей — праз два). Натуральна, што адолець за 7 дзён тры кнігі фізічна немагчыма (Л. Галубовіч паралельна друкаваў свае крытычныя матэрыялы і ў іншых рубрыках газеты, прычым нярэдка на выданні бягучага года).

Нумар, у якім змяшчаюцца ўсе гэтыя «душэўныя выліванні», адкрывае цытата Вікторыі Шохінай. Не магу не прывесці яе тут — яна (а дакладней, яе публікацыя ў нумары) многае тлумачыць: «*Ідэальны крытык адкідвае ўсё занадта чалавечае. Ён знаходзіцца ў свеце чыстых сутнасцей, у свеце, дзе няма месца простым чалавечым пачуццям, а галоўнае — слабасці. Ідэальны крытык не піша оды сваім і філіпікі — чужым. Няма для іх ні сваіх, ні чужых — ёсць толькі тэкст... Ідэальнаму крытыку няма справы да таго, што Ікс адной з ім крыві.Толькі выключыўшы цалкам чалавечы фактар, крытык зможа больш ці менш адэкватна апісаць/ацаніць цела тэксту. Усё іншае — варожая агентура... Прыкідваючыся крытыкамі, яны нібыта вядуць бой за Сапраўднае Мастацтва. А на самой справе — планамерна знішчаюць яго*» («ЛіМ», 9 студзеня 2004 г.).

Пасля такіх слушных словаў чытаць вышэйпрыведзеныя «адкрытасці» Галубовіча прынамсі ніякавата. Ён сам выносіць сабе прысуд: неадэкватны крытык, варожы агент, барацьбіт з Сапраўдным Мастацтвам, ягоны знішчальнік...

30 студзеня 2004 г. пра кнігу Івана Лашуткі «Святло слова» крытык піша: «Вось парадокс! Пішаш, пішаш, крытыкуеш гэтых *няшчасных* беларускіх вершаскладальнікаў, а яны — не, каб агрызнуцца «*ды ў пысу*», але — хочаце верце, хочаце не — нават цёпла са мной рукаюцца пры сустрэчы і дасылаюць свае новыя зборнікі для рубрыкі «ЛеГалІЗАЦЫЯ». Значыць, піша ўсё гэта Л. Галубовіч у такой манеры, каб, па-першае, яму набілі «пысу» (дакладней, каб «пашкадаваць», што так і не набілі...), па-другое — лішні раз звярнуць на сябе ўвагу.

Часам сутыкаемся з занадта катэгарычнымі і рэзкімі ацэнкамі, пазбаўленымі элементарнага такту, выходзячымі за межы этыкі. Так, пра кнігу Фёдара Палачаніна «Не сваявіна» («ЛіМ», 9 студзеня 2004 г.) крытык піша наступным чынам: «150 старонак тэксту на бура-шэрай паперы не праяснілі майго хранічна-негатыўнага стаўлення да тэатра і драматургіі». Ацэнку вышэйназванай кнізе Л. Галубовіч дае наступную: «Хоць і трагедыя *ў натуры*, але ж лажа несусветная». І далей: «І аўтар (і выдавецтва!) хочуць, каб я ўсё гэта прачытаў?! Не дачакаецеся!» Быццам кнігі пішуцца толькі для аднаго Леаніда Галубовіча.

Варта адзначыць, што часам крытык усё ж слушна падкрэслівае цынізм у творчасці разглядаемых аўтараў. Напрыклад, у матэрыяле на кні-

гу А. Хадановіча «Лісты з-пад коўдры» натрапляем на слушную заўвагу: «...падчас прага быць «*своим парнем*» перад моладзевай аўдыторыяй прыводзіць да вульгарных і нават цынічных (няхай і не наўмысных і несвядомых) вершаваных эскападаў дзеля імгненнай дагоды сваім прыхільнікам у стварэнні новага (*постмадэрновага*) погляду на *прамінулыя* тэмы савецкага ладу жыцця. Скажам, *загуляўшыся* з вершам Янкі Купалы «Хлопчык і лётчык» (верш «Хлопчык і копчык»), спадар Андрэй можа напісаць так:

*Тры дні цябе трэсла й ламала,*
*І копчыкам біла аб лёд.*
*Табе гэта, можа, і мала,*
*А мне — ляцець толькі ў пралёт.*
*Мы зрэшчы і так ў пралёце,*
*Нашто нам маскоўскі гатэль?*

Ці не менш цынічныя пасылы да страшнай ваеннай трагедыі:

*робіць аборты?*
*Бо акушэр*
*кожны чацвёрты*
*мёртвы мон шэр.*

Творца без вычування меры і гармоніі — нонсэнс. Можа, каб паэт быў менш заклапочаны на сваім іміджы і літаратурным рэнаме (я, безумоўна, разумею яго творчае эга, папулярызацыю вершавання, а заадно і прапаганду беларускай мовы і літаратуры), то ў яго заставаўся б час на **тварэнне** асабовай выбітнай біяграфіі, неаддзельнай ад крыві і плоці. Бо ўсякая творчасць вымагае адэкватнай платы. І чым яна вышэй, тым большая плата. Геніі за **сваё** аддаюць **сябе** дарэшты...» («ЛіМ», 12 сакавіка 2004 г.)

Пераход на асобы — характэрная рыса крытыкі Леаніда Галубовіча: «Пражыць з такім талентам сорак гадоў у творчай адзіноце і не аказацца на ўзбочыне жыцця не кожнаму ўдаецца. Ёй удалося» («ЛіМ», 13 лютага 2004 г.). Заканчвае матэрыял Л. Галубовіч паказальна: «Што ж, гульня — гульнёй, постмадэрн — постмадэрнам. Я таксама не без галавы і ўсё разумею. Няхай хлопцы дурэюць, пішуць, практыкуюцца. Але ці не забавіліся яны каторы год вучыцца ў адным і тым жа *майстар-класе*. Пара б здаваць іспыты на творчую сталасць і не смяшыць публіку ў *куртуазных* салонах».

Любіць Леанід Галубовіч падкрэсліць асабістае знаёмства з аўтарамі: «...прынёс мне Юрась Нераток свой рукапіс вершаў» («ЛіМ», 12 снежня 2003 г.), «Сам жа Уладзімер Аляксеевіч [Арлоў]... накрэсліў на падараванай майму сямейству кніжцы...» (там жа), «Што да мяне, то я, наколь-

кі памятаю, прайграў спадару Жуковічу ўсе свае «палымянскія» партыі» («ЛіМ», 16 студзеня 2004 г.). Калі няма прамых сведчанняў сутыкнення па жыцці, то ЛеГал паказвае хаця б ускоснае дачыненне да аўтара: «Я даўно меў пожад пачытаць вершы менавіта Караля Вайтылы...» («ЛіМ», 12 снежня 2003 г.). Напрыклад, размову пра кнігу Юрася Нератка «Фотаальбом» ён пачынае словамі: «Яшчэ вясной прынёс мне Юрась Нераток свой рукапс вершаў, а заадно папрасіў напісаць і прадмоўку да яго...» («ЛіМ», 12 снежня 2003 г.). Пра кнігу вершаў Анатоля Вярцінскага «Жанчына. Мужчына. Каханне..» («ЛіМ», 19 снежня 2003 г.) піша: «Люблю і паважаю Анатоля Вярцінскага. І як паэта, і як чалавека... Магчыма, у нас блізкія ўяўленні пра гэты свет і жыццё ў ім, можа, яшчэ што... Адным словам., ёсць такая прыхільнасць...»

Ці не ёсць стаўленне сябе ў адзін шэраг з Анатолем Вярцінскім па «ўяўленнях пра гэты свет і жыццё» спробай паставіць сябе побач і ў шэрагу паэтычным з чалавекам, імя якога, паводле словаў Галубовіча, «не прыжылося ў таўталагічным літаратурным радзе, што выснаваўся ў адраджэнцкім друку»?.. «А, як для паэта, то няма вышэй атэстацыі, чым выбівацца з ведамай катэгорыі сваёй адметнай самасцю», — такую высокую адзнаку дае крытык А. Вярцінскаму. А ўскосна і сабе, ягонаму «прыхільніку». Бо любіць значнае і высокае — таксама быць значным і высокім. Хаця б часткова.

Такое адчуванне, што ЛеГал паставіў сабе за мэту аспрэчваць сваёй крытыкай усе ўласныя заўвагі тым жа крытыкам ці пісьменнікам. Заканчваецца дадзены матэрыял паказальна для Л. Галубовіча: «Я спадзяюся, што добра *знаёмы* мне аўтар (з крытычным мысленнем) не пакрыўдзіцца на мае заўвагі...».

Часам баіцца Галубовіч пакрыўдзіць пісьменніка. Нярэдка сустракаем у яго выказванні кшталту: «Спадзяюся, без крыўды для аўтара» («ЛіМ», 12 снежня 2003 г.), «Арлоў пакрыўдзіўся б» (там жа), «Іван Лашутка, пэўна ж, у глыбіні душы пакрыўдзіцца на мяне за тую, і над ім таксама зверху навіслую, груваступю гурбу маіх грубаватых слоў...» («ЛіМ», 30 студзеня 2004 г.), якія, зрэшты, не замінаюць Л. Галубовічу быць залішне рэзкім, а часам і катэгарычным у выказваннях і меркаваннях, што ён і сам прызнае, і што вынікае з апошняга прыкладу: «Паколькі Павел «балюча рэагуе на крытыку...» («ЛіМ», 27 лютага 2004 г.).

Нягледзячы на ўсю сваю рэзкасць, катэгарычнасць, непрыхаваны суб'ектывізм ацэнак, крытычныя тэксты Леаніда Галубовіч цікавыя і запатрабаваныя. Чаму? Усё проста: піша ён з добрай доляй іроніі: як да герояў публікацый, так і да сябе. Умее незласліва пакпіць і з сябе, і з уласных тэкстаў... Гэта і прыцягвае.

## Галоўнае — зачапіць чытача

Сёння істотна не столькі прааналізаваць твор, колькі звярнуць на яго ўвагу чытача. Як вынік мадыфікуецца і прырода крытычных тэкстаў. Зараз крытыка — не толькі спосаб праявы асобы крытыка, але і самастойны мастацкі твор.

Літаратурны крытык, літаратуразнаўца Ірына Шаўлякова кажа пра месца і ролю ліккрытыкі ў сучасным літаратурным працэсе: «У апошнія гады я следам за Леанідам Галубовічам усё з большай пэўнасцю пераконваюся, што крытыка сапраўды становіцца «чацвёртым літаратурным родам» (у дадатак да эпасу, лірыкі і драмы)»*.

Імкненне да апелятыўнасці і экспрэсіўнасці з'яўляецца асновай развіцця сучаснай крытыкі. Крытыкі, якія не адчуваюць неабходны ўзровень запатрабаванасці чытацкай аўдыторыяй сваёй працы, адыходзяць ад састарэлых канонаў разгляду твора, якія склаліся яшчэ ў савецкія часы, намагаюцца разнастаіць свой тэкст не толькі праз розныя спосабы падачы матэрыяла, але і праз форму, а таксама стылістычныя асаблівасці маўлення. Часцымі ў крытычных тэкстах з'яўляюцца прамыя звароты да чытача, імкненне абудзіць чытацкую рэакцыю. Калі такія сродкі становяцца нядзейснымі, то крытыкі (прафесійныя, альбо крытыкі-пісьменнікі) ствараюць максімальна правакацыйныя тэксты.

Калі разумець літаратурную крытыку як «мастацтва ацэньваць», як літаратурныя творы розных жанраў (артыкулы, рэцэнзіі, нататкі, эсэ і інш.), прысвечаныя ацэнцы, разбору і вытлумачэнню літаратурна-мастацкіх твораў, яна паўстае адным з важнейшых складнікаў літаратурнага працэсу. Галоўным аб'ектам адлюстравання крытыкі з'яўляецца бягучы літаратурны працэс. Прадметамі адлюстравання становяцца стваральнікі і вынікі бягучага літпрацэсу (суполкі, літманіфесты, падзеі, творы і г.д.). Пры гэтым увага крытыкі канцэнтруецца найперш на тых з'явах, складніках літпрацэсу, што ўсведамляюцца як актуальныя. Да таго ж, у сучаснай крытыцы адной з самых вострых і актуальных праблем становіцца праблема асэнсавання ролі самой крытыкі і далейшых шляхоў яе развіцця.

Крытык у ідэале імкнецца да ахопу шырокай аўдыторыі, але ў рэальнасці яна разлічаная (і можа разлічваць — у бліжэйшай перспектыве) на чытача калі не прафесійнага, то прынамсі падрыхтаванага.

Ці можа літаратурная крытыка выканаць складаную для цяперашняй культурнай сітуацыі задачу: зацікавіць чытача, прыцягнуць і ўтрымаць яго

* Паплаўская А. Родныя вобразы. — Ірына Шаўлякова пра сучасны стан літаратуразнаўства і крытыкі [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступа: http://rv-blr.com/litaratura/view/2283. — Дата доступа: 01.05.2011.

ўвагу? Ці крытыка мусіць сёння вытлумачваць для чытача тыя рэчы, якія без інтэрпрэтацыі застануцца ім папросту незразумелымі? Відавочна, што дзеля таго, каб «дагрукацца» да чытача, крытыкі ўзмацняюць публіцыстычнасць выказвання, набліжаючы свае тэксты да журналісцкіх, трансфармуючы жанр сваіх тэкстаў.

## За літаратурнай журналістыкай — будучыня?

Даўно ўжо стан сучаснай літаратурнай крытыкі (зрэшты, не толькі літаратурнай) характарызуецца як крызісны. Крытыкаў мала, моладзь нашмат ахвотней ідзе ў «няпыльную» арт-журналістыку. Такім чынам, можна меркаваць, што цікавасць да мастацкай крытыкі падае не толькі сярод чытачоў, але і сярод літаратараў.

Даследчык розных праяў журналістыкі Арлова Т. Д. напісала кнігу «Музычная журналістыка», у якой абгрунтавала перакананне ў тым, што і такі асобны самастойны і цэласны від журналісцкай дзейнасці існуе: «Тэрміна «Музычная журналістыка» ні ў адным даведачным выданні няма. Можна сустрэць два паняцці — «музыказнаўца» і «музычны крытык» Музычная журналістыка вырасла з іх і абазначае дваякую прыналежнасць: з аднаго боку, да музыкі, з другога — да журналістыкі»*.

Хіба не тая самая сітуацыя і з літаратурнай журналістыкай? Маем два тэрміны: літаратурная крытыка і літаратуразнаўства. Пры гэтым не стамляемся паўтараць, што крытыка стала бяздоказнай, неабгрунтаванай, занадта эмацыйнай, асобаснай не ў меру... Атрымліваецца парадаксальная сітуацыя: гаворым пра крытыку, ды заўжды з нейкімі «але». Маўляў, хоць мы і называем гэта крытыкай, але ж сёння гэта ўжо не тая крытыка, што была некалі.

Выразная публіцыстычная прырода крытычных тэкстаў, пра што вялася гаворка вышэй, сведчыць пра тое, што сёння мы маем справу з новай унікальнай з'яваяй: літжурналістыкай.

Літаратурная журналістыка, як адно з тэматычных падраздзяленняў журналістыкі, кіруецца пэўнымі прынцыпамі. Гэта аператыўнасць, дастовернасць і аб'ектыўнасць інфармацыі, усебаковасць разледжання праблем. Літжурналісты скарыстоўваюць найчасцей наступныя жанры: нататка, інтэрв'ю, рэпартаж, эсэ. Выкарыстоўваюцца метад інтэрв'ю, эсэ, палемікі.

Літаратурная журналістыка, як і музычная — на мяжы паміж журналістыкай і літаратурай. Літаратурны журналіст працуе як у стандартных журналісцкіх жанрах: інтэрв'ю, рэпартаж, карэспандэнцыя, так і ў жанрах літкрытыкі: рэцэнзія, анатацыя, літаратурны партрэт... Акрамя гэтага, літа-

* Орлова, Т. Музыкальная журналистика / Т. Орлова. — Минск: Современные знания, 2007. — 132 с.

ратурны журналіст — яшчэ і кніжны аглядальнік. Літаратурны журналіст — гэта сінтэз журналіста, літаратурнага крытыка і кніжнага аглядальніка.

## Віртуальная сучаснасць і сучасная віртуальнасць

Літаратура ўсё актыўней заваёўвае віртуальную прастору. У інтэрнэце пісьменнікі як выкладаюць творы, што публікаваліся ў друкаваных выданнях, так і ствараюць так званую «сеціўную літаратуру». Літаратурная крытыка, прадстаўленая ў віртуальнай прасторы, як і ўсе журналісцкія тэксты ў інтэрнэце, жанрава мадыфікаваная. Яна падначальваецца законам інтэрнэт-журналістыкі.

Інтэрнэт-журналістыка мае свае асаблівасці. Найперш, гэта журналістыка малых (па аб'ёме) формаў. Цяжка ўявіць сабе чалавека, які будзе чытаць on-line больш за 8-10 тысяч знакаў. Пажадана, каб матэрыял быў разбіты на рубрыкі з падзагалоўкамі і выкарыстоўваліся даступныя сродкі вылучэння ( курсіў, падрэсліванне, маркіраваныя спісы і г.д.), што надаюць тэксту больш зручную для чытача форму.

Варта адзначыць, што інтэрнэт-журналіст піша не тэкст, а гіпертэкст (гэта значыць, што аўтарам трэба арыентавацца на пошукавыя сістэмы ў інтэрнэце, якія індэксуюць тэксты па наяўнасці ў іх ключавых словаў). Істотнай асаблівасцю інтэрнэт-журналістыкі з'яўляецца і яе інтэрактыўнасць, то бок магчымасць уступаць у дыялог з зацікаўленымі чытачамі з дапамогай форумаў, магчымасці каментавання матэрыялаў.

Інтэрнэт-крытыка падпарадкоўваецца ўсім правілам, што характэрныя для інтэрнэт-журналістыкі. Крытыка, што пішацца для сайтаў, мае публіцыстычны характар — дзеля таго, каб з мора інфармацыі, што друкуецца штодня на сайтах, аўтар спыніўся менавіта на тэксце крытыка. Не толькі заўважыў яго, але і прачытаў да канца. Крытыкі стараюцца «чапляць» чытача інтрыгуючымі сказамі.

Часта напачатку тэкста крытык каротка знаёміць чытача з асобай пісьменніка, каб не прымушаць шукаць біяграфію творцы ў пошукавых сістэмах: «Алесь Аркуш — паэт, эсэіст, стваральнік Таварыства Вольных Літаратараў, але перад усім — ідэолаг новай культуры. Адзін з апошніх камісараў беларускай літаратуры, якая перастала быць рэгулярнай арміяй пісьменнікаў, а разбрылася па рэгіёнах і суполках» (Г. Кісліцына, «Проста голас», партал Літараnet).

Ацэнка аўтарам твора можа выражацца характарыстыкамі «падабаецца — не падабаецца», «раю — не раю», «варта ўвагі — не варта ўвагі»: «Часопіс толькі-толькі з'явіўся і ўсе жадаючыя могуць яго набыць. Ён таго варты» (Г. Кісліцына, annahonda.livejournal.com).

Часта пры напісанні крытычнага тэксту для інтэрнэт-выдання крытыкі занадта спрашчаюць свае тэксты, альбо настолькі паглыбляюцца ў рэфлексіі, што забываюць пра сутнасць хоць і кароткай, але рэцэнзіі.

«Інтэрнэт-крытыка паўстае як «short-short-крытыка». Скажам, традыцыйны жанр кароткай рэцэнзіі ў інтэрнэт-крытыцы можа ў хуткім часе ператварыцца ў квазірэцэнзію. Якімі б «рэвалюцыянерамі» (ці «піянерамі») ад крытыкі сённяшнім яе стваральнікам ні хацелася б здавацца, вандруючы з рэальнай прасторы ў віртуальную і наадварот, яны мусяць мець пры сабе (для пачатку!) мінімальны набор прафесійных «ведаў-уменняў-навыкаў» — каб утрымлівацца ў межах прафесіі і мець магчымасць гаварыць пра свае тэксты як пра літаратурную крытыку, не выдаючы за іх раздражнёныя рэфлексіі ці благанні «па матывах літаратуры», — лічыць Ірына Шаўлякова.*

* Паплаўская А. Родныя вобразы. — Ірына Шаўлякова пра сучасны стан літаратуразнаўства і крытыкі [Электронны рэсурс]. — Рэжым доступа: http://rv-blr.com/litaratura/view/2283. — Дата доступа: 01.05.2011.



# Леанід Дранько-Майсюк

паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг: «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

# «Яно добра было б, каб так было...»

***15 сакавіка 1993 г.***

У аповесці «Нядоля Заблоцкіх» ёсць два сказы, у якіх Лукаш Калюга змясціў, бадай што, усю сутнасць беларускага характару:

«Яно добра было б, каб так было, як Савосту трэба. Але спрадвеку вядома, што сама лепш так, як яно само ёсць».

***16 сакавіка 1993 г.***

Тэатр і палітыка.

Старшыня Народнага сакратарыята Беларусі Язэп Варонка быў тэатральным крытыкам, друкаваў свае нататкі ў пецярбургскім часопісе «Театральное обозрение».

Тэатральным рэцэнзентам быў і яшчэ адзін «кіраўнік» Беларусі — Мяснікоў...

***17 сакавіка 1993 г.***

Можна застацца ў памяці нашчадкаў, напісаўшы паэму «Новая зямля».

А можна неяк і па-іншаму, асабліва калі бракуе маралі.

Таксама слава — слава, якая смярдзіць.

***18 сакавіка 1993 г.***

Сёння Вялікдзень.

Іду ў піўную, якая ў двары кінатэатра «Перамога».

У чэрвені 1981-га ў гэтай півярні я ўпершыню выпіў з Міхасём Стральцовым, і з таго часу яна для мяне — «Ядлоўцавы куст».

Па Турэмнай (Інтэрнацыянальнай) ляцела паветра, перамешанае з калючым пылам, і я ўспомніў назву няскончанага рамана Кузьмы Чорнага «Вецер і пыл»...

Увечары пазваніў Някляеву.

Ён пахаваў бацьку, а тры тыдні таму пахаваў маці...

***19 сакавіка 1993 г.***

Чытаю п'есы Кузьмы Чорнага — «Бацькаўшчына», «На скрыжаванні дарог», «Базылевічава сям'я».

Неяк пры мне Віктар Карамазаў сказаў Міхасю Стральцову:

— Кожны празаік павінен напісаць хоць бы адну п'есу!

Было гэта ўлетку, у годзе 1984-м; мы (Стральцоў і я) стаялі пры ўваходзе ў тры рэдакцыі («Лім», «Полымя», «Беларусь»), а Карамазаў якраз падышоў з «Кнігарні пісьменніка», дзе купіў зборнік нейкіх п'ес...

Стральцоў нічога не адказаў — не пакідаючы курыць, адно квола ўсміхнуўся.

***21 сакавіка 1993 г.***

«Быў непаваротны, цельпукаваты Адась Банькоўчык — акурат традыцыйны герой беларускае літаратуры...» — гэта з апавядання Лукаша Калюгі «Цеснаватая куртачка».

У рамане «Пустадомкі» ёсць Уальдавы ноты:

«Абы талент — усё будзе даравана. Трэба толькі яснымі ранішнімі вачыма пазіраць на свет. Пакумейка прызнаўся, што ў самога яго ёсць гэты ранішні позірк. Напрыклад: Езуса на крыжы шмат хто за сімвал укрыжаванае краіны мае, а Пакумейку здаецца, што ён проста на сваёй высокай шыбеніцы робіць гімнастыку, каторая развівае плечукі».

***28 сакавіка 1993 г.***

Учора — дзень тэатра; віншаванне па просьбе:

*Таленавітых любіць сцэна*
*І рэжысёр, і гледачы,*
*І ў цяжкі момант Мельпамена*
*З'яўляецца дапамагчы.*

*І гэтак быць заўжды павінна.*
*І гэтак, дзякуй Богу, ёсць,*
*І шчасце ў тым, што нам Ірына*
*Са сцэны дорыць прыгажосць.*

*І ад пачатку да фіналу*
*Камедый будучых і драм*
*Каля Ірыны бачыць Алу*
*Прыемна будзе гледачам...*

***8 красавіка 1993 г.***

Маці ў сваім лісце піша: у Давыд-Гарадку выдалі кніжкі на хлеб з разлікам — буханка на два чалавекі; такая «хлебная кніжка» каштуе 1 «заяц»...

Для памяці: аднапакаёвая кватэра (кааператы ўная) каштуе 5 мільёнаў, а мужчынская стрыжка ў салоне-цырульні — 1250 рублёў...

***12 красавіка 1993 г.***

Пазваніў Янка Брыль, спытаў ці не працую, ці не перашкодзіў ён сваім званком; здзівіўся голасу майго Васіля (Васіль зняў трубку):

— Такі бас!..

А тады ўжо загаварыў пра паэтку N, пляменніцу Міхася Васілька і Макара Краўцова; рукапіс паэткі якраз разглядаецца ў маёй рэдакцыі...

Па абедзе я пайшоў у «Ядлоўцавы куст»; куфаль піва цягне ўжо на 61 зайчык; 20 зайчыкаў вяртаюць, калі аддаеш парожні бакал...

Піва для мяне, як ранішняя гімнастыка; дае бадзёрасць, ад яго святлее ў галаве...

***13 красавіка 1993 г.***

Я чытаў вершы студэнтам на Падгорнай (К. Маркса), на філфаку БДУ, і па выступленні, забіраючы ўнізе плашч, пажартаваў:

— А пісталет мой не выпаў?

— Нічога не выпадала! — дзяўчына, што прымала нумаркі, паставіла вочы.

— Але ж пісталета няма! А ён ляжаў у гэтай кішэні...

— Зараз пашукаю...

Дзяўчына знікла ў глыбіні вешалкі і праз хвіліну выйшла з газавым пісталетам:

— Ваш?..

А позна ўвечары, калі я гартаў «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя, рэжысёр Валеры Раеўскі па тэлефоне прапанаваў мне пасаду загадчыка літаратурнай часткі ў Купалаўскім тэатры...

Пытаюся:

— А што мне рабіць з выдавецтвам? Я ж там загадчык рэдакцыі паэзіі...

Кажа:

— Будзеш і ў выдавецтве, і ў тэатры!

***14 красавіка 1993 г.***

У маёй піўярні пуста, півуноў чамусьці няма; толькі адна жанчына з раскладзенымі на крывы ватым століку паперамі — санітарная інспектарка.

Яна патрабуе журнал па дэзінфекцыі.

Журнал гуртам (бармен, барменка, прыбіральшчыца) шукаюць і не могуць знайсці.

А піва свежае, нават яркае, як першыя рамонкі...

***15 красавіка 1993 г.***

З гэтага дня я двойчы загадчык.

Ад прапановы Раеўскага, падмацаванай радаснай атакай рэжысёра Пі-

нігіна і артыстаў Манаева, Лабуша, Давыдзькі, Зоі Белахвосцік ухіліцца не здолеў, нават паабяцаў перачытаць усю беларускую драматургію.

Аднак што буду рабіць — пакуль не ўяўляю!

Вольга параіла пачаць з інсцэніроўкі прозы Лукаша Калюгі...

Увечары Васіль пацешыў геаграфічным пытаннем:

— Тата, а ты хацеў бы жыць у Мексіцы?

***21 красавіка 1993 г.***

У Давыд-Гарадку ёсць такія словы — прыезьнік і вясельнік.

Прыезьнік — гэта пачастунак, і вясельнік — таксама пачастунак.

Калі гаспадар вяртаецца з далёкай дарогі, то абавязкова заходзіць з прыезьнікам да суседа, які глядзеў яго хату.

Вясельнік жа — нешта смачнае з вясельнага стала, ці проста пляшка гарэлкі; гарэлку і закуску выносяць на вуліцу і даюць людзям, якія прыйшлі паглядзець на вяселле...

А як назваць бутэльку шампанскага, з якой я пазаўчора прыйшоў у тэатр з намерам пачаставаць першага, хто пападзецца насустрач?

Хіба што — тэатральнік?!

Дык вось, тэатральнікам сваім патрактаваў артыста Алеся Гарцуева — ён сустрэўся першы...

Тыдзень ужо, як на дзве-тры гадзіны (пасля ранішняй выдавецкай службы) заходжу ў Купалаўскі — працую, адным словам.

Г. М. даведаўся пра маю новую работу (а ён пра ўсё хутка даведваецца!) і сёння мне дадому прыпёр сваю п'есу...

Аднак жа ні Раеўскі, ні рэжысёр Андрэй Андросік і ні хто іншы да яго опуса нават не дакрануўся.

Як толькі пачулі хто аўтар, — скрывіліся, незадаволена замахалі рукамі.

А я й не ведаў, што Г. М. гэтак надакучыў усім сваёй драматургіяй!

— У яго п'есах не наскрабеш і на палавіну думкі! — адрапартаваў Раеўскі і папрасіў мяне пашукаць які-небудзь сюжэт у Гарэцкага.

Гаварылі таксама й пра Купалаву драму «Раскіданае гняздо».

Буду пераконваць, каб не вагаўся — ставіў!

***26 красавіка 1993 г.***

У камедыі Францішка Аляхновіча «Пан міністар» Марта кажа пра Філімона Пупкіна:

«А я яму колькі разоў казала, што гэтыя яго міністраўскія фанабэрыі да дабра не давядуць. Вось, ляжыць цяпер хворы, ні рукой, ні нагой... Ну, але добра тое, што ў міністры не прынялі, зноў, прынамсі, чалавекам будзе...»

Учора згаварыўся з Валянцінам Акудовічам паехаць на Чыжоўскія могілкі, на магілу Міхася Стральцова, а тут звоніць Раеўскі, нагадвае пра мастацкую раду ў тэатры, аднак жа, пачуўшы куды збіраюся, маю прысутнасць на радзе скасаваў і папрасіў:

— Завязі кветкі Міхасю і ад мяне!

Чую, як нехта ў ягоным кабінеце ўсклікнуў:

— О, Валеры Мікалаевіч, вы ўжо па-беларуску загаварылі!

Ён, кладучы трубку, але так, каб я пачуў:

— Я па-беларуску размаўляю толькі з Дранько-Майсюком!..

Сонечны дзень, на могілках шмат людзей з рыдлёўкамі і вёдрамі...

Валянцін чытае на памяць страфу Стральцова:

*Што я хацеў, што я хацеў,*
*Што за праява адбылася?..*
*Я сніў, што сам я адляцеў, —*
*Душа ўзяла і засталася...*

***30 красавіка 1993 г.***

Сёння быў на скрыжаванні Феліцыянаўскай (Камсамольскай) і Нямігі.

Пра гэтае месца Пятро Глебка пісаў:

«НЭП... На мяне ён дыхнуў «мянялаўкай» на рагу Камсамольскай і Нямігі... «Золата маеце?» «Долары?» Рэстараны Вангжэцкага і інш. ...»

Цяпер на гэтым рагу амаль тое ж, хіба што няма рэстаранаў Вангжэцкага.

Але ёсць букіністычная крама, дзе я купіў за 3000 рублёў шасцітомнік А. Блока...

Ідучы ў рэстаран, што на Магазіннай (Кірава), паблізу стадыёна, чытаў самому сабе... не, не Блока, а ўсё таго ж Пятра Глебку:

*Пялёсткі сыплюцца, пялёсткі ападаюць,*
*каб новым колерам вясною красаваць, —*
*дык радасьць вернецца, дзяўчына маладая,*
*няхай ня падае маўкліва галава...*

Для мілай рэстараннай дырэктаркі, якая збіралася на сярэбранае вяселле сяброўкі, склаў некалькі строф.

І от нясу.

Дырэктарка хацела павіншаваць сяброўку і яе мужа па-беларуску.

Калі так, то я не мог адмовіць.

Мой вершык спадабаўся, асабліва завяршэнне:

*... 25 гадоў (якое шчасце!)*
*Разам зведваць радасці жыцця —*
*Нарадзілі вы Пятра і Насцю,*

*Не згубілі маладое страсці, —*
*Значыць, будзе трэцяе дзіця!*
У якасці ганарару, як у аптэцы, атрымаў пляшку спірту.

***22 траўня 1993 г.***

Учора ў Менску адышла мая баба Прося, — пражыла 83 гады і роўна адзін месяц; яе дзеці — адныя дочкі: Ганна, Люба (мая маці), Волька (памерла пры немцах), Валя і Тася.

Тася (а баба дажывала ў яе) аддала мне палавіну фатаграфіі, на якой убачыў сваю маладую маці.

А на знішчанай палове карткі была Ліза, — колішняя матчына сяброўка.

Баба хавала фота пад падушкай, а калі стала паміраць, сказала:

— Не трэба мне Ліза! Яна чужая! Хай застаецца толькі Люба...

І разарвала картку напалам.

Адыходзячы, баба клікала сваю трэцюю дачку Вольку і ўсур'ёз непакоілася, што ў Тасінай кватэры няма печы:

— І цыганы ж без печы не зімуюць, але от жа неяк перазімавала!..

У Давыд-Гарадку я гадаваўся і ў яе хаце на вуліцы Альшанскай (Савецкай), і першыя бабіны словы, якія ўсвядомлена пачуў, былі:

— Хлопчык у чопліках!

Гэтага хлопчыка, абутага ў адмысловыя чаравікі — чоплікі, цётка Валя выразала нажніцамі з нейкага часопіса і прыляпіла да сцяны.

Баба падносіла мяне, трохгадовага, да той сцяны:

— Бачыш, Лёнік, хлопчык у чопліках!..

Развіталіся з нябожчыцай на Паўночных могілках; кіравала развітаннем служачая крэматорыя.

Яна сказала цэлую прамову!

Не ведаю: Тася яе папрасіла, ці такая прамова ўваходзіць у пералік рытуальных паслуг?!

У поўнай адпаведнасці з новым антысталінскім часам, служачая заявіла, што Еўфрасіння Андрэеўна Ядлоўская зведала бальшавіцкі тэрор 1937 года...

Дзякуй Богу, гэты тэрор баба Прося не спазнала, бо жыла ў Давыд-Гарадку, які ў 1937 годзе быў часткаю Польшчы, а не Савецкага Саюза!

***7 чэрвеня 1993 г.***

Незразумела дзеля чаго (ці — каго!) на два тыдні Раеўскі паехаў у Італію.

Сёння на адрас тэатра, але на маё імя, прыйшла паштоўка:

«Да спасет нас Бог от всяких напастей! Пишу в Венеции. В. Раевский».

Так, гэта праўда: размаўляе са мной па-беларуску, але напісаць мне па-беларуску — гэта ўжо нешта іншае...

***9 ліпеня 1993 г.***

Урну з бабуліным прахам замуравалі там жа, на Паўночных могілках — калумбарны сектар 52, ніша 1404...

Быў дождж у Менску і скрозь на Беларусі, — і ўчора валіў дождж, і пазаўчора, і ўвесь той тыдзень.

Міхась Шэлехаў сказаў: «У Давыд-Гарадку ўсё гніе...»

Сустрэча з Раеўскім і Андросікам; размяркоўвалі ролі на спектакль «Ідыёт» паводле Хведара Дастаеўскага.

Пакуль прыкідка такая: князь Мышкін — В. Рэдзька, Настасся Піліпаўна — З. Белахвосцік, Рагожын — Г. Давыдзька (магчыма, А. Гарцуеў), Япанчын — П. Дубашынскі...

У калідоры мяне пераймалі акцёры, якія хацелі іграць у гэтым спектаклі, прасілі закінуць за іх слоўца...

О, патроху раблюся ўплывовай асобай!

***10 ліпеня 1993 г.***

Сварка ў выдавецтве з Л. П. — аўтарам бамаўскіх вершаў.

Кожны літаратар — геній!

Асабліва беларускі...

Ты, загадчык рэдакцыі, нікому й слова не скажы, не чапай нават коску ў напісаным не табой!

Нервы мае загарэліся, і гэта заўважыла барменка, як толькі зайшоў я ў жаданы «Ядлоўцавы куст»:

— Ой, сёння вы нейкі не такі!

Сапраўды, «не такі», але піва супакоіла, а па дарозе ў Купалаўскі зведаў яшчэ адно супакаенне — паразмаўляў з інтэлігентным акцёрам Лабушам.

***15 ліпеня 1993 г.***

Свой дзень нараджэння Вольга святкуе ў Маскве.

А ў Менску сёння — то сонца, то дождж.

Раніцай у тэатры праглядваў скарочаную інсцэніроўку «Ідыёта» — работа нецікавая, таму (дзеля настрою!) пазваніў В. Акудовічу (ён толькі што вярнуўся з Палярнага Урала!) — дамовіліся ўбачыцца вечарам.

Вольныя мы сёння: мая ж Вольга ў Маскве, а ягоная Данута паехала ў Паставы!

А яшчэ, адсунуўшы інсцэніроўку на край стала, я ўспамінаў Гарынь, знявечаную каналам!

Жаўтлявая гарынская вада пахне лазовым лісцем, вярбовай карой, глеем і рыбінай луской...

***21 ліпеня 1993 г.***

У «Цэнтральным універсаме» сустрэў кінарэжысёра Міхася Пташука — яркага, вялікага, вабнага, працавітага і заўсёды ў добрым настроі.

Запрасіў яго да сябе.

Ён узяў пляшку італьянскага віна, і мы доўга сядзелі на маёй кухні, і гаварыў пераважна ён, і шмат у ягонай гаворцы было весялосці, аднак жа запомнілася не весялосць — запомнілася жахлівая гісторыя...

У гады вайны яго бацька пераганяў партызанам людскія коні і за гэта паплаціўся.

Пасля вайны Міхасёвага бацьку, бабулю і двух малодшых брацікаў (аднаму — паўтара года, другому — шэсць месяцаў!) задушылі ў хаце.

Хто гэта зрабіў?

Можна толькі здагадвацца...

На шчасце, Міхася з маці не было дома...

— Уся наша хата стаяла ў трунах... Мне тады было чатыры гады... Ноччу я выцягваў з трунаў сваіх брацікаў, насіў па чарзе ў сад, каб з імі там пагуляць...

***29 ліпеня 1993 г.***

Прыехаў мой траюрадны брат Бразоўскі Грыцко, — давыд-гарадоцкі электралямпавы завод адправіў яго ў камандзіроўку ажно ў Ташкент.

— Не магу сядзець, склаўшы рукі! — сказаў так і ўзяўся за мае ровары: падцягнуў шпіцы, змазаў падшыпнікі; пасля абгледзеў усю кватэру і дзе што трэ было — падвінціў, падкруціў, прыбіў, нават прыпаяў...

Вельмі цёпла расказваў пра сваю вялікую сям'ю — жонку Раю, сыноў Міхася і Паўліка, дачок Вольгу і Таньку.

У жніўні збіраецца ставіць помнік на магіле маці, якая адышла летась...

Маці, яе звалі Вольгай, памірала вельмі пакутна, доўгія месяцы ён карміў яе з лыжкі...

У 1957 годзе засталася ўдавою, было ёй тады трыццаць тры; усё сваё жыццё прарабіла на давыд-гарадоцкай пякарні.

Дзесяцігадовы Грыцко варыў суп і з малодшымі братамі Колем ды Іванам прыносіў зваранае ў пякарню.

Маці частавала супам таварышак.

Тыя, выціраючы рукі ад мучнога пылу, не маглі нахваліцца:

— Якія ў цябе хлопцы спраўныя, Волька!..

Толькі я выправіў Грыцка ў Ташкент, як прыехаў бацька, прывёз у Менск на абмен 130 тысяч, бо на дзверы давыд-гарадоцкага банка павесілі замок...

Так, а я й забыў пра абмен расійскіх грошай!

Бацька расказаў, што нарабілі дажджы з Давыд-Гарадком...

Вада заліла гароды, усе палі, шмат каму ўвярнулася ў хату.

У нас за маленькай адрынаю, дзе самае нізкае месца, нацякла вялізная калюга, і бацька мусіў у бочцы вывозіць адтуль ваду, каб не падмокла бульба.

Памідоры згнілі на корані, буракі зглуміліся ў зямлі, і яшчэ невядома, што станецца з бульбай...

Увечары бацька ўспамінаў пра сваю вучобу ў 1938 годзе ў першым класе польскай школкі: часам настаўнік выводзіў дзяцей на вуліцу і загадваў каменнем біць вокны ў жыдоўскіх крамах і дамах...

Перад сном я прачытаў у «Звяздзе» паведамленне Л. Рыжанковай: «Мы толькі што абляцелі верталётам Століншчыну... Ускудлачанае, ушчэнт палеглае жыта, счарнелыя ўчасткі бульбы, залітыя вадою сенажаці. Плавае ў вадзе сена — стагі, копы, проста радкі скошанай травы: хто як управіўся. Сена паўсюдна чорнае, але людзі выратоўваюць і яго: возяць на лодках, перасушваюць. Дзе ж браць іншае? Як толькі ад вады вызваляюцца ўчасткі бульбы, яе пачынаюць капаць, каб не гніла... Каля 40 працэнтаў грамадскага статка знаходзіцца на фермах — паша ў вадзе. Будзе спажывацца тое, што назапашана на зіму, — адкрываюцца сянажныя ямы. Імкліва пачынае развівацца фітафтора на бульбяных палетках. Было пашкоджана пяць пралётаў ліній электраперадач... А тут абмен расійскіх грошай!..»

***31 ліпеня 1993 г.***

Пачуў ад паэта і паляўнічага Хведара Гурыновіча: «Сёлета будзе багата грыбоў, бо ўрадзіла багата яблык. І будзе багата журавін, бо год мокры...»

***2 жніўня 1993 г.***

У метро на станцыі «Купалаўская» сустрэў Барадуліна; разам ехалі да станцыі «Няміга» і разам прыйшлі ў выдавецтва...

Дубоўка, Хадыка, Язэп Пушча і Кляшторны — паэты, пра якіх паспелі пагаварыць за гэтыя 15 — 20 хвілін...

***17 жніўня 1993 г.***

Вярнуўся з Давыд-Гарадка...

Прыехаў туды, калі толькі-толькі пачала спадаць вада.

Бацька паказаў граду, на якой заўсёды ў такую пару чырванелі памідоры.

Града пустая — ніводнага кораня, усё спрахла...

Калі ж капалі бульбу, то на кош добрай набіралі кош гнілой!

Я спытаў:

— Ці адгукнецца такое лета зімой?

Бацька ўскінуў сваю бліскуча-сівую галаву:

— Адгукнецца? Яшчэ як адгукнецца!

Адпачываючы на ганку, ён вычытаў у «Народнай Газеце», як нейкая вар'ятка заплаціла адзін мільён зайцоў за тое, каб забілі яе мужа.

Маці, перабіраючы бульбу, успрыняла гэта па-свойму:

— Бо надодзеў, таму й заплаціла!

Перад маім прыездам у двор прыбілася чужая кошка і каля адрыны на высокім кастры дроў акацілася.

Вочы ў кацянят надзіва празрыста-блакітныя — рыхтык раса на ранішняй кампануле...

У кнігарні Н. Я. Канашына расказала, як васнянікі (у асноўным альшанцы) расхапалі на базарныя кулькі творы Маркса, Леніна, Брэжнева; скупілі таксама контурныя карты.

Прычына простая — любая газета цяпер каштуе даражэй, чым самы цяжкі том камуністычнага класіка.

У кнігарню зайшла мая стрыечная сястра Света, паклікала да сябе; на яе руках нямоглы дзед Мікалай, якому восемдзесят чатыры...

Света ж таксама паказала гарод — мёртвыя грады.

І гэта ў жніўні!

Вада знішчыла амаль усё — бульбу, памідоры, цыбулю, часнок, капусту, кветкі — вытрымалі толькі буракі і кіяхі!

Два дні салдаты з гарода выпампоўвалі ваду, але гэта мала што дало...

А ўвечары паклікала Соф'я Сямёнаўна Куст — жанчына старэйшага веку, польскай вывучкі, лепшая ў Давыд-Гарадку крамніца; яна абяцала нешта мне перадаць...

Ішлі з маці па беразе Гарыні і сустрэлі жонку мастака Цубера; яна сказала, што на Макавэй да іх прыедзе Міхась Раманюк — аўтар альбома «Беларускае народнае адзенне»...

У гародзе спадарыні Соф'і — зламаная яблыня, след нядаўняе буры і паводкі!

Гаспадыня паказала газетныя публікацыі пра Мярлінскі палігон, якія сабрала за апошнія два-тры гады, і ўспомніла страшны для нашага раёна 1968 год.

Тады, якраз на Вялікдзень, на свае вочы ўбачыла, як праз начную Гарынь у бок Мярлінскага лесу ляцеў вогненны слуп.

Праз дзень які жыхарка Альпеня (вёска за тры кіламетры ад Давыд-Гарадка) расказала ёй, што на палігоне ад нейкай вялізнай бомбы загінула дваццаць салдат.

Але загінулі не адразу — паміралі (спачатку ў пінскім шпіталі, а потым у брэсцкім) — тыдзень; іхнія целы «свяціліся», пад імі тлелі прасціны.

— Пакіньце газеты сабе! — сказала спадарыня Соф'я. — Можа, некалі пра гэта напішаце...

Толькі цяпер стала вядома, што ў 1968 годзе ва ўсёй давыд-гарадоцкай акрузе быў моцны ўзровень радыяцыі — пэўна ж, вынік выбуху той «невядомай» бомбы!

І яшчэ.

Пасля аварыі на Чарнобыльскай АЭС у Пінску праводзілася спешная медыцынская нарада, на якой давыд-гарадоцкім лекарам параілі: «Не палохайцеся! Вы перажылі 68-мы год, перажывяце і 86-ты!»

У раёне пачалася будоўля цэркваў (у Альшанах, Манькавічах, Турах) — знак таго, што ўжо няма Савецкага Саюза.

Летась у Давыд-Гарадку аднавілі Закаморскую царкву; набожныя людзі мараць пра адбудову Васкрасенскага храма, які стаяў у нас на Замкавай гары.

Гэта цешыць, бо так мала на маёй радзіме прыгожых будынкаў.

***6 кастрычніка 1993 г.***

Прагляд работы Н. Піскаровай «Саўдзельнікі».

П'еса Гётэ ў перакладзе Барадуліна — даволі смешны сцэнічны малюнак з вельмі прывабнай філасофіяй: лепей са сваім ворагам апынуцца ў адной бочцы, чым боўтацца на шыбеніцы.

У спектаклі заняты — Тарасаў, Гарцуеў, Краўчанка, Кірычэнка, Кульбачная, Іваннікава...

Абмяркоўвалі ўбачанае ў кабінеце Раеўскага: Манаеў пускаў крытычныя стрэлы; Давыдзька выступіў памяркоўна; разумныя высновы былі ў Андросіка; Герлавана не задаволілі дэкарацыі; на істотнай дапрацоўцы спектакля настойваў Раеўскі; Браварская, хвалячы Піскарову за «рэжысёрскую смеласць», усё ж выказалася ў тым сэнсе, што без удзелу Раеўскага работу нельга выпускаць; крытык Т. Арлова спектакль абараняла, і за гэта мне спадабалася...

***7 кастрычніка 1993 г.***

Дудараў чытаў сваю новую п'есу «Купала» — вяртанне ў часы Вітаўта і Ягайлы.

П'есу хвалілі.

Андросік: «Гэта паэзія паганства...»

Раеўскі: «Трагедыя ўлады — трагедыя людзей. Дудараў увайшоў у шэкспіраўскае рэчышча...»

Давыдзька: «Нацыянальная гісторыя праходзіць «незаўважна», другім планам, бо на першым плане — чалавечыя страсці...»

Я: «Шкада, што амаль няма бытавых сцэн. Міфалагічныя сцэны не ўтвараюць выразнай паліфаніі са сцэнамі гістарычнымі...»

Бpаваpская раіла памяняць назву.

Выступіла і Стэфанія Станюта.

Някляеў нічога не сказаў.

Пазней, калі з тэатра перайшлі ў кавярню «Мутнае вока», Някляеў таксама параіў памяняць назву (глядач можа падумаць, што спектакль будзе пра Янку Купалу!)

Дудараў не згадзіўся...

***8 кастрычніка 1993 г.***

Сёння на новай рэпетыцыі «Саўдзельнікаў» па просьбе Раеўскага дапісаў адзін з маналогаў для Віктара Тарасава:

*Я ў роспачы штодзённай, я ў істэрыцы,*
*Скажыце мне, што робіцца ў Амерыцы?*
*Амерыка — надзея на багацце,*
*І што ў ёй робіцца, павінен знаць я!*
*Не чую плётак і газет няма,*
*Дык мо дазнаюся з таго пісьма...*

***15 кастрычніка 1993 г.***

У аповесці М. Гарэцкага «Дзве душы» ёсць пашпартная для ўсіх нас фраза: «Збіраліся беларусы надта ж неакуратна і марудна...»

Гэта пра арганізацыйны сход тых беларусаў, якія апынуліся ў 1917 годзе ў Пяцігорску...

***22 кастрычніка 1993 г.***

Трэба забыць дарогу ў «Ядлоўцавы куст» — за куфаль ужо цягнуць 350 зайцоў.

Ёсць і яшчэ адна дарога, якую трэба забыць — у цырульню; сёння аддаў цырульніку 3070!

А ўчора амаль столькі ж атрымаў на радыё за дзве свае песні.

Выходзіць даволі вясёлая карціна — каб раз пастрыгчыся, трэба скласці два эстрадныя вершы...

***26 кастрычніка 1993 г.***

Чытаю М. Гарэцкага.

Спадабалася ягоная заўвага адносна шматпісання Якуба Коласа: «... з першаю магчымасцю, з 1912 г., піша дужа многа. Найбольшая прадукцыя прыпадае на 1921 — 1922 г.г., калі ён піша прост недазволена многа для паэта».

А вось вынятка з ліста да Л. У. Гарэцкай (14. 02. 1932 г.): «І што вы за людзі: жывіцё ўсё нейкімі надзеямі, а ўзяць жыццё, як яно ёсць, не прызвычаіліся».

***31 кастрычніка 1993 г.***

Сцэна ў кулінарыі.

Пірожнае каштуе 180 рублёў.

— Можа не будзем купляць? — з надзеяй пытаецца старая маці.

— Што ты выдумляеш! — кажа незадаволена дачка, дастаючы грошы.

Зірнуўшы на тое ж пірожнае, мужчына гадоў пад шэсцьдзесят штурхнуў у бок свайго прыяцеля:

— Глядзі, што прадаюць!

— А што такое? — не ўцяміў прыяцель.

— Дык такія ж самыя ляпенікі мая матка пякла і прадавала пры немцах!

— Дзе?

— Ды тут, у Мінску...

***3 лістапада 1993 г.***

У тралейбусе, як галодны да хлеба, прыпаў да чужой гаворкі; размаўлялі, не заўважаючы, што я прагна слухаю, два значна старэйшыя за мяне мужчыны...

— ... прыкінуўся пад рукой гідраадэніт...

— Што?

— Круглая такая чырвоная пухлінка...

— Дык што гэта такое?

— Ну, запаленне потавай залозы...

— І як ты лячыўся?

— Прапісалі піць антыбіётык і ларатадзін...

— Ларатадзін знаю, сам неяк піў, а антыбіётык які?

— Азітраміцын...

— І ўсё?

— Не, мазаўся яшчэ бетадзінам і цынкавай маззю...

— А як мыўся?

— Ды ніяк, проста выціраўся хлоргексідзінам...

На хвіліну я забыў нават куды еду!

Ёсць усё-ткі і мужчыны, якія ўмеюць паклапаціцца аб сваім здароўі!

І памятаюць усё, і ведаюць, што за чым рабіць...

Я заслухаўся і, як кажуць, страціў пільнасць — мяне (ехаў без білета!) аштрафавалі на 2000 зайцоў.

Выдалі квіток — дарэчы, на беларускай мове...

***5 лістапада 1993 г.***

Учора напісаў заяву на звальненне, Раеўскі згадзіўся, але папрасіў знайсці замену.

Сёння ж па тэлефоне наогул загадаў не думаць пра звальненне і прапанаваў амплуа — быць у тэатры прынцам!

***6 лістапада 1993 г.***

Думаў: з Раеўскім адбудзецца канчатковая гаворка.

Але ж не.

Сустрэліся, і ён адразу ж закруціў мяне ў работу; добрую гадзіну гаварылі пра п'есу Дударава «Купала».

Калі ж я нагадаў пра сваю заяву, ён спачувальна ўсміхнуўся:

— Золата маё, пачакай крыху...

І зноў жа выдаў сваё, крайняе:

— Пабудзь прынцам!..

У калідоры А. Лабуш параіў:

— Кідай...

Тонкая душа.

***19 лістапада 1993 г.***

З тэатрам усё па-ранейшаму — Раеўскі адпускаць не хоча; нават даў заданне: знайсці новыя тэхнічныя кадры.

І я паклапаціўся:

«Беларускі тэатр імя Янкі Купалы чакае мужчын-рамантыкаў, для якіх сцэнічнае мастацтва і жаночае хараство вышэй за алкаголь і палітыку. З усіх прафесій, якія можа прапанаваць тэатр, найцікавейшая — манціроўшчык сцэны. Варта памятаць: работа гэта адмысловая, амаль такая ж, як і работа дэгустатара французскіх вінаў і гаванскіх цыгар. І самае галоўнае — у гастрольныя паездкі, у тым ліку і ў далёкае замежжа, наш тэатр без манціроўшчыка сцэны не выязджае. Тэлефануйце нам: 27-23-33...»

Ля фантана «Хлопчык з лебедзем» сустрэў В. Манаева.

— І што ты, Лёня, думаеш рабіць далей?

Чутка пра маю заяву дайшла й да яго.

— А тое, Віця, што й рабіў, складаць вершы...
— Правільна. Кожны павінен займацца сваёй справай!
Інтанацыя ў ягоным голасе была крыху павышаная.

***23 лістапада 1993 г.***
У краме мужчынскага адзення забыў у прымерачнай пальчаткі; іх ніхто не забраў — мусіць, таму, што я хутка вярнуўся.
Недзе праз гадзіну адну пальчатку згубіў у цёмным калідоры Купалаўскага, яе таксама не паспелі падняць.
Ідучы з тэатра, здалося, што на стале Раеўскага пакінуў свае акуляры.
Аднак жа акуляраў там не было — дома, распранаючыся, знайшоў іх ва ўнутраной кішэні пінжака...

*15 лютага 2012 г., серада, 15 г. 05 хв.; Менск*

**Фота Джона Кунстадтэра**



# Васіль Зуёнак

паэт, перакладчык, крытык. Кандыдат філалагічных навук. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы. Аўтар кніг паэзіі: «Вясёлы калаўрот», «Крэсіва», «Крутаяр», «Нача», «Вызначэнне», «Лета трывожных дажджоў» і інш. Нарадзіўся ў 1935 годзе ў вёсцы Мачулішча на Міншчыне. Жыве ў Мінску.

# Песня Беларускага Дон-Кіхота

Здавалася б: зямля і неба, час і абставіны, гукі і мовы, — такія далёкія і адрозныя. Аднак жа... Аднак жа, у нечым самым сутнасным, усё, ці амаль усё, так супадае... Няхай сабе: там — сухое, спякотнае пласкагор'е з незлічонымі ветранымі млынамі, тут — «шумныя бярозы пабяліў мароз» (праўда, траппяліся і ветракі, хоць і не так густа, ды перамаглі іх і выцеснілі млыны вадзяныя, пакінуўшы за тымі — для нас, нашчадкаў, — усяго толькі статус музейных экспанатаў); няхай сабе: там, іхні ваяр,— на Расінанце, бо інакш як вершнікам і ўявіць сябе не можа — рыцар усё ж, тут, наш герой, бясконны: «Ой, пайду я ў поле...»; іхні мае сусветна славутае імя: Дон-Кіхот, а наш — безыменны... — няхай сабе... Але: дзве постаці гэтыя зближаюцца, каб ісці па гісторыі ўпоплеч. Праз стагоддзі родняцца яны найперш сваім сацыяльным станам. Абодва не з «простых», не з «мужыкоў»: той — ушчэнт збяднелы ідальга, дробны дваранін, пры баявым рыцарскім рыштунку, разумеецца; і наш: «шаблечкай махну»,— пэўна ж, ці не з роду шляхецкага, але даведзенага ўжо да клопату і занятку мужыцкага, бо ён жа яшчэ і «з востраю касою»... А вызначэнне ім — змагарнае памкненне адшукаць долю для абяздоленых, волю для зняволеных... Скажам словамі Дон-Кіхота: «Абараняць пакрыўджаных, караць злых...»

А «галоўнае»? Вось яно, тое «галоўнае»— у двух кароценькіх, на два графічныя значкі, словах, прамоўленых нашым: «як бы»... Дон-Кіхот імчыцца з узнятай дзідай на бойку з ветранымі млынамі — як бы з велізарнамі, і наш: «пайду я ў поле, як бы на вайну, шукаючы волю, шаблечкай махну...»

Сапраўды: і ў нашага як бы змаганне... Дык у таго былі ўваччу хоць рэальныя аб'екты — ветракі. А ў нашага? Маханне шаблечкай у паветры? Ці — паколькі, успомнім, ён ідзе «ў поле долечку шукаць з востраю касою, як на сенажаць», — можа і насамрэч, махаючы касою па траве, ён па-дзіцячы ўяўляе, што сячэ галовы сваім супастатам-прыгнятальнікам?..

Такі ўжо, выяўляецца, у нас характар... І Янка Купала геніяльна прыкмеціў гэта і засведчыў у вершы. Менавіта пра яго, пра верш гэты, што стаў народнаю песняй, а найперш пра героя — і верша, і песні, — тут і гаворка...

Не знаю, ці чуў Янка Купала гэтую песню: час быў нялёгкі, удушлівы для песень гэткага кшталту — баладных, змагарнага складу. І запісаў яе кампазітар Рыгор Пукст у пераднавальнічным 1940-м. А колькі жыла ў народзе песня? — у каго спытаць: Купалаўскі верш, што стаўся народнаю песняй, быў створаны вунь ажно калі — на пачатку стагоддзя і творчага шляху паэта — у 1907 годзе. Адно можна сцвярджаць з пэўнасцю: шчаслівы паэт, чыё слова кладзецца на музыку народам — спяваецца.

Магутны верш, магутная песня — з несумненных узораў вялікага мастацтва. Твор — у кагорце шэдэўраў. А паралелі напрошваюцца самі. І з разложыстых рытмаў верша, і з акордаў песні якраз і паўстае вобраз, што становіцца побач з несмяротным героем сусветнай літаратурнай класікі.

Гэтую песню любіў Васіль Быкаў...

*Шумныя бярозы пабяліў мароз,—*
*Хацеў бы я плакаць, ды не маю слёз...*
*... Гэй, пайду я ў поле долечку шукаць*
*З востраю касою, як на сенажаць.*
*Ой, пайду я ў поле, як бы на вайну,*
*Шукаючы волю, шаблечкай махну.*

## Мушка-чапурушка

Мушка была не такая ўжо і назойлівая, але дужа неспакойная. Мітусілася над сталом: то ў адзін бок мільгане, то ў другі... Да мяне, праўда, не прыставала, як звычайна бывае з іх пародаю, але ўсё ж чытаць, а тым больш засяродзіцца, перашкаджала. Я ўжо і прыпляснуць яе наважыўся, і газету дзеля гэтага згарнуў у добрую пляскачку...

Ды тут мушка раптам прысела на стол, выцягнула пярэднія лапкі, быццам чалавек рукі, каб пацiснуць руку, працягнутую для прывітання, ці мыцца збіраючыся. Потым, зноў жа быццам чалавек ад задавальнення рукі, хуценька, разоў колькі, пацёрла лапку аб лапку і, зноў жа зусім па-чалавечы, пачала праціраць тварык — гэтак аберуч: вочкі, шчочкі ці што там яшчэ ў яе...

Нейкі момант пасядзела нерухома — быццам у люстэрка ўзіралася. Пэўна, засталася задаволеная — і ўзялася за тую ж працэдуру, толькі ўжо лапкамі заднімі. Лапка аб лапку, лапка аб лапку — і дакліва абедзьвюма праводзіць па крылцах: быццам змахвае — не, не пыл, а незаўважны цень з крышталю... От жа мушка! — гэтак прыхарошваецца, гэтак чапурыцца!.. Ну, няйнакш, на спатканне якое збіраецца... То як жа чапаць яе, як пляскаць той газецінай... Ляці сабе мушка, ляці!..

## «Калі б вы зналі...»

«Калі б вы зналі...» — споведна прызналася аднойчы Ганна Ахматава. «Калі б вы зналі...» — з чаго вырастаюць вершы...

І кожны раз, калі кранаешся душой да кожнага паэтычнага радка Ларысы Геніюш, хочацца ўсклікнуць, толькі трошкі не тое самае «калі б вы зналі», а з «невялічкім» дадаткам — усяго з адной-адзінай літары, аднаго — не дзеля супастаўлення, а дзеля адметнасці — гука, — вось ён, у лучнасці

з ахматаўскімі словамі, — «а»: «А калі б вы зналі...» Так: а калі б вы зналі, з чаго нараджаліся вершы Ларысы Геніюш... Яна сама расказала аб гэтым у сваёй Вялікай — перад людзьмі і Богам — «Споведзі». І расказалі аб тым, расказваюць і расказаваць будуць несмяротныя сведкі гэтай Споведзі — яе Вершы. Як і гэты, што паўстае зараз перад намі, — тут усё, аб чым мы якраз і гаворым:

*...рвуцца вершы з душы,*
*пакалечанай дротам...*

Лёс беларускі-пакутніцы, беларускі-змагаркі прамаўляў радкі непакоры паэтычнай музе Ларысы Геніюш і за кратамі сталінскага гулагу, і пасля выхаду з-за іх... Яны — абедзьве — ніколі духам сваім не былі вязнямі і па-рабску пакорлівымі. Яны паўставалі трыумфатарамі, пераможцамі над светам цемрашалаў і катаў...

## Літара ў «міні-спаднічцы»

Раней акалічнасць гэтая не тое каб не заўважалася, а проста, ну скажам, не надта турбавала.

Ды раптам «зачапіла»: гэтак жа крыўдна зрабілася за Барыса Пастарнака! Паэт класічна дакладнай, музычна-выверанай рытмікі, — і вось раз за разам чытаем (пераклад з Шэкспіра — «Кароль Генрых IV»):

*Мы утверждали подати и сборы,*
*Как раз на эти нужды, государь,*
*Когда пришла дурная весть из Уэльса...*
*...............................................*
*Убита тысяча его солдат.*
*Над их телами женщины Уэльса*
*Глумились так, что выговорить срам...*

Услухаемся: «Уэльс»... У першым выпадку «У» трэба прамаўляць (каб не збіцца з рытму) як «В» (коратка), а другі выпадак вымагае гучання падоўжанага (як «У» звычайнае, складовае), што ні там, ні там не адпавядае англамоўнаму арыгіналу. Ах, як не хапае рускай артыкуляцыі гука і, тым часам, арфаграфіі адпаведнага значка! Бо: «Wales» — «W» — гэта ні ў якім разе не «У» і тым больш не «В». Зусім іншы гук абазначаецца літарай «W». І вось тут паганарымся: наша беларуская арфаграфія вунь якую фору дае рускай, — зразумела, у гэтым, англамоўным, кантэксце. У нас такі значок, такая літара, раўназначная і раўнагучная «W», ёсць, — вось яна: «Ў» («у» нескладовае). Палюбуйцеся: падцягнутая, ножка стрункая, стаіць, як у міні-спад-нічцы, — рыхтык чарачка крышталёвая: налівай і смакуй райскі нектар. А поверх — штосьці накшталт капялюшыка. О то і ёсць яе адметная рыса, яе фірмовы знак, што ўласна і робіць Яе

Ёю: стаць гэткаю «еўрапейкаю» ўпоручкі з самім містэрам «дабл-ю» — «W». Тым і ад сястрыцы сваёй адзінакроўнай — «У» — адрозніваецца: тая так і застаецца ў «звычайных», бо «капялюшыка» не мае. Што праўда, і ў яе свая служба важная і выключна неабходная. Але тут жа, у нашым, эксклюзіўным, выпадку яшчэ і «еўрапейская» — англамоўная — місія выконваецца. Пры «капялюшыку» і «міні» прадстаўніча выступае!..

О як яно просіцца наша «кароткае — «Ў» у тыя ж самыя радкі з пастарнакаўскага перакладу, — звярніце ўвагу на імя «Глендаур»:

*...сколько ран*
*Он получил в смертельном поединке*
*С Глендауром! Схватка длилась целый час...*

*Неправда все с начала до конца.*
*Ты выдумал, не дрался он с Глендауром...*

А то вось: «Уоркроут» (назва мясцовасці) — адразу дуплетам! — б'е тое, нашае, гучанне, паўнамоцным арфаграфічным выяўнікам якога магло б паслужыць «ў» і якое, на жаль, тут не мае месца...

Ды і з іншымі прозвішчамі-імёнамі-назвамі падобнага кшталту ў тым жа тэксце — «Уолстер», «Уэстморленд»... — засмучае гэткая ж самая «няўвязка». Што й казаць, калі і перад іменем самога Шэкспіра (прыгадаем усмешку Аляксандра Твардоўскага, як у вяскова-камсамольскім юнацтве, далучаючыся да сусветнай класікі,чыталі яны гэтае прозвішча «палітарна»: «Шакеспеар»...) — William — рускамоўная арфаэпія (яе графічнае выяўленне) ніякавее ў няпэўнасці: «У» ці «В»?

Праўда, застаецца тут адно шкадаванне: чамусьці не дужа ахвотна нашаму «ў» даюцца правы выступаць як літара вялікая, загаловачная (прыклад жа ёсць: «Й»)...

І яшчэ адна, трошкі ўсмешлівая, гісторыйка, зноў жа спрычыненая адсутнасцю ў рускамоўі і гука, і арфаграфічнага паўпрэда ягонага — «ў». З дзённіка Міхаіла Прышвіна (1917 г.): «Сама же Настя (прыслуга пісьменніка Рэмізава. —В.З.) белая, в белом платочке, и притом белоруска. ...говорим мы ей, — пока с нами Лев Толстой... Россия не погибнет.

— Как,— спрашивает,— Леу?

— Толстой.

— Леу Толстой...»

І далей: «Как-то пришел к нам поэт Кузмин... Настя ... спрашивает:

— Это Леу Толстой?

Потом пришел Сологуб, она опfive:

— Это Леу Толстой?..»

Ах, бедная Насця,— было б у Прышвіна наша «кароценькае» «ў», то і не «у-у-у»- кала б ты , а так бы мовіла гожа, па-беларуску: «Леў»...

А напрыканцы, але ў звязку з гэтымі развагамі, да месца будзе яшчэ раз прыгадаць, як стала, «па-еўрапейску», пачувае сябе наша «Г». Яно ў нас /(за рэдкімі выключэннямі) перадае гук фрыкатыўны, што супадае з тым гукам, які пазначаецца лацінскай літарай «Н». Рускамоўнае ж маўленне, дзе «Г» выбуховае, перад падобнымі словамі, зазвычай, губляецца, як, прыкладам, у свой час было з напісаннем прозвішча польскага камуністычнага лідара з гэтай літарай-лацініісткай «Н»: «Герек» ці «Херек»?.. А калі сур'ёзна, то наша беларускае маўленне і яго пісьмовае выява — «Г» (фрыкатыўнае) — якраз і займаюць тую залатую сярэдзіну, якой адпавядае і лацінскае «Н»... Яшчэ адзін знак арфаэпічнай грунтоўнасці нашай мовы, нашага маўлення.

А калі яшчэ шырэй — і гэтак жа сур'ёзна, — то, як бачым, беларуская наша мова багатая, гнуткая, з усімі магчымасцямі выказаць (насуперак сцверджанням іншых коснаязыкіх «філолагаў»-самазванцаў) самыя глыбокія, сур'ёзныя думкі і сэнсавыя адценні.

Адна наша слаўная ў сваёй адмысловасці літара «Ў» чаго вартая! Што ж вы думалі, гэта ёй выпадкова, задарма пастаўлены помнік?! І не дзе-небудзь, а ў старажытным Полацку, на радзіме вялікага беларускага першадрукара Францішка Скарыны.

## «Выпраўленне памылкі»

Як гэта ўсё праела — і плоць, і дух «вялікаросаў»: ад геапалітычных «маштабаў» да літары ў арфаграфіі, звычайнага «сціплага значка». Дакладней, іх два. І які больш «законны»: «і» ці «е»? — рашэнне «спрэчкі» намерыўся раптам узяць на сябе расійскі спартыўны каментатар у рэпартажы з эстафеты біятланістаў (праграма «Еўраспорт», 5.01.2011). А тычылася яго «філалагічная лепта» прозвішча ўкраінскага спартсмена, пададзенага ў афіцыйных (англамоўных, трэба думаць) пратаколах. Па нядаўніх імперскіх «канонах» тэксты (у тым ліку і прозвішчы) перакладаліся з рускай мовы і, зразумела, паводле рускамоўнай транскрыпцыі. Дык вось, слугача спартыўнага мікрафона дужа не задаволіла «і» (лацінскае) у напісанні прозвішча «Біланенка», — чакаў ён пабачыць тут «е». А як жа! — па-руску трэба чытаць «Белоненко», — усім жа зразумела: «белый»! Так бы яно й так, але ж пераклад цяпер ужо рабіўся не праз рускамоўнае «пасрэдніцтва», а наўпрост з украінскай мовы, як і належыць таму быць. То і будзьце ласкавыя: «білы...» — і не інакш! Не разумеў гэтага (ці не хацеў разумець?) расійскі каментатар і таму пераканаўча рэзюміраваў: «Надеемся, что эта ошибка будет исправлена...»

А завяршыў «філолаг ад спорту» рэплікай пра мяркуемую перамогу Б'ёрндалена: «Норвежцу это как два пальца...» Якое моўнае багацце!.. Дзякуй, што спыніўся, — не спартсмен на дыстанцыі, а каментатар...

## Сумоўе

Усё тут злілося ў цудоўнай гармоніі: слова, колер, музычны лад.

Як дзве сімфанічныя паэмы гучаць гэтыя малюнкі ў двух празаічных творах...

Адна — назавём яе ўмоўна «Дняпро» — у аповесці «Страшная месть» Мікалая Гогаля, другая — «Прыпяць» — у «Дрыгве» Якуба Коласа.

Як і належыць музычнай кампазіцыі, кожная з іх разгортвае тэму паслядоўнай распрацоўкай матываў у іх драматургічнай повязі і руху. Ідэнтычнасць зместу дыктуе адпаведныя малюнкі словам.

Прыгадаем: «Чуден Днепр при тихой погоде, когда вольно и плавно мчит сквозь леса и горы полные воды свои...»

І: «Спакойна і павольна, як у зачарованым сне, утуліўшыся ў балоты, нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну...»

Сумоўе рэк і сумоўе геніяў...

Так: на пачатку заяўляецца матыў волі і спакою. Але — чуйным слыхам — улаўліваецца, пакуль што прытоенае, узрушэнне, паскарэнне тэмпу ў тэме Дняпра («плавно», але — «мчит», не «по лесам и горам», а «сквозь...»): наперадзе ў яго — крутыя, камяністыя парогі; Прыпяць жа застаецца вернай свайму — ад калыскі — роўнаму палескаму характару («у зачарованым сне», «утуліўшыся ў балоты», «нясе»...).

І рытміка, — рытміка плыні: колькі яна гаворыць! Як малюе! Шырыня і прыволле палескіх прастораў. Няспешны і працавіты водазбор — узятак з левабярэжных рэчак і рачулак, што пампуюць і дасылаюць з невычэрпных балот водныя скарбы, каб уліцца ў сусветны акіян. Услухайцеся ў гэтую веліч, настройцеся на гэты, нейкі амаль незямны, касмічна-казачны, рух, — паўторымся: «Спакойна і павольна...» Малюнак геніяльна-сумоўны гогалеўскаму «Чуден Днепр...»

А ў гэтых музычных глыбінях нараджаецца іншы голас — хай сабе не спрэчкі, але своеасаблівага «мастацкага дыспуту», спаборніцтва рэк і аўтараў — завочнага, праз тоўшчу гадоў, — з адвечным пытаннем: Дняпро і Прыпяць — хто не можа без каго?..

У Гогаля Дняпро «мчит... полные воды свои» — і тут жа як пытае Прыпяць: «Адкуль «воды»? Чые?..» І словамі, голасам Коласа адказвае (ці падказвае): «Нясе Прыпяць сухадоламу Дняпру сваю багатую даніну...»

Потым, — потым музычная плынь Дняпра ўзвышаецца да кульмінацыйнай вяршыні: «Когда же пройдут горами по небу синие тучи, черный лес шатается до корня, дубы трещат и молния, изламываясь между туч, разом осветит целый мир — страшен тогда Днепр! Водяные холмы гремят, ударяясь о горы, и с блеском и стоном отбегают назад...»

Гэтак жа, калі ўз'юшыцца непагадзь, праяўляе сябе крутым норавам і рахманая, спакойная паляшучка Прыпяць, — не жартуйце з намі, злыя сілы! Вось як: «...толькі тады, калі разгуляецца вецер над зялёнаю шчэццю лясоў, над круглымі купамі-шапкамі кучаравай лазы, над бародаўкамі-купінамі жорсткай асакі, тады яна няветла пахмурнее, задрыжыць, затрасецца тысячамі хваль і сярдзіта шпурляе чаўны і чайкі-душагубкі...»

Здавалася б, малюнкі ідэнтычныя і настраёва падобныя. Але — кожны з іх поўніцца, выяўляецца да мастацкай рэальнасці сваімі непаўторнымі пейзажна-зямнымі рысамі і маляўнічымі адметамі, якія ў Дняпра «вагаюцца» на шалях нябесна-сусветных («молния... разом осветит целый мир» — «черный лес шатается до корня...»), а ў Прыпяці — застаюцца звыкла-дамашнімі, будзённа-крэўнымі: шапкі кучаравай лазы, купіны жорсткай асакі і чаўны ды чайкі-душагубкі...

Тое ж паўстае і ў заключным акордзе — паяўленні сімвалічнага вобраза маці. У Гогаля яна — гэтак жа, як, разбіваючыся аб горы, плачуць і заліваюцца слязьмі дняпроўскія хвалі — «убивается, ... выпровожая своего сына в войско» , у Коласа Прыпяць «голасна ўсхліпвае ў прыбярэжных чаратах, як маці ўскрай магілы, дзе пахаваны яе дзеці...»

Там — слёзы развітання, слёзы на праводзінах у войска, тут — слёзы сустрэчы з магілай...

Такія лёсы ў рэк і ў людзей...



# Віктар Раманцоў

журналіст, гісторык, публіцыст, краязнаўца. Аўтар кнігі «Зведаная зямля: Светлагоршчына ў пытаннях і адказах». Лаўрэат конкурсу «Літаратурныя дажынкі — 2011». Нарадзіўся ў 1970 годзе ў Светлагорску на Гомельшчыне. Жыве ў Светлагорску.

# Па шляху да «зведанай зямлі»

**Збірайма ўраджай! А што, хіба ўжо восень, спытае чытач? Ураджай незвычайны — з літаратурных палеткаў. У канцы мінулага года Ініцыятыва «Твой Фэст», сайт Krevo.by пры падтрымцы культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі» вырашылі падвесці вынікі літаратурнага года і зладзіць першы камерны літаратурна-музычны фэст «Літаратурныя Дажынкі — 2011» у Крэве. На працягу некалькіх тыдняў на розных сайтах ішло галасаванне за лепшага пісьменніка года. У топ-10 найураджайнейшых пісьменнікаў увайшлі Сяргей Календа, Віктар Марціновіч, Юры Станкевіч, Артур Клінаў, Лявон Вольскі, Віталь Рыжкоў, Андрэй Хадановіч, Васіль Гігевіч і Віктар Раманцоў. З тысячы прагаласаваўшых, трыста галасоў дасталося светлагорскаму журналісту, краязнаўцу, літаратару Віктару Раманцову, менавіта ён і вёў рэй на працягу ўсяго галасавання і стаў пераможцам, дзякуючы сваёй першай кнізе «Зведаная зямля. Светлагоршчына ў пытаннях і адказах». Творчы дэбют Віктара аказаўся ўдалым, малады пісьменнік ужо пачаў працу над другой і трэцяй часткай кнігі пра Светлагоршчыну.**

***— Здараецца так, што атрымаўшы поспех, у творцы не хапае імпэту пачаць ствараць нешта новае. Ідучы пратораным шляхам, прызвычайваешся да краявіда, і ён цябе цалкам задавальняе.***

— Мяркую, мне пакуль рана пра гэта казаць. Я ў літаратуры дэбютант. Нават сцежку яшчэ сваю не пратаптаў. Пакуль мае кнігі публіцыстычныя, але ёсць жаданне перайсці на прозу: напісаць аповесць, а можа і раман.

***— З чаго пачалася Ваша праца над першай кнігай?***

— Ідэя напісаць кнігу пра раён прыйшла ў 2004 годзе. Я тады працаваў у газеце «Хімікі» Светлагорскага вытворчага аб'яднання «Хімвалакно», рэдактарам якога была Марына Ізгагіна. У газеце мы заўсёды нешта прыдумвалі, каб зрабіць выданне цікавым. У музеі прадпрыемства захоўвалася хроніка, якую з надыходам юбілеяў друкавалі на старонках газеты. А тут набліжаўся чарговы юбілей прадпрыемства — 40-годдзе (адзначаўся ў 2005 годзе). Пад уплывам калісьці прачытанай кнігі «100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі» я прапанаваў падаць падзеі прадпрыемства ў выглядзе пытанняў і адказаў. Марына ўхваліла маю ідэю. У кожным нумары «Хімікаў» з'яўляліся пытанні і адказы пра гісторыю прадпрыемства, пры чым факты я стараўся браць не толькі з хронікі, але і шукаў іх у падшыўках старых газет. Думка напісаць кнігу пра горад і раён, узнікла ў адзін з веснавых дзён 2004 года, калі ў рэдакцыі трымаў раздрукаваныя пытанні і адказы. Да гэтага часу яны захоўваюцца ва ўласным сямейным архіве. Доўга адмаўляў-

ся ад сваёй здольнасці пісаць, ад мноства ідэй, якія малявалі мне вобразы гатовых кніг. Мусіць, пазней я напішу пра тое падрабязна. Прыгадваюцца словы светлагорскага журналіста, паэта Леаніда Шчэрбіна, які неяк пры сустрэчы сказаў мне: «Віктар, пакуль ты малады, памяць ясная — пішы. Мне ўжо за 60 — многае забываецца». Ідэя напісаць сваю кнігу пра Светлагорскі раён выспявала пастулова, з вялікімі сумненнямі. Спачатку не верыў, што магу напісаць кнігу. А калі адчуў, што гэта рэальна, не верыў, што адшукаю грошы, каб выдаць яе. Мяне заўсёды цягнула неверагодная сіла пісаць праўду жыцця. Пазней я зразумеў, што ў гэтым свеце кожны павінен займацца тым, што можа рабіць. Маё жаданне пісаць заўсёды суправаджаецца прыемнай асалодаю, быццам у гэтым ёсць сэнс майго быцця. З кожным напісаным радком і завершаным творам нараджаюцца пачуцці ўнутранага задавальнення, заспакаення душы. Яшчэ адна акалічнасць: пісаць для сябе значна прыемней, чым пісаць артыкулы для газет, у якіх даводзіцца замоўчваць праўду. Ёсць розніца: пісаць па закліку душы, цалкам рэалізуючы свой творчы патэнцыял, сябе, як свабодную асобу, ці ў газету — таму што так патрабуе працадаўца, і нявольна спрацоўвае самацэнзура. Не хочаш пісаць так, як патрабуюць — сыходзь! Такія няпісаныя законы таталітарнай дзяржавы, у якой нам прыходзіцца жыць...

***— Вы сказалі пра жаданне перайсці на прозу — напісаць аповесць ці нават раман? Адкуль у вашым творчым лёсе ўзнікла новая лінія каардынат — пачаць працу над стварэннем буйнамаштабных мастацкіх твораў?***

— Прыходзілі думкі напісаць адразу аповесць, але мне падалося, што рабіць гэта зарана. Няма ў мяне вопыту напісання такіх твораў. Адна справа пісаць эсэ, зусім іншая — аповесць, раман. Усяму свой час. Калісьці я сумняваўся, што змагу напісаць «Зведаную зямлю...». У пэўны момант сумневы кудысьці зніклі. Я адчуў, што ў гэтым накірунку ўжо дасягнуў такога ўзроўню, калі мне нішто не замінае. Атрымалася кніга. Так і з аповесцю. Сёння я раблю яе накіды, многае мне не падабаецца, штосьці не атрымліваецца, я зноў сумняваюся, перапісваю, але працую. Трэба набіваць руку, шукаць свой стыль і галоўнае — не спяшацца.

Я зусім не жадаю напісаць столькі раманаў, як Аляксандр Дюма, альбо Іван Шамякін. Навошта? Сёння хтосьці іх чытае? А значыць, каму патрэбны гэты стос напісаных твораў? Я разумею, што Івану Шамякіну яны былі патрэбны ў свой час, каб зарабляць грошы ад продажу кніг. Яны патрэбны былі для пакаленняў яго сучаснікаў. Маёй маці вельмі падабалася аповесць «Сэрца на далоні», але калі я яе прачытаў, вялікае асалоды не атрымаў. Памятаю, ледзь змусіў сябе дачытаць аповесць «Атланты і карыятыды» толькі таму, што ў творы згадваўся горад Светлагорск. У гэтым

плане куды цікавейшыя для мяне Максім Гарэцкі, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў. Пісьменнікі і літаратары павінны не проста пісаць пра свой час, а пісаць так, каб іх было цікава чытаць па-за часам. Мне б хацелася напісаць хаця б адзін, але такі твор, які б і праз 100 год чытачы адкрылі і з задавальненнем прачыталі. Каб узнятыя там пытанні, заставаліся актуальнымі праз шмат год.

Пакуль я пачаў пісаць кнігі для вузкага кола людзей — жыхароў свайго раёна. Думаю, маю «Зведанаю зямлю...» яны прачытаюць з задавальненнем і праз 100 год, бо там няма ніякай кан'юктуры, а галоўнае, няма хлусні. Няхай у мяне пакуль будзе 450 аднадумцаў, але якім падабаецца тое, што я раблю. Няхай я сустрэну аднаго з іх, і ён мне шчыра скажа, што мая кніжка яму нешта дала.

Калі я вучыўся ў сярэдняй школе № 6 горада Светлагорска, мая настаўніца па матэматыцы Джума Раіса Іванаўна пасля тлумачэння новай тэмы казала цікавую фразу: «Калі нехта з вас хоць адзін зразумеў і засвоіў тое, што я сёння тлумачыла на занятку, урок прайшоў недарма». Я працягну яе словы: «Калі знойдзецца хоць адзін чалавек, якому мая кніга дапамагла стаць лепей, чым ён ёсць, значыць я яе пісаў не марна». Гэта і ёсць мая «лінія каардынат».

***— Аўтар-дэбютант паспяховага твора — нібы плывунок на хуткай рацэ жыццёвых зменаў. Як толькі ён трапляее ў плынь, ёсць верагоднасць не ўтрымацца і патануць, так і не скарыстаўшыся магчымасцю дайсці да сутнасці і спазнаць ісціну.***

— Гэтага я баюся больш за ўсё. Гэта самае страшнае пакаранне для чалавека, літаратара — не спазнаць жыццёвую ісціну. Але ісціна, як мне здаецца, адна — Узыходжанне. Літаратура, якая апелюе словамі, самы дасканалы сродак Узыходжання. Таму я рад, што прыйшоў у яе, хай сабе і пазнавата. Я нават не стаўлю сабе так пытанне: утрымацца на плыву. Я проста пішу. Для сябе. Хацелася б ствараць такія рэчы, прачытаўшы якія, людзі станавіліся б чысцей, пазбаўляліся недахопаў, комплексаў, каб «вірус духоўнага імунадыфіцыту» не ўзламаў іх трывалую абарону ні пры якіх абставінах, каб яны заўжды заставаліся моцнымі асобамі.

Гэта яшчэ для мяне і пытанне аб прызначэнні літаратуры. Я лічу, што ў літаратуру павінна вярнуцца паняцце катарсісу — ачышчэння, узвышэння. Каб твор ставіў перад выбарам: ты застаешся тым, кім быў раней, альбо рухаешся да іншага ўзроўню свядомасці. Літаратура павінна прымушаць думаць, разважаць, нават спрачацца, хоць я і не веру, што ў спрэчках нараджаецца ісціна. Мне не хочацца марнаваць свой час на творы, якія запэцкваюць душу брудам, прымушаюць збочыць з праторанага шляху. Навошта распыляць жыццёвыя сілы, калі і так мала часу, каб адказаць на пытанне: «У чым сэнс майго жыцця?»

***— На Вашай кнізе пазначана: «Кніга для эліты». Ці кожнага чалавека можна аднесці да эліты? Эліта і інтэлігенцыя — ці раўназначныя паняцці? Можа ўвогуле не трэба змяшчаць на кнігах такія надпісы: раптам адштурхне некаторых чытачоў? Калі аўтар пазначае «Кніга для эліты», значыць, ён таксама адносіць сябе да яе складу?***

— Чаму я зрабіў надпіс «Кніга для эліты»? Я ведаю, што гэта не сціпла, што гэта адштурхне некаторых чытачоў. «Кніга для эліты» — гэта «замова ад нячысцікаў», якім не варта нават браць яе ў рукі. У старажытнасці на кнігі прымацоўваліся спецыяльныя накладкі-зашчэпкі — замкі. Такім чынам веды не павінны былі трапіць да кепскіх людзей. Зачынялкі былі патрэбны для таго, каб даць чытачу час на роздум: ці варта яму адкрываць гэтую кнігу, увогуле зазіраць у яе. Пакуль чытач яе адкрываў — ён рыхтаваўся знаёміцца са зместам, упарадкоўваў свае думкі. Такія кнігі патрабавалі ўважлівага, інтэлектуальнага чытача.

Гэты надпіс і ёсць такая сучасная зашчэпка-замок. Мая пазнака ставіць чытача перад выбарам: ці будзе ён чытаць кнігу пра сваю зямлю на мове продкаў, ці варта тое пачынаць яму рабіць? Я б хацеў, каб маю кнігу чыталі разумныя людзі.

Зараз многіх не цікавіць, што было на зямлі, на якой яны жывуць. Людзі перасталі заўважаюць каштоўнасці свайго часу. Такія людзі не вартыя прачытання маёй кнігі. Чалавека, улюбёнага ў свой край, сваю зямлю, надпісам «Кніга для эліты» не спыніш.

Давайце паглядзім яшчэ шырэй. Сёння беларускія кнігі не выдаюцца вялікімі накладамі, таму я лічу, што яны ўжо скіраваны да эліты. Можна на кожным беларускамоўным выданні, што выходзіць у краіне, смела пісаць «Кніга для эліты», і гэта не будзе памылкай. Проста я гэта зрабіў першы, хаця сітуацыя ўжо даўно падказвае гэта рабіць усім. «Кніга для эліты» — гэта трывога за будучыню беларускага народа і беларускай мовы — адной з самых старажытных славянскіх моў, дзяржаўнай мовы — Вялікага Княства Літоўскага.

Сёння школьнікі амаль не ведаюць беларускую мову, а людзі старэйшага ўзросту забылі яе. Мне мае землякі кажуць: «нам цяжка чытаць па-беларуску, было б лепей, каб ты напісаў сваю кнігу па-руску». Адна супрацоўніца бібліятэкі назвала мяне нацыяналістам толькі за тое, што я напісаў кнігу на мове тытульнай нацыі гэтай зямлі.

Гэта жахлівая сітуацыя, калі ў Светлагорскім раёне беларускія школы засталіся толькі ў сельскай мясцовасці. І то — беларускія яны, хутчэй, толькі па назову. У самім Светлагорску няма ніводной беларускамоўнай групы ў садках, ніводнага беларускага класа ў 12 школах. І такая сітуацыя не толькі ў Светлагорскім раёне. Што казаць, калі ў Беларусі няма ніводнай беларускай вышэйшай навучальнай установы, ніводнага беларускага тэ-

леканала. Сёння кожнага, хто чытае па-беларуску, можна смела называць элітай, «апошнім з магіканаў»...

Гомельскі бард Андрусь Мельнікаў, які канцэртамі падтрымлівае маю кнігу, даў сваё тлумачэнне гэтага надпісу — «Кніга для шляхты».

Гэты надпіс таксама абвяшчае, што ў Светлагорску ёсць пэўны асяродак людзей, якія вывучаюць гісторыю роднай зямлі, пішуць даследаванні, літаратурныя творы, праводзяць навуковыя канферэнцыі «Шацілкаўскія чытанні». Дарэчы, сёлета пройдзе чацвёртая па ліку канферэнцыя. А выданне такой кнігі як «Зведаная зямля: Светлагоршчына ў пытаннях і адказах» дае магчымасць аб 'яднацца вакол свайго роднага, непаўторнага, тутэйшага. Вакол таго, чым адметная Шацілкаўшчына і вылучаецца сярод іншых земляў Беларусі.

***— Ваша кніга называецца «Зведаная зямля». Зведаная! Значыць, Вы ведаеце пра яе ўсё, ці не так? А раз яна зведаная, то курс па яе вывучэнні павінен быць завершаным. Ці на зведанай зямлі пакуль застаюцца «белыя плямы», неразгаданыя рэбусы-галаваломкі, да якіх немагчыма падабраць адпаведны код?***

— Сваю зямлю да канца зведаць немагчыма, таму назва кнігі павінна быць хутчэй «Нязведаная зямля...» Я толькі пачаў вывучаць сваю зямлю, месца, дзе нарадзіўся. «Зведаная зямля» — гэта той невялікі кавалачак, выспачка, якую я адваяваў у прасторы для сябе, заклаў пэўны падмурак, і цяпер можна рухацца далей.

*З Уладзімірам Някляевым у Крэве. 2011 г.*



Я хацеў скінуць з сябе адказнасць даведацца пра сваю зямлю на гісторыкаў, але не здолеў. Не дазволіла цікавасць краязнаўствам, якая абудзілася яшчэ ў юнацтве, у далёкім 1989 годзе, дзякуючы светлагорскаму настаўніку гісторыі Тэльману Маслюкову. Мы з ім шмат падарожнічалі па раёне, шукалі гарадзішчы, селішчы, курганы, знайшлі Здудзіцкі каменны крыж, які, мусіць, аднагодак шырока вядомаму Тураўскаму. З нашым удзелам быў знойдзены Казімір — горад XVI ст., які меў Магдэбургскае права. Гэта мы выманілі ў Светлагорскі раён прафесара кафедры гісторыі Беларусі і паліталогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта доктара гістарычных навук Сяргея Рассадзіна, які толькі выказаў здагадку, што горад мог знаходзіцца на тэрыторыі Светлагорскага раёна. Я знайшоў інфармацыю пра гэта ў інтэрнэце, зацікавіў Тэльмана Маслюкова, у якога ёсць знаёмыя археолагі ў НАН Беларусі. Так мы выйшлі на Сяргея Рассадзіна, удзельнічалі з ім у археалагічных раскопках Казіміра, потым Шацілінскага Вострава — старажытнай часткі Светлагорска. Мясцовыя ўлады актыўна падтрымлівалі раскопкі. За апошнія гады светлагорскімі краязнаўцамі зроблена вялікая праца па аднаўленні адметнасці нашай зямлі. Таму коды даводзіцца ламаць і ўласнаручна, і супольна з землякамі. Дзякуй, побач ёсць фанаты, з якімі гэтыя самыя рэбусы-галаваломкі разгадваць лягчэй.

***— Што дапамагае ў працы? Ці маеце патаемную зброю ў барацьбе за «зведаную зямлю», свой метад змагання?***

— Мой метад змагання — праўда. Ёй мяне вучылі ў школе. Увогуле, я заўважыў, што ўва мне прысутнічае абвостранае пачуццё справядлівасці, пошуку праўды. Я так і назваў сваю прадмову да першай кнігі — «Праўда мяне робіць свабодным». Праўда, як і свабода, вечная. Яна знаходзіцца побач, непрыкметная і незаўважная. Камусьці трэба зрабіць вялікія высілкі, каб яе заўважыць. Праўда адкрываецца толькі тым, хто яе варты. Чалавек можа памерці, не зведаўшы праўды і свабоды. Праўда, свабода можа яшчэ ператварацца ў больш вялікую праўду — свабоду слова. Напрыклад, слова пісьменніка, паэта, музыкі. Андрэй Мельнікаў заўважыў у адной са сваіх песняў: «Мова майго народа — свабода, мэта майго народа — Бог». Самая вялікая праўда і свабода — у Госпада. Згадайма лацінскае: «Цэзар мне сябра, але праўда даражэй».

***— Фанатызм да дабра не даводзіць... Сведчанне таму — непрыняцце Вас як асобы, як аўтара светлагорскімі СМІ. Чым Вы гэта патлумачыце?***

— Стараюся не паўтараць чужыя памылкі, наогул не паўтарацца. «Зведаная зямля...» — першая кніга ў маштабах раённага цэнтра, напісаная ў жанры пытанняў і адказаў. «Горад для моцных асобаў» — гэта першая кніга-асэнсаванне, рэфлексія Светлагоршчыны, напісанная мясцовым літаратарам. Але яна пакуль не выйшла.

Вядома, я памятаю аб сотнях расстраляных сталіністамі беларускіх пісьменнікаў, вучоных. Сярод іх мае ўпадабаныя аўтары, якія пісалі праўду, Максім Гарэцкі, Андрэй Мрый; тыя, хто проста любілі сваю мову, як мой зямляк, заснавальнік Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі Сцяпан Некрашэвіч. Калі верыць у тую ж цыклічнасць, то сітуацыя можа цалкам паўтарыцца, жыццё можа паставіць і мяне перад такімі абставінамі. Сталін калісьці ўсе літаратурныя суполкі загнаў у адзіны саюз, разграміў усе апазіцыйныя палітычныя арганізацыі. Сёння мы бачым, як усё паўтараецца. Саюз беларускіх пісьменнікаў, у якім былі Янка Купала і Якуб Колас, знаходзіцца на мяжы знішчэння, у яго адабралі ўсё: газеты, часопісы, Дом літаратара, дом творчасці Іслач... Які жах! А потым пісьменнікаў падзялілі на «правільных» і «няправільных»... «Правільным» далі добрыя магчымасці для творчасці. «Няправільным», вядома, нічога не далі.

Я хацеў бы пісаць такія рэчы, якія б былі недасягальныя, непадуладныя палітычнай кан'юктуры часу, стараюся быць праўдзівым і шчырым у кожным напісаным слове. Праўда не ўсім падабаецца, а сёння нават замоўчваецца, у тым ліку і ў мясцовых СМІ. Можа таму публікацыя пра выхад маёй кнігі «Зведаная зямля...» была толькі ў адной раённай газеце, а перамога ў «Літаратурных дажынках — 2011» праігнаравана ўсімі мясцовымі СМІ. Хаця пра гэтую падзею напісалі многія рэгіянальныя, рэспубліканскія газеты і інтэрнэтрэсурсы. Мае знаёмыя сказалі, што гэта спрацавала звычайная зайздрасць, «правінцыйная хвароба». Мяне гэта не засмучае. Для мяне літаратура — гэта больш асабістае, чым публічнае. А ў дашчэнту зрусіфікаваным Светлагорску літаратара, які піша па-беларуску, могуць не заўважыць, не зразумець і не прызнаць ніколі.

***— Ці не здаецца Вам, што пастаўленая аўтарам у думках кропка завяршае распачатае? А што далей? Ці ёсць куды рухацца?***

— Вядома, гэта кропка, але не выдуманая, а рэальная, як тыя падзеі і людзі, пра якіх я напісаў у сваёй кнізе. У думках я паставіў гэтую самую кропку, прынамсі пасля першай кнігі, але ўзнятая ёй хваля ніяк не дасягне берага, ніяк не супакоіцца, яна працягвае мяне несці — сустрэчамі з чытачамі, спрэчкамі на форумах і ў сацыяльных сетках, зычлівай крытыкай і знявагамі недабразычліўцаў... Гэта прымушае засмучацца, пакутваць, смяяцца, разважаць — жыць тым, чаго, мусіць, не хапала раней. Пасля таго, як выйшла кніга, маё жыццё стала іншым. Дарэчы, я некалькі разоў сніў пра тое, што наступяць змены. Аднойчы прысніў, як у Светлагорску па шляху на вакзал, з'явілася арка-праход. Я праходжу праз яе і апынаюся на вакзале зусім іншага горада, бачу процьму чыгуначных шляхоў, прыгожых сучасных і старых будынкаў. Я зразумеў, што вось-вось пачнецца іншае жыццё. Так і атрымалася. З'явіліся новыя знаёмствы сярод творчых людзей, гісторыкаў, вучоных. Цяпер я гляджу на жыццё з літаратурнай званіцы і зусім па-іншаму.

***— Сустрэчы з чытачамі, інтэрнэт-спрэчкі, увага літаратурных крытыкаў, гутаркі пра першую кнігу — ці не замінае ўсё гэта стварэнню адпаведнага працоўнага настрою для напісання наступнай кнігі?***

— І замінае, і спрыяе. Мае чытачы, апаненты падказваюць тэмы для другой кнігі «Зведанай зямлі...», раяць, як зрабіць кнігу лепей, часта ў крытыцы гучыць рацыянальнае зерне. Вядома, гэта адбірае час, якога застаецца ўсё меней і меней, нават творчыя сілы. Аднак карысна і важна кожнаму літаратару адчуваць свайго чытача, пачуць яго думку. Адваротная сувязь патрэбна. Не ў кожнага аўтара наладжана гэтая сувязь. Мая кніга арыентавана на маіх землякоў, таму праблемаў у мяне з гэтым няма. Мае чытачы натхняюць працаваць над гэтым праектам далей.

Дарэчы, пра наступную кнігу. Я ўжо напісаў яе. Туды ўвайшлі мае эсэ, публіцыстыка 2003—2011 гадоў. Яна носіць назву «Горад для моцных асобаў» і таксама адрасавана ў першую чаргу маім землякам. У ёй пераасэнсоўваюцца гістарычныя і сучасныя падзеі, тое, што адбываецца сёння на Светлагоршчыне, ці звязана з ёю.

***— «Горад для моцных асобаў». Аўтар, які называе так сваю кнігу, сам не мае права быць слабым...***

— Трэба патлумачыць сэнс назвы будучай кнігі, які раскрывае аднайменнае эсэ. У Светлагорскім раёне больш віч-інфіцыраваных (віч-снід з маленькай літары — жаданне аўтара), чым у якіх іншых. Я спытаў сябе: чаму так сталася? Тут ёсць некалькі прычынаў. Пра іх я распавядаю ў гэтай

*Са Зміцерам Вішнёвым падчас прэзентацыі кнігі «Зведаная зямля». 2011 г.*



кнізе. Светлагорск — гэта горад, у якім жывуць пераважна адарваныя ад геаграфічных, родавых каранёў людзі. Ім няма справы да тутэйшай культуры, гісторыі. Яны прыехалі з ўсяго СССР па закліку камсамола будаваць новы горад. Яны нават «перахрысцілі» на савецкі ўзор гэтае месца — да 1961 года горад называўся Шацілкі. Светлагорск «светлым» стаў таму, што тут пабудавалі электрастанцыю. Якая наіўнасць!..

Цэнтральная плошча — гэта твар кожнага горада. На плошчах гарадоў заўсёды сялілі Бога — ставілі храмы. Напрыклад, у Мінску ў цэнтры горада стаіць касцёл Сымона і Алены, у Гомелі — сабор Пятра і Паўла. У Светлагорску ў цэнтры горада няма храмаў. Паводле плошчы Светлагорск — гэта горад бязбожнікаў-атэістаў.

Амаль палову цэнтральнай плошчы горада займаюць будынкі, у якіх знаходзяцца дзяржаўныя установы: райвыканкам, пракуратура, міліцыя. Я раблю выснову, што для тутэйшага жыхара выступае жыццёвым сэнсам не боскае, а дзяржаўнае. Акрамя таго Светлагорск, пачынаючы з 1961 года, амаль страціў свае беларускія этнакультурныя, гістарычныя, моўныя каштоўнасці. Толькі ў 2006 годзе ў цэнтры горада з'явіўся яго заснавальнік — Раман Шаціла. Гэта, мусіць, першы крок да аднаўлення гістарычнай памяці насельнікаў горада. Ці будуць наступныя — невядома. У чалавека, пазбаўленага сваіх каранёў, адбіраецца магчымасць узнаўляць у часе здабыткі папярэдніх пакаленняў. Ён становіцца заблуднай авечкай, якая адбілася ад пастуха. Таму, відаць, і прыходзіць віч-снід.

А калі так адбываецца, то Светлагорскі раён, я лічу, абраны для пэўнай мэты. Для якой? Давайце будзем разважаць далей. Хто можа выжыць у такіх умовах? Толькі моцныя людзі, сем'і, у якіх пануе каханне, давер, шчырасць і паразуменне. Тыя, хто яшчэ не згубіў свае карані, ці робяць тое, што адновіць яго духоўную повязь з мінулымі пакаленнямі. Мая кніга «Зведаная зямля...» яднае мінулыя і сучасныя пакаленні жыхароў Светлагоршчыны ў адзінае, аднаўляе гістарычную памяць, сувязь з продкамі, адметнасць гэтай зямлі. Але я адзін, можа, і не паспяваю сказаць пра гэта, гледзячы, як распаўсюджваецца віч-інфекцыя — 12-15 вірусаносьбітаў штомесяц. Светлагорскі раён — гэта месца фармавання моцных асобаў, якія адолеюць гэтае зло. Я моцны тым, што ўзяў адказназнасць на сябе, сказаць пра гэта. Штодня прашу ў Госпада, каб ён бараніў маю сям'ю і маю тэрыторыю жыцця ад гэтай навалы. Я напісаў кнігу, кажучы гэтым Богу, што мы не плёвелы, а яго дзеці, і прашу змяніць гнеў на ласку да маіх землякоў. Дарэчы, жаданне напісаць «Зведаную зямлю...» амаль супала з міратачэннем абраза Мікалая Цудатворцы, якое адбылася ў 2001 годзе ў Светлагорску. Міратачэнне сведчыць, што абраз плача за тых, хто не верыць у Збавіцеля і згубіў да яго свой шлях.

**Марына Яўсейчык**



# Ала Петрушкевіч

паэтка, крытык, літаратуразнаўца. Кандыдат філалагічных навук. Аўтар паэтычнага зборніка «Пярсцёнак». Апублікавала звыш 200 навуковых працаў, сярод якіх кнігі: «Іду па слядах: Літаратуразнаўчыя артыкулы, эсэ» ( 1997), «Пра творы і творцаў: літаратурна-крытычныя артыкулы» ( 2002), «Некаторыя старонкі беларускай літаратуры пачатку XX стагоддзя» (2010) і інш. Нарадзілася ў 1960 годзе ў вёсцы Шчонава на Гарадзеншчыне. Жыве ў Гародні.

# Апошні паэт Гародні

Анатоль Брусевіч — цікавы і, відавочна, апошні прадстаўнік той кагорты гарадзенскіх творцаў, што яскрава заявілі пра сябе на пачатку дзевяностых. Мінула болей чым дваццаць гадоў. І з таго часу ў каралеўскім месце не з'явілася ні аднаго беларускага паэта. Відаць, яму суджана стаць апошнім паэтам Гародні.

А тая кагорта была вельмі цікавай і багатай на таленты: Юрась Пацюпа, Юры Гумянюк, Едрусь Мазько, Андрэй Пяткевіч, Анжаліна Дабравольская. Яны эксперыментавалі ў паэзіі, стваралі творчыя суполкі (да прыкладу, верш-гурт «Дыяген»), але заўсёды аберагалі сваю асабістую прастору, шанавалі мастакоўскую волю, таму, зрэшты, і заставаліся на адзіноце ў найноўшым айчынным літаратурным працэсе.

У аснове паэзіі Анатоля Брусевіча, па вызначэнні літаратуразнаўцы Ігара Васільевіча Жука, — дуэль двух эстэтык. Класічнай беларускай літаратуры нашаніўскай пары з яе пакланеннем красе, светласці, апалагетам якой — Максім Багдановіч — «госць з высокага неба» (Аркадзь Смоліч), і дэкадансу, што выразна заяўлена яшчэ ў першай кнізе паэта «Дуэль»:

*Дуэль паміж жыццём і самагубствам*
*Хто выйграе — ня ведаю пакуль.*
*Два сэкунданты — розум мой і глупства.*
*Не ведаю, хто выйграе пакуль* [1, с. 86].

Тут выказана і эстэтычная, і жыццёвая пазіцыя аўтара. З аднаго боку, апалагетыка жыццю, дзе ўсё ўладкавана, разумна і прыгожа. Недарэмна ж секундантам жыцця розум. З другога — распад, разлад, самагубства, тое, што пазбаўлена рацыянальнай асновы. Акрэсліваецца праблема выбару, калі выбар, на першы погляд, не залежыць ад волі асобы, адбываецца безадносна да яе жаданняў. Калі невядомы вынік, што падкрэсліваецца радковым паўторам. Але гэта толькі на першы погляд, бо секунданты, розум і глупства, аднолькава належаць асобе, гэта два бакі цэласнага і цэльнага.

У той час малады паэт (першая кніга выйшла, калі Анатоль Брусевіч вучыўся ў школе), як адзначыў знаны даследчык літаратуры Гарадзеншчыны Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч, «настойліва шукаў сябе ў слове.., давяраючы натуральнасці юнага светаадчування, якое нараджае простыя і шчырыя, а часта надта арыгінальныя, паэтычна нечаканыя адбіткі жыцця» [2, с. 86].

Лірычны герой паўстае ў вобліку героя-вандроўніка, мэта шляху якога высокая — неба, таму і страты адпаведна вялікія — сяброўства, блізкія людзі. Або назіральніка, які свядома выбірае пазіцыю збоку і проста чакае:

*Па дарозе на неба я ўбачыў палац,*
*Ля якога стаялі маленькія людзі.*

*Я туды не пайшоў, а застаўся чакаць,*
*Каб дазнацца нарэшце, што з гэтага будзе* [1, с. 7].

Наогул, матыў адстароненасці, калі герой староннi наглядальнiк, што шмат страцiў, сустракаем у многiх вершах першага зборнiка: «Трыялет», «Я шукаў чалавека...», «Цiха крочу па белым парку...» i iнш.

Адзiн з асноўных матываў, што характэрны эстэтыцы дэкадансу, разгубленасцi, няўпэўненасцi i няпэўнасцi ў варожым чалавеку свеце, у паэзii Анатоля Брусевiча амаль адсутнiчае. Ягоны герой — асоба ўпэўненая ў сабе, варожае акружэнне па-за iм. Ён глядзiць на зямны свет з вяршынi, якую сам i стварыў. Адпрэчвае здрабнелае зямное iснаванне, якому недасяжныя вяршынi, напоўненыя таямнiцай нябеснай (размова не iдзе пра хрысцiянскiя матывы). Але адначасна застаецца цiкавасць да жыцця ва ўсiх ягоных праявах, апроч мiзэрнасцi, непасрэдны ўдзел у ягоных вабнасцях.

Пошук сябе, самаiдэнтыфiкацыя сябе ў сабе, саматоеснасць — на гэтым шляху ў паэта адбывалася адмаўленне традыцыi, што ўзнiкла ў нашай лiтаратуры з часоў Максiма Гарэцкага, калi матыў раздваення душы стаў вызначальным у творчасцi многiх аўтараў. Гэта адмаўленне ў паэзii Анатоля Брусевiча выказана даволi арыгiнальна:

*Я сам сабе ня вораг i ня сябра.*
*Шкада мне адзiнокую душу.*
*Я зневажаю сам сябе нахабна.*
*I доўга прабачэння не прашу.*

*Я сам з сабой, i разам нам — цудоўна...*
*Я — гэта я, а можа я — ня я?*
*Ня ведаю, хто з нас i ў нас галоўны...*
*Не раздваiлася душа мая* [1, с. 8].

Уражанне лёгкасцi, з якою аўтар гуляе словамi, толькi знешняе, бо размова iдзе пра сур'ёзныя, значныя рэчы.

I ўжо ў самой назве другой па лiку кнiгi «Падаю ў неба» выразна прагучала сумяшчэнне i супрацьстаянне распаду i ўзвышэння. Насупраць звычнаму, прынятаму: узляцець у неба цi ўпасцi з неба.

Многiя вершы пабудаваны па гэтай схеме, калi спалучаюцца вобразы, матывы розных эстэтык. Да прыкладу, верш «Дзень нараджэння паэта» — яшчэ адна своеасаблiвая разгадка загадкi Максiма Багдановiча гарадзенскiм паэтам. Дэкадэнскiя матывы: распад, змрочнасць, бруд, чарнеча, безнадзейнасць запаўняюць паэтычную прастору. Нi адной светлай ноты, нi светлай фарбы, нi светлага пачуцця:

*Мутнае вока зiмовага неба*
*Плакала сьнегам.*

*Брудныя пальцы вуліцаў гораду*
*Стыглі ад холаду.*

*Дым з чорных комінаў знакам бясконцасьці*
*З жалем узносіўся.*

*Дрэвы стаялі, як духі ці прывіды,*
*Мёртвыя нібыта* [3, с. 24].

І як цуд, як светлы прамень, што прабіваецца са змрочнага зімовага неба, прышэсце Богам дадзенага Паэта ў змярцвелы свет, каб сваёй прысутнасцю аднавіць тут красу. Апошняя страфа, выдзеленая графічна, супрацьпастаўлена ўсім папярэднім. Рашучае «але» ў яе пачатку рэзка перакрэслівае безнадзейнасць, а эпітэт «цудоўная» падкрэслівае эстэтычна-ўзвышанае, што заключае ў сабе галоўная падзея гэтага дня: «Але ўсё роўна цудоўная дата — // сьнежня дзявятага».

Адзін з цэнтральных вершаў, таксама пабудаваных па прынцыпе су- і супрацьпастаўлення розных эстэтычных з'яваў, — «Маніфест дэкадансу». У ім аўтар заяўляе пра адметнасць сваіх мастацка-эстэтычных прынцыпаў. Сэнсава і інтанацыйна верш дзеліцца на дзве часткі: у першай — апалагетыка адметнай, «некласічнай» красы, бо выяўляецца яна праз падзенне (але якое!), а не ўзвышэнне, у другой — адмаўленне нізкага, бруднага, прымітыўнага. Супрацьпастаўленыя няспешны, размераны рытм першай, бо кожнае слова нясе высокі, вартасны сэнс (у першым радку наогул нельга вылучыць галоўнага слова, бо галоўныя — усе), і рэзкая, што абрываецца на кожным слове, інтанацыя другой:

*Падаць таксама трэба прыгожа,*
*Як падаюць цені, як падаюць промні,*
*Як падае ў неба касьцельная готыка,*
*Як позірк спадае ў бяздоньне.*
*Падаць трэба прыгожа.*
*Але не так, як плявок ці акурак,*
*Як вы, паэты-збачэнцы і блазны.*
*Падаць трэба, нібыта віхура,*
*Што змятае ўсё, апроч дэкадансу* [3, с. 29].

Анатоль Брусевіч — гарадзенскі паэт. Маецца на ўвазе не месца нараджэння ці сталага жыхарства. Гэта іншае. Такіх адзінкі. Нават калі яны раптам з'язджаюць, усё роўна застаюцца гарадзенскімі паэтамі. Як Юрась Пацюпа. Гэта як наканаванне. Але высокае. Далучанасць да душы горада, адчуванне ягонага рытму, уменне ўзняцца на ягоныя наднёманскія кручы, каб адтуль многае ўбачыць і сысці ў даўно знішчаную Швейцарскую даліну да змарнелай, але жывой Гараднічанкі. Гародню не выбіраюць, выбірае

яна. І калі яна выбера кагосьці, то вяртацца сюды мусіш. Матыў вяртання ў Гародню — гэта вяртанне да сябе, да сваёй тоеснасці, пад надзейную ахову, а што можа быць больш прыемным. Пра тое ў адным з даўнейшых вершаў паэта «Гародня», што ўвайшоў у другую кнігу:

*Прыемна вярнуцца ізноў у Гародню*
*апошнім аўтобусам ноччу.*
*Над горадам месяц, нібыта паходня,*
*і зоры — Анёлавы вочы* [2, с. 4].

Не ведаю, адкуль у творы Анатоля Брусевіча гэты прыгожы астральны вобраз: ці то ўплыў паэзіі Наталлі Арсенневай (згадаем: у яе раннім вершы «Вячорнаю парою»: «Зоры — вочы малых засмучоных анёлаў» [4, с. 29]), ці адна і тая ж паэтычная хваля кранула ў розныя часы гэтых розных беларускіх паэтаў.

Але стасункі з Гародняй не бываюць роўнымі, гладкімі. Так, часцей — гэта пачуццё, што нагадвае каханне з першага позірку, але, як і ў сапраўдным каханні, перапады, узрывы адбываюцца нярэдка. Калі цемра засланяе святло, калі ледзяны холад, калі маркотная адзінота, пустэча пануюць у душы. На першы план у іншым, нядаўнім, вершы «Гародня» ізноў выступаюць дэкадэнскія матывы. І горад паўстае чужаніцай, але гэта родны горад, які адначасна выклікае ў душы каханне і нянавісць:

*Такімі хвілінамі можна*
*любіць і ў той час ненавідзець,*
*нібыта жанчыну, свой горад,*
*знаёмы і разам чужы* [3, с. 46].

Тут паўнапраўным гаспадаром, ці то ідалам, ці то Богам, які варты пакланення, магутны дух правінцыі, пра што з вуснаў гарадзенцаў гучыць з вялікім гонарам, бо правінцыйнасць тут адметнага складу. Як адзінага ў нашай краіне каралеўскага места. У яшчэ адным вершы-маніфесце «Мілы мой сябра...», ахвяраваным паэту Едрусю Мазько, сцверджана як дадзенасць звыш і адначасна знойдзенасць праз свой досвед асобы і творцы жыццёвая пазіцыя, у якой між іншага, прывіднага, зменнага (пыл, вецер) дамінуе гэты дух правінцыі:

*Згубная справа —*
*«лева» і «права»,*
*лепей па цэнтры*
*жыць і маліцца*
*духу правінцыі,*
*пылу і ветру* [2, с. 43].

Матыў гульні — адзін з скразных у паэзіі Анатоля Брусевіча. Гульня, якую герой успрымае як жыццё, а жыццё ператварае ў гульню. Часам жыццёвыя скрушныя імгненні вытыркаюцца, нібы дзіды, раняць, але гульня

злагоджвае гэтыя раны. Лёгка мяняе месцамі творца жыццё і смерць, згодна з той жа гульнёй, без трагедыйнага надрыву, калі відавочныя праявы абсурду. Шукае і знаходзіць, калі паэту-акцёру можна даць веры, акавіту — асалоду, і:

*Яна, адзіная на сьвеце,*
*чытае думкі па вачах,*
*а потым скажа: «Сьпі, паэце».*
*Ды толькі той памёр на днях* [3, с. 37].

Праўда, часам з'яўляецца стома і расчараванне ад празмернасці гульні, ад разумення, што жыццё і тэатр розныя рэчы і не заўсёды дазваляецца беспакарана блытаць іх, перастаўляць месцамі, прапаноўваючы жыццю свае сюжэты. Аўтару ж заўжды няпроста, калі ягонае тварэнне адкінута:

*Іграць жыццё ня так складана,*
*як непрыемна і нязручна.*
*Я адыду, але балюча*
*за мой тэатар зруйнаваны* [3, с. 6].

З той жа гульні жыццёвымі рэаліямі перафарбоўка рэчаў у нязвычныя колеры, калі традыцыйны нічога не скажа і трэба ўбачыць у з'яве, прадмеце іншы змест менавіта праз іншы колер: жоўты верас, дымзедролавы туман, белыя краты.

Эратычныя матывы, якіх багата ў кнізе, — гэта таксама даніна дэкадансу і таксама для іх адлюстравання абрана гульня. Герой-каханак — тое ж дзіця, якое асвойвае свет праз дотык, калі абавязкова кранунь рукамі, паспрабаваць на смак, удыхнуць водар. І жаднай разбэшчанасці, бо эротыка такая легкавейная, светлая, калі цела жанчыны як музычны інструмент, краіні які — і загучыць музыка, як чысты ліст паперы, дзе пішуцца радкі вершаў («Сонца акурак датлее...»). Мяркуецца, што тут Анатоль Брусевіч ідзе ўслед за Максімам Багдановічам, які, як слушна адзначыла даследчыца класічнай беларускай літаратуры Ірына Багдановіч, «прыгожа «справіўся» з дэкадансам, стварыўшы некалькі натуралістычна-эратычных вершаў... Яго эстэтызацыя эрасу была прыгожым беларускім эпізодам у еўрапейскім дэкадансе, які сведчыў, што нічога недаступнага для беларускай паэзіі на пачатку XX ст. ужо не існавала» [5, с. 181].

Яна, гераіня, каханка, у вершах Анатоля Брусевіча шматаблічная: цнатлівая ў сваёй мілай разбэшчанасці («Брунэтка»), далёкая і блізкая, бо таксама творца, паэтка («Схіляю голаў перад Вамі...»), часам узвышаная да сімвалу спрадвечнай зямной красы, калі жанчына і зямля — гэта адна і тая ж дасканалая песня:

*Мне ціхім голасам дзявочым*
*пяе спрадвечная зямля* [3, с. 38].

У апошняй па часе публікацыі нізцы «Віно твайго цела» ў беластоцкім часопісе «Тэрмапілы» матыў атаясамлення зямлі і жанчыны прагучаў асабліва выразна (верш «Жанчыне»). Паэт вылучае тое, што аб'ядноўвае: краса, прыцягальная моц, разнастайнасць, ад чаго нельга ўцячы, што здзіўляе і захапляе, зваблівае і зводзіць, дае жыццё і пазбаўляе яго. Жанчына і зямля — гэта першапачатак, куды заўсёды вяртаецца вечны вандроўнік мужчына:

*Ты — як Зямля.*
*Той, хто бяжыць ад цябе,*
*Бяжыць, каб зноўку вярнуцца*
*Туды, адкуль пачынаў уцёкі* [6, с. 115].

А яшчэ яна, гераіня, — гандлярка. Арыгінальна намаляваны матыў «гандлярка і паэт» у вершы Анатоля Брусевіча «Балада», абазначаны яшчэ ў нашаніўскай літаратуры Максімам Гарэцкім. Заяўляючы жанр, паэт выкарыстоўвае той жа элемент гульні, бо нічога баладнага ў вершы няма, апроч прадказальнага фіналу — развітання, у якім узнікае абавязковы вобраз злога лёсу-разлучніка. Калі адкінуць іранічны тон і значны падтэкст траты сябе, свайго жыцця на танныя прыгоды, то гэта хутчэй гарадскі раманс. Гумар, аднак, настоены на смутку, дамінуе ў творы. Жыццё і каханне як лёгкая прыгода, прыцягненне несумяшчальнага, што можа быць толькі часовым, нетрывалым, выпадковым:

*Ён быў паэт — слуга банальных словаў.*
*Яна — гандлярка цнотай і распустай.*
*Іх звёў ня лёс, а толькі выпадковасць,*
*Таму яны зыходзіліся ў густах* [3, с. 22].

Пяру Анатоля Брусевіча падуладны мастацкія выкшталцонасці, паэт цікава і, падаецца, лёгка эксперыментуе з паэтычнай страфой. Стварае акравершы («Стыне вечар...»), акратэлевершы («Святлана»), і нават мультыакравершы («Свабода»). Дарэчы, апошні верш увайшоў у зборнік «Верш на Свабоду», што стаўся вынікам цікавага творчага праекта, засведчыў пра імкненне беларусаў убачыць сваю краіну «салодкай зямлёй свабоды» (С.Ф. Сміт). У гэтым творы, зробленым, падагнаным да канону формы, уражвае сапраўдная віртуознасць, нязмушанасць, калі словы лёгка выплываюць з аднаго гукавога цэнтра, каб гэтак жа лёгка аб'яднацца ў сэнсавы цэнтр-знак:

*Сон сплывае срэбнаю слотаю,*
*Выспы восеньскіх вокнаў вось-вось*
*Апякуць агнявымі агорткамі*
*Бесклапотную безліч бяроз.*
*Одум оргіяў, ордэны, ордэры,*
*Дагараючы джаламі дробнымі,*
*Адраджэння абвесціць анонс* [7, с. 16].

Чытачу зразумелая алюзія на адзін з мітаў савецкага літаратуразнаўства, звязаных з імем Янкі Купалы, з ягоным быццам бы ратаваннем тым, хто непасрэдна прыспешваў знішчэнне вялікага паэта. Гісторыя гэтая і сапраўды ўяўляе сабой бяздумную оргію, на чым сёння нарэшце пастаўлены крыж.

Згадаем акратэлеверш «Гітара», прысвечаны знакамітаму гарадзенскаму музыку Уладзіміру Захараву. Галоўны вобраз — стрыжань, цэнтр твора і адначасна — далікатны абрыс, што абрамляе паэтычную прастору, адбіваецца сам у сабе і гучыць. І праз гук, першапачатак якога эмоцыя, праступаюць спачатку далікатныя, няяркія колеры, затым гэткія ж абрысы, каб намаляваць карціну іншасвету, дзе пануе музыка, дзе няма ні пачатку, ні канца, дзе пасялілася вечнасць. Гэты верш — імпрэсіяністычны абразок, намаляваны адначасна словам, гукам, фарбай:

*Гукаў крыштальна-бурштынавы высціг*
*Іншы сусвет, іншыя выйсці*
*Тонкай журбы дыямант.*
*Але ж на сэрцы не шэрая фарба,*
*Рэзкіх кантрастаў суцішыўся варвар*
*Альфы, амэгі — няма* [3, с. 28].

Заяўленае ў назве апошняй кнігі спраўджваецца напоўніцу. Падаць у неба — гэта прыгожа. Бо гэта адрачэнне не ад жыцця з ягонымі разнастайнымі праявамі, а ад зямнога бруду. Бо гэта ачышчэнне праз далучанасць да высокага, нябеснага, праз адрачэнне ад усялякіх, створаных людзьмі, ідэалаў і правілаў. Гэта шлях апошніх рамантыкаў і адначасна дэкадэнтаў. Яго і прапануе гарадзенскі паэт Анатоль Брусевіч:

*Людзі ня могуць падаць у неба,*
*маючы крылы віны,*
*падаюць толькі нашчадкі Венэры,*
*праўнукі бога вайны* [3, с. 36].

**Літаратура:**


Брусэвіч, А. Дуэль. Вершы / А. Брусэвіч. — Гродна: Гродз. аддзял. Бел. фонду культуры, 1992. — с. 48.

1. Пяткевіч, А. Літаратурная Гродзеншчына: Публіцыстыка / А. Пяткевіч. — Мінск: Выд. цэнтр «Бацькаўшчына», 1996. — 96 с.

2. Брусевіч, А. Падаю ў неба. Лірыка / А. Брусевіч. — Гародня: Гарадзенскае гарадское аддзяленне Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Таварыства беларускай школы», 2006. — 51 с.

3. Арсеньнева, Н. Між берагамі. Выбар паэзіі Натальлі Арсеньневай 1920—1970 / Н. Арсеньнева. — Нью-Ёрк—Таронта: БІНІМ. — 350 с.

4. Баргановіч, І.Э. Авангард і традыцыя: Беларуская паэзія на хвалі нацыянальнага адраджэння / І.Э. Багдановіч. — Мінск: Бел. Навука, 2001. — 387 с.

5. Брусэвіч, А. Віно твайго цела / Тэрмапілы. — 2009. — №13. — С. 113—116.

6. Брусэвіч, А. Свабода / Верш на свабоду. (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Еўропа / Радыё Свабода, 2002. — С. 16.



# Арсень Ліс

літаратуразнаўца, крытык, фалькларыст, кінасцэнарыст. Доктар філалагічных навук. Аўтар манаграфіі «Купальскія песні» (1974 г.), адзін з аўтараў падручніка «Беларуская народна-паэтычная творчасць» (1979 г.), укладальнік зборніка «Беларускія народныя песні» (1970 г.), некаторых тамоў серыі «Беларуская народная творчасць» і інш. Нарадзіўся ў 1934 годзе ў вёсцы Вётхава на Смаргоншчыне. Жыве ў Мінску.

# Заходнебеларуская перыёдыка для дзяцей

Перыёдыка Заходняй Беларусі (1921—1939) — залатая старонка ў гісторыі беларускага перыядычнага друку, на жаль, мала даследаваная, уключае і такі яе фрагмент, як часопісы для дзяцей. Калі не лічыць нявялікіх артыкулаў у беларускіх энцыклапедычных выданнях, дык дзялянка перыёдыкі для дзяцей, што выдавалася ў Заходняй Беларусі даваеннага часу, зусім не абжытая ў навуцы. А тым часам яна становіць сабой досыць прыкметную культурніцкую з'яву, характэрную для перыядаў духоўнага ўздыму грамадства, вызваленчых інтэнцый яго. Натуральна, яна не была ці, дакладней, менш за ўсё была скіравана на адлюстраванне цякучых падзей свайго часу, не магла шырэй выказаць актуалій грамадскай думкі, як тое рабіў заходнебеларускі перыядычны друк уласна грамадска-палітычнага і літаратурнага профілю.

Літаратура для дзяцей, зразумела, мела свае асобныя мэты, прадвызначаныя агульнай задачай асветы і выхавання падрастаючага пакалення. Акрамя таго беларуская перыёдыка, у тым ліку для дзяцей, ва ўмовах каланіялісцкай палітыкі Польскай дзяржавы ў дачыненні да беларускага этнасу аб'ектыўна вымушана была ўдзяліць асаблівую ўвагу этнічнай ідэнтычнасці. Выхаванне, у тым ліку і праз друк, беларускіх дзяцей у пашане да народных, нацыянальных традыцый, культурна-гістарычных святынь сваіх продкаў набывала асаблівую надзённасць: было загадам часу, гістарычных абставін.

Першынцу заходнебеларускай перыёдыкі часопісу для дзяцей «Заранка» (1927—1931) папярэднічалі моладзевыя выданні: часопісы «Маладое жыццё» (1921—1923), «Рунь» (1923), арганізатарамі-выдаўцамі і аўтарамі якіх былі вучні Віленскай беларускай гімназіі.

«Заранка», рэдактарам якой стала ўжо добра знаная ў беларускіх культурна-грамадскіх колах дзяячка Людвіга Война, вядомая пад псеўданімам Зоська Верас, з'явілася ўжо перыёдыкам, так бы мовіць, чыстага жанру для дзяцей.

Ідэя ўзнікнення часопіса, яе практычная рэалізацыя — досыць характэрная, калі не сказаць тыповая, для заходняй беларускай рэчаіснасці 20-х гадоў.

Частка наяўнай інфармацыі ў аўтара дадзенага нарыса — з першых рук, узята з успамінаў Зоські Верас. Штосьці — са зместу самога часопіса, які ў часе ваеннага бясхніжжа шчасліва трапіў мне ў рукі, на той час вучню другога класа Залескай сямігодкі на Смаргоншчыне.

Мала таго, што камплект «Заранкі» ў 1942—1943 гг. вельмі скрашваў мне доўгія зімовыя вечары, ён разам з чытанкай Леанілы Гарэцкай «Родны край» (тое я ўсвядоміў, вядома, значна пазней) пасеяў у душы малога зерне красы беларускага літаратурнага слова.

А нараджаўся часопіс у такіх абставінах. Пасля таго, як сойм Рэчы Паспалітай 2-ой здаў дэпутатаў, кіраўнікоў Беларускай сялянска-рабочай грамады дэфензіве, і былі праведзеныя масавыя арышты актыву гэтай стотысячнай арганізацыі, ураду Пілсудскага-Мейштовіча ўдалося збіць высокую хвалю таго агульнанацыянальнага ўздыму, якім жыла Заходняя Беларусь у 1925—1926 гг. Перад беларускай інтэлігенцыяй паўстала задача пошуку далейшай тактыкі і стратэгіі вызваленчага руху. Відавочнай стала патрэба карпатлівай пазітыўнай працы на будучыню. У новых умовах была звернута пільная ўвага на культурна-грамадскі фронт, які адзін з лідэраў беларускага вызвалення прафесар Браніслаў Тарашкевіч называў другой лініяй акопаў. Перад тым беларускія дэпутаты сойма, аб'яднаныя ў соймавай фракцыі «Беларускі пасольскі клуб», са сваіх акладаў выдзялялі пэўную суму злотых на ўтрыманне беларускіх гімназій, што не мелі дзяржаўнага статуса. Нешта з тых зборак прызначалася і для прэсы. Пасля арыштаў у студзені 1927 г. «Беларускі пасольскі клуб» колькасна зменшыўся, але працягваў яшчэ існаваць. Калі Людвіка Войцік парупілася вакол закладкі першага заходнебеларускага часопіса для дзяцей, то атрымала ад беларускага сенатара Аляксандра Уласава 50 злотых.

— З гэтым пачынаць? — спытала ў спрактыкаванага журналіста, колішняга рэдактара «Нашай нівы».

— А Вы скромненька, — адказаў паважаны мэтр выдавецкай справы. Сабрала матэрыял, папрасіла наборшчыкаў, з якімі была ў шчыльным кантакце яшчэ з часу сваёй адміністрацыйнай працы ў рэдакцыі беларускіх грамадскіх газет 1924—1926 гг. Друкары дзеля «святой справы» набралі тэксты ганарова, без аплаты. Далей з належным разуменнем да новага перыядычнага выдання паставіўся знаны мастак Язэп Горыд — безганарна накідаў графічны малюнак для вокладкі. Пазней гэтак жа пачціва паставіўся да «Заранкі» і другі мастак Мікола Васілеўскі.

Ад першых нумароў з розных куткоў Заходняй Беларусі пайшлі лісты ад дзяцей і пачынаючых паэтаў Мацея Смаршчка, С. Пастушка (Крыўца), Сяргея Новіка-Пяюна, Янкі Патаповіча ... Часопіс знаходзіў радасны, шчыры водгалас у юнага чытача. Зваротная сувязь з рэдакцыяй часопіса ўсталёўвалася, набывала розныя формы. Была і такая. Вясковыя дзеці, каб сабраць грошы на любімы часопіс, збіралі, сушылі зёлкі, прысылалі ў рэдакцыю, якая арганізоўвала іх продаж у Вільні.

Новавыбраныя ад Заходняй Беларусі вясной 1928 года дэпутаты ў сойм з-за ідэалагічных, партыйных разнагалоссяў занядбалі фінансавую пад-

трымку часопіса для дзяцей. Эканамічна слабым успамагатым прэсе магла быць, была на той час заходнебеларуская прыгнечаная малазямеллем, падаткамі вёска, яна ледзь звязала канцы з канцамі. Нечакана на падмогу «Заранцы» прыйшлі рабочыя землякі аж з далёкай Амерыкі. Брат заходнебеларускага журналіста Андрэй Татарын у Чыкага пусціў шапку па крузе сярод тамтэйшых рабочых, і сабраныя грошы былі адпраўлены на адрас рэдакцыі ў Вільню. У перадавіцы да 1-га нумара «Заранкі» за 1929 г. можна прачытаць: «Сягоння, дзякуючы ахвярнасці нашага свядомага беларускага грамадзянства ў горадзе Чыкага, у Амерыцы, «Заранка» зноў спрабуе выйсці ў свет». У часопісе змешчана нататка «Падзяка», у якой пералічаны ўсе ахвярадаўцы па прозвішчах. А ў 1931 годзе, пасля прыкметнага перапынку, выданне для заходнебеларускіх дзяцей яшчэ раз ажыло. Гэтым разам «Заранцы» з матэрыяльнай падтрымкай пайшло насустрач грамадскае «Аб'яднанне беларускіх жанчын імя Алаізы Пашкевіч (Цёткі)». Яно займалася выданнем беларускай дзіцячай літаратуры, мела свой часопіс «Жаноцкая справа» і здолела адшкадаваць ад сваіх сціплых сродкаў крыху злотых на два нумары «Заранкі».

Трымаючыся амаль чатыры гады на плыву без істотных матэрыяльных рэсурсаў пры абмежаваным журналісцка-літаратурным корпусе, «Заранка» як першы адмысловы часопіс для дзяцей у Заходняй Беларусі адбыўся. Рэалізаваўся як культурніцкая з'ява ў асноўным дзякуючы энтузіязму, грамадзянскай адказнасці ніклай купкі інтэлігенцыі ды не лішне вялікага кантыгента чытачоў-заўзятараў і аўтараў у адной асобе. Што сабой уяўляў змест часопіса, у чым і як праявілася вырашэнне акрэсленай выдаўцамі мэты?

У плане структуры выдання «Заранка» зарыентавана паводле пор года. У аснову нумара клаліся перш-наперш прыродныя, гаспадарчыя рэаліі пэўнага месяца, адпаведна клопат чалавека і заняткі дзяцей у кантэксце этапаў года. Выкарыстоўвалася пейзажная лірыка і лірычныя фрагменты з паэтычнай эпікі Якуба Коласа, вершы К.Буйло, М.Машары, творы дзіцячай тэматыкі Алеся Гаруна, М.Багдановіча, Н.Арсенневай, замалёўкі прыроды, вершы Л.Войцік. Затым ішлі матэрыялы навукова-пазнавальнай тэматыкі пра ваду, пару, паперу Л.Войцік, Ст.Грынкевіча, С.Антаноўскага. Змяшчаліся з працягам у некалькіх нумарах займальна-прыгодніцкія творы, напрыклад, «Зямля і камета» К.Эвальда, «Прыгоды адной жабы» Ф.Мюлера, «Лясныя хаткі» В.Біянкі і інш. Да гістарычнай тэмы ў часопісе звяртаўся М.Ілляшэвіч.

Часопісная прастора ўключала асобную рубрыку «Праца нашых чытачоў». «Заранка» дала першую пуцёўку ў літаратуру С.Крыўцу, А.Бярозку, С.Новіку-Пяюну (апошнім пад псеўданімам Малады Дзядок апублікавана аднаактоўка «Ёлка Дзеда Мароза»). На заклік рэдакцыі да чытачоў прысы-

лаць апісанні вёсак і мястэчак, запісваць фальклор адгукнуліся Я.Патаповіч, М.Тарасюк, Ст.Войцік з Дзесеншчыны, М.Ласко з Косава. Многа перакладаў з рускай, украінскай і польскай моў апублікавана Антонам Войцікам пад псеўданімам Войніч, крыптанімам А.В.

Часопіс уключаў раздзельчык гумару пад назваю «Куток смеху», рубрыку «Загадкі і круцігалоўкі». Праз тры гады пасля знікнення «Заранкі» Людвіка Войцік, цяпер ужо з апорай на вядомага культурна-грамадскага дзеяча кс. Станіслава Глякоўскага як на выдаўца, запачаткавала новы часопіс для заходнебеларускіх дзяцей — «Пралескі». Першы нумар «Пралесак» выйшаў у лістападзе 1934 года. Да гэтага часу ўмовы культурна-грамадскага жыцця ў Заходняй Беларусі значна пагоршыліся. У Польшчы, не без аглядкі на суседзяў з Захаду і Усходу, умацоўваўся аўтарытарызм.

Беларусы страцілі сваё парламенцкае прадстаўніцтва ў вышэйшым органе Польскай дзяржавы — сойме. Легальная дзейнасць палітычных беларускіх арганізацый была абмежавана, зведзена да мінімума. Пад выдуманымі прычынамі цкавалася культурна-асветная дзейнасць Таварыства беларускай школы і Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры. Даваўся ў знакі адток інтэлігенцкіх сіл пасля рэпрэсій у дачыненні Беларускай сялянска-рабочай грамады і «Змагання». Моладзь нелегальна праз т.зв. зялёную граніцу падалася на Усход, дзе яе чакаў таксама фатальны лёс.

Аўтары перадавіцы ў «Пралесках», звяртаючыся не столькі да падрастаючага, будучага пакалення, колькі да сталага грамадства Заходняй Беларусі, пісалі: «Моладзь — гэта надзея народа, гэта яго скарб. Якую узгадуем моладзь, такім будзе наш народ». Словы належылі Станіславу Глякоўскаму. То быў лапідарны стыль яго кароткіх зваротаў, нататак у часопісе, часам падпісаных псеўданімам «Стасіла».

У новым часопісе крыху паднавілася структура самога выдання. Акцэнт перш-наперш клаўся на славутых прадстаўнікоў беларускай культуры, гістарычныя постаці. «Пралескі», кожны нумар паасобку, адкрываліся партрэтамі, кароткімі, выразнымі нататкамі, часам падтэкстоўкамі да іх. Чытач, такім чынам, візуальна і духоўна «сустракаўся» ў часопісе з Францыскам Скарынам, Францішкам Багушэвічам, Янкам Купалам, Якубам Коласам, Максімам Багдановічам, Алесем Гаруном, Кастусём Каліноўскім. З'явіліся новыя моманты і ў ідэалогіі выдання, трэба думаць, менавіта дзякуючы Ст. Глякоўскаму, святару па адукацыі, доктару тэалогіі. У часопіс былі ўведзены матэрыялы, якія рэпрэзентавалі хрысціянскую традыцыю. Звязаныя яны, як правіла, са святамі калядамі-нараджэннем Хрыстовым, Вялікоднем, Задушкамі, або Усімі святымі. У часопісе былі надрукаваны тэксты актуальнага сваім зместам для жыцця Заходняй Беларусі і папулярнага на той час гімна «Не пагаснуць зоркі ў небе» на словы Янкі Купалы і беларускага рэлігійнага гімна. Без подпісу змешчаны ў папулярным выкладзе

аповеды «Нашы прадзеды славяне», «Аб нашых прадзедах беларусах» і «Першыя князі на Беларусі». Літаратура была прадстаўлена класічнымі творамі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Змітрака Бядулі, Алеся Гаруна, вершамі А.Гурыновіча, М.Чачота, М.Машары, А.Мілюця, Міхася Васілька, замалёўкамі Зоські Верас, байкамі І.Семашкевіча (І.Ялаўца), Улад-Ініцкага, казкамі і паданнямі ў апрацоўцы Я.Пачонкі, перакладамі з А.Пушкіна В.Адважнага і з М.Канапніцкай Л.Войцік.

Уведзены рубрыка «Навінкі», у якой акрамя навін тэхнічнага, навуковага і бытавога характару прысутнічалі і некаторыя актуаліі часу, напрыклад, інфармацыя пра Абісінію і вайну супраць гэтай афрыканскай краіны, усчатую мусалінскай Італіяй. Апошні дваццаць дзявяты нумар «Пралесак» выйшаў у жніўні 1939 года.

3 мая 1937 паралельна з «Пралескамі» ў Заходняй Беларусі выходзіў яшчэ адзін часопіс для дзяцей, выдаваны знаным у Вільні беларускім педагогам, асветным дзеячом Сяргеем Паўловічам. Выдавец «Снапка» ставіў аналагічную мэту, як і іншыя заходнебеларускія перыёдыкі, адрасаваныя дзецям — выхаванне будучага пакалення з арыентацыяй на народныя, нацыянальныя традыцыі, агульначалавечыя дэмакратычныя каштоўнасці.

У «Снапку», яшчэ паўней, чым у «Пралесках», прысутнічае хрысціянская тэматыка, найчасцей у беларускім яе кантэксце і належыць аўтарству выдаўца, кандыдата багаслоўскіх навук. Гэта публікацыі, прысвечаныя праваслаўю на Беларусі, помнікам сакральнага дойлідства («Каложская царква ў Горадні»), Раству Ісуса Хрыста, першым славянскім асветнікам Кірылу і Мяфоду. Вялікае значэнне для агульнага разумовага развіцця і эстэтычнага выхавання часопіс прыдаваў мастацкай літаратуры. Усе творы для дзяцей Максіма Танка былі апублікаваны ў «Снапку». Натуральна, перадрукоўваліся вершы і фрагменты паэм Янкі Купалы, Якуба Коласа, М.Багдановіча, дасканалыя пераклады з М.Лермантава, Ф.Цютчава, І.Нікіціна, Г.Сянкевіча. З заходнебеларускіх літаратараў досыць актыўна друкаваліся Міхась Васілёк, М.Машара, А.Дубровіч, Н.Тарас, байкапісец Я.Быліна.

Пачэснае месца займалі народазнаўчыя, культурніцкія нарысы Р.Шырмы, народныя песні, казкі, прыказкі, жарты, натуразнаўчыя аповеды М.Караленкі. Удзялялася ўвага пашырэнню ведаў цывілізацыйнай тэматыкі. Не былі абыйдзены ўвагай некаторыя сучасныя часопісу падзеі, у тым ліку вайна супраць Абісініі. Публікацыі ў часопісе ўключалі бібліяграфію дзіцячай беларускай літаратуры і перакладныя выданні для дзяцей.

У студзені 1938 года ў Вільні пачаў выходзіць яшчэ адзін часопіс для дзяцей Заходняй Беларусі «Зорка», выдаваны пераважна лацінскімі літарамі. Гэта быў адмысловы дадатак да часопіса «Хрысціянская думка». Адказным рэдактарам «Zorki» быў малады гісторык і краязнавец Віктар

Ярмалковіч, а выдаўцом лідар БХД Адам Станкевіч. Ініцыятары выдання актуальнасць свайго часопіса бачылі непасрэдна ў палітычнай сітуацыі для беларусаў, што склалася па абодва бакі польска-савецкай мяжы. Рэжымы абедзвюх дзяржаў, у межах якіх апынуўся беларускі народ, да канца 30-х гадоў фатальна перакрывалі перспектыву яго адраджэння, пачатага на зары XX стагоддзя.

Сацыяльна-палітычная атмасфера, грамадскія настроі Заходняй Беларусі канца 30-х гадоў, час, калі распачыналася выданне «Zorki», аб'ектыўна і вельмі непасрэдна агучаны ў перадавіцы да яе першага нумара.

«Беларускае неба здаўна заснавана цёмнымі сумнымі хмарамі. Не толькі старэйшыя людзі, але і моладзь — краса і надзея нашага народа — пачынае апускаць рукі. Кругом чутны ганебныя словы: «Нічога не будзе, мы згінулі!..» Не ёсць яно так, маладыя прыяцелі! Мусіць сонца заглянуць і ў наша аконца. ... Будзем працаваць. ...Будзем паказваць свету нашу Бацькаўшчыну».

Рэдакцыйна-выдавецкая праграма «Zorki», як і папярэдніх ёй часопісаў для моладзі, уключала перш-наперш рэалізацыю агульнаадукацыйных і выхаваўчых задач на роднай мове. Гэта было архіважна ва ўмовах жорсткай мінімізацыі польскай адміністрацыяй беларускага школьніцтва. Дастаткова прыгадаць факт, што напрыканцы 30-х гадоў у Заходняй Беларусі заставалася толькі адна Віленская беларуская гімназія на больш чым трохмільённае беларускамоўнае насельніцтва краю.

Публікацыі «Родная мова і народ», «Як паўсталі розныя народы», «Мы вучымся пісаць», аўтарства якіх належыць аўтарытэтнаму барацьбіту за беларускую школу ў даваеннай Польшчы С.Паўловічу, можна аднесці да прыярытэтных на старонках «Zorki».

Значная ўвага выдаўцамі часопіса ўдзялялася маральна-этычнаму выхаванню падрастаючай моладзі. У асобных матэрыялах ненавязліва выкарыстоўваліся пры гэтым пастулаты хрысціянства, прывівалася традыцыя культа маці. Часам маральна-этычныя каштоўнасці сцвярджаліся, што называецца, адкрытым тэкстам: артыкул «Прэч з гарэлкай і тытуном», «Далоў кляцьбу», «Любі бліжняга». У іншых апублікаваных тэкстах маральныя вартасці падаваліся ў мастацкай форме (апавяданне П.Сушко «Злоснасць і спачуванне», «Добраму Бог памагае» Дзеда Макара, імаверна псеўданім Макара Краўцова і інш.).

Агульнаасветны характар насілі нататкі, эцюды прыродазнаўчага і радзімазнаўчага зместу («Як жывуць расліны», «Аб буслах», «Альшанскае гарадзішча» Альшанца-Падчашніка). З'явіліся матэрыялы агульнакультурнага пазнавальнага значэння («Рыцар песні і музыкі І.Н. пра ўкраінскага кампазітара М.Лысенку, «Гісторыя кнігадрукавання. І.Гутэнберг, Ф.Скары-

на»). З працягам друкаваўся гістарычны нарыс А.Станкевіча, прысвечаны 950 угодкам Хрышчэння Беларусі. У часопісе мелася сталая рубрыка «Маладняк піша».

Акрамя вершаў М.Машары, С.Пяюна, баек Вінцука Адважнага ў «Zorcy» з'явіліся паэтычныя творы пачаткоўцаў грамадзянскай тэматыкі К.Рагойшы, П.Сушко, С.Жамойды. Часта змяшчаліся казкі, прыказкі, загадкі, гумарэскі. На старонках часопіса рэпрадуцыраваліся карціны мастака П.Сергіевіча «Каліноўскі намаўляе сялян ісці на паўстанне», «Жыццё».

Восьмы нумар «Zorki» за 1938 год быў канфіскаваны Віленскай польскай адміністрацыяй, факт унікальны ў дачыненні да прэсы для дзяцей. Усяго пабачыла свет 20 нумароў «Zorki».

У цэлым заходнебеларуская перыёдыка для дзяцей, прасякнутая ідэяй нацыянальнага адраджэння, адыграла прыкметную ролю ў выхаванні падрастаючага пакалення ў духу этнічных традыцый, беларускай культуры. Яна досыць актыўна спрыяла пашырэнню эўрыстычных і эстэтычных ведаў ды навыкаў, у канчатковым выніку ўнесла значны ўклад у развіццё беларускай дзіцячай літаратуры ў агульнанацыянальным маштабе.

**Фота Глеба Лабадзенкі**



# Ларыса Раманава

паэтка, фальклярыст. Аўтар кніг: «Аддай асалоду Богу» і «Птушкі і рыбы». Нарадзілася ў 1968 годзе ў вёсцы Покаць на Чачэршчыне. Жыве ў Ветцы на Гомельшчыне.

# Былі тады змеі...

*Сядзіць, сядзіць яшчур*
*ладу, ладу*
*у арэховум кусьці...*
(**Паводле запісаў Е.Р. Раманава**)

Сціскаецца восеньскі час. Імклівыя летнія падзеі застаюцца яркімі фарбамі мінулага. Цішыня, холад, празрыстая кастрычніцкая самота часцей наведваюцца ў людскія сядзібы. У кастрычніку вясковыя жанчыны распачыналі апрацоўку льна: яго сушылі, мялі, трапалі, вычэсвалі — вызвалялі льняную душу ад колкай кастрыцы («костачак»), якая неўзабаве пад іх рукамі звівалася ў шэрую льняную нітку калаўрота — яшчэ адно нябачнае кола Сансары.

Зноў і зноў разгортваюцца сюжэты індаеўрапейскіх міфаў, легендаў у прасторы веткаўскіх мясцін: каля Бесядзі, каля Свяцкага возера — непадалёк ад вёсак Свяцілавічы, Чамярня, Вялікія Нямкі, у вёсках суседніх раёнаў. Асноўны індаеўрапейскі міф двубой Перуна са Змеем — асэнсаванне існасці святла, сонечнага часу, светавога дня і ночы-цемры, якая паглынае ўсё бачнае навокал, распаўся на фрагменты Аднаго Вялікага Аповеду. Штодзень, штогод ён паўтараецца ў замовах, казках, песнях, гульнях.

Вобраз хрысціянскага «багатыра» Юрыя-Ягорыя — пераможцы Змея (Цмока) існуе ў славянскім эпасе ў адным радзе з вобразамі архаічных асілкаў — Івана Удовінага Сына, Пакаці-Гарошка, Мікіты Кажамякі... Дарэчы, самае «цяжкае» дзеянне — бітва са Змеем (Цудам-Юдам) адбываецца амаль заўсёды каля вады — возера, ракі, «калінавага моста» — на памежжы таго і гэтага светаў.

Няма нічога дзіўнага ў тым, што ў аповедах Аксінні Лаўрэнаўны Фяськовай з в. Стаўбун Веткаўскага раёна міфалагічны Змей мае аж дванаццаць галоў, а не адну, як відаць на іконе ў доме самой апавядальніцы. Лічба дванаццаць да сённяшняга часу захоўвае сакральны сэнс, і ў аповедзе аб бітве св. Георгія са Змеем нагадвае аб наяўнасці дуалістычнага зместу архетыпа Змея (Змяі).

Згодна ўяўленню харватаў, у кожнага чалавека ёсць свая змяя-цёзка, і няма большай бяды, чым забіць змяю, якая носіць тваё імя. Некаторыя мае суразмоўцы, якія жывуць на Гомельшчыне, у вёсках Чачэрскага, Кармянскага раёна звязвалі беды, якія напаткалі іх сем'і, менавіта з забойствам вужа, убачанага на двары.

Існуе ўяўленне: калі нараджаецца чалавек — на небе загараецца ягоная зорка, яна гасне ў апошнія хвіліны яго жыцця. Зорку і змяю (вужа) паяднoў-

ваюць ззянне і зрок (відушчасць). Гэтыя два паняцці ўзнікаюць у адным радзе ці не гэтак жа, як «бог» і «убоства». Супрацьлегласці, пазначаныя словамі, што маюць адзіны корань, пацвярджаюць першапачатак дуалізму і на гэтай аснове — яго непераадольнасць у нейкай практычнай гармоніі. Яна, на думку старажытных народаў, нібыта была ўласцівая чалавеку ў самыя далёкія архаічныя часы. Даосы, напрыклад, лічылі агонь крыніцай вады, а ваду — крыніцай агню.

У апытаннях, праведзеных у асобных мясцінах Гомельскай вобласці, в. Верхлічы Краснагорскага раёна Бранскай вобласці Змяя (вуж) з'яўляюцца сімваламі як станоўчага, так і адмоўнага пачаткаў: «Бог на парог, а змяя — за парог».

Хітрасць і мудрасць — паняцці, несумяшчальныя адно з другім, ужываюцца ў вобразе Змяі. Пры параўнанні супрацьлеглыя пачаткі сыходзяцца, і тады мы чуем: «Укус пчаліны падобны да змяінага, толькі ў малой дозе». Пчала спрадвеку ў міфалогіі многіх народаў лічыцца святой, угоднай Богу, чаго не скажаш пра тых істот, каму наканавана поўзаць па зямлі, быць пылам пад нагамі і пагрозай для чалавека. Між іншым, у сне — адным са спосабаў распазнаць рэчаіснасць, перакулены свет адкрываецца: пчала з'яўляецца весніцай смерці, у той час як вуж, змяя звязваюцца з радаснымі зямнымі падзеямі: «Бачыць у сне змей, вужоў, яшчарак і жаб вельмі добра», «Вуж, як уецца каля цябе, а не ўкусіць — шчасце», «Вуж — гэта муж».

Ёсць аповед пра тое, як вуж выратаваў Ноеў каўчэг: «І тады стаў патоп. І калі падняло гару Арарат, паплыў Ноеў каўчэг па вадзе. Бог сказаў: «Бяры твары па тры пары, а чыстае семя — і па сем пар». Што ў нас на зямлі — усё адтуль. І тады стала вада ў каўчэгу, сукам прабіла дно. Вуж узяў і заткнуў сваёй блішчонай галавой дзірку. І засталася на тым месцы ў вужа на галаве жоўтая пляма» .

У адказ на пытанне: «Забіць змяю — гэта добра ці дрэнна?» даюцца супрацьлеглыя адказы. «Кажуць, лягушку — і то нільзя ўбіваць. Так і змяю...», «Я іх убіваў, змей. Змяю ўбіць — сто грахоў атходзя», «Яшчурку забіць — гэта грэх, калісь казалі. Я шчэ чула. Ну, а ё — яны ўрадлівыя. Яшчарка, каторая з вужом пагуляя — ніхто не адшэпча, ніхто». «Змяіны» характар мае Сатана (слова апавядальніца ўжывала ў жаночым родзе), калі хоча выпытаць таямніцу: «Анёл і сказаў Ною: «Ідзі на гару Арарат, строй каўчэг. Будзе патоп.» Ну, ён хадзіў два іли тры гады з сынам. А жонка ня знала. І Сатана ня знала, што ета, куды Ной ходзя. Сатана ходзіць, ходзіць, а ня знае. Стала ў жонкі пытаць. А жонка ня знала. Сатана сказала: «Я табе такое дам, што сама сябе будзеш бачыць». І прынясла зеркала. Старыя людзі раней — Божа спасі! — у зеркала паглядзецца. Сатана зеркала выдумаў. Во цяпер як пакойніка хароняць, закрываюць зеркала — ета зеркала ат Сатаны».

Змяя атаясамліваецца з зямлёй і вадой адначасова. «Змлія», блізкае па гучанні да «зямля», згадваецца ў «Астраміравым Евангеллі» (1056-1057 гг). Паводле Герадота, змеі з'яўляюцца на зямлі разам з нябеснымі воднымі плынямі. У індаеўрапейцаў хмара, з якой праліваецца дождж, і бліскучыя маланкі былі ўвасабленнем Змея. Вясёлка, якая з'яўляецца пасля дажджу, выгнутай формай нагадвае Змея ці ягоны хвост, які пераліваецца зіхоткімі фарбамі. Па словах А. М. Афанасьева, «У Беларусі вясёлка — цмок, змей, літаральна — той, хто смокча» . Вясёлка нібы выпівае, набірае ваду з азёраў, студняў, рэк, каб праліць яе пазней уніз і, гэткім чынам, перакачвае ваду, захоўваючы аднолькавую колькасць вады на зямлі і небе. «У сне вясёлку бачыць — каромысел, знаймён Божы. Таксама кажуць: нягода будзе». Стаяць на канцы дугі, там дзе вясёлка-цмок набірае ваду — вельмі добра для чалавека.

Прастора, якую насяляе Змей (вуж) — гэта прастора трох'яруснага сусвету. Даволі часта суседам у ёй аказваецца дрэва. Згодна з уяўленнямі, змеі ідуць у вырай па дрэвах, хаваюцца ў вываратнях да вясны. Пад дрэвам (ляшчынай) жыве Вужыны Цар.

*Сядзіць, сядзіць яшчур,*
*ладу, ладу*
*у арэховум кусьці,*
*ладу, ладу,*
*арэшыкі лушчыць,*
*ладу, ладу,*
*вочкамі плюшчыць,*
*ладу, ладу,*
*парошы точыць,*
*ладу, ладу,*
*жаніцца хочыць...*

Гэта — тэкст з гульні «У яшчура», запісаны Е. Р. Раманавым у Быхаўскім павеце Магілёўскай вобласці. Менавіта на дрэве нараджаюцца змеяняты. «Вужы нараджаюцца з яек, а гадзюкі — не. Гадзюка цераз ветку перавісне — гадзючаняты з яе выпадаюць» .

Вужоў, змей часта бачаць на дарозе, у садзе, каля крыніц, дубоў, на межах — месцах, звязаных са з'яўленнем «дабраходжых» («багатыроў», «невідзімцаў»). Паводле аповедаў, менавіта ў змея ці птушку можа ператварыцца «дабраходжы» — насельнік нябачнага нам, паралельнага свету.

Пры агульнавядомым «змяя поўзае» змяя можа рухацца інакш: ісці, прыгаць, сядзець, скручвацца: «Бабка чуе — шум у двары. Глядзіць — змяя села на хвост. А гусак крыллям хлопая, не пуская да бабы. Ета гадзюка папаўзла ў лес. Гусак не пускаў к хазяйцы, штоб не ўкусіла. Разбудзіў бабу. У прыро-

дзе багата ё...». «Раз была мая матка ў лесе. Чуе — шорах у кустах. Яна і кажа: «Гадзюка ідзе, сыйдзіце з этага места!» Хто там быў з ёй, адвярнуўся. Гадзюка як ішла, так блізка кала іх абкруцілася кругом бярозы, кусая чатырма зубамі. Думала, што то чалавек. Матка казала: «Мне нільзя іх біць, таму што яна ад іх шаптала. Усё-такі ёй прыйшлося адзін раз забіць. Нільзя вышэй серца гадзіну паднімаць — мала хто выдзержывая тады» .

Цела вужа валодае лекавымі ўласцівасцямі: «Вуж ілі змяя сваё цела скідаюць, цаліком, усё, як ёсць. Толькі шкурка як курыцельная бумажка. Ета дужа харашо. Еслі палец параніў, то можна абвярнуць ёй. Лякарства яно.» «Туберкулёз вуж леча. Сок яго. Толькі сматра для якога арганізма. Еслі арганізм прымя. У чугун кладуць, штоб тук пацёк. Як жаруць ёжыка, так і ета. Нада піць тук. Адзін у нас у старынная ўрэмя, баба расказала, забалеў туберкулёзам, сам сібе вылечыў. Во, вужоў етых лавіў. З гадзюкі ніхто не рабіў, не».

Час лячэння ад укусу вужа, змяі — гэта Час Памежжа: « Еслі гадзюка ўкуся утрам, надо вылечыць да заходу сонца. Еслі ўкуся ноччу, да ўсходу сонца — надо скарэй лячыць да ўсходу сонца. «Пакуль сонца не зайдзе, вуж жывы. Можна вылечыць толькі тады, калі вуж ці змяя не нап'юцца з ракі. Тады зноў да іх прыбудзя сіла». Паводле казак, Змей просіць папіць вады, калі змагаецца на таку. У гэтых выпадках нябеснае святло і хтанічная цемра найбольш супрацьпастаўляюцца, а таксама выступаюць неабходнай часткай аднаго цэлага. А таму скрозь з'яўляюцца супрацьпастаўленні часу Сонца, святла, і часу, калі насельнікі цемры, нізу найбольш небяспечныя: «Ад гадзюкі — у Чысты Чэцвер уставай, умывайсь і хрэн грызі, каб гадзюка не ўкусіла». «Нада на Крышчэньне ваду святую піць, каб вужы не кусалі» . «У Чысты Чэцьвер нада ўстаць да сонца, узяць качаргу, той, што выграбаеш жар з печы. Перад Паскай сама... Не гавара нікому нічога іцці на агарод, устаць на ўсход сонца, узяць тую качаргу, ударыць па зямле, сказаць так: «Крот, крыса і змей, ня ройце мой агарод. Вот вам качарга ад Чыстага Чацвярга!»

Універсальны спосаб авалодаць мовай прыроды — разумець, пра што размаўляюць травы, дрэвы, птушкі, звяры, камяні — гэта прычашчэнне, паяданне варыва, прыгатаванага з дзевяці вужоў, злоўленых у розных месцах. Чалавек набываў у такім выпадку магчымасць вярнуцца ў прамінулы час, калі змеі і людзі не варагавалі, не ведаючы, што ёсць зло, што ёсць дабро, калі мова прыроды была для іх агульнай мовай. Увогуле ж, у традыцыйным беларускім уяўленні вуж — апякун, «дамавік», «муж», «Вужыны Цар», «хазяін», «самы галоўны ў доме», «дваравы», «насланы» і, разам з тым, адлюстраванне гаспадара: які ты сам, такі і той, хто нябачна жыве побач. Вуж — гэта прашчур (згадайма: Яшчур), продак, нябачная лінія роду, схаваная ў цемрыве тысячагоддзяў, тое, што заўсёды ёсць у пад-

свядомасці. Нездарма дзеці любяць казкі, фільмы аб цмоках, драконах, а таксама — дыназаўраў, не бачаных імі ніколі ў сапраўднасці.

Але вось выплыла сказанае пра час, калі адбывалася першая Сусветная вайна, пра ўсталяванне ўлады Саветаў: «Глядзі, што было сказана, збываецца. І сказана: васстане народ на народ, сорак восем месяцаў далжна дліцца вайна. Нямецкая. І пабідзяць драконы. Звярнулі веру. У нас стаў цар дракон. Людзі то ні пры чом. А ён — і цэрквы разрыў, і ўсё. Так? Дракон? І мы сталі драконы». У дадзеным выпадку дракон — той, хто насланы шкодзіць народу супраць яго волі. Параскева Антонаўна Грыбанава (в. Верхлічы, Бранская вобласць), якая расказвала гэта, згадвала таксама: «У трыццатыя гады нас судзілі за «Стралу. Быў з Ялоўкі Сяргей Белазор. Пры ім так было. Бабіч Нікалай Андрэявіч быў прэдсідацелям. На Радуніцу засцілаюць могілкі. Ён як ускочыў на кладбішча, скацеркі рваў. Нас ганялі страшна». Жанчына, жывучы, па яе словах, у Часе Драконаў, на працягу многіх гадоў даглядае магілу невядомай рэвалюцыянеркі на вясковых могілках. «Цэрква была ў Баўсунах. Дабрэнная была... Званы такія былі, што нідзе такіх не было. Бальшыя. Чатыры званы скінулі. Драконы як тыя былі, скінулі ў трыццатым, ці тысяча дзевяцьсот трыццаць трэццім. Драконы — ну, людзі, камсамольцы. Яны — ўсюды. Яны і цяпер такія».

Дарэчы, ад укусу гадзюкі, вужа «лечаць тыя людзі, што Біблію чытаюць». «Як у лес ідуць, пamaліцца — «Отчэ наш» нада, штоб не бачыла ніякая гадасць і іх не бачыць: « — Эх, вуж вужаністы, гадзючы хазяін! Не хадзі ўперадзі і сыноў, і прашчураў не вадзі. Тут будзе ехаць Сус Хрыстос з вострай мечай і з агнём вострым сеч, у асінавы груд качаць і па полю рассыпаць. Вам мяне не відаць і цела майго не кусаць, і мне вас у вочы не відаць» .

Але ж здарыцца: раніцай ідзеш па лесе, па халоднай восеньскай траве, знянацку спынішся: проста пад нагамі вогненнымі фарбамі ззяе карона Вужынага Цара. Падымеш — будзеш валодаць таямніцамі, недасягальнымі для чалавечага розуму.

Архетып Змея (цмока, вужа, змяі), рэшткі асноўнага індаеўрапейскага міфа, вобраз хрысціянскага воіна — Юрыя (Георгія) раскрываецца ў наступных традыцыйных уяўленнях, легендах і былічках.

## Як свет начынаўся

*Гасподзь ужо ж яму памог, штоб ён пабядзіў.*

... Былі тады зьмеі. Па вочарадзі вадзілі к рэчцы там, ці к возеру. Зьмей выходзіў — зь Бесядзі прымерна там ужо. Вот, выходзя на бераг, жджэ, пакуль... яму прывядуць у суткі там, па чалавеку. Прышла вочарадзь. У

сяле быў такі, над усім сялом начальнік, цар. У яго сын, і дачка была. Ну, і прышла вочарадзь яму, штоб ён вёў, каго хочыш — таго і вядзі. Ну, яму жалка і таго, і таго. Ну, што ўжо — кінуў жэраб, ці пабраліся. Каму выпала? Ну, і выпала дзеўцы. Ніхацця прывязьлі, павязалі, кала тога, кала стоўпа. Яна жджэ, пакуль зьмей вылязя і іе зьесьць. І вот етым маментам ехаў Юрый-Ягорый. Яна ж ні знала, ета дзеўка, хто ета едзя, і што. А ета ехаў багатыр. Ну вот, ён пад'ехаў к ёй: «Што ты так горка плачыш?» Яна гавора: «Да я вот прашчаюсь зь белым сьветам. Пасьледніе мінуты я на етым сьвеці... іду на зьядзеньне зьмею.» Ён гавора: «Я вот лягу трохі, аддыхну. А Вы, як толькі зашуміць рака, так ты міне разбудзі.» Ну, і ён заснуў. Яна будзіла, будзіла, да ні дала рады разбудзіць, пакуль стала плакаць. І вот, як заплакала яна, упала сьляза на яго шчаку. Ён прашнуўся і гавора: «Ох! Вы міне абажглі гаразда!» А зьмей ужо вылазя і гавора: «Я думаў, мне адна жэртва, ажно дзьве». У яго дванаццаць галоў было, і ён дажа чалавечым голасам гаварыў. Да... Ён гавора: «Нет, можа адным падавісься. Будам біцца: хто каго пераадоляя». І вот сталі біцца. Яны біліся да тых пор, пака яго серы конь па калены ў зямлю не ўвайшоў. Задніе ногі — па калены... Пярэднімі сячэ... А ў яго — кап'ё. Ён — кап'ём у рот. У міне — ікона... І вот ён зьбіў. Асталось у яго дзьве галавы. Ён так умарыўся... і ўжо еты зьмей прося перамір'я. Ён гавора, што «Буду біцца да пасьледняга, ніяк я з табой не саглашусь». І вот ён такі пабядзіў. Гасподзь ужо ж яму памог, штоб ён пабядзіў. І як зьбіў ён дванаццаць голаў, ён іх узяў, скаціў у адно места. Запаліў, і яны згарэлі, головы етыя. І вот яму нада было закапаць у зямлю, а ён пусьціў на ваду. І сталі мухі, камары, авадні... етыя самыя насякомыя. Яны нас і кусаюць... І ўсё на нас ляціць. Вот такое было дзела.

(Паводле Аксінні Лаўрэнаўны Фяськовай, 1927 г. н., в. Стаўбун Веткаўскага р-на)

***

Ціперя... я раскажу вам, як сьвет начынаўся.

Жылі людзі крысьціяні. Ні верылі Богу, а верылі паганаму Цмоку. Ета раньшы было. Ні было цэрькваў, Богу не маліліся, а Цмоку. Зьядаў ён удзень да й па чалавеку. К вадзе прывядуць чалавека — зьесьць. А прыдзя вочарадзь, прыдзя — другога чалавека даюць яму на зьядзеньня. Прыйшла чэряда да й да самога царя. А царь тады быў, камандаваў. Царь сам ня йдзець, царыцы ня шлець, а дочка яго сабіраецца. Шаўковая плацьця надзяе, шаўковы шнуры падпірязая, на зьядзеньне сабіраецца. А царь вакошка атварыў і на каленях Богу моліцца й Бога прося: «Хто маю царэўну ат сьмерці атходзя, атпішу таму палавіну царства. І царства атпішу і дачку атдам.» Ну і што ж... Сабралася на зьядзеньне, і пашла к морю. Падышла

к морю. Сіня моря ўскалыхнулася, паня-царэўна улякнулася, за рякітавы кусьцік захілілася... ухвацілася за алешкавы кусьцік рукой. Адкуль узяўся Юрый-Ягорыя на серым кані. Вон ікона ёсьць — на серым кані Юрый-Ягорыя. «Стой, паня-царэўна! Ні ўлякайся! За рякітавы кусьцік не захіляйся! Падпірявязывай свае шаўковы шнуры, закідай Цмоку на крутыя рогі, і вядзі-ка ты Цмока к пану на двор...»

(Паводле Веры Яўхімаўны Патапнёвай, 1919 г.н., пас.Чамярня Веткаўскага раёна)

## Як змея запраглі

*Тэй такі плуг бальшы, што палучыўся роў. Ён і ціпер возьлі Сьвяцкага ё, паўз самую дарогу..*

...А то ж другі зьмей быў... Да яго тожа вадзілі. Ета ціпер зьмей німа, а то ж... Калісь жа ў каждым гасударстве, йдзе былі рэчкі, усякія былі чудзілы, усякія былі чуды. І ўсе людзі бачылі і зналі.

Кузьма і Дзем'ян былі, яны ўжо сталі сьвятымі... Вот да іх вочарадзь дашла. Яны кажуць: «Ежэлі ён праліжа нашу кузьню жалезную тры разы — ніхай высалуплівая нам язык, і мы пасодзім чалавека. А яны ўжо к етаму ўрэмені падгатаваліся — плуг скавалі, хамут жалезны скавалі... І дакрасна напалілі шчыпцы такія, штоб жа ўзяць язык у яго. Там людзей яны шчэ сабралі, што ўдвох не дадуць яны рады. І вот, калі зьмей лізнуў два разы, і ў трэці пралізаў кузьню, і язык — туды. І етыя кузьняцы самыя... людзі ўзялі шчыпцамі гарачымі за язык. Астальные ўжо выйшлі з кузьні і накінулі на яго хамут жалезны, плуг запраглі. І так гналі... Тэй такі плуг бальшы, што палучыўся роў. Ён і ціпер возьлі Сьвяцкага ё, паўз самую дарогу. Дак калісь, ета шчэ расказваў бацька, дагналі да Сьвяцкага, ужо Сьвяцкае было. І ён як напіўся ў Сьвяцкім, і лопнуў. І ўсё.

(Паводле Аксінні Лаўрэнаўны Фяськовай, в. Стаўбун Веткаўскага раёна)

## Сонца са змяёй б'ецца

*Ета нада глядзець перад закатам.*

На Благавешчаньне і на Паску сонца грае. У Чысты Чацьвер, там далжно быць такое — цёмная пляма, на сонцы. Казалі — зьмяя. Нам хросная паказвала ў дзецтві: «Анют, хадзі сматрэць!» Мы бегалі. «Анют, хадзі паглядзі, як сонца са зьмяёй б'ецца!» Ета нада глядзець перад закатам. Мы стаялі ўсё, глядзелі.

(Паводле Марыі Васільеўны Гутар, нар. у в. Антонаўка Веткаўскага раёна, жыве ў в. Казацкія Балсуны).

## Лекі ад вужоў і змей

*Кажуць, харашо цела пясочкам з прызьбы пацерць, дзе зудзіць...*

... У дзецтві тапілі баню да сонца перад Чыстым Чацьверам. Як прыходжаюць з бані, дак мазалі па ладоні. А вот што мазалі? Хрэнам мазалі. Бралі ў правую руку, і мазалі па левай ладоні хрэн. І ўсё казалі: «Ета ад вужа, штоб вуж не кусаў». Хрэн вабшчэ нада мазаць. Есьлі ў лес пойдзіш, дак ні аднаго не ўбачыш гада.

(Паводле Марыі Андрэеўны Хамяковай, 1942 г.н., в. Казацкія Балсуны)

***

Вуж упаўзаваець чалавеку ў рот. Маленькі. У нашай дзярэўні — нявестка на работу, і сьвякруха. А дзед дома зь дзіцёнкам. Ну, пайшоў рэзку рэзаць. Палажыў дзіцёнка ў сараі. А ён, маленькі, улез, і ўсё. І там жыў. Да таго дайшло : «Дай малака!», а большэ нічога дзіцёнак не трэбуе. Быў з год, пака здаровы рос. І вот — як на жар... ён — прама на лузі — калясо красная, і нічога не есьць. Тады к урачу павязьлі. Паслаў урач: «Нарвіця ягад, і калі на паля паедзіця жаць, пастаўця — на вецяр, і яго, дзіцёнка, пад вецер паложця.» І чалавек ляжаў на палосцы, і дзіцёнак ляжаў.» І штоб чалавек ні варочаўся, ляжаў ціха»... Вуж той выляз, галава вылязла, і глядзіць — як на ягады папасьць. Ягады — лесавыя, якія — не знаю. Ён як вылез — і сігнуў на ягады. А дзед як зірнуў на малага, і закрычаў. А яны жалі, родныя, і палкі за сабой таскалі, штоб як выскача вуж, штоб палкай убіць. Выскачыў. За ім ганяюцца... А ён ізьвіваецца.

Дзед на малым ляжыць, на том хлопчыку. Дык убілі. Тоўсты, аж блішчыць. І выташчылі.

(Паводле Цімонінай Пёклы Аляксандраўны, в. Крутое, Чачэрскі раён)

## Змяя, якую насылаюць

*Мне наслалі, так цэлы год кусаў вуж...*

... Расказывала — насыльная гадзюка была. Ішоў дзед, яе бацька, кудысь ураньні раненька. А тады жніво было. Так, гаворя, жне жэншчына жыта ўраньні рана. І куды толькі не зайдзе, тады крычыць: «Людзячкі, рятуйце! Спасайце! Што ж эта за горя?!» Як сагнецца жаць, на яе прыгае гадзючка, маленькая гадзючка. Ну, тэй іе дзед, эта мамкін бацька, Сьцяпанчык, тэй дзед... І яна крычыць: «Дзядзечка, хадзі сюды!» Ён ідзець...а ён хадзіў з цапочкам, такі цапочык у яго быў дубовы, ёмінькі. І як яна сагнецца толькі

жаць... так... расянка якаясь, казаў, і яна, кажа, прыгае ёй на ліцо. Рыжэнькая, небальшая, метры дажа ў ёй німа... Ён кажа ёй: «А ну-ка, хадзі сюды, Мар'я! Стань во дзе во! Ты сагінайся жаць, яна будзе к табе кідацца». Яна толькі сагінацца, так яна к ёй. Так ён дубовым цапочкам як ударыў — перасек яе зразу. Ну, тады яна: «Дзядзечка, спасіба табе!» Стала, жне.

(Паводле В. А. Хамяковай, 1942 г.н., нар. у в. Будзішча Чачэрскага раёна)

## На Здзвіжанне

*Як птушкі стаямі, так і яны зьдзьвігаюцца ў бярлогі свае...*

А баба Чарціха Каця расказывала. Яе дзед быў званаром. У Нісімкавічах цэркаў — так званаром быў. І якраз служэніе была на Зьдзвіжаньне. Дзед ехаў аттуль. І, гаворя... а ужы пазьдзвігаліся — у ямке. Я, гаворя, еду на кані. Узяў такі камень, на воз узьлез і думаю: «Можа, хоць каторага уб'ю». І, гаворя, як шыбнуў камень еты ў вужоў. Як выскачыў главарь з каронай! І што? Так бег за мной! Я каня ганю, а ён — што: дарога крэпкая, становіцца на галаву. І, гаворя, па каню, па крыжу як дасьць, дасьць хвастом! І да тых пор гнаўся, пакуль і к полю пад'ехаў. Поле паханае было.Так, гаворя, на поле паханае ўзьехаў на кані, тады ён вярнуўся. Апоры ўжо німа, зямля мяккая, ужэ ні можа перакуліцца біць. Гаворя: «А то не знаю, што б было.» Па крыжу, па каню як дасьць-дасьць, аж да крыві расьсек.

(Паводле В.А. Хамяковай, в. Казацкія Балсуны)

## На адкрытым небе

Жылі такія людзі, што... Дачка была ў адных людзей. А адзін вот багатыр («невідзімец,» «дабраходжы» — Л. Р.) любіў дачку. Ну, а бацька й матка ж ні зналі, што ён багатыр. Ну, ён знаўся ужо з іхняй дачкой. Ён як сядзіць і гавора, дак ужо — настаяшчы чалавек. І мужчына такі, як і ўсі. Ну, а калі, штоб жа ніхто не бачыў, дак ён жа ж дзелаіцца нвідзімым. Ну, яны пажаніліся, зь естай дачкой. І ўжо стала ў іх двое дзетак. Яны жылі скрыта, ніхто не знаў, дзе яны жывуць, і як яны жывуць. Ну, і двое дзетак у іх ужо стала. І вот дзеткі пытаюць у маткі: «Ці ёсьць у нас баба? Ці ёсьць у нас дзед?» Ну, матка ж зная, і бацька зная, што ёсьць матка і бацька. Ну, а іх жа пускаць не хочаць. А патом ужо пусьціла матка, дак казала: «Нічога не гаварыце, не расказайце». Ну, дак хлопчык нічога не расказываў. А дзевачка, — ужо ж баба й дзед пытаюць, — яна й расказае: «Наш бацька... у нас папка такі: як ідзець куды, так у шчэлачку вылазя... такая норка». Ну, бацька ... пагаварылі з маткай, прысьцераглі там ужо, каго яны ўзялі, і ўбі-

лі етага багатыра. Як убілі багатыра — асталіся стаяць на адкрытым небі матка і дзеці. Ну, некуды дзецца ім ужо. Ну, і вот матка гавора на сына: «Ты, сын, ляці салавейкам, а ты, сукіна дачка, прыгай жабай, штоб цібе ўсе білі, плявалі, і ўсяк...» Дачку пракляла, што дачка разарыла сям'ю. А яна паляцела зязюляй. Іе дачка во жабай прыгая, а сын пяе... салавейка... пяе птушачка салавей. Ну, і вот цяперака... яна ні дзелая ні гнязда, нічога. А толькі пару яец зьнясе і ў чужое гняздо пакладзе. Ета ужо людзі вывядуць ёй — вот як птушка другая. А яна ўсё, як да Пятра, яна ўсё крычыць. Як паслухаеш, дак яна кукуе: «ку-ку, ку-ку!» А як прыслухаешся добра, дак яна й кажа: «Мой муж, шаптурь, вылазь... адтуль...» Вот такіе печальные іе звукі. Як кукушка кукуя, дак прыслухайся. Дай жа вот такім жалкім голасам яна кукуя, не ўсё ўрэмя — да Пятра. А посьлі Пятра іе голаса німа нійдзе. Вот такая кукушка.

(Паводле Аксінні Лаўрэнаўны Фяськовай, в. Стаўбун Веткаўскага раёна).

***

А то расказывалі. Хадзілі дзяўчаты ў грыбы. І была красівая дзяўчына. Падходзе к ёй парень, красівы, у касьцюме, і гаворе: «Пойдзеш за мяне замуж?» Яна гаворе: «Пайду». — «А калі за табой прыціць?» — «А калі прыдзеш». Яна думала, эта такі парінь, а ета дабраходжы. Ён тры дні спусьціў, прыходзе к ёй у хату. Шчапкі былі, усе атшчапіліся. Ён падходзе к ёй, к краваці: «Ну, — гаворе, — ты сказала: са мной пойдзеш. Пашлі!» Яна гаворе: «Так я не пайду». Яна думала — у сваты прыдуць. «Нет, — гаворе, — пайдзём!» Яе — за руку, і павёў. Матка хадзіла назаўтра, плакала — і ўсё... Ну, дзе яна? Яе ж не відна. Яна ж не бачыла яе.

І вот прашло ужэ гадоў сем, ці колькі. Дзевачцы было ужэ сем гадкоў, а мальчыку пяць. Яна у яго папрасілась: «Пусьці ты мяне к матцы даведацца!» Ён яе праводзіў да места. «Вот, — гаворе, — ежэлі будзеш назад іціць, так скажы: «Каптур, мой муж, прыплыві ка мне». Ежэлі пена красная прыбудзе, значыць, я убіт, а белая — то я жыў». Ну, і добра. Яна пашла. Прышлі у госьці. Пахадзіла, і матцы гаворя: «Вот, мамачка, ты мяня шукала па лясу, я цебя бачыла, а ты мяне — не». Браты сталі пытаць: «Хто ваш бацька? Да як?» Дзевачка узяла, да і расказала, як ужэ матка будзя зваць бацьку, як будуць іціць. Браты пашлі к етаму масту і сказалі: « Каптур, мой муж, прыплыві ка мне». Ён прыплыў. Яны яго убілі. Яна пагасьцявала, распрашчалася з раднымі, і прышла: «Каптур, мой муж, прыплыві ка мне!» Прыплыла красная пена. Значыць, усё — яго німа. Яна гаворе: «Хто сказаў?» Хлопчык кажа: «Я не казаў». — «Значыць, ты сказала?» Дзевачка: «Ну, — гаворе, — сказала. — «Ну, вот, ты будзь крапівай усю жысьць, штоб цябе людзі ругалі і клялі ўсю тваю жысьць!» Ён жа на крапіву наступе —

і ругаецца, чалавек. А на сына сказала: «Ляці салаўём!» А сама ўляцела кукушкай. Пачаму ж кукушка ня ўе гнязда і нясе ў чужое, і выводзюць? Таму шта кукушка с чалавека, салавей і крапіва.

(Паводле Людмілы Якаўлеўны Лапіцкай, 1925 г.н., Мікалая Патапавіча Лапіцкага, нар. у в. Вераб'ёўка Веткаўскага раёна).

## Плач аб дажджы

— Аксіння Лаўрэнаўна, Вы вось гаварылі — на Ушэсце дождж ідзе?

— Ну, калі ж дождж ішоў — людзі ж плакалі, прасілі дажджу. Старушкі плакалі. Маладыя, мы йдом ( па вуліцы, калі ішлі хаваць Стралу — **Л. Р**.), а старушкі сядзяць кала двароў дай плачаць. Мы йдом, праводзім Стралу на цэлы год. Аплакавалі. А цяпер жа некаму плакаць. І тут, прасіла я, дак людзі ж плакалі ўсі... Астаюцца старушкі. Мы ж, маладыя, павялі зь песьнямі. А яны плачаць. Бывала, і дождж ідзець... Так і цяперака... Мы павялі Стралу, а ў дварэ... там ніхто ж ні астаўся, што б хто пажурыўся па Ісусу Хрысту, што вот пайшоў Гасподзь на небяса ўжо. Нам зноў год ждаць етага празьніка...

(Паводле Аксінні Лаўрэнаўны Фяськовай, в. Стаўбун).

***

Перад Юр'ем і бульбы наскобляць, і хлеба нарэжуць, і нажы пахаваюць, штобы хлеба не рэзаць. Чаму? — Я не знаю. У дзярэўні Юр'я — як і «Стряла», і песьні, і ўсё. А такі прыхамот быў: каб на Юр'я нажоў не было.

(Паводле Еўфрасінні Паўлаўны Чварковай, 1915 г.н., пас. Ляда Веткаўскага раёна).

## Змеі-чарадзейніцы

Насьця — ета была зьмяя, і асталася зьмяёй. І зладзюга, і калдуньня, і ўсякая... сука. Іе ужо назваць ніяк нільзя словам харошым. Каго ні залюбя — людзям ўсё ўрэд дзелала. Наўчылася ета... пакуль сабе ні палучыла.

На Юр'я рана ўстаець, ідзець там, часы ў чатыры ці ў пяць, на рассьвеці. Яна бярэ белую скацерку, расьцілае на поплаве, сабірае ўсю красу ету. На скацерку... грабе, грабе, грабе ўсё ета, да, к сабе на скацерку грабе расу ету. Ну, і калі расу саграбець, сабярэ, ідзець дамоў. Прыходжая, разьвешая ету скацерку — на вароты. Кароў часоў у шэсьць гоняць на пасту. Каровы етыя ідуць к ёй і равуць. Усе равуць, усіадно як... І коляцца, і равуць. А патом малако з скацеркі з естыя цячэ дзюрцом, дзюрцом. Ну, а людзі гоняць кароў, бачаць, што тут кароў етых уплуталі. А тады жэншчыны бачаць: адна карова прыдзя — малака німа, другая прыдзя — німа. Канюхі

нашыя, лесьнікі, коней пасьцілі, выганялі коней на тое, ураньні шлі, бралі коней, нада ж ехаць на работу. Ну, яны ж ета й бачылі. Адзін там хацеў аброцьцю замахнуцца, хацеў зьбіць іе там. А тады думае: «Убача ж, угадае, дак падкалдуе». Пабаяўся. Ну, у обшчым, так усім людзям дзелала. А тады ходзяць людзі к другім людзям, атспытываць, нада ж помашч карове даваць. Ну, і так яна, йдзе пасядзіць, за што падзяржыцца — абізацільна чалавеку стане плоха. Такая скаціна — зьядала людзей. У аткрытую.

...Іван-Крапіўнік завецца. Пойдзе адна, гавора, крапівы нарве. Пойдзя ў баню парыцца. І тады ўжо гавора абы-што, калдуя людзям. Хто ў бані мыецца, прыдзя з бані — плоха, забалея. Ну, пакуль самую скалечыла, і зламала, і скрышчыла.

... Каровы ўжо сталі на пасту гнаць, дак з той скацеркі малако аж лілося белае. Каровы ідуць — ім жа больна. Яна да рассьвету іх падаіла. Ета ўжо было на хвакці. Усе людзі убіждаліся, што ета яна тварыла. Пра ета ўсі знаюць.

— Можна было адшаптаць?

— Ну, канешна, былі ж такія людзі, што малако назад варочалі, такі смысл находзілі, варочалась малачко тое..

— Чаму атрымліваецца, што жанчына становіцца зьмяёй?

— Ну вот, становіцца зьмяёй. Есьлі чалавека яна ні ўкуся, яна ўжо жыць ні можа. Тое ўрэмя ёй падходзя, што ёй любой мінутай нада што-та сатварыць — чалавеку ілі карове. Ні сатвора — к ёй самой балезьнь прыходзя. Есьлі яна ета ні сатвора, забалея сама. А ёй нада любой цаной, штоб ета зьдзелаць.

...Калі карова забалея, з поля прыйдзе, ці з вачэй стане. Вот бачыш — прыдзя скаціна на двор — яна рохмана, ці што там, ні стаіць там ужо ж. Як чалавек, так і скаціна. Тады скарэй стараішся, што б жа ж іе палячыць... Ходзя каравіца, чорна-белая шарсьціца, травы ні зьядае, расы ні сьпівае, урага-пабядзіцеля к сабе не пуская, малачка сладкага ў бела вымца шукае, малачка густога, крутога верху, масла жоўтага. Жаркім сонцам абазрусь, жарай гадзюкай падпеappliedражусь, ат урага-пабядзіцеля атаб'юсь, зь естыя крыніцы вадзіцы нап'юсь. ... Што табе, чарадзеі, чарадзейніцы, са сваёй каровы чарвей грэсьць, а мне, прымерна, Аксіньні, малачко есьць. Штоб ты, чарадзей, ні бываў ні схадом, ні маладзіком, ні пад поўна — ні на голасе, ні на воласе, ні на коласе. Разьбіў Бог дрэва. Дрэва атраслося, зямля калацілась, ат етыя цяліцы-каравіцы зьмя з чарадзейнікам назад варацілісь. Табе, чарадзею-чарадзейніку, шчотку і грабёнку, а мне, Аксіньні Лаўрэнаўне, малака даёнку... Ні мой Дух ідзець, Сам Гасподзь шлець. Етай цяліцы-каравіцы, чорна-белай шарсьціцы Мацяр Божая помачы дае. Сьвяты пушок, прымі мой душок, ціхенькі, лёгенькі. Штоб жа етай каравіцы

дзянёк і ночку атдыхаць дабрэнька і харашэнька... Вот такія сьцішкі, ета длі каровы. Людзі ж спыталі...

Прачытаюць жа людзі, ідуць у лес і прачытаюць. Я ўсяго, можа, і не знаю, я толькі то знаю, што «Сон Багародзіцы»... Богу памолісься, хрэст накладзеш. У лес ходзім і молімся: «...Хто еты «Сон» будзе думаць і гадаць — і ўраньні, і ўвечары — той будзе ні на агні пагараць, ні на вадзе патапаць, ні на дрэві завісаць, ні гад паядаць, ні вуж пасысаць, ні нахальнай сьмерцю пагібаць. Сонца зь месячкам саядзяніцца, зямля здрыганецца, белы камень распадзецца, ніжнія завесы да верхніх раздадуцца — усяму сьвету на ісцаленіе, усяму міру на спасеніе.

(Паводле Марыі Лаўрэнаўны Зуевай, 1925 г.н., в. Стаўбун).

## Пра дамавога і палявога

*«Скажыце дамавому, што ўбілі палявога!»*

Я чула, быццам у етай самай Колбаўцы былі два сыны і бацька, жылі багата. Паехалі сыны за жытам. Бабы ж пажнуць, і ў копы пакладуць. Прыехалі к капе. З другея капы, з паласы з саседняе, набраў калосься, сказаць табе, вуж, і ў зубы, і нясе пад іхнюю капу. Яны стаяць, глядзяць, хлопцы етыя. І прынёс ён, пад капу пад ету паклаў. Паклаў, і сам, вот табе, пайшоў, папоўз назад. Яны і ўздумалі: «Давай уб'ём!» І ўбілі. Гэта ж — вужака... Убілі. Ну, і прывязьлі тое жыта, склалі. Селі вячэраць і кажуць: «Бацька, і што й та за такое — іс Іванькавай паласы, із капы, да пад нашу капу вужака нёс калосься. Паклаў, і назад пабег пад Іванькаву капу. А мы яму не далі ў другі раз, мы яго засеклі кнутамы.»

А ім тут і адвясьцілася: «Скажыце дамавому, што убілі палявога!

Яны селі вячэряць, ды бацьку расказалі. Ды яшчэ кажуць: «І так хтось сказануў»... Дык ён з падпечча ды ў вакно. Вакно пабіў і зьнік. Яны і не бачылі, хто. Летам і коні, і каровы — усё пагібла.

(Паводле Еўфрасінні Паўлаўны Чварковай, пас. Ляда, Веткаўскі раён).



# Таццяна Мацюхіна

паэтка. Аспірантка Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Вершы друкаваліся ў «ЛІМе», «Маладосці», «Верасні», «Скрыпторыі-4» ; навуковыя артыкулы — у «Родным слове», «Полымі», «Народнай асвеце». Нарадзілася ў 1984 годзе ў Барысаве. Жыве ў Мінску.

# На крылах Ікара

***Жуковіч, В. Няўжо?..: кніга паэзіі / В. Жуковіч. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 152 с.***

Зборнік вершаў «Няўжо?..» Васіля Жуковіча вызначаецца цэласнасцю, ідэйным адзінствам мастацкіх вобразаў пры іх пэўнай семантыка-тэматычнай прадвызначанасці ў культурна-гістарычным «полі» сучаснай беларускай паэзіі. Згодна з аўтарскай задумай, нізкі вершаў («Замежжа маё паэтычнае», «Калі мы разам...», «Ніне Мацяш — у іншасвет», «У прасторы Бацькаўшчыны», «Вершы розных гадоў») закранаюць жыццёва важныя тэмы і праблемы, якія так ці інакш датычацца кожнага чалавека (сусвет, сям'я, каханне, сяброўства, адзінота, Радзіма, здрада, духоўныя арыенціры).

У кнізе «Няўжо?..» названага аўтара спалучаюцца тры асноўныя, сэнсавызначальныя лініі ў раскрыцці сюжэту — гістарычна-патрыятычная, філасофска-экзістэнцыйная і інтымная. І таму «Няўжо?..» — гэта не проста назва кніга, але і глыбока філасофскае запытанне ў адносінах да грамадства. Няўжо ў свеце на сённяшні дзень пануюць зусім іншыя каштоўнасці ў параўнанні з даўно мінулымі часамі? Адначасовы заклік і патрабаванне да сябе і другіх быць вышэй за хібы, недахопы ў грамадстве, далей ад перабольшванняў фактаў і з'яў у ацэнцы рэальнасці, якраз і абумоўліваюць змест аўтарскага зборніка.

У паэтычных творах В. Жуковіча назіраецца такая літаратуразнаўча-мастацкая з'ява, як шматступенчатая пераходнасць ад метафары, метаніміі да іншых тропаў. Як слушна адзначае М. Тычына ў адным са сваіх артыкулаў, «рух па ланцужку мэтаніміі, а таксама, дадамо, і метафары, ды іншых паэтычных тропаў, якія грунтуюцца на ўжыванні слова (альбо словазлучэння) ў пераносным сэнсе дзеля ўзмацнення маляўнічасці і выразнасці маўлення, — гэта своеасаблівы «сярэдні шлях» паміж абстрактнасцю лінгвістыкі і канкрэтнасцю літаратуры» («Гуманітарная адукацыя: тэкст, мова, інтэрпрэтацыя»). У паэтычным свеце В. Жуковіча імклівы рух да вобразнасці дасягаецца дзякуючы прынцыпу «залатой сярэдзіны». Так, у пейзажнай замалёўцы «Яблыня ў бела-ружовым цвеце...» музыка слова ўвасабляецца аўтарам у выразна акрэсленай каляровай гаме пры афармленні пейзажу, а таксама праз наватарскі падыход да інтэртэксту, сімволікі, гукапісу: *Яб**лы**ня ў бе**ла**-ружовым ц**ве**це. // Пака**лы**хвае **ла**скавы **ве**цер // **Ве**цце. // Я прайшоў-праехаў многа с**ве**ту, // Ды нідзе не бачыў столькі ц**ве**ту. // Ц**ве**ту* [с. 6].

Відавочна, ясны, у празрыстых і ў той жа час выразных адценнях фарбы, пейзажны малюнак — тыповая адзнака мастацкай творчасці В. Жуковіча («Краса і воля веснавая», «Колькі дзён мне паказваў садоўнік...»,

«Я хадзіў па чароўным садзе...», «Неруш»). У аўтарскім свеце любоў да прыроды (пантэізм) і да чалавека (антрапацэнтрызм) паяднаныя з верай у Бога (тэізм), што можа лічыцца адметнай рысай лірыкі беларускага паэта. Аўтарскі светапогляд на духоўныя каштоўнасці і запатрабаванні грамадства (любоў да прыроды і культурных помнікаў, каханне, самаахвярнасць у імя чалавецтва, здзяйсненне высакародных учынкаў у імя народа) раскрываецца праз прызму патрыятычна-рэлігійных прадчуванняў (вершы «З гісторыі нашай зямлі», «Алесь Ставер»).

Паэтычны зборнік В. Жуковіча аформлены ў традыцыйным ключы, але ўважлівы, дасціпны чытач адзначыць у ім незвычайныя, яркія і ў той жа час, трывалыя традыцыі часоў Еўфрасінні Полацкай, Усяслава Чарадзея і Францыска Скарыны, вобразныя характарыстыкі і мастацкія рэаліі (вершы «Еўфрасіння Полацкая», «Усяслаў Чарадзей», «Францішак Скарына» і інш.). У сваіх вершах, напісаных на дасканалай, адшліфаванай беларускай мове, В. Жуковіч імкнецца ў першую чаргу ўвасобіць святло боскіх кніг, выдадзеных Францыскам Скарынам, якія «*не ганіць нікога і не дакарае, // А ўсё прапаведуе людзям любоў // Да веры, да ведаў, сваіх каранёў*» [с. 79]. Нацыянальныя святыні з мінулых стагоддзяў (кнігі Ф. Скарыны — у вершы «Францішак Скарына», храм Еўфрасінні Полацкай — у вершы «Еўфрасіння Полацкая» і інш.), апаэтызаваныя аўтарам, гучаць у сучаснасці рэпрызай; у той жа час паэт звяртаецца да градацыі і анімізуе прыроду Беларусі (верш «Будзь дабраславёная»): *...**Услухоўваюся,** як цішыня крыніцаў, // Водар суніцаў, грыбоў // Рыфмуюцца з навальніцай, дажджом, // раскатамі грому — // І душой багамольна **ўзыходжу** // **Да** жаўруковых **мелодыяў**, // **Да** мадрыгальных **пошчакаў салаўёў**, // Светлай **тугі** жураўлінай, // **Да нябёсаў** тваіх жыццядайных* [с. 74].

У зборніку «Няўжо?..» Васіля Жуковіча сустракаюцца разнастайныя формы верша — трыялет («Трыялет»), акраверш («Наканаваны», «Азначэнні малююць партрэт»), альбомны верш («Альбомны верш»), балада («Старадаўняя балада»), санет («Санеты для дачкі»: «Я рады за цябе маліцца...», «Такая паўнаснежная зіма!..» і інш.).

Выклікае асаблівую чытацкую зацікаўленасць светапогляд аўтара на замежжа і айчыну, бо бязмежнасць краявідаў, якія апісвае В. Жуковіч, перадаецца ў свайго роду «падарожжы» па кутках аўтарскай душы (раздзел кнігі «Замежжа маё паэтычнае», «У прасторы Бацькаўшчыны»). Аўтар трапляе ў дзіўны сад з экзатычнымі дрэвамі («Я хадзіў па чароўным садзе...»), пасля апынаецца ў гаманкім і старажытным Парыжы (верш «Жыццё прывольнае», «Парыжу — на развітанне» і інш.), узіраецца ў золкае літоўскае неба («Пачатак восені ў Паланзе»).

У кнізе падаюцца партрэты таленавітых асобаў — Т. Шаўчэнкі («Запавятае геній»), Л. Украінкі («Чытаю партрэт»), П. Маха («Пятро Мах»), М. Баг-

дановіча («Азначэнні малююць партрэт. Акраверш»), В. Азаранкі («Эмацыйная і сардэчная»), В. Куставай («Выпрабаванне»). Форма паэтычных нататкаў, дзённікавых запісаў блізкая В. Жуковічу, і ў гэтай з'яве схаваны вялікі сэнс. Дыялагічнасць, лаканізм у выкладанні думкі, дасканаласць паэтыкі і інтэртэкстуальнасць вобразнай парадыгмы ствараюць грунт для ўспрымання паэтычных тэкстаў.

У зборніку «Няўжо?..» В. Жуковіча нярэдка сустракаюцца партрэтныя («Францішак Багушэвіч», «Азначэнні малююць партрэт. Акраверш», «Іван Чарнецкі», «Эрыка») і пейзажныя («Я хадзіў па чароўным садзе...», «Неруш», «Пажыццёва», «Краса і воля веснавая») замалёўкі. Нярэдка аўтар выкарыстоўвае такія тыпова імпрэсіяністычныя паняцці, як «настрой» (верш «Вандроўны настрой»), «уражанне» (верш «Жывое ўражанне»), «імгненне» (верш «Як два імгненні...»). У ягонай лірыцы спалучаюцца разнастайныя тэндэнцыі, сярод якіх вылучаюцца ў першую чаргу рэалістычная (канкрэтныя героі, дакладныя абставіны), рамантычная (узвышаная абмалёўка некаторых вобразаў, пафас, у пэўнай ступені ідэалізацыя рэчаіснасці), імпрэсіяністычная (імгненнасць у апісанні з'яў, фрагментарнасць пры афармленні тэксту, увага да дэталі, падрабязнасці, настраёвасці). Паэтаву музу натхняе і жывіць станоўчы вобраз сям'і як ячэйкі грамадства (нізка вершаў «Калі мы разам...»).

Зборны вобраз сям'і ў кнізе «Няўжо?..» вядучы, цэнтральны, дамінантны (вершы «Маці», «Сям'я», «Санеты для дачкі», «Калі мы разам...» і інш.). Успамін пра маці аўтар кнігі суадносіць з адкрыццямі свету, бо «*маміна сэрца, // Маміны вочы, // Маміны вусны // Не носяць зла*» [с. 40]. Вобраз маці выклікае ў аўтара адчуванне тугі і пяшчоты, якія немагчыма перадаць, увасобіць у слове.

У нізцы вершаў «Калі мы разам...» паэт асэнсоўвае не толькі сямейныя каштоўнасці, але і раскрывае сучасныя праблемы грамадскасці, адной з якіх можна лічыць адчужэнне людзей адзін ад аднаго, залішнюю адасобленасць ад свету і, як вынік, адчуванне экзістэнцыйнай адзіноты («Не ў самоце ідуць мае дні», «Сям'я»). Таму, працягваючы тэму сямейна-родавага кола, аўтар заклікае ў іншых сваіх вершах звярнуцца да сваіх першавытокаў і адчуць гармонію зямлі і неба (вершы «Неруш», «Чэрвень»), што выяўляецца ў асэнсаванні гарманічных зносінаў паміж людзьмі.

Асобны раздзел зборніка «Няўжо?..» прысвечаны беларускай паэтцы Ніне Мацяш («Ніне Мацяш — у іншасвет»). У гэтай нізцы вершаў В. Жуковіч перадае цэлую гаму пачуццяў — пяшчотнасць, захапленне творчай асобай Ніны Мацяш («І свята, і святыня», «Мелодыя ласкі», «Доўг памяці»), журбу і любоў («Прымі мае кветкі жывыя»).

У духоўным свеце В. Жуковіча гарманічна суіснуюць сур'ёзнае стаўленне да рэчаіснасці, мяккасць гумару, часам дасціпная іронія («Думкі ля пом-

ніка Напалеону I», «Чаму?..», «Пад наркозам», «Імправізацыя», «Не толькі і не столькі пра шахматы...»). Аўтар зборніка імкнецца вынайсці сэнс духоўных таямніцаў і запавету нашчадкам («З гісторыі нашай зямлі», «Уладзімір Караткевіч»). Вобразы «*неба сіняга*», «*неба залатога*» [с. 76] пераносяць нас праз стагоддзі ў намолены храм, як называе яго аўтар, — «*храм святла*» [с. 76]. Аднак, побач з гуманістычнай скіраванасцю, у лірыцы В. Жуковіча прысутнічае патрыятычна-змагарская лінія. У мастацкіх творах вымалёўваецца вобраз мужнага, непакорлівага, адданага сваім традыцыям і запаветам воіна-змагара («Будзь дабраслаўлёная», «Усяслаў Чарадзей» і інш.). Ужо ў вершы «Продкі» В. Жуковіч звяртаецца да тых часоў, калі існавала ВКЛ, і згадвае традыцыі на беларуска-літоўскіх землях: *Зямлю берaглі сваю, спадчыну, // Бацькоў шанавалі й дзяцей, // Любілі як след мову матчыну* <...> [с. 77]. Гісторыя-традыцыі-рэлігія, грамадскія асновы — сям'я-прырода ствараюць кола аўтарскіх каштоўнасцяў з часоў Міндоўга, Альгерда і Вітаўта (верш «Продкі») і для нас, сучаснікаў.

Вобраз храма (верш «Еўфрасіння Полацкая», «Францішак Скарына») ў паэтычнай кнізе «Няўжо?..» тлумачыцца як хрысціянскі сімвал пры абазначэнні з'яднанасці славянскіх народаў, а яго «праекцыя» на сучаснасць абазначае пераадоленне хаосу, духоўнай цемры. Той жа знакавы вобраз — ужо ў гіпербалізавана-сатырычнай форме — ужыты ў вершы «Царква, святар і пацукі».

Вобраз Ефрасінні Полацкай натхняе многіх з нас на добрыя ўчынкі, неверагодныя здзяйсненні, непадуладныя розуму адкрыцці і вынаходніцтвы. Для аўтара кнігі «Няўжо?..» Еўфрасіння Полацкая — заступніца і ахоўніца, свайго роду Берагіня святога слова (верш «Еўфрасіння Полацкая»).

Звяртаючыся да кожнага беларуса, В. Жуковіч сцвярджае словамі Караткевіча — «БЫЎ-ЁСЦЬ-БУДЗЕШ»: *Крэўны сын Беларусі, быў, ёсць ты і будзеш // З векавечным народам, ягонай красой. // Абудзіўшы надзею, і долю абудзіш* <...> [с. 88]. Відавочна, сапраўдныя чалавечыя каштоўнасці не маюць абмежаванняў у прасторава-часавым вымярэнні, а ідэя, закладзеная сілай думкі, любові ў рэч, «праламляецца» праз рэчаіснасць, каб увасобіцца ў духоўнай спадчыне народа. БЫЦЬ — значыць несці з сабою «*кветку матчынай чыстай душы*» [с. 88] — без злому, стратаў і нечалавечых учынкаў. Вось і ў паэзіі В. Жуковіча крыж, шчыт і меч («Будзь дабраслаўлёная», «Шчыт і меч») свайго роду артэфакты, якія далучаюць нас да пэўных народна-культурных каштоўнасцяў, да сваіх каранёў і даюць магчымасць раскрыць духоўныя парыванні ў імя светлых ідэалаў. Шчыт і меч у вершы з адпаведнай назвай служаць сімваламі абароненасці ад ворагаў і ўшанавання герояў, якія змагаліся з захопнікамі на нашых землях. Відавочна, тэма непераможнасці ў вершы «З гісторыі нашай зямлі» вызначае спецыфіку мыслення белару-

саў — іх цягу да супольнасці, цярпімасці, адсутнасць агрэсіі, моцную волю, смеласць і ваяўнічасць пры абароне Радзімы.

Не мае значэння, хто ты, калі ў цябе, як у М. Багдановіча, ёсць «адчуванне святой вышыні» [с. 94]. Безумоўна, менавіта праекцыя ўражанняў, эмацыйных зрухаў, памкненняў асобы на рэчаіснасць і ўтварае ядро аўтарскага светабачання. В. Жуковіч — у звароце да Беларусі — адзначае: *Самыя пяшчотныя васількі // цвітуць на тваіх палях, // Самыя натхнёныя жаваранкі // заліваюцца песнямі ў тваім небе, // Самыя закаханыя ў свеце — твае салаўі, // Самыя тужлівыя ў свеце — жураўкі твае. // Беларусь! Мая любоў да цябе — святая* [с. 72-73].

У паэтычным зборніку «Няўжо?..» В. Жуковіч ускосна звяртаецца да праблемы існавання мастацтва. Ці павінна мастацтва несці ў сабе практычна-прагматычныя мэты? І ў якой ступені само мастацтва ў розных яго праявах нясе ў сабе святло ачышчальнага агню? — гэтыя і іншыя пытанні асэнсоўваюцца намі, чытачамі, у працэсе прачытання вершаваных твораў аўтара.

Боскае святло душы, дзякуючы якому раскрываецца памкненне да стваральнай працы і якое рухае любой дзейнасцю людзей, выяўляецца ў творчых высілках паэта. Аўтар нездарма ўпамінае ў адным са сваіх вершаў міфалагічны вобраз Ікара (верш «Помны ўзлёт»), які імкнуўся на крылах да гарачага сонца, бо такім чынам хацеў падкрэсліць і сваё эстэтычнае credo жыцця (верш «Я люблю чысціню...»).

Зборнік вершаў «Няўжо?..» В. Жуковіча наскрозь пранізаны каларытнымі нацыянальнымі сімваламі-абазначэннямі: «сінязорка-васілёк» (верш «Неруш»), як мы ведаем, сімвалізуе беларускасць, а «Еўфрасіння-палачанка, неўміручая заранка» (верш «Еўфрасіння Полацкая») — гісторыю, «памяць у вяках». Выклікаюць моцнае ўражанне «Імгненні роздумаў», пазначаныя не толькі зместавай «напоўненасцю», але і наватарскім падыходам да структурнага афармлення твораў. Адна з імпрэсій пад назвай «Настрой» якраз і рэпрэзентуе новы падыход да звычайных канкрэтна-прадметных абстракцый: ***Шэры*** *<u>асфальт</u>*. ***Шэрыя*** *<u>дамы</u>*. ***Шэрае*** *<u>неба</u>*. *А ў небе майго настрою* ***<u>Вясёлка грае</u>*** [с. 141].

Паўтор слоў, які часам здольны надаваць вершу груваткасць, у дадзеным выпадку апраўданы і неабходны, бо ўключае ў кантэкст твора «гульню» моўных выразаў.

Пры прачытанні кнігі «Няўжо?..» адчуваеш сябе прыналежным да ўсяго, што адбываецца ў сусвеце. Раўнадушша, і зло, і трывога, што ўсталяваліся ў пасядзённасці сучаснага жыцця, знікаюць, бы прывідны туман, бо ў аўтара адметны, унікальны сваёй гуманнасцю погляд на быццё і сваё месца ў ім. Адкрытасць і прынцыповасць, шчырасць і яснасць літаратурна-мастацкай пазіцыі вызначаюць зместавую сутнасць зборніка «Няўжо?..» Васіля Жуковіча. І гэта выклікае павагу і давер.



# Анатоль Трафімчык

літаратуразнаўца, гісторык, крытык, паэт. Кандыдат гістарычных навук. Аўтар паэтычных кніг: «Пасведчанне аб нараджэнні», «Ноты цноты», «Лірыка лірыка» і шматлікіх публікацый у замежным і айчынным друку. Нарадзіўся ў 1976 годзе ў вёсцы Вялікія Круговічы. Жыве ў Мінску.

# Вершы, якія немагчыма забараніць

***Данільчык, А. Сон, які немагчыма забараніць: вершы / Аксана Данільчык. — Мінск: Кнігазбор, 2011. — 168 с.***

Рыхтуючы рэцэнзію на чарговую паэтычную кнігу Аксаны Данільчык, на задворках думак блукала пытанне: а ці магчыма на паэзію гэтай аўтаркі стварыць абгрунтвана адмоўны водгук? І станоўчага адказу тое пытанне не знаходзіла. Неабгрунтавана адмоўную апінію прадставіць нескладана. Напрыклад, можна пераняць у славутага Шарыкава фразу пра тэатр: «Разговаривают, разговаривают... Контрреволюция одна!» А вось рацыянальна выявіць дэтэрмінізм крытычнага стаўлення стасоўна зместу апошняй кнігі А. Данільчык да немажлівасці складана: словы складзены бездакорна! Гэта выяўляе ў паэтцы не толькі добрага філолага, але і чалавека з густам, вытанчаным, а каб падкрэсліць еўрапейскасць у стылі варта дадаць — выкшталцоным.

*Хто сказаў «маўчанне»?*
*Сапраўднае золата — слова.*
*Вось я і раблюся ашчаднай.* (с. 114)

Падказвае паэтка нам сваё credo, якое, верагодна, і абумовіла яе падыход, кажучы словамі А. Блока, да рыфмаваных і нерыфмаваных радкоў пра зямлю і пра неба. Падказвае і звяртаецца да ўяўнага чытача:

*Вытры слёзы, хлопчык.*
*Над табою неба, над табою зоры,*
*на жаль, твае слёзы не стануць зорамі.*
*Вытры слёзы.*
*Пад табою зямля,*
*але і камянямі яны не стануць.*
*Нават калі твой шлях будзе шляхам воя,*
*хто сказаў,*
*што воі не плачуць?*
*Воі ўмеюць спыняць свой плач.* (с. 111)

Словы ў А. Данільчык, як слёзы. Але яшчэ напачатку паэтка кажа: «...мне заставалася безаблічна-шэрая прастора, у якой я павінна была адшукаць сваё месца або пакінуць яе назаўсёды» (с. 3). Адшукаць праз пошук *свай-*

*го* слова, бо «адсутнасць слоў і ёсць мая адсутнасць» (с. 22). «У таго, хто бярэ ў рукі пяро, надзея ёсць таксама. О, паэт да таго ж бывае яшчэ крыху забабонным. Наіўны, ён хоча перамагчы сапраўднасць, ён хоча верыць: я засцярогся ад бяды — бо сказаў». Паэтка дае зразумець, што не збіраецца раскідвацца словамі. Больш таго: як паказвае далейшае чытанне, нават на рыфмах яна нібы эканоміць, большасць вершаў па-еўрапейску ствараючы верлібрам. Аўтарка вынаходзіць для сябе формулу: гавару — значыць існую.

З улікам таго, што А. Данільчык стараецца прамаўляць лаканічна, гэта прыводзіць часам да цяжкасцяў у разуменні, свет яе вершаў паўстае, як праз вэлюм. Інтэлектуальнасць (да таго ж на заходні манер) яшчэ больш ускладняе рэцэпцыю яе паэзіі. Відавочна, паэтка так робіць і спецыяльна, і не. Спецыяльна, каб асабліва не лезлі ў душу, і тым больш не плявалі. Не: бо так склалася яе жыццё, якое паэтка параўновае з марскім каменьчыкам пасля «свавольства акіянскіх плыняў»:

*І мая біяграфія*
*настолькі гладкая,*
*што ў ёй*
*не засталося месца для крыку.* (с. 5)

Аксана Данільчык дае зразумець, што гладкасць яе жыццёрыса падманлівая, чым стварае асацыяцыі *невыноснай лёгкасці быцця*, якое павялічвае сваю экзістэнцыялісцкую ступень ва урбаністычным кантэксце існавання («Таямніца горада М.», с. 7).

Адмысловае стварэнне завуаляванасці творчасці А. Данільчык падштурхоўвае да параўнання са сном, які аўтарка дазваляе ўбачыць чытачу шляхам чытання яе вершаў. І ніхто гэтага сну не можа забараніць паэтцы (як у пачатку было сказана, нават прааналізаваць крытычна яе паэзію складана).

У сувязі з гэтым варта сказаць, што назва кнігі падабраная аўтаркай удала і не павінна зводзіцца толькі да аднайменнага верша (с. 60). У ім паэтка кажа, пры якіх умовах стане шчаслівай. Але відавочна, што асэнсаванню гэтага прысвечана ўся кніга.

Асэнсаванне тое, што праўда, не кожнаму перадасца. Тым больш з наскоку, з *першага погляду*. Часам здаецца, што гэта не вершы, а проста ўмела і прыгожа падабраныя словы. Але падабраныя механічна, з чым справіўся б і камп'ютар. Пры наяўнасці вобразнасці карцінкі адчуванні аўтарскага настрою пачынаюць дыхаць толькі па колькіразовым прачытанні, падаючыся спярша нейкімі нежывымі. Такое паэтычнае выяўленне — паказчык *свайго* стылю, почырку. А. Данільчык мае

права заяўляць без ілжывай сціпласці пра наяўнасць «уласнай музыкі», хаця:

*безліч выканаўцаў*
*таленавітых і не вельмі*
*імкнуліся прымусіць мяне*
*выконваць*
*іх мелодыі* (с. 16)

Спрычыняецца да такой перцэпцыі вышэй згаданая інтэлектуальнасць паэзіі Аксаны Данільчык. Прычым патрабаванні да інтэлекту (з мэтай адэкватнага ўспрымання твораў) далёка не хрэстаматыйнага характару. Каб правільна расчытаць творы,трэба прайсці ідэнтычны аўтарцы шлях. Такая высокая ступень індывідуалізацыі, несумненна, звузіць чытацкую аўдыторыю. Але з іншага боку, пакіне найбольш вартага чытача, не з катэгорыі «яны» — якія «ніколі не прачытаюць Ніцшэ», «ніколі не прачытаюць Павэзэ», «ніколі не спыняцца каля дома / дзе жыў Прыма Леві», а «такіх як яны — большасць» (с. 105).

Пры ўсім гэтым погляды А. Данільчык на паэзію, творчасць не маюць схільнасці да нейкай рэвалюцыйнасці.

*...быць мастаком —*
*не значыць ратавацца,*
*быць мастаком —*
*не значыць ратаваць...* (с. 30)

*Тут паэзія —*
*маўчанне чалавека і музыка Бога...* (с. 54)

Традыцыйнасць у поглядах на мастака і мастацтва ў А. Данільчык вытлумачваецца проста: крыніцай творчасці з'яўляецца ўсё той жа жыццёвы боль, які сфарміраваў тысячы і тысячы паэтаў. Аднак паколькі боль у кожнага свой, то і галасы не будуць пагалоўна ідэнтычнымі. Тым не менш тоесныя з іншымі рысы знаходзяцца ў А. Данільчык. Паэтка жыве «комплексам жыцця» (Якуб Колас), не вылучаючы спецыяльна нейкіх аспектаў. Таму яе погляды на паэзію пераплятаюцца з тэмай кахання.

*ёсць толькі адна*
*магчымасць*
*уратаваць гэты*
*верш*
*ад самоты —*

*застацца нарэшце*
*ў кантэксце тваіх рук* (с. 65)

Аўтарка падае формулу, якую не патрэбна даказваць. У яе трэба верыць, «так как — только влюбленный имеет право на звание человека» (А. Блок).

Метафізічнасць творчасці А. Данільчык нібыта не павінна спрыяць узнікненню лірыкі, якую прынята называць грамадзянскай. Тым не менш ёсць і такая. Яе існаванне пры ўсёй завуаляванасці не падобна да сусліка ў траве, якога не бачна. Вершы з выразным публіцыстычным настроем, непахіснай грамадзянскай пазіцыяй пракідаюцца праз усю кнігу. Часта ў самых нечаканых месцах. Гэтым самым аўтарка нібы хоча стварыць для іх большы эфект, падкрэсліць тую ці іншую думку. Прычыну наяўнасці падобнай лірыкі ў кнізе сярод радкоў метафізічнага снення аўтарка выяўляе сама:

*...толькі вось ці магу я маўчаць,*
*калі ганьбяць маю краіну?..* (с. 10)

Сны паэткі бываюць розныя, у тым ліку «светлыя сны аб няствoранай намі краіне...». Але і такія сны немагчыма забараніць Аўтарцы, якая з'яўляецца не толькі паэткай, але і жонкай, маці:

*«Мама, а ў якой краіне ты хочаш жыць?»*
*«Ну, мабыць, у свабоднай і незалежнай».*
*«А дзе такая краіна, куды ты хочаш з'ехаць?»*
*«Я не хачу з'язджаць...»* (с. 49)

Акрамя двух раздзелаў сваіх вершаў, А. Данільчык аддала частку кнігі сваім перакладам з італьянскай — творчасці розных паэтаў розных часоў, ад народжаных у XVIII ст. да сучаснікаў. Рознасць, аднак, толькі фармальная. Бо пераклады — як працяг інтанацый і настрояў А. Данільчык, якая праз шырыню аўтараў і часу сведчыць пра сваё грунтоўнае веданне італьянскай літаратуры. Для параўнання — цэлы верш:

*Кожны стаіць самотна ў сэрцы сусвету,*
*працяты сонечным промнем:*
*і адразу — вечар.* (Сальваторэ Куазімада, с. 149)

Відавочна, паэтка-перакладчыца выбірала сваіх творцаў.

Пераклады гэтыя, як можна спрагназаваць ужо зараз, не атрымаюць шырокай распаўсюджанасці ў чытацкім асяродку. Аднак, папоўніўшы скарбонку айчыннага прыгожага пісьменства, будуць карыснымі для

спецыялістаў, перадусім выкладчыкам замежнай літаратуры. З улікам таго, што на перакладчыцкай ніве працуе сёння ў нас і не так шмат творцаў, як хацелася б, варта адзначыць пачэснасць і самаахвярнасць такой працы.

У цэлым пра кнігу Аксаны Данільчык можна сказаць, што ў яе чытачоў знойдзецца няшмат. Далёка не кожны ўбачыць сябе ў вершах гэтай аўтаркі (а большасць чытае паэзію менавіта з такой мэтай). Паэтка далёкая ад банальнасцяў, як сон ад рэальнасці. Але тыя нямногія, хто патрапіць на хвалю паэзіі А. Данільчык, у «іншае вымярэнне чалавечага жыцця» (с.113), зробіць яе творчасць часткай свайго сну, які немагчыма забараніць.



# Альдона Мартыненка

музычны крытык, журналіст. Студэнтка Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта. Друкавалася ў газетах «Раніца», «Зорька», «Знамя Юности», у зборніку пераможцаў вучнёўскага конкурсу «Вецер свабоды», часопісе «Верасень». Нарадзілася ў 1992 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

# Vinsent: жывая легенда беларускага хіп-хопу

**На сённяшні дзень амаль з кожнага боку можна пачуць імя Vinsent. Ад розных людзей, у розных гарадох, на розных мерапрыемствах, якія, здавалася б, не маюць аніякага дачынення да хіп-хоп-культуры. Сваю дзейнасць (на той час яшчэ ў якасці рэп-выканаўцы) Vinsent пачаў у 2009 годзе. За гэты час у гурце адбылося столькі падзей! Выйшаў альбом «Пачатак». У той жа час быў зняты кліп на песню «Восеньскі вальс». Які, дарэчы, атрымаў ратацыю на дзяржаўных тэлеканалах і ўзнагароды за лепшае відэа па версіі прэміяў «Кліп-марафон» і «Street Awards». Напрыканцы 2011 года Vinsent выдаў «Жывы DVD» — дыск, на якім сабраныя ўсемагчымыя медыя-файлы гурта: песні, фотаздымкі, кліпы, канцэртныя відэа, інтрэрв'ю. У лютым гэтага года адбудзецца прэм'ера першага беларускага моладзевага серыялу «Вышэй за неба», да якога Vinsent пісаў саундтрэк і ў якім прымаў удзел у якасці акцёра. Зараз ён здымаецца ў галоўнай ролі ў фільме Кшыштафа Лукашэвіча «Мірон». З нядаўніх пор Vinsent уяўляе сабой паўнавартасны гурт. На месца электронных мінусовак прыйшоў жывы склад: гітарыст Аляксандр Грыгор'еў, басіст Міхась Марынічаў і бубнар Сяргей Падлівахін. Так што драйв і энергетыка ў гэтых хлопцаў зашкальвае! Нягледзячы на насычаны графік канцэртаў і напружанную акцёрскую працу, Vinsent знайшоў крышачку часу, каб пагутарыць з намі і расказаць, як жа яму ўдаецца паўсюль паспяваць.**

***— Для тых, хто вас зусім не чуў, раскажы пра сваю музыку.***

— Я раблю жывы хіп-хоп. Дакладней, сумесь року, джазу, фанку і, уласна кажучы, хіп-хопу. Гэта незвычайная сумесь стыляў, вельмі цікавая і драйвовая. А для тых, хто не чуў, я магу параіць адно: пачуць нас і прыйсці на канцэрт.

***— Як усё пачыналася?***

— Пачыналася ўсё з таго, што мне проста захацелася паспрабаваць свае сілы. Я запісаў нейкі трэк на кампутары дома, на мікрафон ад слухалак (смяецца). Карацей, атрымалася лухта поўная! Але наступным разам атрымалася лепш, потым яшчэ лепш і яшчэ... Вось так.

***— Адкуль з'явіўся псеўданім Vinsent?***

— Ведаеш, я проста яго выдумаў. Ён нічога не азначае.

***— Як ты прыйшоў да рашэння сабраць паўнавартасны склад гурта?***

— Так атрымалася, што ў пэўны час мне перастала хапаць драйву электроннай музыкі, і я вырашыў зрабіць жывы склад. Бо лічу, што сапраўдны музыка павінен працаваць менавіта з жывым складам. Нават электроншчыкі павінны працаваць з жывым складам, час ад часу, калі гэта трэба. Я маю на ўвазе заходніх электронных музыкаў. А тут... Музыка ў нас даволі сур'ёзная, таму толькі жывы склад.

***— Ты сам пішаш тэксты і музыку?***

— Тэксты пішу я. А музыку мы пішам на рэпетыцыях, у працэсе ўдзельнічаюць усе.

***— Ці задаволены ты тым, чаго ўдалося дасягнуць?***

— Я нават не ведаю. Не задумваюся над гэтым, працую штодня. Я стараюся кожны дзень пражыць так, каб нешта зрабіць, стварыць для мастацтва.

***— У цябе быў прафесійны арыенцір сярод музыкантаў?***

— Прафесійны арыенцір у мяне, канешне, быў. Таму што ты слухаеш і ацэньваеш: вось гэта якасна, а гэта кепска. Але я не магу кагосьці назваць. Я проста шмат рознай музыкі слухаю, розныя накірункі. Я сябрую з музыкамі розных стыляў. І заўсёды ў калег-музыкаў пытаюся, напрыклад: «Што новага ты пачуў за апошні час?». Мне нешта раяць, я слухаю і раблю пэўныя высновы. Добрай музыкі настолькі шмат, што я ўвогуле не магу вылучыць кагосьці аднаго.

***— Ты зняўся ў моладзевым серыяле «Вышэй за неба», потым у фільме «Мірон». Ты імкнуўся да акцёрскай працы, ці гэта выпадкова атрымалася?***

— Проста так неяк усё супала.

***— І як поспехі? У кіно цяжэй здымацца, чым выконваць музыку?***

— І там, і там складана. Гэта два вельмі складаных накірункі ў мастацтве. Увогуле, у мастацтве не бывае нічога простага. А што было найбольш складана... Я трошкі не ўлічваў гэты працэс. Я ж там новы чалавек. Але потым неяк звыкся і нармальна стала. Гэта вельмі цяжкая праца. Я прывык усё рабіць на сто адсоткаў, якасна. І каб рабіць усё якасна і выкладацца на сто адсоткаў, мы працавалі ў кіно па 12-14 гадзін у суткі. Таму праца цяжкая, але калі будзе добры вынік, то значыць мы працавалі не марна .

***— А што было самым цяжкім падчас здымак?***

— Самае цяжкае было, напэўна, увайсці ў вобраз. А як увайшоў у вобраз, то стала значна прасцей.

***— Як ты лічыш, той факт, што ты ўжо даволі вядомая асоба, паўплываў на твой удзел у карціне «Мірон»?***

— Я не ведаю. Мне складана гэта сказаць. Лепей у рэжысёра і прадзюсараў спытаць.

***— А што наконт музыкі? Хутка нам чакаць альбом?***




*З Альдонай Мартыненка. 2011 г.*

— Пастараемся зрабіць у гэтым годзе.

***— Ці хапае часу на асабістае жыццё?***

— Ну, апошнім часам, не.

***— А чым займаешся ў вольны час?***

— Сплю... (*смяецца*)

***— Сам ты якую музыку слухаеш?***

— Я слухаю рок, рэп, джаз, соул. Што яшчэ? Ну і электроншчыну таксама люблю.

***— Ты дасягнуў пэўных вышынь у жыцці. Ці мог бы ты даць параду нашым чытачам, як дасягнуць мары?***

— Мары трэба дасягаць так: ставіш мэту і працуеш штодня. Робіш патрошачкі для яе дасягнення. Вось гэта абсалютна дзейсная парада, дзейсны сакрэт поспеху (*усміхаецца*).

***— Дзякуй за размову... Будзем чакаць навінаў!***

# Жыве ROCK-N-ROLL!

**Шмат вы ведаеце гуртоў без назвы? Увогуле, ці можа гурт існаваць без яе? Як паказвае практыка — можа! Беларускі гарадок Бяроза падараваў нам гэты самы гурт «Бяз назвы», які праз некаторы час стаў скарочана называцца «:B:N:». Свой творчы шлях «:B:N:» пачаў у 1999 годзе і працягвае радаваць слухачоў дагэтуль. За гэтыя 13 гадоў шмат падзей адбылося ў гурце: у 2001 — прыз «Лепшая лірычная песня» на фестывалі «Рок-кола», у 2003 — выхад дэбютнага альбома «Не трывай..», у 2004 — эфіры на беларускім тэлебачанні (тэлерынг «Точка», тэ-**

**лефестываль «На скрыжаванні Еўропы», удзел у хіт-парадах), 2006 — выхад альбома «Жыве Rock-N-Roll!». Сярод усіх гэтых падзей таксама адбылася неверагодная колькасць канцэртаў у Беларусі, Польшы, Украіне і г.д. Цяпер «:B:N:» запісвае трэці альбом пад працоўнай назвай «Будзь сабой». І напярэдадні яго выхаду вакаліст-гітарыст Алесь Лютыч і басіст Алесь Зайцаў распавялі нам гісторыю гурта і планы на будучыню.**

***— З чаго пачалося вашае захапленне музыкай?***

**А. Лютыч:** — Маё захапленне музыкай пачалося з самага дзяцінства. У дзіцячым садку я ўжо быў спеваком, на святочных мерапрыемствах спяваў песню «Цячэ вада ў ярок»!

**А. Зайцаў:** — З таго моманту, калі ўпершыню пачуў «The Show Must Go On» QUEEN. Гэта была першая песня, якая мяне ўразіла неймаверна.

***— А з чаго пачалася гісторыя «:B:N:»?***

**А. Лютыч:** — З 1999 года, калі з'явілася назва «Бяз назвы», на раённым фестывалі непрафесійных вакальна-інструмэнтальных ансамбляў у г. Бяроза. Тады нават мы атрымалі ўзнагароду (2-е месца!).

**А. Зайцаў:** — Я прыйшоў у гурт пазней, у 2004 г., таму аб гэтым лепей запытаць у «мамантаў» гурта.

***— А вось чаму «Бяз назвы»?***

**А. Лютыч:** — Не ў назве справа. Галоўнае, каб музыка нашая камусьці была даспадобы. І зараз мы называемся скарочана «:B:N:».

***— Як бы вы вызначылі свой стыль?***

**А. Лютыч:** — Я лічу, што стыль павінны вызначаць не самі музыкі. Справа музыкаў — рабіць добрую, якасную музыку. Тую, якую хочацца рабіць і якую атрымліваецца рабіць. А стылі няхай вызначаюць музычныя крытыкі (смяецца).

**А. Зайцаў:** — А я вось бачу гэта як альтэрнатыўны панк-рок (*усміхаецца*).

***— Чым бы вы хацелі займацца апроч музыкі?***

**А. Лютыч:** — Вандраваць па экзатычных краінах... Ды і ўвогуле проста вандраваць, займацца фатаграфіяй.

**А. Зайцаў:** — Тут шмат чаго можна назваць, напрыклад, кінематограф, дызайн, рэклама...

***— Што цікавага плануеце на будучыню?***

**А. Лютыч:** — Планую зрабіць сольны музычны праект, хочыцца паспрабаваць сябе па-за межамі «:B:N:», паэксперэментаваць з музыкай. Хацелася б сыграць хаця б эпізадычную ролю ў якім-небудзь кіно. Ну і, канечне, каб уласнае жыццё бурліла(смяецца)!

**А. Зайцаў:** — Будучыня — непрадказальная, асабліва ў 2012 (смяецца). І ўжо гэта само па сабе цікава.

***— А ёсць нейкія асаблівыя мэты на 2012 год? Што абавязкова трэба зрабіць?***

**А. Лютыч:** — У нас амаль гатовы альбом, яго трэба выдаць!

**А. Зайцаў:** — Трэба паспець ажаніцца да снежня 2012 года (смяецца). А калі наконт музыкі, то хацелася б, каб трэці альбом дадаў папулярнасці гурту, якая, у сваю чаргу, адбілася б на колькасці канцэртаў.

***— Усе вельмі чакаюць гэты новы альбом. Якім ён будзе?***

**А. Лютыч:** — Цяжка сказаць, якім ён будзе гэты альбом. На маю ўласную думку, ён павінен атрымацца добрым, неаднатыпным, спадзяюся, нашым слухачам спадабаецца!

**А. Зайцаў:** — Ён будзе абалдзенным (смяецца)!

***— Што больш за ўсё ўразіла за ўвесь час, што вы існуеце як гурт?***

**А. Лютыч:** Шмат розных уражанняў жыццёвых... Нават не ведаю, што вызначыць асобна. Уразіла тое, што наш гурт дажыў амаль да свайго трынаццацігоддзя ў гэтым «апошнім» 2012-м годзе (смяецца)!

**А. Зайцаў:** — Колькасць выпітага піва (смяецца).

***— Вось, вы ездзіце па Беларусі. Ёсць у вас любімы горад, альбо горад, з якім звязана нешта прыемнае?***

**А. Лютыч:** — Любімы горад — гэта, канечне ж, наша родная Бяроза. Мінск падабаецца таму, што ў Мінску прыемна даваць канцэрты, публіка заўжды добра ўспрымае нас.

**А. Зайцаў:** Менавіта Мінск, таму што там можна сустрэць фанатаў з усёй краіны!

***— Для каго вашыя песні?***

**А. Лютыч:** — Для усіх, каму падабаецца наша творчасць, каму неабыякава тое, што мы робім. У першую чаргу: нашыя песні для беларусаў!

**А. Зайцаў:** — Менавіта для ўсіх, хто цікавіцца рок-музыкай!

***— Як вы думаеце, чым ваш гурт адрозніваецца ад усіх астатніх?***

**А. Лютыч:** — Назвай. Дакладней, яе адсутнасцю (смяецца)! І, канечне ж, музыкай, вакалам, тэкстамі і г.д..

**А. Зайцаў:** — А яшчэ шчырасцю і прастатой.

***— У вас здараюцца канфлікты?***

**А. Лютыч:** — Канфліктныя сітуацыі здараюцца нават у добрых сяброў, тым больш, што мы асобы творчыя. Але канфлікты канфліктамі, а музыку трэба рабіць! З канфліктамі мы змагаемся самі і ўсё ў нас добра.

**А. Зайцаў:** — Бываюць. Асабіста я лічу, што ў гурце, як і ў маладой сям'і, адсутнасць канфліктаў — гэта няправільна. Колькі людзей — столькі і меркаванняў, як вядома. Але заўсёды павінен быць нейкі кампраміс.

***— Самы яскравы, незабыўны момант за ўвесь час існавання гурта?***

**А. Лютыч:** — Шмат яскравых момантаў, асабліва цікавыя моманты адбываюцца на выязных канцэртах.

**А. Зайцаў:** — Кожны момант існавання па-свойму самы яскравы.

***— Што для вас шчасце?***

**А. Лютыч:** — Шчасце — калі ўсё ва ўсіх добра, калі ты адчуваеш сябе камфортна, калі вакол цябе людзі, у якіх ты упэўнены, калі з табою побач любімы чалавек, калі ўсе родныя, сябры і знаёмыя — здаровыя! І не трэба ніякіх залатых гор (усміхаецца)!

**А. Зайцаў:** — Быць з любімым чалавекам і займацца пры гэтым любімай справай. А калі любімая справа прыносіць грошы — гэта вяршыня шчасця (*смяецца*)!

***— Можа ўзгадаеце самыя абсурдныя чуткі пра сябе?***

**А. Лютыч:** Было прайшла почутка, што гурт «:B:N:» перастаў існаваць. Дык вось, кажу ўсім: яшчэ не прыйшоў той час! Мы яшчэ не выдалі 10 альбомаў (*смяецца*)!

***— Музыка — галоўны ваш занятак у жыцці?***

**А. Лютыч:** — Хацелася б, каб гэта быў галоўны занятак, але, пакуль не атрымліваецца.

**А. Зайцаў:** — А што вы маеце на ўвазе, калі гаворыце слова «занятак»? Я лічу, што музыка ў нашай краіне — гэта часцей толькі хобі (*усміхаецца*).

***— Даволі часта здараецца, што фанаты залазяць на сцэну падчас канцэрта. Ці не замінае гэта вам выступаць?***

**А. Лютыч:** — Не замінае, галоўнае, каб без фанатызму. Усё ж такі, на сцэне галоўныя — музыкі! Калі на сцэну залазіць адзін-два чалавекі — гэ-



та нармальна, а калі з дзясятак, дык гэта ўжо не зусім добра, бо на сцэне шмат абсталявання, якое павінна працаваць... Пашкоджанне яго можа сарваць нам выступ.

**А. Зайцаў:** — Калі на сцэну заскоквае вялікая колькасць фанатаў — прымушае мяне нервавацца, а гэта падчас выканання не пажадана.

***— Што вас натхняе?***

**А. Лютыч:** — Усе, што адбываецца ў свеце, усё што мы бачым, чуем, адчуваем...

**А. Зайцаў:** — І каханне зразумела.

***— Чым вы больш за ўсё ганарыцеся як гурт?***

**А. Лютыч:** — Тым, што мы ГУРТ! Тым, што мы ўсё ж такі крочым далей і нясем сваю творчасць людзям! Жыве Рок-н-Ролл!

**А. Зайцаў:** Тым, што «:B:N:», нягледзячы на ўзрост, не толькі не распаўся, але і вельмі актыўна працягвае сваю творчую дзейнасць.

***— Дзякуй за размову. Рок-н-Ролл заўжды жыве!***

**Разам:** — І вам дзякуй за прыемную размову!



# Вітаўт Мартыненка

публіцыст, паэт, перакладчык, музычны крытык. Працаваў у моладзевай прэсе 80—90-х гадоў, на «Радыё Свабода». Аўтар кніг «Праз рок-прызму» (сумесна з А. Мяльгуем), «Свой сярод чужых», «222 альбомы беларускага року і ня толькі» (сумесна з А. Мяльгуем), «Rock on-line». Падрыхтаваў і выдаў поўны беларускі тэкст рамана Генрыха Сянкевіча «Quo Vadis». Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мінску. Жыве ў Мінску.

## «S.D.M.» — чакалі іх доўга

*«S.D.M.», Мн., 2010, «БМАgroup».*

Кожны дэбютны альбом сучаснай маскультуры мае шанц дваістай рэакцыі публікі. Напрыклад: «Ні фіга сабе! Я такога й не чуў ніколі!» Альбо: «Во, а гэтыя нагадваюць тое, што я калісьці любіў!» Дэбютны альбом мінскага гурта «S.D.M.», бадай, таксама не пазбегне дваістасці ўспрымання. Нехта згадае пра тое, што імя гэтае папярэдне нават на модных складанках не засвечвалася, і будзе мець рацыю, бо ўсялякія CD «Студэнцкі пазітыў», «Наша альтэрнатыва», «Беларускі глобус» ды інш. неяк абыходзіліся без «S.D.M.». Але будзе мець рацыю і той, хто ўзгадае: «Гэта ж тыя самыя хлопцы, што ўзялі галоўны прыз на фестывалі БАСОВІШЧА' 2006! Нарэшце і да свайго паўнафарматніка дараслі».

Праўда, не варта забываць, што ўжо ў 2007-м на самвыдатаўскай складанцы «Не заганяйся' 1» ўсё ж засвяцілася іхняя песня «Сагрэйце краіну», а ў 2006-м ажно пяць трэкаў «S.D.M.» сталі даважкай альбома «Неба blакітнае» культавага панк-гурта «Голая манашка». Але мушу засведчыць, што тая ж «Сагрэтая краіна» на ўсіх названых дысках надзвычай адрозная. Дый хіба можна параўнаць саўндпрадзюсарскія практыкаванні мясцовых віртуозаў комп-студыяў з досведам адмыслоўцаў еўрапейскай гукарэжысуры (усе альбомныя трэкі запісваліся ў беластоцкай студыі «Rembrandt»).

Зрэшты, і плён нашых Брайанаў Хэмфрызаў нешта пакінуў па сабе. Памятаю, я пісаў колісь з нагоды прома-рэліза пад дахам «Голай манашкі»: «S.D.M.» — гэта таксама панк, хоць і з пераважнай доляй гранджа. Іх мне ўжо не раз даводзілася слухаць на канцэртах «N.R.M.», многія памятаюць іхні поспех на «БАСовішчы», таму ўсім хацелася запісаў. Атрымалі. Нягледзячы на тое, што Вольскі падгадаваў сабе відавочнага двайніка, творчасць «S.D.M.» уражвае. Хлопцы ўмеюць ужыцца ў вобраз» («Переходный возраст» №17 за 04.05.2007). І вось мы насамрэч дачакаліся шанцу пільней прыгледзецца і да стылю, і да сацыяльнай пазіцыі творчай адзінкі пад назвай «S.D.M.».

Паколькі альбом не мае назвы, можа скласціся ўражанне, што ў ім не хапае выразнай канцэптуальнасці. Але пра іншае сведчаць два факты: пасля дзесяці трэкаў, апошні з якіх мае лагічную назву «Да сустрэчы», дададзена яшчэ і песня «Стоўнд» ( stoned — камянец), якая пазначана тэрмінам бонус (падарунак). Акрамя таго, каб у кружэлку піхалі ўвесь назапашаны матэрыял без разбору, дык пэўна ж і песню «Дзе добра ўсё» (2006) не абышлі б увагай, а яна акурат і не трапіла ў альбом, нават бонусам.




Нягледзячы на пэўныя стылёвыя разыходжанні, найперш у музыцы «S.D.M.» адчуваюцца ўплывы жывога беларускага рок-класіка Лявона Вольскага. N.R.Маўская манера вакалу праглядае проста паўсюдна, што палохае слухача адчуваннем пэўнай другаснасці, а, напрыклад, у песні «Акуна-Матата» прыпеў нібыта злізаны з ZETаўскай песні «Мужчына»: параўнайце «Так гавораць людзі, значыць так і будзе» (альбом «Radzima.com», 2006) з напрацоўкамі паслядоўнікаў «Нешта назаўсёды суперныя людзі, так гадзіны кружаць, як жыццё закруціць». Розніца хіба ў тым, што ў Вольскага дыкцыя лепшая за вымаўленне Сірыка з «S.D.M.», з-за чаго пра некаторыя словы можна толькі здагадвацца, а тэкстаў у буклеце няма, толькі каляровыя фоткі.

І ўсё ж рэальныя хіты ў «S.D.M.» ёсць, дзякуючы чаму яны ніколі не траплялі на кружэлкі вядомай віртуальнай рок-акадэміі «Тузан гатоў». Напрыклад, песню «Чужы» невыпадкова аблюбавалі прафесійныя прадзюсары, якія выдаюць дыскі (Супрановіч, Ларычаў). Твор уяўляе сабой не калекцыю чужых рыфаў і саўндміксаў, а жывы эмацыйны зрэз уласнага досведу. З гэтае ж прычыны панк «S.D.M.» зусім не падобны і на вясёлы ды развязны панк «Amaroka» (чытайце пра іх у часопісе «Верасень» №3, 2010). Панк-рок «S.D.M.» выразна больш змрочны, напружаны, нервовы, апакаліптычны. Найлепей сведчыць пра гэта і яшчэ адна ўпадабаная прадзюсарамі песня «Ніколі» — гумова-цягучая, настраёва непрадбачальная. Здаецца, гурту акурат і ўдаюцца нейкія больш затарможаныя песні, куды яны здольныя дапасаваць і процьму сваіх аранжыровачных фантазіяў. А вось танцавалачкі з парадоксаў «Сагрэйце краіну» або «Сам сабе» атрымаліся нейкія грубыя, брутальныя, нават нахабныя («Засаромлены салдат не пачуе куляў звон» — !!!).

Ці яшчэ адзін парадокс «Ратуйце» — ну проста душа радуецца, што за fairy tale з псіхадэлічным чорным канцом. І гэты стогн у іх аптымізмам завецца!

Найлепш маім асабістым густам адпавядае эмацыйнае багацце вальсу «Благая прыкмета», толькі танцаваць пад яго не рэкамендую, бо спатыкнецеся гарантавана. Бо благая прыкмета — гэта вам не благие намерения, а зусім наадварот. Нібыта гурт лішнім разам нагадвае на першаснасць роднамоўнага асэнсавання з'яваў і паняццяў.

Калі ўважліва слухаць альбом, лёгка можна зразумець і чужароднасць бонуса ў ягонай структуры — «Стоўнд». Твор зусім не падобны на іншыя. Мо гэта накірунак стылістычных пошукаў на будучыя альбомы? На мой погляд, гэта небяспечна, бо камерцыйная хітовасць, выяўленая ў ім, апрыёрна не для «S.D.M.», як паказаў увесь дэбютны альбом.

Што да неназваных музыкаў гурта, дык пакуль рана казаць пра нейкія гітарныя навароты Кібера ці рытмовыя асаблівасці Лёхі (бубны) і Сярожы (бас), але факт — музыку разам яны робяць шумную і плюшчабельную, што паказалі й лаўрэацкія званні «БАСовішча» ды «Рок-Кола», удзел у «Рок-Каранацыях». Варта пачакаць развіцця таленту.

## Шлях ад страданій да пакутаў

*«Разбітае Сэрца Пацана» — «Не налівай», Мн., 2011, «БМAgroup».*

Неяк у сваім артыкуле «Музычны прывід Франкенштэйна» на сайце www.belmusic.org я заўважыў: ужо ў першым сваім альбоме «Rozавы zакат» (2008) гурт «Разбітае сэрца пацана» прадэманстраваў, што ў сваіх перасмешках з «Мелодыяў і рытмаў зарубежнай эстрады» яны й граць навучыліся, як тыя куміры 80-х, бо ў складзе калектыву на вакале і гітары Дзяніс Тарасенка, які граў раней у арт-рокавым «Склепе», басіст Андрэй Восіпчык, які «зажыгаў» у не менш сур'ёзным гурце «Exist», трывалую музычную падрыхтоўку маюць і бубнар Юры Сізоў ды яшчэ адзін вакаліст (з флейтай) Павел Гарадніцкі, дый аранжыроўкі прадуманы настолькі фірменна, што міжволі прыгадваеш і Міка Джагера, і «Baccara», і ўсё лепшае, што мы колісь апантана слухалі ў «нерытмічнай стране», і яно не пагаршэла ў версіі «Разбітага сэрца пацана», бо стала прышпільным і смешным. Аж вось Сізова замяніў за бубнамі Алесь Кавалёў, але гэта і надалей не замінала здольнасці нашых музыкаў ствараць з даўно мёртвых хітоў смешны прывід музычнага Франкенштэйна. Пераканаў у тым і новы альбом «Не налівай» (2011).

Крокам наперад у развіцці канцэпцыі неаперасмешнікаў стала паглыбленне айчыннага кантэксту творчасці: ну хіба не чуецца ў самой назве альбома выразнай пародыі на каралёў нашага рытм-энд-блюзу «Крама» з іх несупыннымі хваласпевамі п'янцы («Гэй, там, налівай», «Выпі са мной да дна» ды інш.). Ну дык вось вам і «Не налівай, не налівай, ну што ты дзелаеш са мной». Чаму «дзелаеш», а не «робіш», бадай, зразумее кожны носьбіт сучаснай беларускай трасянкі. Той самай трасянкі, якая многім замяніла ў краіне Беларусь родную мову ды стала адметным мастацкім трэндам парадыйнага мастацтва.




Праўда, музыкаў гурта «Разбітае сэрца пацана» акурат і дакараюць многія, быццам у іх не трасянка, а зусім зрусіфікаваная мова з лёгкім беларускім акцэнтам. Але хіба пра тое сведчыць, напрыклад, песня «Пакуты якутаў», дзе так і вее свежасцю роднай крынічкі. Ці ж не ўжылі б зрусіфікаваныя недабеларусы штосьці накшталт «Страданія ў Танзаніі» ў сваіх гукавых каламбурах?

Беларускі кантэкст мае і каламбур вакол славутай нашай зоны адпачынку: «Нас Раўбічы ждуць». І мо насамрэч больш тонкай гуморай патыхае ад класічнай двухсэнсавай эквілібрыстыкі накшталт «Прыйшла вясна, ужо перастаў снег»? Але нашчадкі разбяруцца, хто тут віртуозней каламбурыў за часамі так званай 50% свабоды беларуса ў Беларусі.

Меламаны сталага веку наўрад ці абыякава паставяцца тут да алюзіяў на паўночнакарэйскія кінабаевікі 80-х («Хонгільдон») ды «зажыгацельныя» поп-рок-хіты Юрыя Антонава, «Smokie», шарм меладычнай насталь?ii Джо Дасэна. А пра пародыю на філасофію дарвінізму яны й не марылі («Пакрылася лёдам зямля,/ Памерлі усе дыназаўры, з'явілісь макакі,/ І з іх нарадзіліся людзі —/ Шэкспіры, Рэмбрандты, Далі»). Адным з найбольш сугестыўных хітоў альбома я назваў бы «Walli-e» — гэткая віртуозная танцавалачка з, на жаль, ненарматыўнай лексікай, таму дзяўчонку на party не запросіш. Але «слушняк» пад настрой выдатны.

Атрымалася й чарговая фірменная песня-візітовачка «РСП» з новымі адраснымі кантэкстамі: «Разбітае сэрца ні склеіць, ні сшыць,/ Разбітае сэрца дзяўчонак баліць./ Падруг дафіга, а друзей — ні фіга,/ Віною ўсяму — касцяная нага».

Злобныя абстракцыі «РСП», бадай, здольныя пакінуць станоўчыя ўражанні слухачам, а вось ці тое ж у бяссэнсавай песні «Лук-чэснок»? Тут занадта фрывольна інтэрпрэтавана імя насамрэч выбітнага кампазітара: «Лучэнок, Лук-чэснок — іздзевалісь дзеткі,/ Лучэнок, Лучэнок плачэт в туалеце» — гэта нават не шалкевічаўская «Таварыш Сапега заплакаў і ціха паехаў в Дразды», бо дзе ў Шалкевіча парадыйны вобраз, там у «РСП» атрымалася банальная хамская знявага без дайпрычыны. Мы ж вакаліста гурта Дзяніса не выкручваем накшталт Пітарасенка ці клавішніка Гарадніцкага не называем Задраніцкім, бо падставаў для выплёсквання хамства

ў кожным з нас знойдзецца нямала, важна толькі чалавекам застацца ў гэтым кантэксце. Але ў тым і праблема артыстаў парадыйнага жанру, каб здолець не пакрыўдзіць талент, Божы дар, безпадстаўнай іроніяй. Праўда, агульны кантэкст альбома «Не налівай» наўрад ці такі адназначны: цёплага здаровага гумару і добрага настрою ён пакіне слухачу нямала.

Асобнае захапленне выклікае тут мастацкая аздоба, асабліва тонкія пёркавыя малюнкі ў ёй, выкананыя на ўзроўні Пікасо або Гуэры. Вось толькі імя беларускага генія вы, як заўжды, не знойдзеце на вокладцы кружэлкі. Такая совтрадыцыя, аднак.

## Не спіцца польскім беларусам

*«Ilo&Friends» — «Сланечнікі», Bialystok, 2010, «GM records».*

Вам падабаецца слухаць фугі Баха? А натхняе душэўны клёк «Requiem'a» Моцарта? Значыць, спадабаецца й новы альбом акустычнага праекта вакалісткі гурта «5set5» Ілоны Карпюк. Праект гэтак і называецца «Ilo&Friends», пра першы альбом якога «Па дарозе» станоўчыя, а часам і захопленыя водгукі акрамя нас публікавалі пару гадоў таму многія беларускія газеты і часопісы («Новы час», «Бярозка», «Краязнаўчая газета»). І вось на польскай фірме «GM records» напрыканцы 2010 года выйшаў другі маштабны канцэпт яркай беларускай рок-зоркі з Польшчы — «Сланечнікі». Якія тэндэнцыі ў абліччы гурта ён выявіў?

Згадка на класіку (Моцарт, Бах) мае ў мяне, праўда, фігуральны сэнс, хоць свае фугі з рэквіемам ёсць і ў Ілоны, але джазу ў саўндзе «Ilo&Friends» прыбавілася. Дый «Фуга» іхняя больш нагадвае лацін-рок Карласа Сантаны, а не сімфанізм Баха. Як засведчыў адзін мой прыяцель, «цудоўная фонавая музычка для сяброўскай гутаркі ля каміна». Добры фон забяспечваюць дасканалыя аранжыроўкі дасведчаных музыкаў Марціна Кахановіча (гітара), Андрэя Паплаўскага (бас) і Андрэя Грэся (бубны), але зусім не фонавы рэжым слухання вымагаюць глыбокія тэксты песень: тут і польскія беларусы Віктар Швед, Марылька Базылюк і нашы паэтычныя волаты Анатоль Сыс, Уладзімір Караткевіч, Уладзімір Някляеў, і беларускія пераклады аднаго з вядомых у 60-я гады польскіх паэтаў скандальнага й трагічнага лёсу Рафала Ваячака. Дый вакалістка Ілона Карпюк выкладваецца ў гэтай музыцы настолькі, што слухач мімаволі адчувае часам і слёзы на вачах, і камяк у горле. Гэта насамрэч музыка глыбокіх і жывых пачуццяў.

Назву альбому даў адзін з надзвычай складаных вершаў Анатоля Сыса з кнігі «Пан Лес» (1989). Без назвы. Там шмат паўтораў, таму карціць зацытаваць кампактна:

*Поле ў німбах сланечнікаў,*
*Жоўты вецер пчолаў лашчыць.*
*Страшна вее жоўтым ветрам,*
*Ходзіць полем вечнасць.*
*Пчолы джаляць маці ў вочы —*
*Па шчаках сцякаюць слёзы.*

Але менавіта Ілона Карпюк сваім спевам прымусіць вас не прагнуць ніякіх скаротаў, каб адчуць сапраўдную глыбіню паэтычных вобразаў вялікага Сыса. Дый кампазіцыйны строй яна з сябрамі знайшла адпаведны.

А вось мастацкая аздоба тут натхнёная песняй «Ніколі больш» на вершы В. Шведа, бо згадваюцца там і ядзерны выбух, і Нагасакі. Вось такі атрымаўся сланечнік у 1945-м.

Згаданая «Фуга», як і «Малітва героям», напісаныя на вершы польскага дзеяча-шасцідзясятніка Рафала Ваячака, які за свае 25 гадоў жыцця (1945-1971) выдаў два маштабныя томікі, стаў культавай асобай з кола «праклятых паэтаў» (з фр. poetes maudits), дый цяпер вабіць нестандартную творчую моладзь, загучаўшы й па-беларуску ў перакладах Вальжыны Морт.

Верш Караткевіча з дзіўнай назвай «VI. Requiem» вам не адшукаць нават у каталогах поўнага збору твораў (1989), бо гэта ўсяго толькі 6-я частка паэмы «Грубае і ласкавае» ў зборніку «Быў. Ёсць. Буду» (1986), які не ўвайшоў у той збор. Але Ілоне, бадай, удалося выявіць ягоную самастойную паўнавартаснасць. У атмасферы поўнай адсутнасці камерцыйных хітоў гэтага альбома (такіх, як у папярэднім «Калі краты распілаваць» паводле Сыса ці «Па дарозе», дзе сама Ілона блісканула рыфмамі) акурат «VI. Requiem» мог бы прэтэндаваць на адмысловую ролю, каб віртуозныя запілы гітарыста падарылі слухачу й каскад запамінальных рыфаў.




Ёсць на кружэлцы й пара фальклорных апрацовак. Калі неяк у рэцэнзіі на польскі беларускі CD «Бардаўская восень» я пісаў «Да мегазорак можна залучыць і праект Ілоны Карпюк «Ilo&Friends», але хто ў нас ведае нашых з-за бугра? А чароўны беларускі эвергрын «Туман ярам» з ейным магутным вакалам яшчэ пашукаць трэба! Ці не шукаць, а мець сапраўдную аса-

лоду слухання вось з гэтага live recording». Дык вось цяпер маеце гэтую песню ў яшчэ лепшай студыйнай версіі. А ў дадатак да яе — лірычная балада «Каліна» (не блытаць з «Калінкай-малінкай»...), ды нехта памятае з фэсту «Бардаўская восень», што й песня «Тут» (У. Някляеў) пачыналася як варыяцыі паводле народнай «Купалінкі».

Сягаючы да сусветных аналогіяў, не магу не прыгадаць цудоўны ўзор венгерскага поп-рока «Neoton familia» з тою ж назвай «Сланечнікі» (1978). Жоўты колер і там, і тут, натуральна. Але жаўцень «Ilo&Friends» выразна больш настальгічны, пякучы, дэпрэсіўны. Ну ва ўсялякім разе не той рамантычны, што ў «Нітках» Беланогай (2010), ці вострапалітычны, як у «Віры падзей» Вожыка (2011). Дый сам сланечнік «Ilo&Friends» на вокладцы больш нагадвае ядзерны выбух. І гэта насамрэч атамны грыб над гарадскімі дахамі. Вось і шукайце сэнсу ў новым альбоме польскіх беларусаў «Ilo&Friends».

Дарэчы, у «Ilo&Friends» ёсць і свае сябры. Калі ўсю музыку альбома гурт пісаў сам, дык дзяяч бардаўскага руху Беласточчыны Ігар Лукашук прыйшоў да іх з той сваёй згаданай песняй «Тут», у якой сам сыграў на фартэпіяна. А вось адкуль у іхняй гукасесіі з'явіўся саксафаніст Клаўдзій Багуславіч, дык пакуль і для мяне загадка. Але кампашка ўтварылася ўзорная, настраёвая, факт!

